# АРЛЯНКА

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

...А бывае часіна,
що ноч навылёт
Прасвідруе цябе успамінамі:
Паўстаюць перад зрокам
мільёны галоў,
Што ў змаганні за волю
загінулі.

Гэта нашае памяці струджаны след
Кліча іх са старонак гісторыі,—
І прыходзяць яны,
як жывыя,
у сне,
І тады урачыста гаворым ім:

— Мы калісьці у шэрагах грозных ваяк
Прысягалі над вашымі трунамі

Збудаваць над сусветам высокі маяк,
Што завецца Вялікай Камунаю.

Перад вамі сягоння запаляць агні
Усе нашы электрыкастанцыі:
Аглядайце краіну даўнейшых руін,
Дзе хадзілі ў дваццатым паўстанцамі!

Між герояў,
                    што славяцца досціпам рук,
Вызначаем пачэснае месца ім:
Яны ўсе баранілі калісь Беларусь
Радавымі чырвонаармейцамі.

Яны ўсе ваявалі за нашу вясну —
Гэта помняць жывыя
                              і ведаюць
І упарта,
          сумленна
                    цагліны нясуць
У падмурак Камуны сусветнае.

Маладыя паэты!
                         У цёмных лясах
Мы не біліся з ворагам шаблямі вострымі,—
Дык падымем жа спеў,
                              панясём на прасцяг,
Як вянок на магілы геройскія.

Мы прысвецім найлепшую песню сваю
Тым,
          што йшлі праз балоты палескія,
Што загінулі мужна ў вялікім баю
                    За Беларусь,
                    За Савецкую!

1

Б'е зямлю капытамі конь,
Выгінае шырокую шыю:
Чуе —

Мчыцца за ім эскадрон,
Чуе —
Коні храпуць чужыя.

Гэта гоніцца блізкая смерць
Праз нізіны,
узгоркі
і гаці.
Узяліся пачуцці гарэць
Неадступным жаданнем змагацца...

Не за славу крывіцкіх славян,
Не за ўласную долю
і лёс свой,
А за шчасце рабочых,
сялян,
Гарадоў занядбаных
і вёсак.

І ласкава цяжкою рукой
Песціць коннік шырокую шыю:
— Быццам віхар,
імчыся, мой конь,
Каб цябе не дагналі чужыя!

Нам патрэбна хвіліна адна
На жыццё
і на ростань з палямі.
Калі возьмем яе — не дагнаць,
Не злавіць нас тады за лясамі.

Дык імчыся жыццю наўздагон,
Недалёка ускраіна гаю!..

Выгінаецца стомлены конь,
Да зямлі жыватом прылягае.

Толькі сілы слабеюць штораз,
Штохвіліны цяжэй усё дыша.
Гэтак блізка жаданы папас,
Але смерць за папас яшчэ бліжай.

Аглянуўся адважны яздок,—
Даганяе раз'ятраны вораг.
Павярнуў ён каня
і уздоўж
Выцяў з роспачы востраю шпорай.

Ашалеў замардованы конь,
Зачапіўся за камень дарожны,
Спатыкнуўся,
узняўся,
ізноў
Паваліўся,
працяжна захропшы.

Ухапіўся за стрэльбу ваяк,
Безнадзейна навокала глянуў:
Пакаціліся вочы каня
І расталі у белым тумане.

А на змену з імглістасці тэй,
Як вясновыя нашы заранкі,
Загарэліся іскры вачэй
Маладой
і далёкай
каханкі.

Навявала яна супакой,
Але вораг разбіў
і парушыў:
Абступілі хлапца навакол
І скруцілі вяроўкамі рукі.

2

Здратаваным лугам,
Збітымі палямі
Праязджалі цугам
Белыя палякі.

Праімчаўся лёскат
Пошчакам драўляным;

На пастой у вёску
Ехалі уланы.

Зазвінелі шыбы,
Затрашчалі клямкі.
Вісне над сялібай
Апантаны лямант.

— Уцякай,
дзяўчына,
Сплямяць твае грудзі! —
А яна ў кручыне
Заламала рукі.

Правялі уланы
Скручанага вязня:
— Гэта ж любы Янак,
Дарагі мой, ясны!..

Выправіла з гора
Да сваіх,
чырвоных...
Дзе ж ты быў учора?!
Дзе ж ты будзеш сёння?!

На якім жа месцы
Смерць табе учыняць?!

Плача каля весніц,
Журыцца дзяўчына.

Афіцэр здалёку
Глянуў на аблічча,
Падміргнуўшы вокам,
Пад'язджае бліжай:

— Пекная сялянка,
Кім ты занядбана?
Пацалуй,
смуглянка,
Русага улана!..

Задрыжалі бровы,
Глянула наўкоса:
— Пацалуй...
як зловіш,
Болей не папросіш!

Афіцэр ад злосці
Закусіў аж губу:
— Гэй,
гуляйце,
госці,
На чужую згубу!

Покуль хлеба хопіць,
Будзем гаспадарыць...
Пачынайце,
хлопцы,
Покуль гром не ўдарыў!

Зарыкалі нема
Пад нажом каровы.
Набухалі гневам
Цёмныя дубровы.

Галасілі маткі,
Ажно лес галёкаў:
Рабаваў манаткі
Афіцэрскі лёкай.

Лютыя жандары
Разрывалі сэрца.
— Трэба іх пажарам
Назаўсёды сцерці!

Паразносіў чуткі
Вецер скоры,
лёгкі.
Аб'ядналі думкі
Блізкіх
і далёкіх.

І як вечар дымны
Постаці зацепіў,
Ціха ад будынкаў
Адышліся цені.

3

Межамі,
полем,
дарогаю,
проста
Праз цаліну,
наўкасы,
уцалік
Крадзецца ціха
за постаццю
постаць —
Далей ад хаты,
ад роднай зямлі.

Клічуць лясы,
непраходныя пушчы
Вабяць сваім
недаступным нутром:
Там
ані здзекаў,
ні панскай распусты,
Там толькі
смелы гартуецца крок.

Там
запаляюцца крыўды настроі
Помстай праўдзівай,
што кліча да дзей.
Лес партызанам —
надзейная зброя,
Пушча —
магутная іх цытадэль.

Межамі,
полем,
дарогаю,
проста
Праз цаліну,
уцалік,
наўкасы
Рушыць
змагацца
загнаная вёска,
Крадуцца цені
ад хат
у лясы.

Нікнуць
у мораку
постаці
хутка,
І...
на магілах,
дзе клёны шасцяць,
Хтось засвістаў...
На дарозе ціхутка
Стала
высокая постаць хлапца.

З цемені гумнаў
на вокліч вітальны
Выйшла дзяўчына руплівай хадой.
Вельмі кароткім
было іх спатканне:
Хлопец: — Чакаем цябе за гарой...
Бегма бяжы ты
да панскіх палацаў...
Ведаеш,
як прабірацца у сад?
Дзеўчына: — Добра!
Ідзіце збірацца...
Я не забаўлюся —
хутка назад...

Месяц
        не выстранчыў
                        глянуць на змову —
Зніклі у мораку постаці зноў.
Крокі шасцелі
                на травах шаўковых,
І засынала
            маўклівая ноч.

4

Вялізны сад у змроку стыне,
У цемры свіран панскі знік:
Плячмі прыпёрся ён да тыну,
А ганкам выйшаў на даржнік.

За тынам —
            поле...
                    Сохне жыта,
Чуваць, як стогнуць каласы:
Палетак панскі кроўю зліты
І каласы з крыві раслі.

Чуваць яшчэ якіясь крокі —
Цікуе нехта панскі сад.
І вось...
        рашуча,
                полем крохкім,
Ідзе мяжою між аўса.

Чаго блукае тут дзяўчына?
Украсці думае пасаг?
Стаіць парожнім панскі свіран,
Няма ні жыта,
                ні аўса.

Замест аруд сялянскай працы
Самiх сялян саджаюць тут,
Каб не пасмелі бунтавацца,
Каб закаваць мужыцкі дух.

І першым вязнем стаў Азорыч —
Разведчык коннага палка.
Цяпер ён пільна сочыць зоры,
Каб лёгка смерці дачакаць.

Як толькі першая зарніца
На залацісты выйдзе шлях,
Зазвоняць тройчы на званіцы
І павядуць яго стралядь.

«Што ж будзе там з яго сябрамі?..» —
Азорыч
з роспачы нямой
Жалезныя згінае рамы
Нашчэнт скрываўленай рукой.

А позірк дзесь блукае ў полі,
І раптам цёмныя кусты
Заварушыліся паволі
І клікнуў хтось...
— Касана?.. Ты?..

— Маўчы!..
Застынь,
як нашы цені,—
Забразгаў нехта на двары...

Нямая ціш на вокамгненне,
І голас зноў загаварыў:

— Здалося мне...
Няма нікога...
Заснуў на ганку вартавы...
Прыйшла я да цябе,
нябога,
Пачуць,
пакуль яшчэ жывы...

А з о р ы ч: — Слухай жа, Касана,
Дапамажы, галубка, мне...
Напэўна, прыйдуць заўтра рана
І павядуць на смерць мяне.

К а с а н а: — Ёсць на гэта людзі,
Ды зброі ў нас зусім няма,
А белякоў —
дзве сотні будзе,
На нашы сілы —
гэта шмат.
— Не для сябе прашу,
Касана:
Мяне чакаюць у палку...
Калі ім вестак не дастане
Ніхто да заўтра
ніадкуль —
Усе загінуць...
План удасца...
Рыхтуюць ворагі набег...
— Пра ўсё,
што ведаеш,
дазнацца
Мяне й паслалі да цябе.

Мы ўсе жывём сягоння ў лесе,
Ёсць хлопцы конныя у нас...
Яшчэ не ўзыдзе нават месяц,
Яны дамчаць палку наказ.

А з о р ы ч: — Хай жа так імчацца,
Каб досвіткам на месцы стаць:
У Асначах —
за вёрст пятнаццаць —
Спыніўся наш палковы штаб.

— Я пабягу...
— Бяжы, Касана,
І не варочайся назад,
Пакуль хоць цень
блукае пана
Каля сялянскіх
нізкіх хат! —

Ісці кранулася дзяўчына
Хадой, шпарчэйшай ад вятроў,
Ды скалыхнуліся ля тына
І сталі цені насупроць.

За плечы моцна нехта сціснуў,
Скруцілі рукі...
— Ай,
бяда! —
Нядобра стала...
Сэрцу цесна...
Няўжо ж дзяўчыне прападаць?!

5

У палацах княжацкіх
Афіцэр гуляе,
У абдымках княжыцца
Панна маладая.

Пад сухімі пальцамі
Плача піяніна,
І акорды вальсамі
Праплываюць міма,

Міма задумёнасці
Маладога госця.
Вочы утрапёныя
Клічуць весялосцю.

Галава туманіцца,
І...
заместа панны —
Паўстае настаўніцы
Вобраз злюбаваны.

— Дзікая,
далёкая,
Чым цябе прывабіць?

Сцішанымі крокамі
Уваходзіць вахмістр:

— Па загаду панскаму
Каля тыну саду
Два жаўнеры наскія
Ладзілі засаду.

Імі там падлоўлена
Ў гутарцы з злачынцам
Вельмі ўжо цудоўная,
Пекная дзяўчына.

Увайшла пад вартаю
З патайнога ганка
Смелая,
упартая,
Гордая смуглянка.

Афіцэрык русенькі
Паглядае скоса,
Залатыя вусікі
Круцяцца да носа.

Калі ставіў застаўкі,
Ён чакаў улову,
Але гэткай ластаўкі
Не чакаў,—
дам слова!

Ён лічыў ціхоняю
Панну гувернантку
І цяпер з іроніяй
Запытаў смуглянку:

— Як жа вы патрапілі?
Заблудзілі, пэўна?!
Вы мяне прывабілі,
Дзіўная паненка!

— Досыць далікатнічаць —
Пачынайце справу:
За работу катнюю
Вас адораць славай,—

Рэзка і з пагардаю
Кінула Касана.
Афіцэру ж гвардыі —
Гэта як пашана.

Нізка, з цырымоніяй
Ён схіліўся госці
З той жа ўсё іроніяй,
Лёгкай і без злосці:

— Ах,
        якую арыю
Спелі вусны вашы?!
Гэта —
        не да твару вам,
Але я...
        уважу...

Папрашу прабачыць мне,
Панна Рузаміна,
Я павінен,
        бачыце,
Дапытаць дзяўчыну.

Пане вахмістр,
        вышліце
Варту да пакояў!

І пакорна выйшлі ўсе
З белага пакоя.

6

Як чыстае поле,
        вялізны пакой,
Устаўлены мэбляю чынна...
Сышліся дзве сілы ад розных бакоў:
Улан-афіцэр
        і дзяўчына.

Яна — маладая,
як наша вясна,
Маўкліва застыла ў чаканні.
Ён ходзіць нервова з кута да акна,
Шукае дакорных пытанняў.

Спыніўся
і зірк на аблiччы суняў:
— Вас клічуць,
здаецца,
Арлянкай?
Знаёмае вельмі мне ваша імя,
А я...
не пазнаў вас ... сялянка!

Вы помніце, некалі?..
Шмат ужо год!
Тады вы жылі яшчэ ў Лядах
І...
на залёты хлапца аднаго
Расцілі нянавісць і здраду.

Ні слова адказу.
Нервова ізноў
Улан свае вусы кусае,
І пеніцца бурна гарачая кроў,
І пеніцца кроў маладая.

— Паслухайце,
жартам —
ні месца, ні час;
Гісторыю вашу я знаю:
Што вы не сялянка —
відаць па вачах.
Дык вось,
я упарта пытаю:

Чаго да злачынцы прыходзілі вы?..
Вас клікала толькі каханне,
Што йшлі на пагібель сваёй галавы,
Ішлі на такое спатканне?

Касана: — Нашто гэта?..
Вам жа і так
Вядома жыццё маё надта...
Улан аж крычыць:
— Я павінен спытаць,
Хоць ведаю такжа багата!

Мне дзіўна:
настаўніца,
гонар ідэй,
Яшчэ да таго і палячка,
Звязалася з бандаю дзікіх людзей,
Пайшла з мужыкамі басячыць...

— Мне вашых натацый
не трэба зусім! —
Касана абліччам збялела,
Адно пад вачыма туманная сінь
Яшчэ ад пакут пацямнела.

І тонкія рысы вастрэй
і танчэй,
Як з мармуру,
высеклі контур,
І вусны,
і полымя чорных вачэй
Халоднымі сталіся звонку.

Разбіўся увесь афіцэрскі запал
Аб гэтую броню пагарды:
Прыйшлося улану ізноў адступаць,
Мяняць перабітыя карты,

Бо тайну душы не маглі адшукаць
Ніякія просьбы-пагрозы,
У афіцэрскіх
парожніх руках
Застаўся адзін толькі козыр.

Ён кінуў, падраўшы яго папалам:
— Вы гонар палячкі згубілі,

Бо вы Беларусь прадалі маскалям,
А Польшчу пры гэтым забылі.

— Што знаеце вы пра маю Беларусь,—
Сказала з усмешкай Касана,—
Я гонар палячкі тады зберагу,
Як гонар працоўных дастану.

Вышэй ад усякіх хвалёных ідэй:
Айчыны,
братэрства
і нацый,
Адзіны ёсць гонар сумленных
людзей—
То гонар мазольнае працы.

Улан закіпеў:
— За варожы удзел,
Што супраць айчыны і волі,
Мы ўсіх
пагалоўна
вядзём пад расстрэл!..
Чакае і вас гэта доля.

Шкада прыгажосці мне,
вашай красы,
Нявіннай шкада маладосці...
Я мог бы вам літасць яшчэ упрасіць,
Каб з ворага сталі вы госцяй.

Пакіньце Азорыча!..
Думкі няхай
Не вернуцца больш да каханка,
Я шчыра
і моцна
вас буду кахаць...
Вы чуеце,
панна Арлянка?
Развейце варожасць,
упартасць
і гнеў —
Мы будзем шчаслівыя з вамі...

**К а с а н а:** — Не смейце кранацца мяне —
Страляйце,
душыце рукамі!

Улан усміхнуўся:
— Кранацца цябе?
Пабачым...
Падумаем...
Лёкай!
Паклічце мне вахмістра!..
Досыць цярпець —
Сягоння ты будзеш далёка...

Пан вахмістр!
Вазьміце надзейны канвой —
Паедзеце зараз у Ляды.
За гэту дзяўчыну —
сваёй галавой
Адкажаце мне,
калі здрада...

Трымайце пад вартай
уночы і ўдзень,
Мы заўтра,
напэўна,
прыедзем...
Вы знаеце Ляды?
Маёнтак мой дзе?!
Вазьміце дзяўчыну!..
Ідзеце!
Спяшайцеся!
Коні —
пілі не пілі —
Ганіце,
пакуль не прыстануць!

Пан вахмістр
пакорную голаў схіліў
І вывеў з пакоя Касану.

7

Затужылі,
зачакаліся
Маладыя
партызаны:
Не прыходзіць,
доўга бавіцца,
Дзесьці бавіцца
Касана.

Маладзік
на дзень азорыўся,
Пабялелі
нават росы...
Вартавых сваіх,
дазоры ўсе
Правяраць
ідзе Шчароса.

Чуе тупат
на дарозе ён —
Нехта мчыцца
апантана.
Кліча роту
сваю грозную
На засаду
атаман наш.

Прыляглі
ў кустах стрывожаных
Маладыя
партызаны.
Думка думкаю
памножана:
— Доўга бавіцца
Касана.

Мо за ёю
вораг гоніцца?..
Можа стала
паланянкай

І вядзе
чужую конніцу
Ненадзейная
паўстанка?

Усё бліжай
тупат блізіцца,
І чакаюць
партызаны,
Да зямлі
прыпаўшы нізенька,
Невядомых
і нязваных.

8

Імчыцца карэта
(запрэжана цугам),
Надзейна вартуюць
жаўнеры яе.
Пужаюцца коні,
і бразгаюць цуглі,
І хмура шуміць
знепакоены лес.

Ён такжа вартуе
у зараслях цёмных
Жыццё партызанаў
і нечую смерць:
Заўсёды гатовы
з адвагай нястомнай
Няжданай пагібеллю
ворага стрэць.

Надзейная варта —
лясы Беларусі:
Глядзі,
сцеражыся,
пільнуйся, жаўнер!

Пужаюцца коні,
храпуць яны,
трусяць.
І раптам...
пярэдні улан анямеў.

Заляскалі стрэльбы
сухімі замкамі,
І коні ўзвіліся...
круты паварот...
І вахмістр пад хвою
зваліўся, як камень,
І вяжуць паўстанцы
усіх жаўняроў.

А сам атаман
адчыняе карэту:
— Хоць выйдзі, паночку,
на свет гэты глянь!..
У чорным адзенні
за лёкаем следам

Выходзіць...
Але...
і не князь,
і не пан.
Выходзіць,
смяецца
дзяўчына-сялянка:
— Зусім нечаканы
папаўся вам звер?!
— Ка-са-на?
— Касана?!
— Таварыш Арлянка?!
— Арлянка!..
— Арлянка!..
— Арлянка жыве!

9

Гэтыя чуткі прынёс аканом:
— Збілі,
забілі дарогай...
Заварушыўся ад іх увесь дом,
Грозна зайгралі трывогу.

Сам афіцэр, як сабраліся ўсе,
Выйшаў да іх на дзядзінец:
— Хлопцы,
а хто галаву прынясе
Дзеўчыны той
і злачынца?

Гайда сядлаць,
каб у момант былі
Усе,
як адзін,
вы гатовы!..
Не шкадаваць
ні мужычай крыві,
Ані
упартых галоваў!

10

Гойсаюць конна паны па сяле,
Пылам закураны далі,
Гоняць сялян за нядоляй услед,
Хутка ў маёнтак сагналі.

Выйшаў на ганак улан-афіцэр:
— Шапкі!!!
Паганае быдла!..
Хто з вас канвойных узяў на прыцэл?
Хто нам рыхтуе пагібель?

Хто гэта смеў
за дзяўчыну
страляць
Польскіх уланаў-жаўнераў?

Моўчкі сяляне натоўпам стаяць...
— Бі бізунамі халеру!

Свішчуць вужакамі ўздоўж бізуны,
Бракнуць крывавыя раны,
Стогны...
І словы,
як шэлест лясны:
— Гэта...
Шчароса...
Каханак...

Так шалясцелі,
як шэлест лясны,
Потым —
як роспачы рокат:
— Гэта Шчароса!..
Каханак!..
Яны
Дзесьці абое далёка.

Афіцэр: — Хто маё войска
туды завядзе? —
Зноў галасы анямелі...
Афіцэр: — Бі,
покуль вочы пакінуць глядзець,
Покуль не скруціцца цела! —
Зноў засвісталі уздоўж бізуны,
Бракнуць крывавыя раны.
— Злітуйся, панку,
не ведаем мы!..
Злітуйся!..
Злітуйся, пане!..
Афіцэр: — Як жа не ведаць, дзе вашы
сыны?!
З дымам пушчу
і пажарам!
Хлопцы,
на змену бяры бізуны —
Моцнай павінна быць кара.

Крыкі
        і стогны:
                — Дзеці!..
                        — Сыны!..
Словы маўклівай гаворкі,
Як вецер узвеяны:
— Злітуйся!..
                Знае Азорыч!..

У вокамгненне яго прывялі,
Рукі завязаны моцна.
А ф і ц э р: — Ну,
                выбірай:
                ці кавалак зямлі,
Ці
    вызваленне і сонца!

Я і дзяўчыну дарую табе,
Толькі...
        няхай не Шчаросу —
Скрыўдзіў ён роўна
                мяне
                    і цябе...
На,
    закуры папяросу!

А з о р ы ч: — Дзякуй,
                    паночку,
                    за ласку тваю,
Лішнія толькі старанні:
Я не купляю
            і не прадаю,
А волю бяру у змаганні!

Гневам няўтольным набрак афіцэр,
Выцяў з размаху навотлю,
Каплі крыві на бялёвай руцэ
Чорнаю плямай размоклі.

Кліча ён лёкаяў верных сваіх:
— Трох расстраляць на змярканні,

Вёску —
цяпер жа усю падпаліць! —
Загаласілі сяляне.

Сціснуўшы боль у маршчынах чала,
Кінуў Азорыч хістацца:
— Ты...
не губі!
Не палі ты сяла!
Я...
завяду да паўстанцаў.

Вырваўся крык з чалавечых грудзей,
Нізка галовы нагнулі:
Добра й нядобра,
што ён павядзе,
Лёгка
і цяжка ўздыхнулі.

11

Ночка настала,
а людзям не спіцца
(Ночка трывогі
не здолена сном):
Моляцца дома
і ў цёмных капліцах,
Просяць ратунку
і долі сыном.

А за гарамі
нізінаю соннай
Шпарка імчыць
белапольскі атрад.
Едзе між імі
засмучаны коннік,
Моцна завязаны
рукі назад.

Поле мінулі — паехалі лесам,
Кружыць дарогамі іх
праваднік.
Чорная ноч.
Незнаёмае месца.
Блішчуць,
як гнеў,
папярос аганькі.

— Пане паручніку,—
просіць Азорыч,—
Мажа дазволіце,
я закуру.

Афіцэр: — Ты гэта мне
для чаго ўсё гаворыш,
Хочаш, каб знялі
вяровачкі з рук?! —

Сцішыў каня,
паглядзеў падазрона:
— Не! —
А пасля,
пачакаўшы крыху:
— Доўга шчэ ехаць?
Мне збрыдала конна...
Азорыч: — Вёрст...
можа, восем,
сказаць не магу.

Афіцэр: — Дужа далёка.
Нам трэба спяшацца.
Вахмістр,
скажыце,
развяжуць няхай,
Толькі —
ненадоўга, і...
прыглядацца!
Гэй там,
пярэдні,
шпарчэй паганяй!

«Рукі развязаны.
Вырашыць трэба:
Заўтра загінуць
ці згінуць цяпер?!
Лепей сягоння:
ці шлях працярэбіш,
Ці
пасякуць на кавалкі цябе.

Покуль не позна —
падумай, Азорыч,
Досыць нацешыўся
хцівы улан!»
Думкі бунтуюцца.
Думкі гавораць.
Думкі наважылі
гібельны план.

А з о р ы ч: — Трэба налева,
хоць вузка занадта:
Мусім мы сцежкай
гару перацяць.—
Даў афіцэр
эскадрону каманду,
Сталі —
улан за уланам
наўсцяж.
Дваццаць —
наперадзе,
Дваццаць —
назадзе,
І
пасярэдзіне іх —
праваднік.

«Добра,
таварыш Азорыч,
уладзіў,
Толькі шпарчэй
эскадрон пагані».

А з о р ы ч: — Пане паручніку,
я памыліўся:
Гэтае месца
цяпер пазнаю:
Будзе адгэтуль —
не восем,
а з лішнім,
Трэба даць волю
у безе каню.

А ф і ц э р: — Гладкая сцежка?
А з о р ы ч: — Гатунак сярэдні.
А ф і ц э р: — Можна наўзавад?
А з о р ы ч: — А пэўна ж,
ільга...
А ф і ц э р: — Гэй,
паганяй там, наўзавад,
пярэдні,
Хопіць на трох
па-сабачы
кульгаць! —

Шпарка імчацца
сцяжынкаю коні,
Лес над сцяжынкай
галлё скрыжаваў.
Вільгаццю вее
з нізін на адхоны —
Чуюцца блізкія
нетры
і твань.

Хутка у цемры
парвецца дарога,
Строма спадзе
у балота з вышынь.
Кінь жа навотлю,
Азорыч,
трывогу,
Хай не турбуе
спакою душы.

Шпарка імчацца
паны на пагібель:
Дваццаць,
пятнаццаць,
адзін яшчэ крок
І...
паляцелі
уніз з перагібу:
Першы,
дзесяты,
дваццаты яздок.

Замітусіліся
заднія коні,
Нехта памчаўся
налева
у лес,
Воддаль за ім
зашумела пагоня...
«Моцна,
Азорыч,
трымайся ў сядле!

Вывезе конь,
покуль зоры запаляць,
Ноч замяце
за табою сляды;
Кожную сцежку
ты знаеш на памяць,
Ў цемені конь
не саб'е капыты.

Хай сабе мчыцца
хоць сотня пагоняй,
Волі нікому цяпер
не давай:
Чуеш —
уланы
далёка ўжо звоняць,
Вось заміраюць,
зусім не чуваць.»

12

Над пушчаю сцелецца цёмная ноч,
Ні хаты табе,
                    ні прыстанку.
Вартуюць лясы знепакоеным сном
Жыццё маладых партызанаў.

Нікому не спіцца часінай такой,
Калі надыходзіць навала.
Трывога падолела сон і спакой,
Надзею на долю забрала.

Хістаюцца цені семнаццаці душ,
Прысуду чакаюць над лёсам:
Наводдаль старшыя нараду
                                        вядуць —
Азорыч,
          Арлянка,
                    Шчароса.

А р л я н к а: — Як добра, Азорыч,
                                        што ты заглянуў:
Збіраюцца весткі да сходу.
Мы можам цяпер прапанову адну
Адкінуць зусім,
                    назаўсёды...

Бо нельга ж вярнуцца у вёску
                                        цяпер:
Нас прымуць уланы «гасцінна».
Адзінае выйсце —
                    праз Воўчы Капец
На Старасельскі гасцінец.

Да раніцы зойдзем,
                    пры добрай хадзе...
Ш ч а р о с а: — Якая ад гэтага радасць?

Там верная гібель чакае людзей,
Там смерць
і табе,
і атраду.

Ты ж ведаеш добра:
бунтуецца полк,
Казацкія чула пагрозы?
А левае,
пэўна,
дагэтуль
крыло
Даўно адышло за Бярозу.

Дык што мы там зробім,
з кіямі ў руках,
На невядомым нам месцы?!
Застацца патрэбна
і —
пачакаць!

А р л я н к а: — А чым харчавацца?
Што есці?
Галодныя ўчора,
сягоння,
штодзень;
Цяпер,
калі ўцёк і Азорыч,
Аблава на нас безупынна ідзе
І скончыцца, мусіць, не скора.

Як выспа вадою,
абкружаны мы,
Гайсаюць па полі уланы,
І, сілы сабраўшы,
прыедуць яны,
Усіх пераловяць дазвання.

Што мелі тут гінуць,
дык лепей ісці
Загінуць на фронце змагання!

Азорыч,
ты нешта сягоння прыціх,
Якія твае меркаванні?

Азорыч: — Я добра не ўзяў усяго яшчэ ў толк:
Не знаю
ні месца,
ні ладу...
Я сам
дык пайду,
безумоўна,
у полк,
А вам —
не магу даць парады.

Арлянка: — Я такжа,
Азорыч,
з табою пайду!
Шчароса: — Таварышы,
што за разлады?!
А хіба я супраць узгодненых дум?
Я з вамі
і з нашым атрадам!

Арлянка: — Шчароса,
а ліха ж тваёй галаве,
Збірацца загадвай атраду.
Ручаюся,
хлопцы,
паўстанне жыве,
А значыць —
і воля,
і радасць!

13

Лясы не шумелі —
стагналі лясы,
Зямлю разбівалі снарады;
Ад іх высціламіся скрозь паясы,
Цвятлівілі сцежку атраду.

Гарэлі заводы,
сялібы,
масты,
Лілося крывёю світанне,
І лямант нядолі
над краем застыў,
Разносіўся кліч да змагання.

Ад спаленых вёсак,
разбураных хат,
Сціскаючы зубы у гневе,
Ішлі у лясы,
і Шчаросаў атрад
Памножыўся:
дваццаць на дзесяць.

Праз цемру начэй,
па халоднай расе,
Сагрэтыя помстай шалёнай,
На ўсход і на ўсход
прабіваліся ўсе,
Ішлі як мага
да чырвоных.

Плылі цераз рэчку,
паўзлі цераз шлях,
Згіналіся нізка,
дадолу...
Стагнала навокал
сырая зямля,
Абозныяляскалі колы.

Вазілі сяляне
праклятых паноў,
Худыя валіліся коні.
І доўга старэнькі
стаяў над канём,
А потым...
ішоў да чырвоных.

Праз гаці,
балоты,
у чорную ноч
Галодныя,
босыя людзі,
Крывавячы
пальцы разбітыя
ног,
Ішлі бараніць рэвалюцыю.

Ішлі чарадою,
як ходзяць звяры,
Міналі мястэчкі
і вёскі,
Паспешна ішлі,
каб да ранняй зары
Дайсці да чырвонага войска.

І вось,
калі неба
ўзяло ружавець,
Убачылі воддаль палеткі,
І ўсе прытаіліся
моўчкі ў траве,
Паслалі траіх у разведку.

14

— Браце?!
Азорыч!
Адкуль?
Ці не зваліўся ты з хмары?!
Дай жа паціснуць руку,
Любы мой,
дружа,
таварыш!

Мы тут гадалі,
што ты
Пасябраваў з пяскамі:

Згінуў,
замёўшы сляды,
Як пад вадою
камень.

А з о р ы ч: — Смерць даганяла угрунь,
Але
дарэмна гайсала:
Вырваўся
з панскіх рук,
Нават
з вялікім пасагам.

Новы паўстанскі атрад
Нашай каманды
просіць...
Будзьце знаёмы!
— Я рад...
Розін.
— Арлянка.
— Шчароса.

— Мусіць,
нам чорт напісаў
Поспехі мерацъ асьмінай,—
Пажартаваў
камісар,
Вокам Шчаросу акінуў.
После,
нахмурыўшы лоб:
— Пойдзем
пагутарым,
хлопцы.
Добра,
што сіл прыбыло:
Гэта не шкодзіць у бойцы.

Розін наўкол паглядзеў,
Каб непатрэбнае вуха

Не падслухоўвала дзе,
Што не прызначана слухаць.

Дзверы шчыльней зачыніў —
Марная ўсё ж асцярога:
Нечыя
　　　вочы-агні
Тояцца
　　　там,
　　　　　за парогам.

Нехта
　　　да шчылін прыпаў,
Ловіць употай размову.
Б'ецца
　　　у словах
　　　　　запал,
І
　разлятаюцца словы.
Р о з і н: — Мы
　　　　　адступілі знарок:
Заўтра,
　　　чуць золак,
　　　　　уранку
Штаб развінае
　　　　　скрозь
Націск
　　　на правым флангу.

Гэта,
　　　на левым крыле,
Полк наш адзін застаецца...
Вораг
　　　праз нетры і лес,
Пэўна, сюды не памкнецца.

Наша задача адна —
Цвеліць агнём супастата,
Сілы яго
　　　　раз'яднаць,
Страшачы боем гарматным.

Пры адступленні
у пыл
Знішчыць парадак,
а значыць —
Выбіцца ворагу ў тыл —
Наша другая задача.

Каб
не папасці самім
Часам у гэтую ж пастку,—
Не дазваляць сумятні
Ў нашых уласных частках.

Строгі
парадак
і лад,
Поўны
спакой,
дысцыпліна,—
Вось непарушны загад
Рэвалюцыйнай краіны.

Ведаю —
смела
у бой
Выйдуць
чырвонаармейцы;
Стануць
жывою сцяной,
Зрушыць —
не зрушыш
з месца.

Толькі
адзін эскадрон
Пэўнасць маю
непакоіць.
Помніш,
Азорыч,
зарок
Дадзены быў перад боем?!

Гэту прысягу
зламаў
Сам камандзір эскадрона...
Фактаў вялікіх
няма —
Ёсць,
як была,
падазронасць.

Можа,
Азорыч,
табе —
Ты не давайся дзіву:
Бывае ў такой барацьбе —
Прыйдзецца стаць
камандзірам.

Азорыч: — Я не магу згадаць,
Ты адкажы мне
проста:
Хто ненадзейным
стаў —
Зябскі?
Кавалік?
Амбросаў?

— Рацкі!
— Няпраўда!
— Чакай,
Бразнулі, здэцца,
дзверы...
Нехта ідзе...
— Не чуваць!
— Трэба усё ж
праверыць.

Выскачыў Розін на двор —
Нехта
узмоцніў крокі,
Тоячы воблік ад зор,
Нехта прапаў у змроку.

15

Неспакойныя думкі
турбуюць яго:
«Штосьці ў гэтым абліччы
знаёмае вельмі...»
І ён раптам успомніў:
шаснаццаты год,
Палавіна зімы
і вайна адступлення.

На дарозе скавыш...
Коні ледзьве ідуць...
На пабыўку прыехаў ён
з юнкерскай школы.
Раніцою назаўтра
сустрэў у саду...
І цяпер ён успомніў
і рухі,
і голас.

Гаварылі тады,
што з-пад Вільні яна;
Засталася ў малодшых сясцёр
гувернанткай.
Сцёртай памяці след
аднаўляе імя,
І яно выступае
як надпіс:
Арлянка.

І пакутныя думкі
трывожаць яго:
«Яна можа пазнаць...
Што тады загадаю?!»
І праз цьмянасці шкла,
як праз цьмянасці год,
Ён у далеч дарог,
як у далеч вякоў,
паглядае.

Але й сёння чамусьці
няма пасланца,
Ужо морак начы
зараніца змяніла...
«Значыць,
Рацкі, прайграў?
Дык іграй да канца,
Набірайся вясёласці,
спрытнасці,
сілы!»

Нечы выцяўся цень...
«Хто ж там гэтай парой?
Ён
не можа прыйсці!»
Рацкі выйшаў у сені,
І калі адказаў
на таемны пароль,—
Увайшоў чалавек
у сялянскім адзенні.

Пасланец: — Генерал загадаў...

Рацкі: — Я запомніў загад,
Але рушацца нашы
надзеі і планы:
Раніцою ізноў
далучыўся атрад,
І атрад не малы...

Пасланец: — Дык надзеі нізвання?!

Рацкі: — Калі будзе на карку
мая галава,
Бо над ёю навалай
вісіць падазронасць,
Паспрабую яшчэ
на атрад нацкаваць
Гаваркіх малайцоў
з баявых эскадронаў.

Я даўно гадаваў
нездаволення флянс,
Бракавала яму
урадлівае глебы...
Перадайце у штаб,
што ўмацованы фланг
Вырашае наш лёс...
Больш нічога не трэба!

Пасланец: — Генерал будзе шчыра...
Рацкі: — Скажыце ў адказ:
«Рацкі служыць аддана
пакутнай айчыне...»
Кампліментаў не трэба!
Канчаецца час —
Пакаціўся туман,
ноч становіцца сіняй.

Вам —
пара на спачын,
мне —
да справы пара.
Прабірайцеся скрозь
як мага
асцярожна:
Не хачу,
каб цяпер
абарвалася йгра,
Каб сягонняшні дзень
празвінеў
як апошні.—

І нянавісць жахнулася
ў зрэнках вачэй,
Ён крануўся ісці,
пастаяў на парозе,
Узмахнуў галавой:
— Мы паглядзім яшчэ,
Хто прайграе цяпер,
а ці Рацкі,
ці Розін!

16

Да рубін зрабаваная вёска,
Зрабаваная,
як той жабрак,
Прытуліла чырвонае войска
Навіхнёным крылом двара.

Хай прабачаць!..
Агонь пашалеў тут:
Абгарэлыя хаты —
скрозь...
І пашэнціла ж
сёлета лету
Быць гарачым,
як наша кроў!

А вядома,
улан дзе пагойсаў,—
Застаюцца ашчапкі руін.
Вось тады
сваіх хлопцаў босых
Правялі мы да трох ручаін.

І цяпер —
цішыня тут густая,
Хоць рукамі бяры, падымай.
А калі ж тое сонца ўстане,
Пазалоціць цьмяны небакрай!

Ды якая нам,
зрэшты,
справа
Да такіх рамантычных акрас,
Калі сон
пажарышчаў крывавых
Адлятаць пачынае якраз?

Абуджаецца гоман
спачатку,
Пракідаецца потым
смех,

Цішыню
разарвалі на шматкі —
І цяпер нізашто не заснеш.

Высыпаючы з жартамі з гумен,
(Для будзёнаўцаў смутак —
наўда),
Нехта песню,
як тонкую гуму,
Расцягнуў,
і канца не відаць.
Недзе рыпнуў
хліплівы гармонік...
Конь сарваўся,
махнуў цераз плот,—
Ён пачуў,
што суседніх коней
Павялі да вады наўгалоп.

Каля студні —
вясёлкаю пыркі,
Хлопцы мыюцца,
як на парад,
Барадатыя твары сібірцаў
Пазалотай на сонцы гарадь.

Падышоў знепакоены Рацкі,
Прывітаўся,
здзівіўся:
— Ого!
Нехта весела:
— Рады старацца!
— Невядома адно,
для каго. —
Гэта Рацкі заўважыў з усмешкай,
Патаемнай,
як цёмная ноч.
«Ах,
які ён сапраўды
пацешны —
Нешта выдумаў, мусіць, ізноў».

І аблічча
з затоеным смехам
Згуртаваліся
слухаць жарт:
— Ну,
гані,
калі выехаў ехаць,
Толькі смешнае
што-небудзь шпар!

Рацкі: — Не такая цяпер
часіна,
Не да месца цяпер жартаваць:
Мы чужую
баронім краіну,
А хто нашу пайшоў ратаваць?!

Страпянулася пругкае цела,
Нехта кінуў пагрозна:
— Чакай!
— Не разводзь агітацыі белай!
— Ці не быў ты калі ў Калчака?

Азірнуўся ўстрывожаны Рацкі
І руку асцярожна падняў:
— Не кажу,
што не трэба змагацца,
Але ж хіба адным толькі нам?!

Мы —
сібірцы,
Яны —
беларусы...
Нашы дзеці ад голаду мруць!
Мы знішчаем
кайданы прымусу,
А яны...
прадаюць Беларусь!

Вось
прыслалі паўстанцаў на помач,
Што і зброі не ўмеюць трымаць...

Уцякуць яны з фронту,
вядома,
Толькі пяты ўгары загрымяць.

Камісар наш
злыгаўся з палячкай,
А ці ж з гэтага
будзе дабро?
Яна стане
усюды тут
шляцца
І разведае тайны наскрозь.

Не пашэнціць тады нам
у бойцы,
Павядуць нас
на верную смерць.
Я не супраць змагання,
хлопцы,
Але гэтага —
нельга цярпець!

Ірвануліся гнеўныя словы,
Пераблыталіся
галасы:
— Расстраляць трэба
гэтую сволач!
— На асінах
павесіць усіх!

Нізкарослы,
з вяснушкамі кропель,
Хліпкім голасам
роспачна ныў:
— Ах,
таварышы!
Што ж яны робяць?!
Што ж яны,
сукіны
Робяць
сыны!

І прыбоем расло абурэнне,
Узнімалася,
падала ўніз,
І натоўп узрастаў вокамгненна,
Толькі Рацкі
даўно ужо знік.

17

Непрыкметна,
як чорная пошасць,
Захапіўшы адзін эскадрон,
Распаўзаўся варожы пошапт
Цераз шчыліны
сцен і акон.

Раніцой
на хлуслівыя чуткі
Яшчэ сыпаўся дружны пратэст,
Грозным быў
знітаванасцю гнуткі
Цвёрдых рук
успаветраны жэст.

І калі
агітатар самотны
Нішкам пробаваў
агітаваць —
Абрывалі:
— Схавайся!
— Замоўкні!
— Без Гаўрылы
трашчыць галава!

Так было раніцою.
А после,
Калі гора наверх усплыло,
Калі полудзень елі посны,
Калі хлеба ізноў не было,—

Зашыпеўшы
прытоена-строга,
Зварухнуўся
прыдушаны звер,
Пракаціўся
абураны рокат,
Сталі роўныя сілы дзве.

Так было апаўдні.
А пад вечар,
Калі сыпаў
халодны дождж,
Калі сэрца
наскрозь праймаў вецер,
Паласуючы цела уздоўж,—

Узраслі сілы тых,
што не контат:
Расхінуўшы
сваё нутро,
Рэвалюцыю сціснула контра,—
І застыла пад пальцамі кроў.

Непаладкі раслі вокамгненна,
І трывога,
як хмара,
ішла —
Эскадрон адказаўся
на змену
Вартавых да тачанак паслаць.

18

Яшчэ раніцой палкавы камісар
Заўважыў пагрозу трывогі,
У штаб данясенне тады напісаў:
«Ці нельга прыслаць дапамогі?!

Глухое зацішша —
адзнака навал —
Затоены пошапт
і спрэчкі...

На гэтым здагадку сваю заснаваў,
Што бура імкне узгарэцца.

Я скутку упарта шукаў
і прывык:
Калі анядужае цела —
Уліць трэба
свежай,
здаровай крыві,
Каб знішчыць
заразы бацылу.

Яна не самохаць,
вядома,
паўзе,
А вораг наўмысле разносіць,
Яна пранікае зусім пакрысе,
Малой,
але сталаю дозай.

Мы духам не палі.
Не буду ілгаць,
Людзей ненадзейных —
не многа,
А ўсё ж,
калі толькі у вас там ільга,
Прышліце хутчэй дапамогу».

«Падмогі не будзе —
заняты ушчэнт.
Пад страхам суровае кары
Дзесятага
выйсці павінен на Мінск,
У тыл супарату ударыць.
Іначай —
рассыплецца пылам наш план,
Бо вораг праведаў сакрэты
І сілы грувасціць
на правы наш фланг —
Запомні і выканай гэта!»

Уважна загад прачытаў камісар,
Сакрэтную склікаў нараду;
Рашылі:
Праверыць усіх партызан
І скласці чатыры атрады;

Раззброіць уночы другі эскадрон
І Рацкага разам з усімі —
Ад іх загарэўся паўстання
агонь,
Дык нечага цацкацца з імі;
Палітапарату належыць хутчэй
Узмоцніць работу участкаў,
Каб зблізіць сапраўды адданых
людзей
У кожным раздзеле і часці.

Не здзейсніўся толькі
задуманы план —
Скацілася вестка адхонам:
— Ізноў адказаліся
варту пасланць
Чатыры данскіх эскадроны.

Прыціхлі,
замоўклі...
І Розін маўчыць...
Рванулася кроў дынамітам.
— Нам нельга чакаць
у трывозе начы,
Спрабуем паклікаць
на мітынг!

І вось,
калі сонца
за горы пайшло,
Зайгралі сігнал на трывогу;
Павольна збіраўся
раскіданы полк,—
Забыў
дысцыпліну
і строгасць.

19

Глуха варушыцца ўзрушаны полк —
Гэта благая адзнака.
Вочы свідруюць утоптаны дол —
Чуюць памылку казакі.

Вецер галовы хістае,
як сад.
Стынуць пагрозна вінтоўкі.
Роўнай хадой падышоў камісар,
Моўчкі узлез на двухколку,
Глянуў навокала,
змяўшы натоўп
Зрокам халодным,
як вецер:
— Ціха,
таварышы!

Галасы: — Хопіць!
— Далоў!..
— Хто там крычыць
на ўзвейвецер?!

Вочы зацэплілі гнеўны пагляд,
Крыкі згасаюць павольна.
Дыша натоўп,
і здаецца —
зямля
Цяжка ўздыхае нявольнай.

Камісар: — Сёння з брыгады прыслалі
загад

Выйсці дзесятага ў наступ.
З намі ідзе партызанскі атрад,
Пэўны заняўшы участак.
Той,
хто варожасць зацепліць імкне,
Творыць злачынную здраду...
Казак: — Стой!
На хвілінку.

Паслухай мяне...
Хіба ж мы супраць атрада?!

Ты,
брат,
не блытай,
таварыш-камрад,
Добрых людзей
і шпіёнку...
Мы патрабуем —
яе
пакараць...
Жонка яна
ці не жонка!
Галасы: — Правільна!
— Здрады не можам цярпець!
— Знішчыць агідную постаць!
Камісар: — Гэтага вырашыць нельга
цяпер —
Вы зразумееце после.

Гуртам мы справу разгледзім усю,
І,
Калі сцвердзяцца словы,
Гэтай рукой падпішу я прысуд
Самы няшчадны й суровы.

Хто ж паспрабуе цяпер бунтаваць,
Зараз на варту не стане —
Я загадаю вінтоўкі забраць
І надзяліць партызанаў.

Крыкі: — Свісні тры разы,
пакуль аддамо!
— Спрытна,
прайдоха,
падлазіць!
Галасы: — Хлопцы,
стрымайцеся!
Крыкі: — Хопіць!
— Далоў!

— Торкні тачанку,
хай злазіць!
Чырвонаармеец: — Змоўкні!
Чаго там гвалтоўна налёг!
Бачыш,
які ён гарласты?!
А паспрабуйце паслаць у налёт —
Цягнецца,
як гумалястка.

Голас прарэзаў вячорную сінь
Жорстка
і неспадзявана:
Раз! —
абарваліся ўсе галасы,
Смех дакрануўся мембраны.

Розін адчуў перамогу нутром
І,
пераняўшы настрої,
Кінуў:
— Таварышы!
Мы разбяром
Справу пасля,
перад строем.

Вырашым іншае —
рэчка і шлях
Кінуты без абароны...
Зараз жа трэба на варту паслаць
Два баявых эскадроны.

Хто з вас ахвотнік —
наперад выходзь,
Стройся па двух ля паркана.
Хто ж не жадае ісці самахоць,
Хай пакідае змаганне.

Заварушыліся,
Выгнуўся рад:

Дваццаць...
Сто шэсцьдзесят...
Трыста...
Розін паклікаў:
— Таварыш камбат!
Стань
І маланкаю выстрай!

Камбат: — Ёсць!
(Да каманды):
Раў-нуй-ся!
Зважай!
Стаць па чатыры!
Проста!
Наперад!
Быццам дакор,
зазвінелі ў вушах
Крокі рытмічным размерам.

Нізка ў натоўпе
(на самы аж дол)
Цяжка схілілі галовы,
Быццам застылі ў задуме,
ніхто
Не прараніў
ані слова.

Толькі пасля
нізкарослы такі
Бегаў,
наставіўшы локці:
— Што ж гэта выйшла,
скажыце,
браткі?
Што ж гэта робіцца,
хлопцы?!

20

Калі неба
Узросціць красу,
А зямля
узгадуе расу,
Рассцілаецца белы
туман,
І шуміць гаварлівы
Дон.

Калі ж хмарамі
неба гудзе,
Калі чорным
становіцца дзень —
Хвалі грозна
ракочуць-шумяць,
Размываюць
пясчанае дно.

Эх-х-х...
І прыгожая ж
Дон-рака,
Баламуціць яна
казака:
Абвівае вянкамі
кроз
Над ракою далёкай
дом.

Але помніць Чубаты
наказ
Ад рабоча-сялянскіх
мас:
Бараніць рэвалюцыю
скрозь,
Каб спакойна каціўся
Дон.

Яшчэ помніць Чубаты —
загад
Прачытаў эскадрону
камбат:
Вартаваць батарэйны
парк,
Як сваё дарагое
дзіцё.

І не змусціць Чубатага
Дон,
Не агорне дакучлівы
сон,
Бо вайна за Саветы —
не жарт,
А змаганне на смерць
і жыццё.

Адхінае Чубаты
башлык,
Да крыві напінае
слых:
— Недзе крокі,
здаецца,
растуць...
Ці не крадзецца толькі
хто?

Пахіснуўся наводдаль
цень...
— Мусіць, варта на змену
ідзе.
Па жалезу жалезам —
стук.
Скаланулася сэрца...
— Стой!

Перарэзаў дарогу
стрэл,
З каравульні бягуць
насустрэч,

А Чубаты не можа,
                    аслаб,
Але тужыцца бегчы
                    шпарчэй.
І тады толькі
                сцішыў крок,
Калі нашы чужых
                    (чатырох)
Павялі пад канвоем
                    у штаб.

21

Чорныя сцены.
Чатыры акны.
Стол.
Звахтаваная лямпа.
Поўнач
        і людзі —
                сышліся яны
Ціха,
    не бразнуўшы клямкай.

Што ж іх злучыла такою парой?
Поўнач прыйшла на ўрачыстасць,
Людзі,—
        каб выканаць цвёрды зарок
Бальшавікоў-камуністаў.

Ім даручыла рэспубліка лёс
Гэтай маленькай нізіны,
Іхні
    (у тыл супарату)
Налёт
Даць перамогу павінен.

Людзі за гэта адказнасць нясуць
Перад рабочым класам,
Іх —
    за прарывы —

Паклічуць на суд
Многамільённыя масы.

I,
Занядбаўшы спакоем і сном,
Перамагаючы змору,
Думкі пытаюць упарта адно:
— Дзе ж той злачынца?!
— Каторы?!

Дзе ж тое выйсце
з варожых засад?
Будуць уважліва слухаць,
Стань жа
і пэўна скажы, камісар,
Каб разляцелася скруха.

Вочы дапытліва сочаць даўно,—
Суджана ім памыліцца:
Розін паведаміць можа адно:
— Кара не знойдзе злачынца.

Дадзены строгі загад —
затрымаць!
Марныя толькі старанні:
Ён
(гэта Рацкі,
сумнення няма)
Знік яшчэ з самага рання.

Прыйдзецца іншага выйсця шукаць,
Новыя захады трэба.
Людзі змарыліся,
праўду сказаць,
Без адпачынку,
без хлеба.

Нешта прыдумаць,
таварышы,
трэ —
Раніца родзіцца скора...

Першае слова
Арлянка бярэ,
Строга гаворыць,
з дакорам:

— Вы абмінаеце ўсе
і знарок
Нездавальнення прычыну...
Можа, не верны быў
першы мой крок,
Можа, не верны учынак.

Некалі,
позна
цяпер разважаць,—
Клічуць падзеі
да дзеі:
Скручаны вузел —
пара развязаць,
Покуль не згаслі надзеі.

Нездавальненне,
пад ворагаў шэпт,
Смуты шукала прычыну,
Вораг
знаходзіў:
«Арлянка ілжэ,
продае вашу краіну!
Кіньце змагацца!
Вас клічуць дамоў
Вашы галодныя дзеці».
Гэтыя словы —
не ўпалі на дол,
Іх не развеяў і вецер.

Іх —
падхапілі чужыя душой,
Імі —
другіх атруцілі,

І
пакаціўся
агідны душок,
Труячы новыя сілы.

Людзі паўсталі...
Іх строгі прысуд —
Хай няпраўдзівы,
няверны —
Цешыць,
што ворагу кару нясуць
За
шпіянаж
і нявернасць.

І непатрэбная гэтая смерць
Сіле паможа узняцца,—
Будзе лягчэй чалавеку цярпець...
Што ж тут чакаць
і хістацца?!

Трэба для справы —
наш лозунг такі —
Думак няма пра ахвяры.
Ведаю,
страта,
як камень цяжкі,
Ляжа на плечы цяжарам.

Плакаць не час
над уласным жыццём,
Над пачуццямі сваімі...
Знаеце добра,
што імя маё
Стала пагардлівым імем.

Трэба мець мужнасць ваяк
паглядзець
Праўдзе ў адкрытыя вочы!
Я не спужаюся,
смела на смерць
Выйду за справу рабочых.

Словы праўдзівасцю згорбілі
усіх,
Іх не разбіць
і не сходаць.
Вось,
абмінаючы дзеўчынін зірк,
Кажа Азорыч да сходу:

— Правільна...
Верна...
Размяклі крыху.
Скруху
і жаласць —
адкінем:
Гэтыя якасці
не зберагуць
Долю Савецкай краіны.

Трэба быць цвёрдым
і выйсця шукаць
Не ў абыходлівых словах...
Масы не кінуць на нас наракаць,
Покуль прысуд іх суровы
Дзеяй не стане...

Няхай гэты суд
Мо непраўдзівы, няверны —
Я прапаную...
зацвердзіць прысуд,
Каб патушыць абурэнне.

Іншага выйсця,
здаецца,
няма...
Ведаю,
цяжка,
балюча—
Кроўю прыходзіцца нам
падтрымаць
Роўны уздым рэвалюцыі...

Р о з і н: — Досыць!
Хлуслівыя пульсы крыві
Вышвырні к чортавай мацеры.
Нудна,
Азорыч,
калі бальшавік
Ные,
чытаючы пацеры.

Ты прапануеш
зацвердзіць прысуд,
Каб супакоіць навалу,
Ты не падумаў,
куды занясуць
Гэтыя чорныя хвалі.

Іншага выйсця,
гаворыш,
няма?
Словы няпраўдаю коляць:
Ёсць у нас выйсце —
стыхію стрымаць
І пакарыць нашай волі.

Мы —
камуністы...
Услед у хвастах
Нам не прыстала цягнуцца,—
Партыя ставіла нас на пастах,
Як авангард рэвалюцыі.

Значыць,
пакуль не злеглі далавах,
Мы —
стырнавыя развою,
Значыць,
падужаем сілу навал
І павядзём за сабою.

Вораг нядарам
найлепшых людзей
Выкрасліць прагне з актыву,

Каб авалодаць ходою падзей,
Струшчыўшы моц калектыву.

Марныя будуць
патугі яго —
Нашая сіла
не згасла:
Працы сыны
і на тых берагах
Чуюць праўдзівае гасла.

Бачылі ж,
пэўна,
Калі
адна часць
Стала пад сцяг рэвалюцыі —
Сорам і боль
затаілі ў вачах,
Змучаных ворагам,
людзі.

Значыць,
нялёгка армейцам было
Кінуць сяброў і вінтоўку,
Значыць,
віны пачуццё
прыгняло,
Кпіны
і жарты
замоўклі.

Думае
думу цяжкую
казак,
Скруха турбуе сібірцаў.
Мы і павінны
цяпер паказаць,
З кім
і за што
трэба біцца.

Справа пачата.
Асобы аддзел
Выкрые Рацкага банду.
Ваша задача —
развою падзей
Дапамагчы прапагандай.

Трэба ударна
на ногі падняць
Сілы палітапарату,
Каб цераз ноч,
да чарговага дня,
З намі былі ўсе атрады!

Годзе,
Азорыч,
пра суд варажыць,
Шпар напярэймы армейцам.
Людзі зблудзіліся,
дапамажы
Вынайсці кожнаму месца.

Нам за хвастом
не прыстала ісці,—
Весці нам выпала масы.—
Розін замоўк.
Сцепанулася ціш:
— Пойдзем,
не трацячы часу.

І
калі выйшлі
і гоман жывы
Згас за гумном на папары,—
Бегма
да штаба
прыбег вартавы
І далажыў камісару:

— Я з батарэйнага...
Там неспакой:
Злоўлен дазор супарата.

Мусіць,
— напэўна ж —
такою парой
Лезлі пашкодзіць гарматы.

З іх,
як здаецца,
адзін у нас быў,
Бачыў,
гадаецца,
дзесьці.
Што загадаеце з імі рабіць?
— Трэба сюды іх прывесці!

22

Пакаціўся пагардлівы рокат...
А ці смех,
а ці скрып дзвярэй?
Сцепанулася ціш ля парога:
Гэта ворага —
вораг сустрэў.

У густыя цянёвыя столкі
Ахінуў іх аблічча змрок,
Ды няма яшчэ цемры волкай,
Каб тушыла пажар
і кроў.

І датла спапялела змрочнасць
Пад шалёным агнём вачэй,
Яны стрэліся,—
вочы у вочы,—
Загарэліся зрэнкі ярчэй.

— Ці не Рацкі?!
З'явіўся?!
І грозна
Пальцы сціснуліся
ў кулакі,

Ірвануўся без памяці Розін,
Але нехта спыніў:
— Пакінь!

Аслабелі,
абмяклі рукі.
— Сволач,
сволач!
Ізноўку ціш
Нарадзілася ў страшных муках
І нядоляю стала ў жыцці.

Зварухнуў яе словам Розін,
Затаіўшы нянавісць
і гнеў,—
Голас проста,
спакойна
і грозна
Над злачынцам ізноў празвінеў:

— Раскажы,
грамадзянін Рацкі,
Аб учынках
і дзеях
сваіх...
Будзеш марна,
кажу,
старацца,
Калі думаеш іх утаіць.

Р а ц к і: — Я
не злодзей,
не краў нічога,
Каб таіцца сваіх людзей.
У нас розныя,
праўда,
дарогі,
Але кожны —
да мэты ідзе.

Я не меней,
як вы,
хварэю
За краіну маю —
Беларусь.
І ўсё ж такі
не
разумею:
Ну навошта за нашу зару

Пралiваць сваю кроў —
расійцам,
Украінцам
ці шчэ каму?..

Не прыйшлі ж яны самі прасіцца,
Каб надзелі на шыю хамут!

Кожнай нацыі
дадзена воля,
Значыць,
сам барані свой край,
Калі хочаш, каб вораг не здолеў,
Але іншых —
не руш,
не чапай!..

Прызнаюся,
такія гаворкі
Прашумелі нядаўна у нас,
Калі людзям жыццё агоркла...
Дык ці ж гэта
мая віна?

Р о з і н: — А скажы,
калі ласка,
шчыра,
Палажыўшы на сэрца руку,
У які вы збіраліся вырай?
Што за людзі з табой?
Адкуль?

І чаго ж, у такую часіну,
Вы блудзілі ля нашых гармат?
Можа гэта таксама
нявінны,
На людскую пацеху,
жарт?!

Рацкі: — Над палком навісала смута,
Каб прычынным у гэтым не быць —
Не было ў мяне іншага скутку,
Як пакінуць агонь барацьбы.

Я не клікаў з сабою нікога,
Каб шукаць сваю долю дзе,
Прысягну,
што зусім выпадкова
Незнаёмых сустрэў людзей.

Ноч зманлівая
збіла з дарогі...
Мы спакойна блукалі б да дня,
Каб не варта устрэсла трывогу.
Значыць,
зноў
не мая віна.

Розін: — Ты пакінь прыкідацца нявінным,
Апраўданням сваім
не вер,
Праз каго,
адкажы,
жанчыну
Ні за што асудзілі на смерць?

— Пачакай! —
прыпыніла Касана:
— Допыт Рацкага
скончаны?
Так?
Хай адкажа цяпер,
падпанак,
Як патрапіў да нас у стан!

Вы пазналі мяне,
паручнік?!
Гэта,
праўда,
было даўно,
Напярэдадні братніх заручын
Вы з Масквы прыязджалі дамоў.

Можа помніце імя Арлянкі,
Калі памяці вецер не сцёр?
Я служыла тады...
гувернанткай,
Мне здаецца,
у вашых сясцёр.

А пасля ўжо,
зусім нядаўна,
Я пабачыла вас з-за крат:
Вы гулялі ў маёнтку Слаўным,
Дзе тады пражываў
ваш брат.

Адпраўлялі мяне...
у Ляды —
Мы яшчэ напаткаліся раз:
Вы на ганку стаялі з братам
І канвою давалі наказ.

Я не ведала,
пане Пагоцкі,
Што вы Рацкага імя ўзялі,
Я не знала,
што вы не ў госці,
А шпіёнам ад брата прыйшлі.

І удзельнік крывавых падзеяў,
Зрэнкі вышчарыўшы на зару,
Заяўляе,
што і ён хварэе
За краіну сваю —
Беларусь!

Гэта ж самая брудная подласць,
Шчэ такое
і свет не знаў! —
Абарваўся надломаны голас,
Зазвінела струной цішыня.

І тады
расчапіліся вусны,
Непрыемна
кранулі слых,
Як халодныя
слізкія вусьні,
Словы ціха
і мякка
паўзлі.

Р а ц к і: — Прызнаюся,
не ўсё да драбніцы
Расказаў я нядаўна вам,
Але бачу,
што позна таіцца
І учынкі
свае
хаваць.

Не памогуць
ні просьбы,
ні модлы,
Калі лёс асудзіў не жыць...
Вы мяне абазвалі подлым,
Бо я шчыра ідэі служыў.

Абзывайце яшчэ ліхадзеем,
Але я вам
ізноў гавару,
Што я такжа,
як вы,
хварэю
За краіну маю —
Беларусь.

Гэта ж тут
мая маці-радзіма,
Ціхі дом
і шырокі луг...
Дык якое ж,
скажыце,
дзіва,
Што я моцна айчыну люблю?!

Толькі іншы ад вашага попыт
Я на гэту краіну прынёс:
Не кажу
пра культуру і побыт,
Пра аднолькава струджаны
лёс...

Нават поле,
балотныя плошчы,
Нават лес,
і лугі,
і пяскі —
Беларусь далучаюць да Польшчы,
Засланіўшы шляхі да Масквы.

Р о з і н: — Што ж ты брэшаш,
што сэрцам хварэеш,
Што гадуеш да краю любоў:
Ты ж за ўласны маёнтак млееш,
Праліваеш чужую кроў!

Не кранаюць цябе руіны
Гэтых бедных хацін
і дамоў...
Ты імкнуўся
на шыю краіне
Панскай Польшчы надзець ярмо.

Мы ж паўсталі
з нізінаў сонных
Не твае бараніць дабро:

За жыццё Беларусі працоўнай
Аддаём маладую кроў.

Кінь жа пець
про свае любошчы,
Не кляніся,
а дай адказ,
Чым памог
белапанскай Польшчы
У змаганні сваім супраць нас?

**Рацкі:** — Не затоіш нянавісці ў жмені,
Калі ў сэрцы яна гарыць.
Прызнаюся адкрыта —
сумленна
Працаваў не на вашу карысць.

Мне загад быў
ад контрразведкі
У чырвоны прабрацца стан
І прыносіць дакладныя весткі,
І сакрэтныя планы дастаць.

Цераз брата ішлі наказы,
Я выконваў старанна,
І вось...
Гэта дзеўка
за трэцім разам
Асачыла-такі
мой лёс.

Яна стала на той дарозе,
Дзе жывыя сляды на пяску,
Нада мною павісла пагроза,
Быццам цела чыё на суку.

Дзень трывожыў мяне наступны
(Ён тады наставаў кагадзе) —
Вобраз дзеўчыны злой
неадступна
Не даваў супакою нідзе.

І гадалася ноччу цёмнай
Гэта імя
да белага дня,
І зусім нечакана
я ўспомніў,
Што арлянкай завецца гульня.

Выйсце знойдзеным стала нарэшце,
І упартасць мая
узрасла:
Вы гуляеце,
здэцца,
на рэшку?
Я ж пастаўлю ізноў на арла!

Мне здавалася —
досыць прычыны,
Каб узняць нездаволенне мас;
Мне здавалася —
з гэтай дзяўчынай
Вы апошні прайграеце раз.

Р о з і н: — Памыліўся,
— ха-ха! —
дабрадзею:
Не на рэшку ідзе гульня —
Наша сіла
і наша надзея —
Пяцікутная зорка...
Адна!

Вам не ўдасца варожасць
узветрыць:
Беларус,
украінец,
грузін,
У працоўных —
адзіная мэта,
У працоўных —
і шлях адзін!

Нас з маленства бяда гадавала;
Хай мы босыя,
голыя,
хай!
Ад раз'юшанай панскай навалы
Абаронім Савецкі край!

Не сагнём пад ярмо ваша
карак,
Можа шмат каго
возьме смерць,
Толькі верым —
праўдзівая кара
Анікога і вас не міне.

За руінамі хат,
пры гасцінцы,
Яна першага стрэне —
цябе!..
Адвядзіце туды злачынцаў,
Няхай дол нарыхтуюць сабе.

23

Пакідалі маўкліва мітынг
Непакорныя бацьку сыны,
І трывогі глухой,
непазбытай
Наплывалі цяжкія сны.

Людзі неслі
свой чорны сорам
Цераз шлях
каля трох арабін,
І тады іх
дагнаў Азорыч
І адразу маўклівасць разбіў:

— Хлопцы,
хлопцы!..
Чаго натварылі?! —

Нехта цяжка,
услых
уздыхнуў.
І туга разняла свае крылы,
Ахінула у смутак вясну.

Зашчымелі балюча сэрцы,
Зубы сціснуўшы,
тоячы боль,
Выракалі чырвонаармейцы
Свой суровы прысуд над сабой:

«Як мы смелі
пакінуць змаганне
І чужою краіну назваць,
Дзе мільёны
гараць паўстаннем,
Каб нядолю сваю зваяваць!»

Воддаль гутарыў з некім Азорыч:
— Ты ідзеш на спачын,
у цяпло,
А таварыш —
калее ў дазоры
За краіну,
за гэта сяло...

Ты смяяўся
і строіў жарты,
А чужынец разлад прынёс...
Як жа смеў ты
пакінуць варту,
Занядбаўшы рэспублікі лёс?!

Гэта ж самая подлая здрада,
Калі вораг наточыць нажы —
Пашчапаць на кавалкі атрады
І вінтоўкі свае палажыць.

І не выцерпеў
гэтае грозьбы
Пажылы
і высокі казак,

Прыпыніўся
і ціхаю просьбай
На дакоры усе
адказаў:

— Не загоіць надлому скруха,
Калі хлопцаў,
братоў і сясцёр
Мы пакінулі ў час завірухі
Ваяваць
за працоўных жыццё.

Не загладзіш віны
дакорам,
Дык цярпліва,
Азорыч,
маўчы!
Нам нялёгка,
пакутлівы сорам
І няўцішаны боль несучы.

Ноч ішла
цераз лес
і нівы,
Вартавала санлівасць хат,
І знябытыя людзі
маўкліва
Абміналі шарэнгі прысад.

Хаты стрэлі пагардліва такжа —
Не знайсці супакою нідзе!
Прыгняла невымоўная цяжкасць
Яшчэ ніжай маўклівых людзей.

Гэтак цяжка
бывае аднойчы:
Калі ўсе адракуцца цябе
І глухія,
бяссонныя ночы
Трэба зносіць,
маўчаць
і цярпець.

Узнімаўся халодны вятрыска,
Але цёпла было ля хат,
І да ранку сядзелі на прызбах
Таварыскія групы салдат.

Каб забыцца на тую рознасць,
Што была як прычына смут,
І ласкава, і асцярожна
Дагаджалі адзін аднаму:

— Хэ, дармо,
што Сібір гадавала,
Украіна твая
ці Каўказ —
Доля роўная нас страчала
І аднолькава песціла нас.

А было вось...
такое здарэнне,
У нямецкую,
значыць,
вайну,
Адступалі,
кальнула ў калена
І —
нагой не магу зварухнуць.

«Браце,—
клічу,—
на дальняй чужыне
Не кідай аднаго мяне!..»

Хоць бы вокам здалёку акінуў,
Хоць бы крок на хвіліну знямеў.

«Сукін сын ты!
А я ж табе праўдай
Колькі год батраком служыў,
Ты ж мой хлеб запрацованы
краў быў,
Ты ж смактаў мае сілы з жыл!»

Захлынулася жалем сэрца:
«Мая доля —
мяне не міне:
Мусіць, суджана мне
памерці
На далёкай,
чужой
старане».

Можа й згінуў бы,
можа лепей
Жыў бы з песняю,
не смуткаваў,
Але шэнціла —
вырučыў Лейба —
Мой вясковы сусед —
каваль...

Ох і сіла ж была!
Навокал
Пра яго разышоўся слых.
Нёс тады ён мяне далёка,
Покуль вынес зусім да сваіх.

От якія бываюць здарэнні!
Зноўку слова Азорыч узяў:
— І выпадкаў такіх —
не меней,
Як сто тысяч,
бывае штодня.

Але нейк
забываюцца людзі...
Вось і мы —
узнялі гэты рух:
«За чужыну змагацца
не будзем!»
Ці ж чужына для нас Беларусь?

Яна такжа працоўных краіна,
А ці ж мэта у нас
не адна?!

Можа,
навать
і тая жанчына
Вінавата не болей за нас.

Забарабаніла
крыллямі скруха
І сумленне угрызлася зноў.
— Лепш адсеч было
гэтыя рукі,
Спапяліць непакорную кроў.

Лепш сагнаць было
скуру ў столкі
Рамянём
на сваіх плячах,—
Як пакінуць-злажыць вінтоўкі
У такі неспакойны час.

Разрывала сумленне сэрцы,
Зубы сціснуўшы,
тоячы боль,
Выракалі чырвонаармейцы
Свой суровы прысуд над сабой.

Ноч ішла,
не прыносячы скутку,
Высцілаўся бялёвы туман.
Можа з ім
прыкаціліся чуткі?
Можа ён нас
уводзіць у зман?

Але ж нехта жывы,
нізкарослы,
Разышоўся на ўсе галасы:
— Я ж казаў вам,
салдаты й матросы,
Што ваш Рацкі —
сабачы сын.

От злавілі ж падлюгу на здрадзе:
Падыходзім мы гэта,
глядзім,
Ажно ён
батарэі крадзе...
Я за шкірку,
і хлопцам:
«Вядзі!»

І героем хадзіў нізкарослы,
А ніхто не спыніў:
«Ілжэш!»
Бо з маной гэтай слоўнай бросні
Дакранулася праўда вушэй.

З лушпавіння легенд несапраўдных
Адлучылася восем слоў:
«Рацкі —
злоўлены!
Рацкі —
здраднік!
На пагібель рэспубліку вёў».

Накацілася чорная хмара,
Пацямнелі
і даль,
і ноч...
І Азорыча словы
пажарам
Ахапілі маўклівасць
ізноў:

— Калі людзі
памылак
і здрады
Не паправяць адданасцю дзей,
Дык ніколі не будзе радасць
Гасцяваць у такіх людзей.

Напяліся да болю нервы,
І жахнуўся над вуліцай крык:

— Дык калі ж нас адправяць
з рэзерваў
У агонь,
у магілу
пад крыж!

Хоць куды!..
Абы змыць гэты сорам,
Ці загінуць у бойцы не ў час,
Каб ні людзі,
ні дзень,
ні зоры
Не глядзелі з дакорам на нас.

І Азорыч адзіным жаданнем
Зноў зацепліў
пачуцці ваяк:
Віхрам рынуцца заўтра ў змаганне,
Каб і скруху,
і сум
пахаваць,

Каб крывёю
ганебную пляму
Змыць у слаўных,
адважных
баях...
Ноч праходзіла,
гасячы лямант,
Рассыпаючы зоры ў палях.

24

Ліпень.
Пагожы,
як радасць,
дзень,
Сонца купае
купавы;

Лес на пагорках
памаладзеў,
П'яна запахлі травы.

Нават руіны папаленых хат,
Тоячы боль
і раны,
Голлем зялёных
кляновых шат,
Як на ўрачыстасць,
убраны.

Пераклікаюцца скрозь галасы —
Словам гамонкі,
акордамі песні;
Звонка шасцяць,
шалясцяць каласы,
Туліцца радасць да весніц.

Добра такою часінай
ісці
Поруч,
у ногу з сябрамі.
Пляц учарашніх гамонак
прыціх,
Змоўк,
утаптаны нагамі.

Спрытна ў шарэнгі пастроіўся полк,
Зліты адзіным настроем...
Зірк страпянуўся,
і вочы —
у дол.
Стаў камісар перад строем:

— Добрае раніцы!
(Так маладзёж
Часта вітае маленства).
Доўга
і моўчкі
ён тупаў
уздоўж

Роўных,
як струны,
шарэнгаў.

Бліснулі іскры ў ягоных вачах,
Сэрцы зацэпліўшы
скрухаю новай,
Ён прыпыніўся,
і вось ён
пачаў
Словам ласкавым
прамову:

— Што ж вы,
таварышы,
хмурыя ўсе?
Досыць журыцца!
Сушыце набоі!
Хто нам палёгку
адкуль прынясе?
Трэба здабыць яе...
сілаю!
З бою!

Гляньце навокала,
колькі тугі,
Слёз неадплачаных —
цэлае мора.
Нашыя хаты,
палеткі,
лугі
Нішчыць пажарамі вораг.

Што ж мы зрабілі,
каб скінуць ярмо?
Смерць
прысудзілі жанчыне?
Гэта заслона
з нявінным кляймом
Крыла варожасць учынкаў.

І,
   калі брудную шырму падняць —
Выступіць Рацкі героем...
Што яму трэба?
                          Адно! —
Раз'яднаць,
Дужасць на часткі пакроіць.

Ён не для жартаў
                            хацеў распаліць
Нацыянальныя спрэчкі.
Хтосьці на гэту прынаду прыліп,
Варту пакінуў ля рэчкі;

Хтосьці паверыў,
                           вінтоўку аддаў,
Слова зламаў сваё нехта,
І чужаніцай далёкай назваў
Ён
   Беларусь Саветаў.

Мы —
        гэта працы сусветнай сыны,
Наша краіна —
                        усюды
Там,
       дзе гараць рэвалюцый агні,
Там,
       дзе працоўныя людзі.

Сёння мы кінем змагацца,
                                  дамоў
Пойдзем да мамы,
                          да таты,
Заўтра паганая банда паноў
Выгане з роднае хаты.

Хутка ільга заваёвы аддаць,
Толькі ўжо вораг —
                            не верне!

Кроўю рабочых,
сялян
і салдат
Бралі іх...

Г а л а с ы: — Правільна!
— Верна!
К а м і с а р: — Хто не жадае ісці самахоць,
Хай пакідае змаганне,
Хто бунтаваўся —
наперад выходзь!
— Хто бунтаваўся? —
Пытанне.

З вуснаў
у вусны
яно паплыло,
Толькі не стрэла адказу,
Быццам нічога зусім не было,
Проста:
«Жадаюць абразіць».

К а м і с а р: — Зноў гавару вам,
хай зброю аддасць
Той,
хто змагацца не хоча,
Той,
хто за цёплы закутак
прадасць
Справу і долю рабочых.

Гул скалыхнуў амярцвелую ціш:
— Зброі ніколі не кінем!..
— Будзем рэспубліку
ўсе бараніць,
Нашу,
працоўных,
краіну!

— Пойдзем адважна у бой,
як адзін,
Мы не спужаемся смерці!

Таварыш начальнік,
бяры
і вядзі,
Не дакарай нашы сэрцы!

Камісар: — Хлопцы,
рэспубліка будзе вітаць
Шчырую вашу адданасць.
Помніце,
сёння ўначы наступаць,
Трэба нам быць зрыхтаваным.

Галасы: — Будзем,
таварыш!
— Даёш,
камісар!
І на спатканне і ростань
Хопіць на панскія плечы пісаг —
Шаблі навостраны востра.

Камісар: — Веру,
што моцна вінтоўкі свае
Будзем трымаць у змаганні.
Хай рэвалюцыя
скрозь жыве!
Панскае прэч панаванне!

Галасы: — Знішчым нядолі
адвечны уціск,
Волю ў змаганні здабудзем!

Камісар: — Дзякую,
хлопцы,
за дружнасць усіх!
Полк: — Служым!
Працоўнаму!
Люду!

## ЭПІЛОГ

Па дарогах,
разбітых ушчэнт,
Па руінах брукованых вуліц
Увайшлі
у савецкі Мінск
Калмыкі
і кітайскія кулі.

І лезгіны з Каўказскай гары,
Украінцы,
татары,
тунгусы —
Гэта ўсё —
за жыццё змагары
І за волю маёй Беларусі.

Ночы,
голад
і холад тайгі,
Балаты,
і лясы,
і пустыні,
Неадступная змора тугі —
Перад імі усё адступіла.

Бо вяла іх упартасць адна,
Скасаваўшы граніцы ўсіх нацый,—
Рэвалюцыі сцягі узняць,
Каб не ведаць прыгону у працы.

Перайшлі яны тысячы вёрст
Без абутку,
адзення
і зброі,
Але кожны у сэрцы данёс
Маладога змагання настроі.

Ад сібірскіх лясоў
ды балот
І выжар непраходных
Палесся
Правялі яны слаўны паход
З баявою вясёлаю песняй.

Не за славу крывіцкіх славян,
Не за ўласную долю
і лёс свой,
А за волю рабочых,
сялян,
Гарадоў занядбаных
і вёсак.

З найдалёкіх
і блізкіх краёў,
Ад канца
да пачатку
свету
Пралівалі працоўныя кроў,
Каб жыла
Беларусь
Саветаў!

1930—1931 гг.

# СВЯТЛО З УСХОДУ

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Уладзімір Ільіч Ленін.

Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў.

Тарас Іванавіч Азорыч — член франтавога камітэта і Мінскага Савета.

Язэп Макейчык — рабочы дэпо, член Мінскага Савета.

Марына Варановіч — маладая работніца, член Мінскага Савета.

Андрэй Цімчук — селянін.

Аксеня Паўлаўна Званская — працаўнік земства ў Мінску.

Ігнат Кузьміч Высокаў — петраградскі рабочы.

Адась Валошын — фельдфебель, машыніст бронецягніка.

Грыгоры Баравы<br>Нічыпар Мелех<br>Мікола Ліпавец<br>Алесь Макарэвіч } салдаты рускай арміі.

Яніна Петрашэўская — прыбіральшчыца.

Меер Гольман — рабочы друкарні.

Агата Міранок — бежанка.

Таня — дачка Міранок.

Дзядзька Хораш — вартаўнік на Мінскім вакзале.

Генерал Балуеў — камандуючы Заходнім фронтам.

Антон Міхайлавіч Рабінін — кадэт, камісар Часовага ўрада на Заходнім фронце.

Іван Ігнатавіч Віскаваты — меншавік, член франтавога камітэта.

Барыс Міхайлавіч Яноўскі — эсэр, памочнік начальніка станцыі Мінск.

Вінцэнты Лешчыц — член Беларускага нацыянальнага камітэта.

Эстар Кацман — бундаўка.

Даўнарскі — капітан рускай арміі.

Ядвіга Карлаўна Вайніловіч — памешчыца.

Людміла Арыстархаўна Кучынская — дачка багатага крамніка.

Рабочыя, салдаты, бежанцы, інваліды вайны.

Дзея адбываецца паміж красавіком і лістападам 1917 г. у Петраградзе, Мінску і на Заходнім фронце.

## МАЛЮНАК ПЕРШЫ

Асабняк Кшасінскай у Петраградзе. З вестыбюля на другі паверх падымаецца шырокая, роўная лесвіца. Насупраць яе на другім паверсе — двое дзвярэй у залу; каля адных з іх на варце радавы салдат Грыгоры Баравы. Гадоў яму дваццаць пяць-дваццаць шэсць, але выглядае ён значна маладзейшым, асабліва цяпер, калі ўвесь яго прыгожы і энергічны твар свеціцца вялікім захапленнем. За дзвярыма спачатку чуваць бурныя воплескі, а затым спеў «Інтэрнацыянала». З левых дзвярэй аўдыторыі выходзіць Тарас Азорыч і заклапочана набліжаецца да правых дзвярэй. Яму гадоў пад трыццаць. Ён высокі, хударлявы ў твары, апрануты ў афіцэрскі шынель, але без пагонаў. Баравы заступае яму дарогу.

Баравы

Таварыш, выхад цераз двор, направа...

Азорыч

Мяне Высокаў клікаў.

Баравы

А! хвілінку.

Знікае за дзвярыма. З глыбіні калідора, спяшаючыся, з'яўляецца Званская. Гэта маладая і стройная, проста, але з густам апранутая жанчына. Гадоў ёй дваццаць два-дваццаць тры. Яна заклапочана аглядаецца, кагосьці шукаючы. Заўважыўшы Азорыча, Званская з радасцю бяжыць да яго.

Званская

Тарас Іванавіч!

Азорыч

Адкуль ты, Ксеня?!

Званская

Цябе шукаю.

Азорыч

Не, без жартаў, праўда?

Званская

Я афіцыйна тут па справах земства,
Але калі сказаць табе па праўдзе,
Дык справы я прыдумала сама.
Ты рад?

Азорыч

Аксеня, мілая мая!..

Званская

Я так засумавала па табе!
Два тыдні без цябе... О божа! Вечнасць!

З аўдыторыі выходзяць Баравы і Высокаў — пажылы рабочы, з пышнымі вусамі, у якіх прабіваецца ўжо сівізна.

Высокаў

Азорыч!

Азорыч

Зараз. Выбачай, Аксеня,
Ты пачакай мяне хвілінак пяць,
У нас тут справы.

Званская

Добра, пачакаю. *(Выходзіць.)*

Высокаў

Ільіч даведаўся аб мінскіх справах
І хоча з вамі гаварыць.

Азорыч

Са мной?

Высокаў

Вам гаварыў ужо таварыш Фрунзе,
Якое Мінск набыў цяпер значэнне.
Там блізка фронт, там тысячы салдат,
І слова нашай партыі да іх

Дайсці павінна чыстым і праўдзівым.
А як жа масы могуць вам паверыць,
Калі вы дружыце з меншавікамі?

Пад час гэтай рэплікі з'яўляецца Ленін, але Азорыч яго не заўважае.

Азорыч

Ігнат Кузьміч, якая ж гэта дружба?

Высокаў

Чаму ж у вас агульны камітэт?

Азорыч

Бальшавікоў у нас у Мінску мала...

Ленін

Няправільна! Галоўнае цяпер
Не даць сябе заблытаць ні на момант
У розныя дурныя аб'яднанкі
З цэнтрыстамі, з меншавікамі, з Бундам.
Ніякім чынам, ні адной хвіліны
Сумесна з абаронцамі вайны!
Вы з Мінска будзеце? Азорыч? Добра.
Нам з вамі трэба гаварыць грунтоўна.
Давайце пасядзім... Прашу, сядайце.
Ну, што ж вы маўчыце, Азорыч, а?

Азорыч

Збянтэжыўся крыху, таварыш Ленін.

Ленін

Бальшавікам патрэбна смелым быць.
На рэвалюцыю з усіх бакоў
Мядзведзем лезе здрадніцтва. Мы што ж,
Не маем права біцца? Выбачайце!
Вы бойкі любіце?

Азорыч

Магу.

Л е н і н

У вас

Вялікую правесці трэба бойку.

В ы с о к а ў

У Мінску пошасці багата вельмі...

А з о р ы ч

Але там ёсць таксама і народ.

Л е н і н

Вось гэта правільна. І што ж народ?

А з о р ы ч

Народ пакутуе — вайна, галеча...

Л е н і н

А што аб міры кажуць, аб зямлі?

А з о р ы ч

Вайну клянуць, а як дабіцца міру —
Ніхто не ведае. Жывуць надзеяй
На Устаноўчы сход і на Саветы.

Л е н і н

Цяжкую і складаную задачу
Перад рабочай партыяй Расіі
Паставіла гісторыя. Глядзіце:
Пралетарыят у барацьбе з царызмам
Не шкадаваў ні сілы, ні жыцця;
Ён праявіў сапраўдны гераізм;
Ён здзейсніў рэвалюцыю, стварыў
Кіруючыя органы — Саветы
Рабочых і салдацкіх дэпутатаў.
І што ж? Эсэры і меншавікі
Аддалі ўладу ўсю капіталістам.
На словах быццам бы правадыры,
А сапраўды — хвасты буржуазіі.
І толькі, можа, юныя курсісткі
Паверыць могуць ім, але не мы.

Яны не могуць, нават каб хацелі,
Ні хлеба даць, ні міру, ні свабоды.

Азорыч

Выходзіць, што урад патрэбна скінуць?

Ленін

Так і не так. Яго патрэбна скінуць,
Таму што ён урад буржуазіі.
Яго, аднак жа, нельга скінуць зараз,
Таму што ён трымаецца на згодзе
З Саветамі Рабочых Дэпутатаў,
І мы яго падолеем тады,
Як заваюем большасць у Саветах.
Пра гэта масам трэба і сказаць,
Сказаць выразна, прыклады прывёўшы...
Вось надышла вясна, пара сяўбы.
Вядома, партыі буржуазіі
За тое, каб зямельнае пытанне
Адкласці на няпэўны час —
Да Устаноўчага, як кажуць, сходу.
Ім што?! Яны гатовы пачакаць.
А селяніну як?

Баравы

Што ім сяляне,—
Абы памешчыкі былі здаровы!

Ленін

Сялянству трэба так і гаварыць:
Бярыце панскую зямлю і сейце,
Каб ратаваць народ ад галадухі.
Такая агітацыя — паможа,
І масы стануць павяртаць да нас.
Як вы мяркуеце?

Азорыч

Абавязкова:
Зямля для селяніна — гэта ўсё.

Ленін

Таксама нельга ў вас у Беларусі
Мінаць нацыянальнага пытання.
Прызнанне за народамі правоў
На самастойны лёс, на аддзяленне —
Важнейшы момант нашай барацьбы.

Азорыч

Я — беларус. Правы майго народа
Мне дарагі.

Ленін

Я разумею вас.
Аднак заўсёды трэба добра помніць,
Што Беларусь не можа быць свабоднай
Без аб'яднання сіл усёй Расіі.
Вось для чаго мы, рускія, павінны
Падкрэсліваць свабоду аддзялення,
А ў вас у Беларусі, на Украіне —
Свабоду аб'яднання. Мы стаім
За моцную, вялікую дзяржаву,
Але дабіцца нашай мэты хочам
Не сілаю, а брацкім згуртаваннем
Працоўных мас усіх свабодных нацый.

Азорыч

Таварыш Ленін, значыцца, Саветы
Павінны даць нам новы тып дзяржавы?

Ленін

Саветы аднаўляюць тып дзяржавы,
Якім была Парыжская камуна.

Азорыч

У нас у Камітэце фронту ў Мінску
Ёсць меншавік заядлы, Віскаваты...
Вы знаеце, як уяўляе ён камуну?

Ленін

Ну, ну? Цікава вельмі.

Азорыч

Ён гаворыць:
Народ таму не схільны да камуны,
Што пад агульнай коўдрай спаць не хоча.

Ленін

*(весела і шчыра смеючыся).*

Так і сказаў, нягоднік? Ох, умора!
Вы чуеце, таварыш Баравы?
Які нягоднік! — Зноў пускае ў ход
Стары паклёп, што быццам бы камуна —
Агульная казарма. Сам ён, ясна,
Не верыць гэтаму.

Баравы

Але хацеў бы
Паспаць, як кажа, пад агульнай коўдрай.

Ленін

І ён не адзінокі, многа іх...
Вам трэба неадкладна — сёння ж, заўтра! —
Парваць з меншавікамі і ўтварыць
Сваю арганізацыю для Мінска,
Арганізацыю бальшавікоў.
Каб забяспечыць справу перамогі
Для рэвалюцыі ў другім этапе,
Патрэбна праявіць такія цуды
І згуртаванасці і гераізму,
Якіх раней дасюль не ведаў свет.
Падолееце здзейсніць наш наказ?

Азорыч

Падолеем, таварыш Ленін.

Ленін

Добра.
А мы паможам. Як, Ігнат Кузьміч?

Высокаў

Я, Уладзімір Ільіч, гатоў хоць сёння.

Ленін

Трымайце з Мінскам сувязь непарыўна.
Мы не маглі б ад піцерскіх рабочых
Паслаць туды пасылкі для салдат?

Высокаў

Не ведаю, ці ўдасца — галадоўля.

Ленін

Тут не ў саміх пасылках справа,— ім
Маральнае патрэбна падтрыманне.

Высокаў

Я думаю, што сёе-тое зробім.

Ленін

Ну вось і добра. Дзейнічайце дружна,
Паведамляйце аб усіх падзеях —
Вялікіх і малых. Ну, да спаткання
На фронце новых пралетарскіх бітв
І перамог.

Азорыч

Бывайце.

Высокаў

Да спаткання.

Ленін

Прашу вас перадаць вітанне Фрунзе
І Мяснікову.

Азорыч

Дзякуй, перадам.

Ленін, Высокаў і Баравы выходзяць. Азорыч падыходзіць да акна і глядзіць ім услед як зачараваны. Праз момант з'яўляецца Аксеня Званская.

Званская

Аб чым ты так задумаўся, Тарас?
А, дрэвы зацвілі... А помніш, любы,
Як мы з табой калісь перад вайной
Гулялі ў садзе? Сад быў белы-белы...

Азорыч

Аксеня, мілая!.. Каб ты магла
Хоць на хвіліну глянуць мне ў душу,
Пабачыла б не гэткія сады!..

Званская

Ты, любы мой, усё такі ж рамантык.
А я нядаўна ездзіла дамоў.
Схадзіла ў парк, дзе мы з табой гулялі,
І — божа мой! — які цяпер там жах!
Альтанка зломана, усюды брудна,
Прысады высечаны...

Азорыч

І табе
Шкада рабінінскіх маёнткаў стала?

Званская

Я ў тым маёнтку вырасла. Мой бацька
Дванаццаць год быў там за аканома.
Навошта ж разбураць людскую працу?

Азорыч

Хто ж вінават?

Званская

Не будзем гаварыць...

Азорыч

Не, трэба гаварыць, Аксеня, трэба!

Званская

Мне страшна, любы: пры такіх размовах
Між намі ўсё вышэй расце сцяна.

Азорыч

Сягоння, іменна сягоння, Ксеня,
Табе і мне патрэбна ведаць: хто ты?

З в а н с к а я

Я — чалавек, люблю людзей, а людзі...

А з о р ы ч

Не людзі ж разбураюць, а нянавісць,
Законная нянавісць да былога!..

З в а н с к а я

Патрэбна не нянавісць, а любоў.
Адна яна ўратуе нам радзіму.
А вы, замест таго каб згуртавацца
І бараніць свабоду ад чужынцаў,
Вы точыце вайну паміж народам.

А з о р ы ч

Хто гэта «вы»?

З в а н с к а я

Бальшавікі.

А з о р ы ч

А вы?
Хто ж вы сама?

З в а н с к а я

Не ведаю. Здаецца,
Што я рэвалюцыянерка проста.

А з о р ы ч

Такіх няма ў прыродзе. Глупства!
Вы тая ж самая курсістка, аб якой
Таварыш Ленін гаварыў...

З в а н с к а я

Ах вось!
Я разумею вас цудоўна — Ленін...

А з о р ы ч

Не смей так гаварыць!

З в а н с к а я

Тарас!..

А з о р ы ч

Не смей!

Я шчаслівейшы сёння чалавек:
Перада мной адкрылі новы свет.
Ты гэтага не можаш зразумець,
І нам няма аб чым і гаварыць.
Бывай! *(Шпарка ідзе да выхаду.)*

З в а н с к а я

Тарас Іванавіч!.. Азорыч!..
Паслухай жа, шалёны чалавек,
Я сёння еду ў Мінск,— што перадаць?

А з о р ы ч

Мы самі скажам наша слова Мінску. *(Выходзіць.)*

З в а н с к а я

Ну вось і ўсё!.. Цяпер ужо канец.
Эх, мілы, мілы!.. Смешны мой рамантык!
Калі б я ведала — куды ісці?
На сэрцы у цябе цвітуць сады,
Мая ж душа бурліць, як чорны вір.
І цёмна, змрочна скрозь, як у магіле.
Адкуль, адкуль жа з'явіцца святло?

## МАЛЮНАК ДРУГІ

Прасторны пакой у памяшканні Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Праз вокны пярэдняй сцяны відаць край будынка Віленскага вакзала. Вокны злева выходзяць у сад, поўны вясновага цвету. Сонца з усходу шчодра льецца ў пакой, і ад акон цякуць шырокія струмені святла і дробных пылінак.

Яніна Петрашэўская выцірае ў пакоі вокны. Гэта яшчэ даволі маладая жанчына; ёй нельга даць больш трыццаці год, але пакуты жыцця пакінулі на яе твары глыбокія сляды. І ўсё ж такі, не зважаючы на гэта, у рухах яе многа імклівасці, а ў словах — весялосці і, часамі, з'едлівай іроніі.

Апрача Петрашэўскай, у пакоі Андрэй Цімчук — сялянскі хадок па зямельных справах. Гэта напорысты і дасціпны стары, якому нядаўна пераваліла гадоў за шэсцьдзесят. Невысокага росту, каржакаваты, ён таксама, відаць, вясёлы па натуры, але заклапочанасць не дае ёй цяпер праявіцца.

Петрашэўская

Святло да нас ідзе з усходу, дзядзька!..
Ледзь сонца выплыве на небакрай —
Адразу ўсё і заліе праменнем.

Цімчук

Будынак для Савета самы раз:
З вакзала шасць і — у Савет.

Петрашэўская

Вы заявіліся залішне рана.
Таварыш Фрунзе выехаў на фронт,
А Мяснікоў сягоння будзе позна.

Цімчук

Дык што ж ты мне, кабеціна, параіш?

Петрашэўская

Ідзіце да яе, да Вайніловіч,
Няхай дае зямлю — і ўся гаворка.

Цімчук

А дзе ж я ў горадзе яе знайду?

Петрашэўская

А я скажу вам адрас. Я ў яе
Дванаццаць год за наймічку служыла.
Ідзіце да чырвонага касцёла,
А там вам дом яе пакажа кожны.

Цімчук

Патупаю цішком. Яно ўсё ж лепш,
Калі зайсці да гаспадыні з добрым.

Петрашэўская

На дабрату яе надзеі мала.
Вы націскайце сілай, пагразіце,
Няхай не думае, што гэта ёй
Стары рэжым.

Цімчук

Ды я пагавару!
Вясна, зямля пятрэе, сеяць трэба...
*(Выходзіць.)*

Петрашэўская

Вось так і ходзяць людзі кожны дзень.

Уваходзіць Аксеня Званская.

Званская

Дзень добры! Што, яшчэ няма нікога?

Петрашэўская

Азорыча яшчэ няма, галубка.

Званская

Чаму Азорыча?

Петрашэўская

Ну, а каго ж?
У нас тут лепшых хлопцаў і няма.

Званская

Мы пасварыліся, Яніна, з ім,
І я прашу аб ім не гаварыць.

Уваходзіць Р а б і н і н, трыццацігадовы раскошны афіцэр у чыне капітана. Ва ўсіх яго рухах — мяккасць і нядбайнасць; але гэта толькі знешні выгляд, а па сутнасці — гэта цынічны, нахабны і жорсткі чалавек.

Р а б і н і н

Аб кім такі загад — не гаварыць?

П е т р а ш э ў с к а я

Вядома ж, не аб вас. Наадварот,
Вас тут, відаць, чакалі, пан Рабінін.

Р а б і н і н

Чаму ж я пан?

П е т р а ш э ў с к а я

Так у мяне вядзецца:
Адзін — таварыш мне, другі мне — дзядзька,
Той — грамадзянін, а вось гэты — пан.

Р а б і н і н

Не, рэвалюцыя зраўняла ўсіх.

П е т р а ш э ў с к а я

Я нешта не заўважыла... *(Выходзіць.)*

З в а н с к а я

Кашмар!
Яна падумала, што я сюды
Прыйшла спаткацца з вамі.

Р а б і н і н

Ну і што ж?
Мае адносіны да вас — не тайна.
А вы вось сталі забываць сяброў.

З в а н с к а я

Антон Міхайлавіч, не трэба, кіньце.
Якія мы сябры? На дзень? На два?

Р а б і н і н

Чаму? Вы ж на маіх вачах раслі.

Званская

Не на вачах, а на дзядзінцы вашым,
Дык вы і не заўважылі таму,
Што я іначай думаю, чым вы.

Рабінін

І калі ласка — думайце іначай.

Званская

А гэта можа нас і пасварыць.

Рабінін

Аксеня Паўлаўна, ніколі, не!
Вы ж ведаеце, што ў мяне ў душы
Да вас не толькі дружба...

Петрашэўская
*(уваходзячы).*
Пан Рабінін,
Пытаюць вас.

Рабінін

Прасіце.

Петрашэўская выходзіць.

Званская

Я пайду.

Рабінін

Дзе вы сягоння будзеце пазней?

Званская

У земстве на рабоце.

Рабінін

Я зайду.

Званская

Не, не!.. Ні ў якім разе! Не заходзьце!

Званская выбягае. З другіх дзвярэй пад канвоем Язэпа Макейчыка ў пакой уваходзіць Людміла Кучынская — дачка багатага крамніка, маладая, прыгожая, зусім

бесклапотная і бяздушная істота. Часамі яна здаецца наіўнай, але наіўнасць яе робленая.
Язэп Макейчык — стары чыгуначнік, разважлівы і трохі маўклівы чалавек, які многа перажыў за свае шэсцьдзесят год. Апрануты ён у характэрную для таго ваеннага часу вопратку рабочага, з чырвонагвардзейскай павязкай на рукаве.

Макейчык

Член гарадской міліцыі Макейчык.

Рабінін

У чым жа справа, брат Макейчык, а?

Макейчык

Ды я, сказаць, і не да вас ішоў...

Рабінін

Я камісар Часовага урада.

Макейчык

Урад урадам, а буржуй буржуем.
Рабочыя ад галадоўлі гінуць,
А гандляры збываюць хлеб без картак.

Рабінін

О, гэта, брат, злачынства! Чуеш, дзетка?

Людміла

Вось дык свабода! Я ўжо не магу
Прадаць, каму хачу, кавалак хлеба!

Макейчык

А што ён — твой? Ты сеяла яго?

Рабінін

Я разбяруся сам у гэтай справе.

Макейчык

Залішне доўгія разборы ў вас. *(Выходзіць.)*

Рабінін

Ты што ж, не ведаеш законаў, дзетка?

Людміла

А мне мой татусь загадаў прадаць.
Не будзе ж ён сваім уласным хлебам
Карміць бальшавікоў.

Рабінін

А гэта слушна!
Ты б не зайшла, малютка, да мяне?
Дом пані Вайніловіч знаеш?

Людміла

Знаю.

Рабінін

Вось і прыходзь. Дамовіліся?

Людміла

Добра.

Рабінін праводзіць Людмілу да дзвярэй. У гэты час у пакой заходзяць Віскаваты, Яноўскі, Лешчыц, Кацман. Хто ж гэтыя людзі? Рэвалюцыя вынесла іх на паверхню, як хваля выносіць шчэпкі. Яны розныя, але ў іх больш агульнага — гэта іх баязлівасць перад бурным морам жыцця. З асаблівай сілай яна праяўляецца ў характары Віскаватага — гэтага нікчэмнага фантазёра, які дванаццаць год быў «рэвалюцыянерам» і дванаццаць год дрыжаў перад кожным квартальным. Яму заўсёды «жудасна». Праўда, бываюць моманты, калі з баязлівасці ён становіцца лютым. Іншыя асобы гэтай кампаніі прыкрываюць сваю разумовую і маральную баязлівасць паразнаму. Малады чыноўнік транспарту Яноўскі — сваёй ганарлівасцю; пажылая і ўраўнаважаная баба Эстар Кацман — празмернай экзальтаванасцю; высокі і гарбаты ад усведамлення сваёй уласнай грамадскай вагі Вінцэнты Лешчыц — знарочыстаю грубасцю, якую ён падае як адзнаку сваёй «беларускай народнасці». Яны заходзяць у пакой развязна, як гаспадары становішча, але перад асобай раскошнага і спакойнага афіцэра Рабініна адразу тушуюцца. Першым баязліва і ліслівa пачынае Віскаваты.

Віскаваты

Э! вы, Антон Міхайлавіч, дзялок:
Заўсёды ля дзяўчат.

Рабінін

Прашу без жартаў!
Сядайце, калі ласка, грамадзяне.

Як камісар Часовага ўрада,
Я вас усіх паклікаў, грамадзяне,
Для вырашэння вельмі важнай справы.
Мы ўсе — прадстаўнікі ад розных партый.
Аднак жа ёсць у нас ва ўсіх адно,
Што нас яднае — гэта ёсць Расія.

Л е ш ч ы ц

Дазвольце! Беларускі камітэт
За аўтаномію для Беларусі.

Р а б і н і н

Я спадзяюся, нашы з вамі спрэчкі
Развяжа Устаноўчы сход. Расія,
Народ яе не могуць дапусціць,
Каб бацькаўшчына выбыла з вайны
Прыніжанай. Мы абаронім права
Радзімы нашай на пачэсны мір.
Вайна павінна весціся далей,
Да поўнай перамогі.

Я н о ў с к і

Мы — эсэры...

В і с к а в а т ы

Меншавікі таксама, дадавайце.

Я н о ў с к і

Вайну падтрымліваем з агаворкай:
Не для захопаў, а для абароны
Рэвалюцыйнае Расіі,— толькі.

В і с к а в а т ы

Таварышы, але ж вайна — знішчэнне?!

Р а б і н і н

Мыляецеся, мір нясе знішчэнне!
Мы скінулі цара не для таго,
Каб дабівацца для Расіі міру,
А для таго, каб лепей ваяваць.

Я н о ў с к і

Мы разумеем гэта вельмі добра...

Рабінін

А паміж тым ад Мінскага Савета,
Дзе ўсе вы маеце сваю вагу,
На фронт ідуць ідэі разлажэння.

Кацман

Бальшавікі!..

Віскаваты

Якая ганьба — жах!

Яноўскі

Сябры! Пара даўно пакончыць з гэтым!
Мы гаварылі...

Лешчыц

Пане дабрадзею,
Якая нам карысць з тваёй гаворкі!
Тут трэба дзейнічаць не словам, а...

Рэпліку Лешчыца абрывае крык за дзвярыма. У пакой урываецца пані Вайніловіч — узбуджаная і чорная ад страху. У гэты момант зліняла ўся яе штучная маладжавасць, і з-пад моднага капялюшыка выбіваюцца пасівелыя валасы.

Вайніловіч

Мяне аграбіць хочуць!.. Прапусціце!..
Антон Міхайлавіч!.. Ратуйце!.. Смерць!..

Віскаваты

Што здарылася, пані Вайніловіч?

Вайніловіч

Аграбіць хочуць... Мужыкі... Бандыты...

Рабінін

Вы супакойцеся і раскажыце.

Вайніловіч

Ледзь толькі выйшлі вы нядаўна з дому,
З'явіўся селянін і да мяне:
«Аддай зямлю. Аддай сама — інакш
Мы возьмем сілаю». Так і сказаў.

Віскаваты

Анархія! Далей так нельга жыць.
Патрэбна цвёрдая рука. Жахліва!

Вайніловіч

Абараніце ж бедную кабету.
Хіба я манархістка, каб мяне
Пужаць пагромам нейкім? Я, дарэчы,
Сама настроена дэмакратычна.
Скажыце, пане Лешчыц, я і Скірмунт
Не памагаем беларускай справе?

Лешчыц

Мы вам удзячны, пані Вайніловіч.

Рабінін

Ядвіга Карлаўна, я не кажу,
Ці добрай памагаеце вы справе,
Але мы абарону вам дадзім.
Анархію патрэбна супыніць,
І мы яе супынім,— будзьце пэўны!

Вайніловіч

На вас надзеі ўсіх грамадскіх колаў.
Даруйце мне... Бывайце!..

*(Паварочваецца да дзвярэй і натыкаецца на Мяснікова, які перад гэтым зайшоў у пакой.)*

Божа мой!
Мне паказалася, вы — бальшавік.

Мяснікоў

І вы не памыліліся. Праходзьце!

*(Прапускае Вайніловіч і зачыняе за ёю дзверы. У пакоі стаіць цішыня. Усе крыху збянтэжаны і засаромлены.)*

Ну, што ж вы так прыціхлі, «дэмакраты»!
Вы радуйцеся: вы абаранілі
Памешчыцу...

Яноўскі

Зямельнае пытанне
Не можа быць праведзена ў жыццё
Шляхамі сілы. Гвалт і грабяжы —
І небяспечны і найгоршы сродак
У галіне эканамічнай працы.

Мяснікоў

Пастой, не барабань!..

Кацман

Што «барабань»!
Каму ў карысць аграрныя эксцэсы?
Контррэвалюцыі, а не сялянству.

Віскаваты

А канфіскацыя зямлі павінна
Прайсці заканадаўчым, мірным шляхам.

Рабінін

Я ад імя кадэтаў заяўляю:
Зямлі бясплатна мы не можам даць.

Лешчыц

І правільна! Край беларускі — бедны.
Каб з нашых нетраў атрымаць багацце,
Патрэбны капіталы. Дзе іх браць?

Мяснікоў

Вы мне не заяўляйце. Заявіце
Прадстаўнікам саміх сялян аб гэтым.

*(Прачыняе дзверы і гукае.)*

Таварыш селянін, прашу, заходзьце.

Віскаваты

Навошта гэта? Што вы? Жах адзін!

Кацман

Вы хочаце наладзіць фарс ці драму?

Уваходзіць Цімчук.

Віскаваты

Пазней, таварышок, пазней!

Цімчук

Вясна,
Пара на поле з плугам выязджаць!
Наконт зямелькі да каго тут з вас?
Да вас, ці што?

Рабінін

Я па ваенных справах,—
На гэта ёсць губернскі камісар.

Цімчук

Хадзілі — не дае.

Рабінін

Звярніся ў земства.

Цімчук

Былі і там — адмовілі таксама.
Надзея ўся, таварышы, на вас.

Віскаваты

Барыс Міхайлавіч, пагаварыце...

Яноўскі

Чаму канечне я?

Віскаваты

Бо вы эсэр.
Зямельнае пытанне — ваша справа.

Яноўскі

Я думаю, выпадак гэты мае
Мясцовае значэнне, і няхай
Рашае Беларускі камітэт.
Скажыце, грамадзянін Лешчыц, слова.

Лешчыц

Магу сказаць. Я, дзядзька, так мяркую.
Не аб чужой зямлі нам трэба дбаць,
А трэба думаць аб сваёй краіне.

Збярэцца з часам Устаноўчы сход,
Дасць нашай нацыі яе правы,
Мы сыдземся на свой краёвы сойм
І вырашым тады усе пытанні.

Цімчук

А ты мне, брат-таварыш, дай зямлю,
Дык нацыю я ўстанаўлю і сам.
Скажыце мне, а Фрунзе тут няма?

Віскаваты

А ведаеш, што Фрунзе бальшавік?

Цімчук

Браточак мой, і Ленін бальшавік!

Рабінін

Тады з бальшавіком і гавары.
Прашу вас, грамадзянін Мяснікоў.

Мяснікоў

Зямлю патрэбна браць і засяваць.

Цімчук

Што, што? Ты як сказаў, таварышок?

Мяснікоў

Бяры, кажу, зямлю і засявай.

Цімчук

Ты, калі ласка, паўтары мацней,
Я нешта недачуў.

Мяснікоў

Я гавару:
Бярыце панскую зямлю і сейце.

Цімчук

Вось гэта правільна! Цяпер я чую.

Рабінін

За кожны самавольна ўзяты шнур
Вы будзеце адказваць па закону.

Цімчук

Ну, што ты скажаш! Як жа мне рабіць?
Засудзяць жа, каб іх судзіла ліха.

Мяснікоў

Па-добраму урад зямлі не дасць,
І за яе змагацца трэба сілай.

Кацман

Вы падбіваеце сялян на бунт.
Я вымушана заявіць пратэст
І пакідаю пасяджэнне.

Мяснікоў

З богам!

Яноўскі

Я далучаюся.

Лешчыц

І я таксама.

Усе трое ўстаюць і выходзяць.

Віскаваты

Таварышы, таварышы!.. Да згоды!..
Я заклікаю вас усіх да згоды.
Таварыш Мяснікоў, вы адштурхнулі
Ад рэвалюцыі такіх людзей,
Якія здольны ёй былі служыць.

Мяснікоў

Абыдземся!

Віскаваты

Без іх не абысціся,
Улада, што прыйшла на змену царскай,
На жаль, была і будзе буржуазнай.

Уваходзіць Азорыч.

Азорыч

А я сцвярджаю іншае: уладу
Павінны ўзяць Саветы дэпутатаў.

Мяснікоў

Тарас Іванавіч, з прыездам!

Азорыч

Дзякуй.
Аб чым у вас ізноў ідуць дэбаты?

Мяснікоў

Усё аб тым жа: аб зямлі і ўладзе.

Азорыч

На канферэнцыі таварыш Ленін
Падкрэсліў зноў: уладу ўсю — Саветам,
Зямлю — сялянству, фабрыкі — рабочым.

Мяснікоў

Ты слухаеш, стары? Зямля — сялянству!

Цімчук

А хто сказаў так, хто?

Мяснікоў
*(паказваючы на Азорыча).*

Таварыш кажа.

Цімчук

Эге ж, ён, можа, чалавек і добры,
Ды сіла не яго, начальства ёсць.

Азорыч

Не я так гавару, а Ленін.

Цімчук

Ленін?

Азорыч

Ты чуў пра Леніна?

Цімчук

Ты што — жартуеш?
А хто ж і дзе пра Леніна не чуў?

Азорыч

Дык Ленін, дзядзька, так сказаў: «Сяляне,
Стварайце ў вёсках вашы камітэты,
Бярыце у памешчыкаў зямлю
І засявайце».

Цімчук

Правільна сказаў.
А слова гэта запісалі дзе?

Азорыч

Пра гэта ўсё напісана вось тут.

*(Дае Цімчуку брашуру.)*

Цімчук

Цяпер мне ясна, ёсць закон і наш.
А ты мне, шэльма, што казаў нядаўна?!

*(Наступае на Віскаватага.)*

Віскаваты

Ты хочаш біць?

Цімчук

Не шкодзіла б ударыць,
Ды часу вось няма, на поле трэба.
Бывайце, хлопцы, дзякуй за параду.

*(Выходзіць.)*

Віскаваты

Ну што ж, выходзіць, нам не па дарозе.

Мяснікоў

Што ў Петраградзе?

Азорыч

Ленін даў наказ
Парваць з меншавікамі і стварыць
Арганізацыю бальшавікоў.

Мяснікоў

Шкада, што Фрунзе выехаў на фронт.

Азорыч

За старшыню ЦК цябе параіў,
І трэба дзейнічаць сягоння ж, зараз.

Мяснікоў

Мы можам склікаць фракцыю Савета,
Здаецца, нашы тут усе. Марына!

Уваходзіць Марына Варановіч. Маладая жанчына шмат, відаць, бачыла гора, але пры яе дваццаці гадах гэтага непрыкметна. І, не зважаючы на строгія рысы твару, якім гладкая прычоска на прабор надае нават адценне халаднаватасці, адчуваецца, што яна ўвасабленне парыву і маладосці.

Варановіч

А, дэлегат з'явіўся! Добры дзень.

Мяснікоў

Прасі таварышаў на пасяджэнне.
Азорыч нам раскажа падрабязна
Аб тым, якія даў наказы Ленін.

Мяснікоў, Азорыч і Марына накіроўваюцца ў пакой для пасяджэнняў. Віскаваты рушыў за імі ўслед. Азорыч заступае яму дарогу.

Азорыч

А ты куды?

Віскаваты

На пасяджэнне.

Азорыч

Хлусіш!
Ад гэтых дзён на нашы пасяджэнні
Меншавікам зачынен уваход.

## МАЛЮНАК ТРЭЦІ

Акопы адной з рускіх часцей Заходняга фронту. Узгоркаватая мясцовасць, парослая рэдкім лесам. Відаць, што яна не раз падвяргалася артылерыйскаму абстрэлу, аб чым сведчаць паваленыя дрэвы і разбураныя будынкі, якія віднеюцца ўдалечыні.
Спякотны летні дзень. Непадалёку аднаго з акопаў — група салдат, занятых сваёй няхітрай салдацкай гаспадаркай. Тут і чыста паголены, з зухавата закручанымі вусамі А л е с ь  М а к а р э в і ч, і стары, зарослы барадою Н і ч ы п а р  М е л е х, і малады, бязвусы М і к о л а  Л і п а в е ц — людзі самых розных узростаў, але адной салдацкай долі.

Л і п а в е ц

Несправядліва, хлопцы, свет устроен.
Ужо і лета хутка праміне,
А доля наша ўсё адна і тая ж...
Эх, маці дарагая, лепш бы ты
На свет мяне малога не радзіла!

М е л е х

Цяпер у нас, напэўна, дома жнуць...

Л і п а в е ц

Калі было на чым і што пасеяць.

М е л е х

Дай божа знешніх ворагаў разбіць,
Тады мы возьмемся за ўнутраных.

Л і п а в е ц

Што, за памешчыкаў?

М е л е х

А што ты думаў!

Ліпавец

А я сваім вяскоўцам так пішу:
«Дзяліце смела панскую зямлю
І не чакайце устаноўчых сходаў,
А мы тут зброі нашай не пакінем
І вернемся да вас на абарону».

Макарэвіч

Раней вайну закончыць трэба...

Ліпавец

Гляньце,
Яшчэ адзін ідзе. Каторы гэта?

Мелех

Ні то чацвёрты, ні то пяты...

Ліпавец

Песню!

Салдаты

*(спяваюць).*

Эх, пайду я, сіраціна,
З гора злога ў цёмны лес.

Уваходзіць Баравы.

Баравы

Здарова, землячкі! Здарова, хлопцы!

Салдаты

*(не зважаючы і яўна дэманстрацыйна спяваюць далей).*

Я пайду туды з вінтоўкай,
Тры бяды я там зраблю.

Баравы

Э, бачу, вам, сябры, не да гаворкі.
Ну што ж, тады і я дапамагу. *(Спявае.)*
Ах, як першую бяду —
Камандзіра адвяду.

Ліпавец

Даволі, стоп! Здаецца, хлопец свой,
Мы думалі, чарговы агітатар.

Баравы

Эх вы, сваіх не можаце пазнаць!
І ты не пазнаеш, Нічыпар Мелех?

Мелех

Чакай: Грыгоры Баравы, ці што?

Баравы

Ён самы, мілы мой!..

Мелех

Адкуль жа ты?

Баравы

Ад Керанскага, брат, з паведамленнем.

Галасы

Што, можа мір? Дахаты адпускаюць?

Баравы

Ого, чакай! Дахаты не пускаюць —
І ў Петраградзе жыць не дазваляюць.

Мелех

Як так?

Баравы

А так. Завезлі ў Петраград,
Там паглядзелі і — на фронт.

Мелех

За што?

Баравы

За што? Каб Леніна не смелі слухаць.

Л і п а в е ц

А што гаворыць Ленін?

Б а р а в ы

Эх, браток,
Калі б мая варыла галава,
Я расказаў бы, што гаворыць Ленін!
Адно запомніў цвёрда... Ён сказаў:
«Салдаты! Справа міру і зямлі
Знаходзіцца у вашых жа руках».

М е л е х

Пракляты немец не дае нам міру.

Б а р а в ы

Табе, відаць, вайна не надаела...

М е л е х

Маўчы, таварыш мой! Я так змарыўся,
Што лёг бы вось, здаецца, на зямлі,
Прырос бы да яе і не падняўся...
А трэба... Трэба бараніць свабоду!

Б а р а в ы

Ты думаеш, што гэта за свабоду
У наступленне гоняць?

М а к а р э в і ч

Не пагоняць,
Павер сацыялісту-дэмакрату.

Б а р а в ы

Партыйны?

Л і п а в е ц

Меншавік.

Б а р а в ы

Прапашчы хлопец.

Л і п а в е ц

Увага, хлопцы, Віскаваты... Песню!

Салдаты спяваюць. Уваходзіць В і с к а в а т ы.

Салдаты

Эх, пайду я, сіраціна,
З гора злога ў цёмны лес.
Я пайду туды з вінтоўкай,
Тры бяды я там зраблю.
Ах, я першую бяду —
Камандзіра адвяду.
А другую ўжо бяду —
Я вінтоўку навяду.
А як трэцюю бяду —
Проста ў сэрца пападу.
Ах, начальнік, ты начальнік,
Прападзі ад нас навек!

Віскаваты

*(на фоне салдацкай песні).*

Здаровы, малайцы!.. Што гэта значыць?
Я не дазволю розным прайдзісветам
З'яўляцца ў часць і бунтаваць салдат.

Ліпавец

Адставіць! Свой ідзе — Адась Валошын.

Песня абрываецца.

Віскаваты

Якая ж розніца?

Ліпавец

А тая, братка,
Што нам свайго прыемна і паслухаць.

Уваходзяць Варановіч і Валошын — фельдфебель тэхнічных войск, чалавек гадоў трыццаці; і хоць вайсковая вопратка сцірае знешнюю розніцу паміж людзьмі, у абліччы Валошына няцяжка заўважыць тыя рысы, якія характарызуюць кадравага кваліфікаванага рабочага.

Мелех

Здароў, салдацкі поп!

Валошын

Здаровы, людзі!

Ліпавец

Што, зноў служыць малебен будзеш?

Валошын

Служыць сягоння будзе пападдзя.

Ліпавец

Ого, не пападдзя, а пападзянка!

Валошын

Член Мінскага Савета Вcase.

Варановіч

Таварышы салдаты, я да вас
Прывезла рэзалюцыю Савета
Аб наступленні...

Ліпавец

Наступаць? Не выйдзе!

Варановіч

Якраз наадварот! Мы заяўляем,
Што наступленне можа быць карысным
Буржуазіі толькі, а не нам.

Макарэвіч

А ты сама з якога класа будзеш?

Варановіч

О, я з радні заможнай. Бацька мой
Валодаў тапаром і мазалямі.
І я была багатаю з маленства,
А з дзесяці гадоў пайшла вучыцца:
Спярша на фабрыку, пасля ў турму.
І невялікі шлях жыццёвы мой
Усыпаны з канца ў канец слязьмі.
Калі б ператварыць іх у алмазы,
Хапіла б высыпаць акопы вашы.

Мелех

Дачушка ты мая, такім багаццем

Багаты кожны з нас, залішне нават.
Не маем толькі аднаго мы — праўды.

Варановіч

І праўда ёсць! Прыслухайцеся толькі,
Што вам і нам усім гаворыць Ленін.
«Салдаты,— кажа ён,— цясней рады!
Яднайцеся з рабочымі, з сялянствам,
Тады народ здабудзе мір і волю».

Віскаваты

А ты параіш, як дабіцца міру,
Калі нямецкія буржуі супраць?

Варановіч

Таварыш Ленін раіць, як дабіцца:
Падаць руку нямецкаму салдату,
А ўжо салдат дамовіцца з салдатам.

Ліпавец

Дамовімся!

Мелех

Пайшлі да немцаў, хлопцы!

Баравы

Пайшлі, таварышы!

Валошын

Далоў вайну!

Варановіч

Няхай жыве братэрства ўсіх працоўных!

Зрывае з галавы чырвоную хусцінку і, як сцяг, падымае яе над галавой. Спяваючы «Інтэрнацыянал», салдаты рушылі да нямецкіх акопаў. Наперадзе іх Баравы нясе шчыт, на якім напісана: «Далоў вайну! Любой цаною мір!»

Віскаваты

Спыніцеся! Назад! Назад, вар'яты!
Чакайце ж, я вам зараз лазню дам.

Бярэ пакінутую вінтоўку, кладзе яе на бруствер акопа і цэліцца. У адказ на яго стрэл з нямецкага боку затрашчалі кулямёты. Рускія салдаты, прыгінаючыся і падаючы, бягуць назад да сваіх акопаў. Многія з іх паранены, у тым ліку і Марына Варановіч.
Салдаты дапамагаюць Валошыну вынесці Марыну з-пад агню.

Мелех

Вось вам і братанне, пагаварылі...

Прыбягае капітан Даўнарскі — малады служака, які яшчэ не паспеў нацешыцца сваім службовым становішчам. За ім з'яўляецца Віскаваты.

Даўнарскі

Што тут за стрэлы?

Макарэвіч

Немцы абстралялі.

Даўнарскі

Гарніст!

Ліпавец

Я слухаю.

Даўнарскі

А чын мой?! Чын!

Ліпавец

Пан капітан...

Даўнарскі

Глядзі мне, шэльма... Збор!

Гарніст іграе збор. Збіраюцца салдаты. З зямлянкі выходзяць Балуеў і Рабінін. Да іх падбягае Віскаваты.

Віскаваты

Дазвольце далажыць, пан генерал?
Настрой салдат надзвычай неспакойны.
Гавораць, што калі не будзе міру,
Яны пакінуць самавольна фронт.

Даўнарскі

Пан генерал, па вашаму загаду
Асобная пятнаццатая часць
Пастроена.

Балуеў

Здарова, малайцы!

Салдаты

Здароўя добрага, пан генерал!

Балуеў

Салдаты! Я звяртаюся да вас
Не як начальнік ваш, а як салдат.
Пакіньце строй, сядайце, дзе зручней,
І пагаворым шчыра, як сябры.
Мы дамагліся поўнае свабоды,
І нам яе патрэбна бараніць.
Вы, як салдаты, ведаеце, мусіць,
Што абарона ёсць і наступленне.
Як глядзіце на гэта вы, салдаты?

Макарэвіч

Мы за вайну, але ж і нам ахвота
Хоць паглядзець на светлае жыццё.

Рабінін

Няхай свабоду забірае немец?

Ліпавец

А мы не аддадзім.

Балуеў

А як жа будзе,
Як немцы пойдуць наступаць?

Ліпавец

Не пойдуць,
Пра гэта мы дамовімся як-небудзь.

Балуеў

Вы ж прабавалі. Хто ж па вас страляў?

Б а р а в ы

Такія ж афіцэры, як і вы...

Р а б і н і н

Што ты сказаў?!

Б а р а в ы

Не тыкайце.

Р а б і н і н

Маўчаць!

Б а л у е ў

Які ж апошні будзе ваш адказ?

Б а р а в ы

Дазволіце ў пісьмовай форме?

Б а л у е ў

Можна.

Баравы падымае шчыт з надпісам: «Далоў вайну! Любой цаною мір!»

Р а б і н і н

Ты з кім... ты з кім жартуеш, сукін сын!
З камандуючым фронтам так жартуеш?!
На катаргу! Страляць за гэта трэба!

Б а р а в ы

Няма каму страляць і высылаць:
Усе салдаты думаюць, як мы.

Б а л у е ў

Я сам... Я выканаю доўг салдата.
Пры братанні, пры адступленні з фронту
Страляць па непакорных з кулямётаў —
Такі апошні будзе мой загад.
Пакуль ён не падпісаны яшчэ,
Хапайце, утапчыце ў гразь, забіце...
Няхай мае не бачаць лепей вочы
Ні ганьбы, ні пагібелі Расіі.

*Балуеў расчулены адыходзіць убок і змахвае слязу. Салдаты некалькі разгублены.*

Мелех

Нядобра нейк выходзіць, землякі.

Макарэвіч

Перастраляюць нас, паб'юць усіх...

Мелех

Я думаю, што можна б так рашыць:
Калі суседзі згодзяцца — мы згодны.

Макарэвіч

І правільна, як людзі, так і мы.

Валошын

Ды гэта ж правакацыя! Ніхто,
Ніводзін полк у наступ не кранецца.

Макарэвіч

Тым лепш, тады і наша часць не пойдзе.

Балуеў

Апошні раз пытаю ваш адказ.

Мелех

Пан генерал, калі другія часці
Захочуць наступаць — мы падтрымаем.

Валошын

А вы ж кляліся Леніну, салдаты!
Што ж вы адкажаце рабочым Мінска?

Баравы

Пастой! Хто даў загад аб наступленні?

Балуеў

Загад падпісан Керанскім.

Баравы

І толькі?

М е л е х

А Ленін?

Р а б і н і н

Ленін нам не камандзір.

Б а р а в ы

А нам ён камандзір... і найвышэйшы!

В і с к а в а т ы

Таварышы, ды гэта ж ашуканства!

Б а р а в ы

А мы не ведаем. Такі наказ
Нам далі з Мінскага Савета. Праўда?

Г а л а с ы

Мы згодны! Правільна! Такі наказ.

Прыбягае с а л д а т і падае Даўнарскаму нейкую паперу. Той, прабегшы яе вачыма, перадае Балуеву.

Д а ў н а р с к і

Пан генерал, дэпеша з Петраграда.

Б а л у е ў

*(прачытаўшы тэлеграму і хрысцячыся).*

Малюся, госпадзі, табе душой,
Што злітаваўся над маёй радзімай.

*(Тон яго размовы адразу мяняецца.)*

Салдаты! З Петраграда тэлеграма.
З анархіяй пакончана. Учора
Узброеныя масы захапілі
Палац Кшасінскай — штаб бальшавікоў.
Паводле вестак, Ленін арыштован...

Б а р а в ы

Няпраўда!

Л і п а в е ц

Хлусіце!

Валошын

Шантаж!

Балуеў

Чытай!

*(Падае паперу Валошыну.)*

Валошын

*(прабегшы вачыма паперу, чытае).*

...Кіраўнікі і Ленін разам з імі
Прыцягнуты к адказнасці за здраду.

Баравы

Арыштавалі... Як жа мы адны!..
Таварышы!.. Сябры!..

Балуеў

*(паказваючы на Баравога).*

Канвой, узяць!

Мелех

Грыгорыя? Не, хлусіш! Не дадзім!

Балуеў

Забраць абодвух!

Балуеў, Рабінін і Віскаваты выходзяць.

Даўнарскі

Ну, бунтаўшчыкі,
Наперад арш!

Макарэвіч

Турэмшчыкі!

Ліпавец

Забойцы!

Канвой на чале з Даўнарскім выводзіць арыштаваных.

Макарэвіч

Якое ашуканства! Людзі! Братцы!..

З'яўляюцца Мяснікоў і Высокаў.

Валошын

Таварыш Мяснікоў, скажыце — праўда?

Мяснікоў

Пытаешся аб Петраградзе? Праўда.

Ліпавец

А Ленін?

Мяснікоў

Ленін у падполлі.

Валошын

Зноў

Навек навісла над Расіяй цемра.

Мяснікоў

Без роспачы. Таварыш з Петраграда
Запэўніў ад імя сваіх рабочых,
Што Леніна яны аберагуць.

Ліпавец

А дзе ён зараз?

Высокаў

З намі і між нас.

Валошын

Чаму ж Савет не стаў на абарону?
Што сталася?

Высокаў

Давайце разбярэмся.
Перад Расіяй дзве ляжаць дарогі:
Або працяг вайны і наступленне,
Або спыненне гэтай лютай бойні
І пераход улады да Саветаў.
Меншавікі, эсэры і кадэты
Не за народ, а супраць, і таму

І пачалі ў яго страляць. Ніколі
Так званыя «прадстаўнікі» народа
Не падалі так нізка, як цяпер,
І не даходзілі да большай ганьбы.
Прадажныя, не могуць зразумець,
Што чым яны грубей, найміты, брэшуць,
Тым больш мацнейшая любоў рабочых
Да дзейнасці свайго правадыра.
Ільіч — жывы. Ён з намі. Ён працуе.
Ён павядзе ізноў на барыкады.

Макарэвіч

Цяпер я іх пазнаў, меншавікоў...
Вось ён, ганебны іх білет. Іюды!

*(Раздзірае і кідае свой партыйны білет.)*

Прашу лічыць мяне бальшавіком.

Мяснікоў

Бальшавіком залічаць вас па справах.

Валошын

Што ж нам рабіць, таварыш Мяснікоў?

Мяснікоў

Цэнтральны Камітэт нам скажа — што.
Цясней гуртуйцеся вакол яго,
Вакол вялікай партыі бальшавікоў.

## МАЛЮНАК ЧАЦВЁРТЫ

Перон і першыя пуці Віленскага вакзала ў Мінску. Углыбіні — будынак вакзала, а ў левым крыле яго пакой дзяжурнага па станцыі. Вокны пакоя адчынены на перон. Калі дзяжурны па станцыі Яноўскі выглядае ў акно, яму відаць: справа — багажны склад, а злева — невялікая крама ■ шыльдай: «Хлебны гандаль Арыстарха Кучынскага». Каля крамы стаіць чарга па хлеб. Адпускае яго сама Людміла Кучынская.

На пероне маса народу: цывільныя, ваенныя, раненыя, бежанцы з чамаданамі, з клункамі, ■ кашолкамі, з дзецьмі. Сярод іх і Агата Міранок — сухарлявая жанчына гадоў пад сорак, змучаная і панурая. Да яе нібы і не даходзіць шум і гоман навакольнага жыцця. Адно, на што яна яшчэ рэагуе, гэта кожны рух яе невялікай дачкі Тані.

А Таня звяртае ўвагу на ўсё і на ўсіх: і на старога вартаўніка на вакзале дзядзьку Хораша, і на малых хлапчукоў, якія круцяцца каля хлебнай крамы, і на пажылога высокага Меера Гольмана, які прымасціўся непадалёку са сваім паходным газетным кіёскам, і, асабліва, на маладога салдата-гарманіста Міколу Ліпаўца, які майстэрскі іграе «казачка» і каля якога зухавата танцуе другі малады салдат. Калі ігра абрываецца, у шуме і гомане вылучаецца голас Меера Гольмана.

Гольман

Каму газет! Каму газет! Газет!..
Ёсць самая праўдзівая газета!
Ёсць бальшавіцкая «Звязда»!

Цімчук

А ну,
Дай самую праўдзівую «Звязду».
Тут пра зямлю не пішуць?

Гольман

Пачытай.

Цімчук

Я непісьменны.

Гольман

А нашто купляеш?

Цімчук

Раз пра зямлю, дык грамацея знойдзем.
Ды што ты мне даеш, дай штук пятнаццаць.

Гольман

Ого!

Цімчук

Няхай усё сяло чытае.
Ты, пры газетах седзячы, не чуў —
У Петраград праеду?

Гольман

А чаго?

Цімчук

Ты разумееш... Я вось раскажу.

*(Прымошчваецца каля Гольмана.)*

Мы, значыць, дабіваемся зямлі.
Туды, сюды хадзілі — не даюць.
Нарэшце трапілі да Мяснікова.
Ён, па загаду Леніна, і кажа:
Бяры, стары, зямлю і засявай.
Засеялі. Аж тут прыйшоў Карнілаў
І новы выдае загад — забраць!
У вас, гаворыць ён, цэнтр вайны.
Прыслалі войска і забралі... Чуеш?
Хіба ж гэта парадак? Паглядзі:
Стаяць, чакаюць, просяць людзі хлеба...
А хто ж яго наробіць? Дзе ж зямля?
Паеду скардзіцца.

Гольман

А да каго?

Цімчук

Да Леніна.

Гольман

Няма яго, таварыш,
І Леніну дарогу зачынілі.

Цімчук

Памочнік ёсць. Не можа быць, каб Ленін
Людзей пакінуў без распараджэння.
Пайду пытацца цягніка на Піцер.

Ідзе ў вакзал. На пероне з'яўляецца Валошын і накіроўваецца да Ліпаўца.

Гольман

Таварыш, ахвяруйце, калі ласка,
У фонд рабочае газеты. Дзякуй.

Ліпавец

Ну што, Валошын?

Валошын

Сустракаюць. Пойдзем.

Гольман

Каму газет! Каму газет, газет!
Ёсць самая праўдзівая газета!

Валошын і Ліпавец праходзяць каля хлебнай крамы.

Ліпавец
*(ківаючы на Людмілу).*

Глядзі, якая краля за акном!

Валошын
Ох ты! Не дзеўка, а партрэт у рамках.

Людміла
Не вамі пісаны — не вам глядзець!

Да франтавікоў падыходзяць Міранок і Таня.

Міранок
Салдацікі, у вас не будзе хлеба?
Дапамажыце бежанцам няшчасным.

Валошын
Ты маеш хлеб, Мікола?

Л і п а в е ц

Сухары.

Т а н я

Я сухары люблю, яны хрумсцяць...

В а л о ш ы н

Эх ты, гаротніца! Хрумсцяць, гаворыш?

Т а н я

Хрумсцяць і смачныя...

Л і п а в е ц

Бяры, хрумсці.

Дае Міранок і Тані сухары. Заўважыўшы гэта, да Ліпаўца кідаюцца людзі з чаргі — жанчыны і дзеці.

Г а л а с ы

Дай, дзядзечка, сухар. І мне!.. І мне!..

В а л о ш ы н

Ох ты, як згаладалі людзі,— страх!

Л і п а в е ц

Усё, таварышы, не маю больш.

Людзі ізноў становяцца ў чаргу. Ліпавец завязвае пусты ранец. Падыходзяць П е т р а ш э ў с к а я і В а р а н о в і ч.

В а л о ш ы н

Таварыш Варановіч, добры дзень!

В а р а н о в і ч

На канферэнцыю?

В а л о ш ы н

Ага.

В а р а н о в і ч

Пайшлі.

В а л о ш ы н

Знаёмцеся — таварыш Ліпавец.

Варановіч

Я помню вас... Але ж вы беспартыйны?

Ліпавец

Калісьці быў, а зараз бальшавік.

З вакзала выходзіць Азорыч.

Петрашэўская

Вось і Тарас Іванавіч ідзе.

Валошын

Азорыч! Прывітанне, братка, з фронту!

Азорыч

Здароў. З вінтоўкамі?

Валошын

А што?

Азорыч

Вайна.
Паведамляюць з Гомеля, што Стаўка
Задумала зрабіць пераварот.
Ідзіце ўсе ў партыйны камітэт.
Таварыш Мяснікоў і Фрунзе там.
Ты, Петрашэўская, бяжы ў дэпо,
Бярыце там з Макейчыкам рабочых
І зараз жа з'яўляйцеся сюды.

Петрашэўская, Валошын, Ліпавец і Варановіч шпарка выходзяць. Азорыч падыходзіць да Хораша.

Азорыч

Таварыш Хораш!

Хораш

Слухаю.

Азорыч

Сачыце
За адпраўленнем эшалонаў з Мінска
І зараз жа паведамляйце.

Хораш

Добра.

Азорыч накіроўваецца ў вакзал і твар у твар сустракаецца з Аксеняй Званскай. Хвіліна замяшання. Азорыч першы перамагае яго і рашуча ідзе ў вакзал.

Званская

Тарас Іванавіч! Адну хвіліну...

Азорыч

Я слухаю.

Званская

У вас якое гора?

Азорыч

Дык вы паможаце?

Званская

А што ж, магчыма.

Азорыч

Вам гора нашага не зразумець.

Званская

Калі я страціла давер'е ваша?

Азорыч

Аксеня Паўлаўна, скажыце шчыра:
Вы што, не разумееце падзей?
Над рэвалюцыяй пагроза смерці.

Званская

А калі гэта вам здаецца толькі?

Азорыч

А ліпеньскі расстрэл?! А турмы Мінска?!
А новая кадэцкая пагроза?!

Званская

Дык гэта праўда?

Азорыч

Людзі так гавораць.

Званская

І гэта небяспечна?

Азорыч

Можа быць.

Званская

Тарас...

Азорыч

Мне вельмі некалі. Даруйце. *(Выходзіць.)*

Званская

Няўжо ж я страчу назаўсёды шчасце?
Не, трэба нешта зараз жа рабіць.

Ідзе ў вакзал. На пероне з'яўляецца Рабінін.

Рабінін

Людміла Арыстархаўна!

Людміла

Ага!

Рабінін

Прашу вас на хвілінку выйсці.

Людміла

Зараз.

Людміла выходзіць з крамы на перон.

Рабінін

Зусім сакрэтна. Зараз прыбывае
Цягнік надзвычай важнага значэння.
Каб не звярнулі на яго увагі,
Вы нарабіце каля крамы шуму.
Спыніце гандаль, распусціце чуткі...
Вы зразумелі, дзетка?

Людміла

Зразумела.

Людміла вяртаецца ў краму, а Рабінін ідзе ў пакой дзяжурнага.

Яноўскі

*(праз акно дзяжурнага пакоя).*

Давай, стары, званок, цягнік прыходзіць.

Хораш дае званок. Натоўп замітусіўся. Людзі ад чаргі каля хлебнай крамы кінуліся да Хораша.

Міранок

Куды цягнік — не ведаеце, дзядзька?

Хораш

Нікуды не ідзе, а прыбывае.

Міранок

А божа ж мой, а там жа хлеб даюць.

Міранок, а за ёю і другія кінуліся назад, да хлебнай крамы.

Цімчук

На Петраград не скора пойдзе?

Хораш

Куды табе на Петраград! Чакай!

Цімчук

А цягнікі аднак жа ходзяць.

Хораш

Ходзяць!
Ды ездзяць, браце, не табе раўня.
Камандуючы фронтам прыбывае.

Цімчук

А мне канечне трэба ў Петраград.
Ты разумееш... Я вось раскажу.
*(Прымошчваецца каля Хораша.)*
Мы, значыць, дабіваемся зямлі...

Людміла

Эй, публіка, не стойце! Хлеб увесь,
І крама зачыняецца.

Міранок

Што, што?
Ты чуеш, Таня?

Таня

Цётачка, галубка,
Ну, дайце хоць вось столечкі, хоць скрылік!

Людміла зачыняе краму і неўзабаве з'яўляецца на пероне.

Галасы

Што ж гэта робіцца? Ды хлеб жа ёсць!
Чаго ж мы тут стаялі цэлы дзень?!

Людміла

А мне якая справа? Хочаш есці —
Ідзі ў Саветы, там цябе накормяць.

Галасы

Ах ты, паскудніца! Ламіце краму!

На перон выходзяць Рабінін, Даўнарскі і некалькі салдат.

Рабінін

Што тут за крык? Ачысціце перон!

Даўнарскі

А ну, давайце вон, давайце вон!

Салдаты адціскаюць публіку ў вакзал. На пероне выстрайваецца каравул. Чуваць, як набліжаецца цягнік. Праз момант у акружэнні світы з'яўляецца генерал Балуеў.

Рабінін

Дзень добры, генерал.

Балуеў

Вітаю вас.

Рабінін

Што новага, пан генерал, у Стаўцы?

Б а л у е ў

Ужо сягоння першыя палкі
Накіраваліся на Петраград.
Карнілаў загадаў нам забяспечыць
Свабодны пропуск войск, і перш за ўсё
Накіраваць казачы эшалон,
Які цяпер стаіць у нас у Мінску.
Якая ваша думка?

Р а б і н і н

Генерал,
Пакуль у нас не з'явіцца дыктатар,
Датуль парадку цвёрдага не будзе.
Бальшавікі акрэпнуць, зваляць нас,
І на чале Расіі стане Ленін.

Б а л у е ў

Карнілаў — выскачка! А Ленін... Ленін —
Незразумелы, страшны і... вялікі!
З такім змагацца вельмі небяспечна.

Р а б і н і н

Вы проста бальшавік.

Б а л у е ў

Я манархіст.
І я, напрыклад, так бы вам параіў.
Казачы эшалон адправіць сёння ж,
Як небяспечны быццам бы для Мінска;
Узяць пад арышт Фрунзе, Мяснікова
І неадкладна зачыніць «Звязду».

Р а б і н і н

Я разумею так вас, генерал...

Б а л у е ў

Я не палітык, я салдат, Рабінін.
Вы ж камісар Часовага урада,
Вы і падумайце, як гэта ўсё зрабіць.
Вось вам загад Карнілава. Бывайце. *(Выходзіць.)*

Рабінін

Ох, і ліса! Адказнасці баіцца.
*(Падыходзіць да акна дзяжурнага пакоя).*
Дзяжурны!

Яноўскі

Я.

Рабінін

Казачы эшалон
Адправіць зараз жа на Петраград.

Яноўскі

Гатовы? Можна.

Рабінін

Зараз падрыхтуем. *(Выходзіць.)*

Яноўскі

Давай званок аб адпраўленні, Хораш.

На пероне з'яўляецца Цімчук.

Цімчук

Скажы, цягнік на Петраград, ці што?

Хораш

Не ведаю. Каго ж бы тут паслаць?
Паслухай, чалавек! Ты ведаеш Савет?

Цімчук

Каля вакзала? Быў.

Хораш

Бяжы туды,
Скажы, што адпраўляюць эшалон.

Цімчук

А можа ён на Петраград, цягнік?

Хораш

Бяжы ты, пасажыр няшчасны! Чуеш?

Цімчук

А ты не лайся. Трэба — пабягу.

Хораш

Дык і бяжы, бяжы!..

Цімчук

Ну і пабег.

Выбягае. Хораш дае званок. З вакзала высыпаюць пасажыры.

Галасы

Куды цягнік, не ведаеце? — Не.
Эй, вартаўнік, куды цягнік ідзе?
Які цягнік? Ніякіх цягнікоў.
Ох, божа, зноў дарэмная трывога.

На пероне з'яўляюцца Мяснікоў, Азорыч, Цімчук і іншыя. Мяснікоў падыходзіць да акна дзяжурнага.

Мяснікоў

Дзяжурны!

Яноўскі

Я.

Мяснікоў

Без ведама Савета
Ні аднаго ваеннага саставу
Не адпраўляць.

Яноўскі

А вы нам не закон,
Мы падчыняемся загадам Стаўкі.

Мяснікоў

А Стаўка, ведаеш, куды вядзе?
*(Звяртаючыся да людзей.)*
Таварышы рабочыя, салдаты!
Крывавы царскі генерал Карнілаў
Падняў мяцеж і рушыць эшалоны
На сэрца рэвалюцыі, на Піцер.

Ён хоча гвалтам задушыць Саветы
І навязаць народу дыктатуру.
Мы пакляліся ленінскаю клятвай,
Што гэтага не будзе. Не прапусцім
Ні аднаго мяцежнага саставу!

Галасы

Далоў Карнілава! Няхай жыве
Вялікі правадыр таварыш Ленін!

Мяснікоў

Для абароны заваёў народа
Савет рабочых утварыў у Мінску
Рэвалюцыйны штаб. Начальнік штаба —
Таварыш Фрунзе. Па яго загаду
Звяртаюся да вас і патрабую
Ўзяць пад кантроль чыгунку і вакзалы.
Упаўнаважаным Азорыч будзе.

З натоўпу паяўляецца Азорыч.

Азорыч

Таварышы! За мною, на пуці!

У адным парыве рабочыя і салдаты, мужчыны і жанчыны рушылі на пуці. Убягаюць Віскаваты і Яноўскі.

Віскаваты

Вы чулі, што Карнілаў робіць? Жах!

Яноўскі

Контррэвалюцыя, мяцеж сапраўдны...

Мяснікоў

Вы толькі зараз гэта зразумелі? *(Выходзіць.)*

Віскаваты

Што ж нам рабіць, Яноўскі, што рабіць?

Яноўскі

Я думаю, пратэставаць патрэбна.
Сказаць Карнілаву нарэшце ўголас,
Што гэта не дэмакратычна так.

Ідуць у пакой дзяжурнага. На пероне застаецца каля сваіх убогіх пажыткаў адзінокая бежанка М і р а н о к і яе дачка Т а н я.

Т а н я

Мамуся, а Карнілаў — праўда, страшны?

М і р а н о к

Карнілаў, дзетка, гэта голад, смерць...

Т а н я

А што, мамуся, лепей — смерць ці голад?

М і р а н о к

Я думаю, дачушка, смерць...

Т а н я

І праўда,
Памрэш, тады і есці не захочаш.

Да дзяжурнага пакоя падыходзіць Р а б і н і н.

Р а б і н і н

Дзяжурны, можна адпраўляць, гатова.

Я н о ў с к і

Цягнік? Цяпер я не магу адправіць.

Р а б і н і н

Загадваю адправіць неадкладна.

Я н о ў с к і

Куды? Мяцежніку? На Петраград?

Р а б і н і н

Не ваша справа. Гэта наша тайна.

Я н о ў с к і

Я без дазволу Мінскага Савета
Адправіць не магу.

Р а б і н і н

Я вас прымушу.
Давайце зараз жа свабодны пуць,
Іначай я застрэлю вас на месцы!
*(Вымае рэвальвер.)*

Яноўскі

Антон Міхайлавіч, прыміце зброю.
Пуць падрыхтаваны...

Рабінін

*(Хорашу).*

Давай званок.

Хораш

Званка не дам.

Рабінін

Давай, стары, званок!

Хораш

Званок?.. Даю. Таварышы! Сюды!..
Трывога!.. Адпраўляюць эша-ло-ны!
*(З вялікай сілай б'е ў звон.)*

Рабінін

*(збіваючы Хораша з ног).*

На! Вось табе званок! Давай, Даўнарскі!

Чуваць шыпенне паравоза. З вакзала прыбягае Званская.

Званская

Антон Міхайлавіч! Не трэба, што вы?!
Вы гэтага не зробіце.

Рабінін

Зраблю.

Званская

Задушыце свабоду?

Рабінін

Задушу!

Званская

Душыце і мяне. *(Становіцца на рэйкі.)*

Рабінін

Вар'ятка вы!

Адштурхоўвае Званскую на перон. Убягаюць Азорыч, Макейчык, рабочыя і салдаты.

Азорыч

Макейчык, зброю!

Макейчык

Хораш, дай ключы.

*(Бярэ ключы, адмыкае багажны склад і раздае рабочым зброю.)*

Азорыч

Рабінін, зараз жа спыні цягнік!

Рабінін

Мне дадзены загад маім урадам.

Цімчук

Карнілаў твой урад, каб ты хварэў?
А ну-тка дайце мне вінтоўку, хлопцы!
Я пакажу яму ціятр вайны.

*(Бяжыць к складу.)*

Азорыч

Таварышы з вінтоўкамі, на пуць!

Узброеныя лажацца ўздоўж пуці.

Рабінін

А покуль ты, дык я... *(Цэліцца ў Азорыча.)*

Званская

Тарас!.. Тарас!..

Становіцца паміж Азорычам і Рабініным. Азорыч адхіляе яе і выбівае з рук Рабініна рэвальвер. Валошын і Ліпавец хапаюць Рабініна пад рукі.

Валошын

А ну, пайшлі, таварыш камісар!

Рабініна выводзяць. З боку паравоза паказваецца з салдатамі Даўнарскі.

Д а ў н а р с к і

Эй, вы! Ачысьце зараз жа пуці!
Даю вам тэрміну адну хвіліну.

А з о р ы ч

Макейчык, Гольман! Разбірайце рэйкі.
Давайце шпалы на пуці, каменне...

Рабочыя, салдаты, жанчыны, дзеці — усе кінуліся на рэйкі, цягнуць шпалы, нясуць каменне.

Д а ў н а р с к і

Хвіліна скончана. Вяду цягнік.

Цяжка грукаючы па рэйках, цягнік рушыцца і злавесна набліжаецца. Тулячыся да зямлі, людзі папаўзлі з рэек на абочыны.
М і р а н о к распіхвае натоўп і выходзіць з Т а н я й на пуць.

М і р а н о к

Пусціце! Кленч, дачушка, кленч. Не бойся.
Глядзі на ўсход. Адтуль ідзе святло.
Памерці за яго не страшна. Кленч.

Становяцца на рэйках на калені. Усе змярцвелі. Цягнік набліжаецца. Азорыч выхоплівае рэвальвер і страляе ў машыніста. Макейчык ускаквае на паравоз і выключае рэгулятар. Цягнік спыняецца.

МАЛЮНАК ПЯТЫ

Памяшканне гэта калісьці было школай. Цяпер тут турма. Злева па калідоры камера № 6, насупраць яе — дзверы ў другі пакой. На вокнах камеры — краты. Ва ўсім іншым гэты пакой не падобны на турэмны. Лёгка здагадацца, што раней тут быў школьны клас, адзнакі чаго засталіся і цяпер: на адной сцяне, напрыклад, вісіць геаграфічная карта, а поруч з ёю — класная дошка. Але трэба сказаць, што пакой даволі цесны. Вялікую частку яго займаюць нары, змайстраваныя на школьных лаўках. На нарах небагаты адзетак арыштаваных, у пераважнай большасці салдацкія шынялі. У правай сцяне, якраз насупраць нараў, дзверы ў калідор. Куток каля дзвярэй займае шафа, на якой стаяць розныя лепленыя фігуры. У камеры Баравы, Ліпавец, Мелех і яшчэ некалькі арыштаваных.

Баравы

Вучыцца, Ліпавец, усюды трэба.
Таварыш Ленін і ў турме вучыўся.
Ты кажаш, што цябе за хлеб забралі.
А хлеб — палітыка. Вось паглядзі.

*(Баравы пачынае круціць глобус.)*

Кручу я гэта падабенства свету
І думаю: разумная мадэль,
Праўдзіва нам паказвае жыццё.
Вось Петраград, а тут вось недзе Быхаў.
Тут Керанскі, а ў Быхаве Карнілаў.
Адлегласць паміж імі — два вяршкі.
Цяпер я гавару: крутні, салдат!

Ліпавец круціць.

Зямелька пакруцілася і стала.
А Керанскі як быў, так і застаўся
З Карнілавым на той жа паралелі.
Вось ты мне і рашы, хлапец, задачу:
Што трэба для таго, каб адлучыць
Карнілава ад Керанскага. Ну?

Л і п а в е ц

Я гэтакай задачы не рашу.

Б а р а в ы

Для авалодання такой навукай
Урад цябе і пасадзіў у школу.
А каб не давучыўшыся не збег,—
На вокны краты і замкі на дзверы.
Вучыся, дурань, покуль не пазнаеш,
Як адлучыць турэмшчыка ад ката.

М е л е х

А сам рашыш ты?

Б а р а в ы

Вельмі проста.
Карнілава ўгару, на полюс,
А Керанскага ўніз спусціць, на тропік,
Адлегласць пераменіцца адразу.

*(Ставіць глобус на шафу.)*

У калідоры з'яўляецца М а к а р э в і ч і, адамкнуўшы дзверы, заходзіць у камеру.

М а к а р э в і ч

Вас колькі тут?

М е л е х

Семнаццаць чалавек.

М а к а р э в і ч

Не бачу.

М е л е х

Частка недзе на рабоце.

Б а р а в ы

А, Макарэвіч! Ты дзяжурны сёння?
Мне, братка, трэба ў горад.

М а к а р э в і ч

Не магу.
Ты кожны дзень і так у горад ходзіш.

Б а р а в ы

Я ж не абы хадзіць. Я справы маю.

Л і п а в е ц

Яго нявеста, плачучы, чакае.
Сягоння шлюб якраз. Што ж ёй рабіць?
З другім вянчацца?

М а к а р э в і ч

Я ўжо адпусціў
Такіх, як ён, дванаццаць жаніхоў.

Б а р а в ы

Зазнаўся, землячок!

М а к а р э в і ч

*(ціха).*

Ты што, сур'ёзна?
У вас няма паўкамеры людзей.

Б а р а в ы

Ну, добра, змірымся. Дык што ты хочаш?

М а к а р э в і ч

Хачу дабавіць чалавека.

М е л е х

Цесна.

Б а р а в ы

Вясёлы хлопец?

М а к а р э в і ч

Дзядзька ніштаваты.

Б а р а в ы

Давай.

М а к а р э в і ч

*(у калідор).*

Эй, вартавы, вядзі сюды!

Вартавы прыводзіць у камеру Цімчука.

Ну вось і новы вам жыхар, не крыўдзьце.

*(Выходзіць.)*

Цімчук

Дзень добры вам у хату!

Мелех

Добры дзень!

Баравы

О! Як жа ты сюды патрапіў, дзядзька?

Цімчук

Відаць, адной дарогаю з табой.
Ад торбы і турмы не заракайся.
Пры Мікалаю не паспеў пабыць,
А вось пры Керанскім і даслужыўся.

Баравы

Цікава, як ты трапіў да ваенных?

Цімчук

Мы ўсе цяпер ваенныя, саколе.
Тут можна, братка, торбу палажыць?

Мелех

*(з асалодаю ўдыхаючы пах хлеба ў торбе).*

Кладзі... Ды выбірай сабе мясціну.

Цімчук

Чаго ты нюхаеш? Прапахла, можа?

Мелех

Ды не, наадварот: цудоўны пах!

Цімчук

Чакай, а кормяць вас тут як? Нішто?

Баравы

Ды так, абы трымаўся дух у целе.

Цімчук

Дык што ж вы маўчыце?! А ножык ёсць?

Ліпавец

Што-што, а ножык знойдзецца.

Цімчук

Давай.

Ліпавец дастае захаваны пад нарамі ножык.

Сядайце, падсілкуйцеся крыху.

*(Дастае з торбы хлеб і сала і частуе салдат.)*

А я такі падбіўся у дарозе.
Вёрст трыццаць гналі, падлы, пехатою.
А перад гэтым быў у бітве.

Ліпавец

З кім?

Цімчук

Ты разумееш... Я вось раскажу.
Мы, значыць, дабіваліся зямлі.
Ну, па загаду Леніна прыдбалі,
Засеялі. Аж тут прыйшоў Карнілаў
І новы выдае загад — забраць.
Прыслалі войска і забралі... Чуеш?
Я, доўга не чакаючы, за торбу
І ў Мінск, каб ехаць проста ў Петраград.
А ў Мінску б'юць Карнілава якраз,
Вінтоўкі раздаюць каля вакзала.
Я за вінтоўку... Трэба ж ратавацца!
Узяў і думаю: а што далей?
А тут якраз ідзе таварыш Фрунзе.
У Петраград, гаворыць, марна ехаць:
Калі ваш камітэт зямлі не возьме,
Дык Керанскі яе не дасць ніколі.
Я бачу, чалавек гаворыць праўду.
Што ж тут гадаць? Я торбу на плячо,
Вінтоўку пад бравэрку і — дахаты.

Баравы

З вінтоўкаю?

Цімчук

А як жа, брат, іначай?
Прыходжу да сваіх і гавару:
Бярыце стрэльбы і паедзем жаць.
Паехалі. А тут на нас казакі.
Яны за стрэльбы — мы за стрэльбы... Чуеш?
Пачаўся бой. Вядома, сіла іх,
Нас разагналі. А назаўтра рана
Мяне паднялі з ложка і сюды.

Ліпавец

Відаць, вы слаба біліся.

Цімчук

Чаму!
Карнілава такі перамаглі.

У калідоры з'яўляецца Варановіч з павязкай «Чырвонага крыжа» на рукаве.

Варановіч

Дзяжурны!

Макарэвіч

*(выходзячы з канцылярыі.)*

Слухаю.

Варановіч

Чырвоны крыж.

Макарэвіч

Прашу, прашу, таварыш Варановіч.

*(Упускае Варановіч у камеру.)*

Баравы

Адна?

Варановіч

Адна.

Баравы

А ты ж нам абяцала,
Што і таварыш Фрунзе будзе сёння.

Варановіч

Таварыш Фрунзе выехаў ад нас.
ЦК паслаў яго ў другую вобласць.
Ён наказаў вам кланяцца, вітаць
І перадаць, што блізіцца пара
Вялікай барацьбы. Патрэбна будзе
На заклік партыі падняцца ўсім.
Ажыццявім яго наказ?

Ліпавец

Ажыццявім.

Варановіч

А гэтая пара ўжо недалёка.
Народ рашуча заявіў: даволі!
Далоў вайну! Далоў капіталістаў!
Прэч Керанскага і яго урад!

Мелех

Ох ты, дачушка, што ж ты так і паліш?
Ты нам скажы намёкамі. Напрыклад...
Як, Баравы, завецца гэта штука,
Што ты круціў тут перад намі?

Баравы

Глобус.

Мелех

Ты нам, напрыклад, так і гавары:
Далоў, таварышы, пракляты глобус!
А мы ўжо самі будзем разумець,
Што да чаго.

В а р а н о в і ч

*(смяецца).*

Ну, добра, дзядзька Мелех.
Дык вось, таварышы, стаіць задача,
Каб скавырнуць пракляты гэты...

М е л е х

Глобус.

В а р а н о в і ч

Зноў у парадак дня пастаўлен лозунг:
«Улада ўся Саветам!» Трэба помніць,
Што зараз гэта — заклік да паўстання.
У вас... спакойна тут?

Б а р а в ы

Было спакойна.

В а р а н о в і ч

Да нас пагутарыць аб тым аб сім
Прыехаў прадстаўнік ад Петраграда.
Я зараз прывяду яго сюды. *(Выходзіць).*

Б а р а в ы

Вы чулі? Прадстаўнік ад Петраграда!
Не, не забыўся Петраград пра нас.

М е л е х

Напэўна, гэта Ленін нас успомніў.

В а р а н о в і ч

*(у калідоры).*

Дзяжурны!

М а к а р э в і ч

*(выходзячы з канцылярыі).*

Зараз.

В а р а н о в і ч

Трэба прапусціць
Прадстаўніка ад Петраграда.

Макарэвіч

Не магу,
Начальнік тут.

Варановіч

Ёсць афіцыйны пропуск.

Макарэвіч

А, справа іншая. Я далажу.
Пан капітан, тут просяць прапусціць...

Даўнарскі
*(выходзячы з канцылярыі).*

Ізноў? Ніякіх пропускаў! Даволі!

Варановіч

На гэта ёсць дазвол ад каменданта.
*(Падае паперу).*

Даўнарскі
*(праглядзеўшы паперу).*

Ідзіце, Макарэвіч, правядзіце іх.

Макарэвіч выходзіць.

Прытулак для сірот, а не турма:
Чырвоны крыж, пасылкі, школы, глупствы...

Варановіч

А вы б хацелі так, як пры цары?

Даўнарскі

Не горш было й пры Керанскім нядаўна.

З'яўляецца Макарэвіч, а за ім Азорыч і Высокаў.

Варановіч

Прашу, таварышы, у шосты нумар,
Тут пераважна ўсё франтавікі.

Даўнарскі

Франтавікі... Злачынцы! Дэзерціры!
Ім не пасылак бы, а добрых розаг.

А з о р ы ч

Не ваша справа.

Д а ў н а р с к і

Гэта і бяда.
А я парадачкі б навёў!.. Ідзіце.

А з о р ы ч, В ы с о к а ў, В а р а н о в і ч і М а к а р э в і ч заходзяць у камеру. Даўнарскі прынік да дзвярэй і прыслухаўся.

В ы с о к а ў

Дзень добры.

Г а л а с ы

Добры дзень.

Б а р а в ы

Высокаў!

В ы с о к а ў

Грыша!

А з о р ы ч

Вось і свае знаёмыя знайшліся.

В ы с о к а ў

За што ж цябе?

Б а р а в ы

За што?

М е л е х

За гэту штуку.

*(Паказвае на глобус.)*

Арыштаваныя смяюцца.

В ы с о к а ў

Не разумею, хлопчыкі.

В а р а н о в і ч

За глобус.

Л і п а в е ц

Ды гэта ж Керанскі! Не зразумелі?

І зноў усе смяюцца.

В ы с о к а ў

Вы гэта добра выдумалі — глобус!
А я да вас. Рабочы Петраград
Шле прывітанне і гасцінец вам.
Гасцінец невялікі, выбачайце,
А прывітанне шчырае. Прыміце.
Хто тут у вас старэйшы?

М е л е х

Баравы.

В ы с о к а ў

Вазьмі, Грыгоры, ды раздай хлапцам.

*(Перадае пасылкі.)*

Б а р а в ы

Мы шчыра дзякуем, ад сэрца шчыра...

В ы с о к а ў

*(дастаючы з кішэні пісьмо).*

А гэта вось маленькая пасылка...
Ад Леніна...

Б а р а в ы

Таварышы!..

В ы с о к а ў

Чакай.

Усе бальшавікі?

Ц і м ч у к

*(аглядаючыся і нясмела).*

Бальшавікі...
Ты што так на мяне глядзіш?

Мелех

А ты?

Я, праўда, без білета...

Цімчук

Дык і я ж!..

Але я сэрцам ей жа ей партыйны.

Баравы

Спакойным можаш быць, Ігнат Кузьміч,
Усе свае.

Высокаў

Свае яно свае,
Аднак жа тут чытаць пісьмо нязручна.

Азорыч

Ігнат Кузьміч раскажа змест пісьма.

Высокаў

Таварыш Ленін піша так, сябры:
«Бальшавікі павінны ўзяць уладу».
А як узяць — Ільіч гаворыць: мірна
Улады нельга ўжо цяпер узяць.
Выходзіць, трэба рыхтавацца к бою.
Дык вось я і хацеў ад вас дазнацца,
Як вы рыхтуецеся?

Ліпавец

Мы гатовы.

Цімчук

Вінтоўку адабралі, ліха ім,
А з качаргой на пана не палезеш.

Азорыч

Вінтоўка, дзядзька, справа нажытная.
А як у вас з ваеннай падрыхтоўкай?

Варановіч

Расказвай, Баравы.

Высокаў

І падрабязна.

Баравы

Нас у турме, бадай-што, цэлы полк.
Мы выбралі надзейных камандзіраў,
Разбілі ўсіх па ротах і па ўзводах,
Вядзем заняткі з імі.

Высокаў

Гэта добра.
Нам трэба быць гатовым кожны момант.

Азорыч

Дазвольце мне ад вашага імя
Запэўніць тут рабочы Петраград,
Што мы яго заўсёды падтрымаем.

Ліпавец

Абавязкова.

Высокаў

Дзякую. Бывайце.

Цімчук

Шчасліва.

Мелех

Дзякуем за падарункі.

Усе, апрача арыштаваных, выходзяць у калідор. Даўнарскі адскаквае ад дзвярэй камеры і заступае Высокаву дарогу.

Даўнарскі

Хвілінку, грамадзяне. Я павінен
Пры выхадзе з турмы праверыць вас.

Высокаў

Мяне?

Азорыч

А хто вам даў на гэта права?

Д а ў н а р с к і

Камандуючы фронтам загадаў.
Сюды прыносяць шкодныя лістоўкі,
Выносяць пісьмы розныя, адозвы...
Эй, Макарэвіч, абшукаць яго!

В а р а н о в і ч

Тарас Іванавіч, пісьмо, пісьмо!..

М а к а р э в і ч

А вы не бойцеся, я далікатна.
*(Абмацвае кішэні Высокава.)*
Пан капітан, у іх ніякай зброі...

Д а ў н а р с к і

Дурніца! Порах ёсць! Пісьмо. Канвой!

А з о р ы ч

Таварышы, на выручку! Сюды!
*(Ён адным махам расчыняе дзверы ў камеру. Арыштаваныя выбягаюць у калідор.)*
Канвой не выпускае нас з турмы.

Б а р а в ы

А ну, пастараніцеся!

Л і п а в е ц

Сябры,
Давайце ў кабінет яго, сюды!

Арыштаваныя ўпіхаюць Даўнарскага ў канцылярыю і замыкаюць дзверы.

В ы с о к а ў

Вы сапраўды гатовы падтрымаць.
Вялікі дзякуй вам, вялікі дзякуй.

Азорыч

Пайшлі, таварышы.

Высокаў

Бывайце, хлопцы.

Ліпавец

Перадавайце наша прывітанне
Рабочым і салдатам Петраграда.

Цімчук

А Леніну — паклон за падарунак.

## МАЛЮНАК ШОСТЫ

Пакой Рабініна ў доме пані Вайніловіч. Уважаючы на абсталяванне пакоя, можна меркаваць, што гэта была даволі багатая панская гасцінная. Тут усё амаль так і засталося без усялякіх змен, калі не лічыць прынесеных сюды нядаўна некаторых прадметаў практычнага абыходку: пісьмовага стала з ваеннай картай на ім, палявога тэлефона, афіцэрскай шаблі на раялі і інш.
У пакоі Рабінін і Людміла.

Людміла

*(гарэзліва ківаючы пальцам).*

Не, не, Антон Міхайлавіч, няможна...

Рабінін

Чаму няможна?

Людміла

А таму, што вы
Паклікалі мяне не для забавы...
Іначай я адзелася б не так.

Рабінін

А вы сядайце да мяне бліжэй,
І будзем гаварыць аб нашай справе.

*(Бярэ Людмілу за руку і садзіць поруч з сабой.)*

Рабінін

Людміла Арыстархаўна!..

Людміла

О божа,
Як гэта здорава гучыць! Маўчу.

Р а б і н і н

Па ўсёй Расіі створаны цяпер
Жаночыя фарміраванні, войска.
Іх называюць — батальёны смерці.

Л ю д м і л а

Ох, страх адзін! На фронт? Ніколі! Што вы?!

Р а б і н і н

Чаму на фронт? Работа ёсць і тут...

Л ю д м і л а

А нам і форму выдадуць?

Р а б і н і н

А як жа.

Л ю д м і л а

Дык гэта ж можа быць шыкарна! Праўда?

Р а б і н і н

Дамовіліся, значыць?

Л ю д м і л а

Безумоўна.

Р а б і н і н

Цяпер я дам вам першае заданне.
У Мінскім бальшавіцкім камітэце
Ёсць важнае сакрэтнае пісьмо.
Пісьмо ад Леніна... Вы зразумелі?
О, калі б вы маглі яго дастаць
Ці хоць даведацца, аб чым там пішуць!

Л ю д м і л а

Не, гэта немагчыма.

Р а б і н і н

Паспрабуйце.
Там ёсць у іх Агата Міранок.
Працуе прыбіральшчыцай. Жанчына

Дайшла да роспачы, ледзь-ледзь жыве.
Пагаварыце, дайце, колькі скажа,
Мы за цану стаяць не будзем.

Людміла

Добра.

Я пастараюся. А што мне будзе?

Рабінін

Усё. Вы будзеце, нібы царыца,
Хадзіць у золаце, купацца ў вінах...

Людміла

Канец, дагаварыліся! Дарэчы,
Якое вы п'яце віно?

Рабінін

Чаму?

Людміла

Я вам магу параіць, дзе дастаць.

Рабінін

На керанкі?

Людміла

На кацярынкі, што вы!

Рабінін

А на карнілаўкі, напрыклад?

Людміла

Што?

А гэта што яшчэ за грошы?

Рабінін

*(уздыхнуўшы).*

Грошы,

Якія я цаню вышэй за ўсё.

Людміла

А што вы можаце купіць за іх?

Рабінін
*(з пафасам).*

Усё, увесь мой дабрабыт і шчасце:
Маёнтак, фабрыку, партфель міністра,
Цябе, напрыклад, Люсік, ці другую...

Людміла

Што, што!.. Не смейце мне купляць другой!

Рабінін

Няможна? Добра, я куплю цябе.

Людміла

Цалуйце рукі, ґадкі вы хлапчук!
Хіба ж я прадаюся? Што я — лялька?
Я — вольны чалавек. Цалуйце рукі.

Рабінін

З вялікай асалодай. Вашы рукі
Заўсёды пахнуць... булкамі.

Людміла

Нягодны!

А вы іх любіце?

Рабінін

Што? Булкі?

Людміла

Рукі!

Стук у дзверы.

Людміла

Ой, божа мой!

Рабінін

Заходзьце, калі ласка!

Уваходзіць Званская.

Званская

Я вам не перашкодзіла?

Р а б і н і н
*(збянтэжана).*
Не, не...
Мы тут займаліся адною справай.
Вось так... Вы можаце ісці, Людміла.

Л ю д м і л а

Займацца больш не будзем?

Р а б і н і н

Адкладзём.

Л ю д м і л а

З другой займацца будзеце?

Р а б і н і н

Людміла!

Л ю д м і л а

Бывайце! Не зважаючы на ўсё,
Я выканаю ваша даручэнне. *(Выходзіць.)*

З в а н с к а я

Мне цёмна. Уключыце электрычнасць.

Р а б і н і н

Аксеня Паўлаўна, даю вам слова...

З в а н с к а я

Мяне пачуцці вашы не цікавяць.
Я на правах старой знаёмай вашай
Прыйшла пагаварыць начыстату.
Калі вы скончыце свае інтрыгі?

Р а б і н і н

А што пад гэтым трэба разумець?

З в а н с к а я

Згаворы вашы розныя, якія
Народ аплачвае сваёй крывёй.
Вы топчаце бязлітасна нагамі

Людзей, свабоду, іх жаданні, думкі...
Дзеля чаго?

Р а б і н і н

Каб ратаваць Расію.

З в а н с к а я

У гэта вы не верыце і самі.

Р а б і н і н

Ну, не Расію, дык сябе і вас.

З в а н с к а я

Мы з вамі не Расія... Ёсць народ.
Ён хоча іншага, чым я, напрыклад.
Пасля карнілаўскіх падзей у Мінску
Я доўга думала. І мне цікава:
А з кім жа вы, Рабінін, за каго?

Р а б і н і н

А для чаго вам гэта трэба ведаць?

З в а н с к а я

Каб ведаць, дзе і з кім стаяць самой.

Р а б і н і н

Аксеня Паўлаўна, паверце мне...

Уваходзіць Д а ў н а р с к і.

Д а ў н а р с к і

Камандуючы генерал Балуеў.

Р а б і н і н

Прасі. Прабачце, у мяне нарада.
*(Прачыніўшы дзверы ў другі пакой.)*
Ядвіга Карлаўна, у нас тут госці.

В а й н і л о в і ч
*(за дзвярыма).*
А хто?

Рабінін

Ідзіце паглядзіце.

Вайніловіч

Зараз. *(Уваходзіць.)*

Аксеня Паўлаўна! Якая радасць!
Дзе ж вы прапалі?.. Божа, генерал!

Уваходзіць Балуеў.

Балуеў

Ядвіга Карлаўна, лічу за гонар...

Вайніловіч

Сядайце, генерал, і раскажыце,
Што новага. Павесяць скора нас?

Балуеў

Ратуй вас бог!

Вайніловіч

Да гэтага ідзе.
Пад Мінскам у маім адным маёнтку
Паміж салдатамі і мужыкамі
Ішоў сапраўдны бой.

Балуеў

Выпадкі ёсць,
Але пакуль яшчэ ўлада наша.

Вайніловіч

Я жабраваць пайду, кашулю скіну...

Балуеў

Ядвіга Карлаўна, навошта ж гэта?

Вайніловіч

Апошнюю капейку вам аддам,
Абы вы толькі навялі парадак.

Балуеў

Не клапаціцеся, парадак будзе.

Уваходзіць Даўнарскі.

Даўнарскі

Прадстаўнікі дэмакратычных партый.

Рабінін

Адну хвілiначку.

Вайніловіч

У вас нарада?
Аксеня Паўлаўна, прашу ка мне.

Вайніловіч і Званская выходзяць.

Рабінін

Хачу вас папярэдзіць, генерал,
Ніякіх больш хістанняў быць не можа.

Балуеў

Ах, божа мой, аб чым ідзе размова?
Ці ж я не разумею, што Расія
У прорву коціцца? Я разумею.
Але ў мяне старая ўжо хвароба:
Перад магчымай зменаю улады,
Я прызнаюся, у мяне заўсёды
І галава баліць і сэрца ные.

Рабінін

Аб ліквідацыі Саветаў перад імі
Не трэба гаварыць. Прасіць?
*(Ківае на дзверы.)*

Балуеў

Прасіце.

Рабінін
*(прачыніўшы дзверы).*

Прашу, панове.

Віскаваты

Можна, генерал?

Б а л у е ў

Заходзьце і сядайце, грамадзяне.

Уваходзяць В і с к а в а т ы, Я н о ў с к і, К а ц м а н і Л е ш ч ы ц.

Б а л у е ў

Я вас пазваў...

Р а б і н і н

Дазвольце, генерал?
Нарада наша склікана, панове,
Неафіцыйна і сугуба тайна.

Л е ш ч ы ц

Ды гэта, пане мой, нам зразумела.

Р а б і н і н

Прашу вас, генерал.

Б а л у е ў

Я вас паклікаў,
Каб папярэдзіць новае паўстанне.
Пасля карнілаўскіх падзей у Мінску
Саветы сталі цэнтрам небяспекі.
У іх сістэматычна і няспынна
Павагу трацяць партыі парадку,
А набываюць моц бальшавікі.
Адну ім канферэнцыю сарвалі,
Яны цяпер наладзілі другую.
Замест «Звязды» пачаў выходзіць «Молат»,
Які з'яўляецца, як сам ён піша,
Працягам той жа шкодніцкай газеты.
Вось пачытайце толькі, што ён піша.

*(Перадае газету Віскаватаму.)*

Ён падрывае ўсякае давер'е
Да нашага каманднага саставу
І армію вядзе да разлажэння.

В і с к а в а т ы

Жахліва! Паглядзіце толькі — страх!
*(Перадае газету Яноўскаму.)*

Б а л у е ў

Ён абвясціў вайну заможным класам
І заклікае скінуць наш урад.

Я н о ў с к і

На Керанскага пішуць! А?! Скажыце!

*(Перадае газету Лешчыцу.)*

Л е ш ч ы ц

Я, пане мой, не буду і чытаць.

*(Перадае газету Кацман.)*

Б а л у е ў

Бальшавікі даюць рабочым зброю,
Арганізуюць скрозь свае атрады,
Штодзень праводзяць абучэнне іх
І пагражаюць выгнаць нас усіх.
І гэта можа здарыцца сягоння.
Ад Леніна, як стала нам вядома,
У Мінскі камітэт прыйшло пісьмо.
Пісьмо ад Леніна! Вы зразумелі,
Якая падрыўная гэта сіла?!

Я н о ў с к і

Няхай бальшавікі нам выбачаюць,
Але мы возьмемся за іх іначай.

Л е ш ч ы ц

А вы ж туліліся пад іх крыло.

В і с к а в а т ы

Калі?

Л е ш ч ы ц

А пры Карнілаве.

Я н о ў с к і

Успомніў!
Тады і вам было таксама страшна.

*(З апаскаю паглядзеў на Рабініна.)*

Рабінін

Даруйце мне, Яноўскі, я тады
Пагарачыўся.

Яноўскі

Правільна рабілі.

Лешчыц

Калі б мы не былі тады аслы...

Кацман

Вы намякаеце ўжо на асобы!

Лешчыц

Я не на вас, бо вы яшчэ — каза...
Аслы — яны.

Кацман

Абраза! Чуеце?

Яноўскі

А вы падкідыш Скірмунта!

Лешчыц

А ты!..

Рабінін

Панове!

Віскаваты

Грамадзяне!

Рабінін

Як не сорам!

Віскаваты

Прызнаемся, што мы былі аслы,
І мы за гэта досыць пакараны!

Лешчыц

Калі б Карнілаву тады дапамаглі,
Ён нас прывёў бы на Ўстаноўчы сход,
І нам бы не было чаго сварыцца.

Рабінін

Памылку выправіць яшчэ не позна.
Якія ў Мінску сілы, генерал?

Балуеў

За нас адзін Георгіеўскі полк.
А на баку бальшавікоў — турма,
Дзе тысяч дзве салдат-бальшавікоў,
Атрады гвардыі і гарнізон.
Мы, праўда, маем на Заходнім фронце
Вялікі лік ударных батальёнаў.
Ствараецца таксама польскі корпус,
І генерал Мусніцкі лёгка зможа
Адрэзаць Беларусь ад Петраграда.
Ізаляваць патрэбна толькі Мінск.

Рабінін

Для гэтага сцягнуць належыць войска,
Каб горад акружыць з усіх бакоў.
І генерал Балуеў просіць санкцый.
Прадстаўнікі ад партый згодны з гэтым?

Лешчыц

Што за пытанне, пане дабрадзею!
Я заяўляю цвёрда: мы гатовы
Ахвяраваць нацыянальнай справай,
Абы ўратаваць айчыну нашу
Ад бальшавіцкай пошасці і ганьбы.
Любая ўлада, толькі не Саветы.

Кацман

Я з гэтым цалкам згодна: нам патрэбна
Стварыць спачатку моцную Расію,
А потым марыць аб ажыццяўленні
Задач нацыянальных.

Рабінін

Ваша слова?

Віскаваты

Маё? Як мы, Яноўскі?

Яноўскі

Я лічу,
Такі Савет не грэх і разагнаць.

Балуеў

Тады я не затрымліваю вас.
Камандаванне знойдзе досыць сіл,
Каб вашы пажаданні і намеры
Ажыццявіць. Бывайце, грамадзяне.

Прадстаўнікі кланяюцца і выходзяць.

Вы аб Савеце раілі маўчаць,
А дэмакраты кажуць — разагнаць.

Рабінін

І гэта трэба здзейсніць неадкладна.
Паклікаць ад'ютанта, генерал?

Балуеў

Як загадаеце.

Рабінін

Бог з вамі! Што вы?!
*(Звоніць.)*

З'яўляецца Даўнарскі.

Даўнарскі

Што загадаеце, пан генерал?

Балуеў

Распарадзіцеся казацкі полк,
Ударны полк і батальёны смерці
Накіраваць паходным маршам к Мінску.
Загад падпішам заўтра. Гэта раз.
Другое. Вышліце нарад казакаў
І ліквідуйце «Молат».

Даўнарскі

Што?

Рабінін

Газету.

Даўнарскі

А, зразумела. Слухаю.

Рабінін

Пры гэтым

Нядрэнна б затрымаць і Мяснікова.

Балуеў

Выконвайце. Загад падпішам заўтра.

Даўнарскі выходзіць.

Рабінін

А як жа нам з Карнілавым звязацца?

Балуеў

Я заўтра ў Быхаў вышлю афіцэра.
Бывайце, друг.

Рабінін

Шчасліва, генерал!

Балуеў выходзіць. З суседняга пакоя выходзіць Званская.

Рабінін

Ну вось, Аксеня Паўлаўна, цяпер
Прадоўжым нашую размову.

Званская

Позна.

Рабінін

Ды дзе там позна, восьмая гадзіна.

Званская

Наогул позна.

Рабінін

Як вас разумець?

З в а н с к а я

Я чула вашу гутарку.

Р а б і н і н

Ах, вось!
І што ж вы можаце сказаць пра гэта?

З в а н с к а я

Я думаю, што вы ад вашых планаў
Адмовіцеся.

Р а б і н і н

А чаму?

З в а н с к а я

Ды гэта ж...
Карнілаўшчына новая!

Р а б і н і н

І што ж?

З в а н с к а я

Я гавару ўсур'ёз: вам давядзецца
Адмовіцца ад вашых планаў.

Р а б і н і н

Не.

З в а н с к а я

А вы не дапускаеце, Рабінін,
Што я магу сказаць бальшавікам?

Р а б і н і н

Вы гэтага не зробіце.

З в а н с к а я

Чаму?

Р а б і н і н

Данос і вы?.. Не вяжацца ніяк!

Званская

Не, гэта не данос, і я зраблю.

Рабінін

Тады я вас не выпушчу адгэтуль.

Званская

Пусціце мне руку, баліць... Вар'ят!
Ядвіга Карлаўна!

Уваходзіць Вайніловіч.

Вайніловіч

А я ўжо тут...
Што ў вас такое?

Званская

Мне пара дамоў.
Вы можаце мяне правесці?

Рабінін

Я?
Вы што — жартуеце?

Званская

Эх вы, палітык!
Не разумееце, калі жартуюць.

Рабінін

Аксеня Паўлаўна, такія жарты...

Званская

Павінны быць навукаю для вас.
Як можна гаварыць аб важных справах,
Не забяспечыўшы іх поўнай тайны?!
Ну добра, што пачула гэта я.
А што, калі б другі?

Вайніловіч

Аб чым размова?

З в а н с к а я

Вучу, Ядвіга Карлаўна, мужчын:
Ніяк не ўмеюць тайны берагчы.

В а й н і л о в і ч

Ого, ім пахваліцца — гэта ўсё!

З в а н с к а я

Ну што ж, Антон Міхайлавіч, пайшлі?

Р а б і н і н

З прыемнасцю... І дзякуй за навуку.

З в а н с к а я

Ядвіга Карлаўна, спакойнай ночы!

В а й н і л о в і ч

Дабранач, любая! Не забывайце...

## МАЛЮНАК СЁМЫ

Мінскі Савет Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў. Гэта той жа пакой, які мы ўжо бачылі ў другім малюнку. Розніца толькі ў атмасферы і святле: тады ў яго ліліся патокі вясенняга сонца і пад вокнамі цвіў бэз; цяпер у пакоі асенні надвячорак, а пад акном залацістымі агнямі гарыць клён, асветлены захадам сонца.

У пакоі даволі многа людзей — дэлегатаў Другой абласной канферэнцыі бальшавікоў Беларусі і Заходняга фронту. У адзенні пераважае рабочая вопратка і салдацкія шынялі. Сярод прысутных мы заўважаем Варановіч, Валошына, Петрашэўскую і іншых знаёмых нам людзей.

Варановіч

Цішэй, таварышы! Хто з дэлегатаў
Не атрымаў яшчэ літаратуры?

Валошын

Я сам не помню — атрымаў ці не.
Марына, глянь у спісак, дарагая.

Петрашэўская

Магу сказаць не гледзячы, Валошын:
Ты падыходзіш сёння пяты раз.
Табе не кнігі, а Марына трэба.

Валошын

Паклёп, бажуся богам, што паклёп...

Варановіч

Валошын, не дурыся, адпраўляйся.

Валошын

Ёсць адпраўляцца, камандзір. Пайшлі.
Бывайце, дарагія. Што ты зробіш,
Салдата некаму пашкадаваць. *(Сур'ёзна.)*

Калі якія здарацца падзеі,
Адразу ж накажыце нам, Марына.

Вафановіч

Не бойся, будзем вас трымаць у курсе.
Ды ты яшчэ не раз у Мінску будзеш.

Валошын

Хто ведае, калі настане дзень,
Якога мы чакаем. Да спаткання!

Ваенныя дэлегаты канферэнцыі выходзяць.

Варановіч

Ну, я пайшла на фабрыку, Яніна.

Петрашэўская

І мне пара таксама.

Макейчык

А мяне
Пакінеце, сарокі, аднаго?

Петрашэўская

А ў нас жа Міранок, якраз вам пара.

*(Адчыняе дзверы і на парозе сустракае Людмілу.)*

Ох ты, куды там цётка Міранок!
Тут вунь да вас якая прыгажуня.

Макейчык

Ох, у цябе ж і язычок, Яніна!..

Петрашэўская

Як шыла, дзядзечка.

Варановіч

Пайшлі, Яніна.

Петрашэўская і Варановіч выходзяць.

Макейчык

А вам каго, таварышка? Чакай!
Дык гэта ж я цябе сюды прыводзіў?!

Людміла

Мне трэба бачыць цётку Міранок.

Макейчык

Яна вам што — знаёмая?

Людміла

Ага.

Макейчык

Я зараз папытаю, пачакайце.

Выходзіць, а праз момант уваходзіць Міранок.

Міранок

Дзень добры, пані. Гэта вы пыталі?

Людміла

Вы нетутэйшая?

Міранок

З-пад Навагрудка.

Людміла

А я вас ведаю.

Міранок

Дык дзіва што!
Мы ж каля вашай крамы начавалі,
Пакуль дзяўчаты, дай ім бог здароўя,
Мяне сюды не ўзялі, у Савет.

Людміла

У вас маленькая дачушка Таня.

Міранок

Ляжыць цяпер, пакутніца, хварэе.

Людміла

Дык вось мяне да вас паслалі людзі
Дапамагчы вам.

Міранок

Дай ім бог здароўя.

Людміла

Яны вам грошай могуць даць, адзетку...

Міранок

А хто ж яны такія? Вы сядайце.

Людміла

Яны асобы важныя...

Міранок

Ага.

А за якую ж гэта ласку?

Людміла

Так.

Вы, праўда, можаце і адплаціць.
Паперы перадаць якія часам...

Міранок

Чаму ж не перадаць, паперы ёсць.

Людміла

Яны хацелі б вельмі пачытаць
Пісьмо... ад Леніна.

Міранок

Ага, пісьмо...

Дык Ленін жа цяпер не піша, кажуць.

Людміла

Ды піша, піша!.. Ёсць пісьмо такое,
Што за яго цябе азалацілі б.

Міранок

А дзе ж яго дастаць?

Людміла

У Мяснікова...

Або ў Азорыча.

Міранок

А як узяць?

Людміла

Яны начуюць тут ці па кватэрах?

Міранок

Усяк бывае, хлопцы маладыя...
Вы б самі падкаціліся да іх.

Людміла

А выгарыць?

Міранок

Чаму ж.

Людміла

Наўрад, не выйдзе.

Міранок

Вось бачыце, дык як жа я дастану?

Людміла

Ты толькі мне паведамі аб тым,
Калі яны бываюць ноччу тут.

Міранок

Не, боязна...

Людміла

Чаго табе баяцца?

Міранок

Мяне ж Савет за гэта арыштуе.

Людміла

Які Савет! Савета больш не будзе.

Міранок

А дзе ж ён дзенецца?

Людміла

Разгоняць.

Міранок

Праўда?

Людміла

Для гэтага пад Мінск ідзе ўжо войска.
Ты разумееш?

Міранок

Трохі разумею.
Цябе не цяжка зразумець, паскуда.
Марш зараз жа адгэтуль! Марш, паганка,
Каб і нагі тваёй тут не было!

Людміла выбягае, як апантаная. На крык уваходзіць Макейчык.

Макейчык

Чаго ты раскрычалася, Агата?

Міранок

Ты чуў, Язэп, чаго яна была?
Яе лісты ад Леніна цікавяць!

Уваходзіць Мяснікоў.

Мяснікоў

Каго яе?

Макейчык

Кучынскага дачку.

Мяснікоў

Не так яе цікавяць, як другіх.
А што яна казала вам яшчэ?

Міранок

Пра вас і пра Азорыча пытала.
Вы сёння, хлопцы, не начуйце тут.

Мяснікоў

Нічога, будзем жывы.

Міранок

Не кажыце,
Яна казала, што Савет разгоняць,
Ужо нібы на Мінск ідзе і войска.

Мясніко ў

Яны б то разагналі, каб маглі,
Ды рукі ў іх кароткія на гэта.
Аднак нам трэба быць напагатове,
Паведамленні грозныя, Макейчык.
Паклічце, цётка, Гольмана сюды.

Міранок

Ён у друкарні?

Мяснікоў

Недзе там.

Міранок

Паклічу. *(Выходзіць.)*

Мяснікоў

А вы ўсё маўчыце, Язэп Макейчык?

Макейчык

У кожнага характар, што паробіш.

Мяснікоў

А мне якраз маўклівы і патрэбен.
Злавіў на слове, а?

Макейчык

Якая ж справа?

Мяснікоў

З Бабруйска трэба перавезці зброю.

Макейчык

А з кім звязацца там?

Мяснікоў

Я дам запіску. *(Піша.)*

Вось чалавек і адрас.

Макейчык

Добра, зробім.

Мяснікоў

А як вы гэта зробіце, Макейчык?

Макейчык

На паравоз. У вугаль. Прывязём.

Мяснікоў

Часць гэтай зброі вашаму атраду,
А часць патрэбна будзе захаваць.
Вы месца знойдзеце?

Макейчык

Знайду.

Мяснікоў

Ну, добра,

Жадаю поспеху.

Макейчык

Бывайце жывы.

Прашу вас вельмі, будзьце асцярожны.

Макейчык выходзіць. Мяснікоў стаіць і доўга глядзіць яму ўслед, нібы бачыць яго за сценамі пакоя. Затым ён паварочваецца, глыбока ўзрушаны і ўсхваляваны.

Мяснікоў

Якія волаты! Якія людзі!
Я, здэцца, іх і ведаю, і кожны раз
Гляджу ізноў шырокімі вачыма
На іх высакародныя учынкі.
Агата Міранок, Язэп Макейчык,
Андрэй Цімчук і тысячы другіх,
Апранутых у лахманы, у зрэб'е,
Узнятых рэвалюцыяй з глыбінь

Нязведаных прастораў Беларусі,
Гатовых засланіць уласным сэрцам
Ад грознай небяспекі сэрца друга.
Арменія, мой родны край бацькоўскі,
Як шмат іх у мяне такіх сяброў!
Пад іх аховаю на сэрцы безмяцежна
Нашу пісьмо, якога так шукаюць,
Пісьмо ад Леніна. Вось, вось яно!
Чытайце, людзі, слухайце яго!
*(Дастае з кішэні і перачытвае пісьмо.)*
«Адкіньце дробную на час работу
І ўсю увагу вашую аддайце
Ваеннай падрыхтоўцы да паўстання.
Складзіце план, стварыце камітэт,
Збярыце падрабязнейшыя весткі
Аб размяшчэнні войск, аб іх саставе.
У плане улічыць абавязкова
Захоп важнейшых пунктаў: тэлеграфа,
Чыгуначных вакзалаў, тэлефона...»
Мы гэта зробім, зробім неадкладна!

*(Садзіцца за стол і пачынае пісаць.)*

Уваходзіць Меер Гольман.

Гольман

Ну? Новае заданне?

Мяснікоў

Адгадалі.
Набраць брашуру трэба. Вельмі спешна.

Гольман

Я так рабіць не ўмею! Ноч, апоўнач...

Мяснікоў
*(спакойна, не звяртаючы ўвагі).*

Я зараз дам вам матэрыял.

Гольман

Цяпер?
А хто ж газету?

М я с н і к о ў

І газету вы.

Г о л ь м а н

Скажыце ж мне, таварыш Мяснікоў,
Я колькі маю рук: чатыры? восем?

М я с н і к о ў

Здаецца, дзве.

Г о л ь м а н

Дык як жа мне рабіць?

М я с н і к о ў

Падумайце.

Г о л ь м а н

Вам лёгка гаварыць:
Брашуру набіраць павінен я,
Газету друкаваць павінен я,
І думаць я. Не, гэтага не будзе. *(Садзіцца.)*

М я с н і к о ў

А што вы прапануеце другое?

Г о л ь м а н

Нічога я не прапаную вам.
Што, нельга ўжо і паспрачацца?

М я с н і к о ў

Нельга.

Брашура Леніна, таварыш Гольман.

Г о л ь м а н

Дык вы адразу так бы і сказалі.
І гэта вельмі спешна?

М я с н і к о ў

Вельмі. Мінск
Акружаны казацкімі часцямі.
Штодзень ідуць якіясь перамовы

Між франтавымі штабамі і Стаўкай.
Усё шырэй супроць бальшавікоў
Вядзецца агітацыя ў часцях.
Такія факты сведчаць аб адным:
Контррэвалюцыя ізноў збірае сілы
І пагражае разагнаць Саветы.
«Уся будучыня рускай рэвалюцыі
Пастаўлена на карту»,— піша Ленін.
І словы Леніна патрэбна спешна
Данесці да рабочых і салдат.

Гольман

Ну, калі спешна — зробім, рукі знойдзем.

Мяснікоў

Вазьміце матэрыялы для брашуры,
А потым я прышлю перадавы.

Гольман

І на падборку семдзесят радкоў.

Уваходзіць Азорыч.

Мяснікоў

А на падборку дасць Азорыч.

Азорыч

Што ты?!

Гольман

Напішаце, нічога. Я пайшоў. *(Выходзіць.)*

Азорыч

Ох, замарыўся! Цётка Міранок!
Чайку там можна?

Міранок

Зараз прынясу.

*(Уваходзіць з чайнікам у руках.)*
Ізноў на цэлу ноч пісаць?

Мяснікоў

Ізноў.

Міранок

Загубіце вы, хлопчыкі, сябе.
Вам тут няможна сёння быць.
Яны ж вас схопяць, як рудых мышэй.

Азорыч

А варта?

Міранок

Варта...

Мяснікоў

Цётка Міранок!..

Міранок

Няма каму вас, хлопцы, ушчуваць. *(Выходзіць.)*

Мяснікоў

Як у палку сустрэлі? Не пабілі?

Азорыч

Салдаты, брат, стаяць за нас гарой.
І рэвалюцыю прынялі нашу.

Мяснікоў

Дык вось і напішы ў газету.

Азорыч

Ох, і пакута ж для мяне пісанне!

Мяснікоў

Не разумею, марыць ты ахвотнік,
А як пісаць — табе цяжкая справа.

Азорыч

А хіба можна напісаць аб тым,
Як уяўляеш ты наступны свет?
Падай мне, калі ласка, чайнік. Дзякуй.
Вось прачытаў я ленінскі наказ:
«Бальшавікі павінны ўзяць уладу».
Я дзень пры дні пытаюся: калі?

Калі ён грымне, жыватворчы гром?
Я ведаю, наперадзе змаганне,
І смерць, і цяжкасці, і горы працы.
Але перада мною паўстаюць
Жывыя вобразы людскога шчасця:
Народ не будзе паміраць на войнах,
Не будзе ў лахманах дрыжаць ад сцюжы,
Не будзе галадаць і жабраваць.

Мяснікоў

Не, рэвалюцыя не толькі ў гэтым.
Вялікая для чалавека справа хлеб,
Але змаганне дасць нам і другое.
У барацьбе за шчасце чалавек
Знаходзіць ісціннае прызначэнне.
Жыццё яго скалечыла і змяла.
Ён падымаецца і праяўляе
Сапраўдную сваю людскую сутнасць,
Становіцца руплівым хадаком
У заўтрашні вялікі дзень жыцця.

Уваходзіць Гольман.

Гольман

Чаёк п'яце?!

Мяснікоў

А ты ізноў сварыцца?

Гольман

Сварыцца? Не! Зямлю пад вамі рваць!

Мяснікоў

Што здарылася?

Гольман

Арышт! Арышт!

Азорыч

Што?

Гольман
Газету нашу зноў арыштавалі.

Мяснікоў
Газету нашу?

Азорыч
«Молат»?

Гольман
Не, кавадла!

Мяснікоў
І апячаталі?

Гольман
Пакуль што не.
Яшчэ ўсё поруцца ў паперах розных.

Мяснікоў
А можна зараз вывезці набор?

Гольман
На чым? На мне?

Мяснікоў
А ёсць куды?

Гольман
Абы было на чым. Уга!

Мяснікоў
Азорыч,
Бяры машыну і гані ў друкарню.
А вы выносьце зараз жа набор.

Азорыч
Пайшлі.

Гольман
Ну, вось, цяпер я разумею,
А то сядзяць і папіваюць чай.

М я с н і к о ў

Перадавы артыкул мне канчаць?

Г о л ь м а н

А як па-вашаму? Газета наша
Выходзіць можа без перадавога?

А з о р ы ч і Г о л ь м а н выходзяць. Мяснікоў садзіцца ізноў за стол і піша. Праз нейкі момант чуецца стук у дзверы.

М я с н і к о ў

Хто там яшчэ... Заходзьце, калі ласка.

Уваходзіць З в а н с к а я.

З в а н с к а я

Даруйце мне, што я турбую вас.
Але я думаю, што гэта важна.

М я с н і к о ў

Вы нечым усхвалёваны. Сядайце.
Я слухаю.

З в а н с к а я

Вы толькі мне паверце...
Супроць бальшавікоў рыхтуюць змову.

М я с н і к о ў

Ды гэта нам зусім не навіна:
Супроць бальшавікоў заўсёды змова.

З в а н с к а я

Вы разумееце мяне не так.
У Мінск дамовіліся вызваць войска
І разагнаць Савет.

М я с н і к о ў

Хто вам сказаў?

З в а н с к а я

Аб гэтым гаварылі на нарадзе.

М я с н і к о ў

Была нарада?

Званская

Так.

Мяснікоў

Калі?

Званская

Учора.

Я не магла раней прыйсці... сачылі.

Мяснікоў

А хто ўдзельнічаў — вядома вам?

Званская

Балуеў, Віскаваты, Лешчыц, Кацман...

Мяснікоў

А хто яшчэ?

Званская

Рабінін і Яноўскі.

Мяснікоў

Паход контррэвалюцыі пачаўся.
Якія ж часці выклікаюць з фронту?

Званская

Ударны полк, адзін казацкі полк
І батальёны смерці.

Мяснікоў

Што яшчэ?

Уваходзіць Азорыч. Званскай ён не заўважае.

Азорыч

Набор уратавалі, перавозяць.

Мяснікоў

Тут не ў адной газеце сэнс, Азорыч,
Контррэвалюцыя зрабіла змову,
Каб разагнаць Савет.

Азорыч

А хто сказаў?

Мяснікоў

Таварыш Званская паведамляе.

Званская

Яны абодвух арыштуюць вас.

Мяснікоў

Становішча сур'ёзнае, Тарас,
Я зараз пазваню ў камітэт...

Азорыч

У франтавы? А ім аб гэтым скажуць?

Мяснікоў

Аднак звязацца з імі неабходна.

Мяснікоў выходзіць. Званская рванулася да Азорыча.

Званская

Тарас, даруй мне!.. Мілы мой, даруй!
Я горка памылілася.

Азорыч

Аксеня,
Цяпер не час пра гэта гаварыць.

Званская

Я ведаю... Але мне вельмі цяжка.

Азорыч

Забудзем, Ксеня.

Званская

Мілы мой, ратуйся!
Я буду вечна дакараць сябе,
Калі вы трапіце да іх у рукі.

Азорыч

Не бойся, Ксеня, гэтага не будзе!
За нас народ, увесь народ Расіі.

Уваходзіць Мяснікоў.

Мяснікоў

Заўважылі, які быў спорны дождж?

Азорыч

Ну, што ты чуў?

Мяснікоў

У камітэце фронту
Не ведаюць нічога. Безумоўна,
Пан Віскаваты падпісаў загад
Употайкі ад членаў камітэта.

Азорыч

Дык што ты прапануеш?

Мяснікоў

Я мяркую,
Табе паехаць трэба ў Петраград.
У Мінску нас яны не лёгка возьмуць,
Але відаць, што загавор шырокі,
І трэба ўсё паведаміць ЦК.

Убягае Агата Міранок.

Міранок

Ой, хлопчыкі! Казакі!

Званская

Уцякайце!
Мы затрымаем іх.

Мяснікоў

Пайшлі, Тарас.
Перадавай ЦК і Петраграду:
Мінск для змагання з ворагам — гатовы.

Мяснікоў і Азорыч выбягаюць. У пакой урываюцца казакі на чале з Даўнарскім.

Даўнарскі

Няма і тут!

Званская

Спазніліся, панове!

## МАЛЮНАК ВОСЬМЫ

Той жа прасторны пакой Мінскага Савета, што і ў другім малюнку. Але паколькі ў пакоі няма цяпер сонца, выглядае ён і цяснейшым і больш змрочным. Вокны яго завешаны газетамі. Скупое святло невялікай электрычнай лямпы на стале заслонена аркушам паперы.
Схіліўшыся над сталом, палажыўшы каля палявога тэлефона галаву на рукі, спіць Марына Варановіч. У парозе на табурэце, прыпёршыся да сцяны і паставіўшы паміж ног вінтоўку, сядзіць Ігнат Высокаў. Можа паказацца, што і ён дрэмле таксама, але гэта не так — ён думае і прыслухоўваецца. У пакой уваходзіць Язэп Макейчык.

Макейчык

Марозік на двары, і добры.

Высокаў

Рана.

Макейчык

Сягоння дваццаць пятае?

Высокаў

Ага.

Макейчык

Дык што ты, брат, канчаецца кастрычнік,
Марозіку пара.

Высокаў

У нас мякчэй.

Макейчык

У Петраградзе? Можа. Там у вас
Ад фабрык тых адных гарачыня.

Высокаў

Паскардзіцца не можам: багацеям
Мы часта падсыпаем аганьку.

Макейчык

Ад вашага агню святлей і нам.
Глядзі, Ігнат, які пагодны дзень!

*(Тушыць электрычнасць, здымае з акон газеты, і ў пакой смела ўступае ясная, асенняя раніца.)*

Высокаў

Марыну не пара будзіць?

Макейчык

Шкада,
Каторы дзень не спіць.

Высокаў

Каб не празябла.

*(Акрывае яе сваім пінжаком.)*

Макейчык

А я вось не магу ніяк заснуць.
Усё трывожуся, калі ж пачнецца:
Сягоння? Заўтра?

Высокаў

Можа, і сягоння...

Уваходзіць Мяснікоў.

Мяснікоў

Не толькі «можа», а напэўна сёння!
Паўстанне ў Петраградзе пачалося...

Усе ў адно вокамгненне нібы змярцвелі. І раптам выбухае вялікая, бязмежная радасць.

Галасы

Ура! Няхай жыве таварыш Ленін!

На гоман у пакой прыбягаюць Петрашэўская, Міранок, Таня і другія.

М я с н і к о ў

Спакой, таварышы, спакой і яснасць.
Нам трэба дзейнічаць рашуча, смела,
Але абдумана. І перш за ўсё
Патрэбна вызваліць арыштаваных.
Макейчык!

М а к е й ч ы к

Слухаю.

М я с н і к о ў

Высокаў!

В ы с о к а ў

Я.

М я с н і к о ў

Вазьміце зараз жа сваіх гвардзейцаў
І вызвальце арыштаваных.

В ы с о к а ў

Ясна.

М я с н і к о ў

Узброіўшы людзей, збірацца тут.

М а к е й ч ы к і В ы с о к а ў выходзяць.

М я с н і к о ў

Марына, Гольмана!

Г о л ь м а н

*(уваходзячы ў пакой).*

А Гольман тут.

М я с н і к о ў

Азорыч вам панёс загад рэўкома.
Надрукаваць яго за паўгадзіны.

Г о л ь м а н

Ого! Вы чулі?

М я с н і к о ў

Гольман!

Гольман

Што вам Гольман?
Загад не запрашэнне на банкет.
Такія рэчы трэба друкаваць...
За пяць хвілін! Вазьмі, чытай, Марына!

Падае Марыне аддрукаваны ўжо «Загад Мінскага Выканаўчага Камітэта Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў».

Мяснікоў

Ох ты! І цяжка ж мне з табою, Гольман.

Гольман

А мне, вы думаеце, з вамі лёгка?

Варановіч
*(чытае загад).*

Жыхарству Мінска і яго аколіц.
Загад. Таварышы! У Петраградзе
Уладу ў рукі ўзяў Савет рабочых,
Салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.
Балтыйскі флот і войскі гарнізона
Прызналі новы лад адзінадушна.
У сувязі з падзеямі ў сталіцы
Улада ў Мінску і яго раёне
Таксама пераходзіць да Саветаў
Рабочых і салдацкіх дэпутатаў.
Даводзячы да ведама аб гэтым,
Савет паведамляе грамадзян,
Што ім прыняты меры для аховы
Рэвалюцыйнага правапарадку
І ўстанаўлення цвёрдай дысцыпліны.

Мяснікоў

Загад патрэбна зараз жа расклеіць.

Гольман

Пайшлі, Яніна!

Петрашэўская

Цётка Міранок!

Таня

Ой, дзядзечка, і я!

Мяснікоў

Давай, Танюша.

Гольман, Петрашэўская, Міранок і Таня бяруць лістоўкі і накіроўваюцца да выхада. Уваходзяць Азорыч і Баравы.

Азорыч

Са святам вас, таварышы, са святам!

Петрашэўская

І вас таксама.

Міранок

Дзякуем.

Баравы

Са святам!

Мяснікоў

Ну, як, усё ў парадку, Баравы?

Баравы

Рэвалюцыйны Першы Мінскі полк
Гатоў служыць.

Мяснікоў

Узброены?

Азорыч

Не ўсе.

Мяснікоў

Заняць артылерыйскі склад
І ўзяць вінтоўкі там і кулямёты.
Узброеных па дваццаць чалавек
Даць у распараджэнне камісараў.
А камісарамі рэўкома раю:
Цябе, Тарас Іванавіч, у штаб,

На тэлеграф і пошту — Врановіч,
Макейчыка — на станцыю і вузел,
Высокава — у гарадскую думу.
Пярэчанняў няма?

Азорыч

Няма.

Мяснікоў

Патрэбна
Заняць у горадзе ўсе каравулы
І ў першую чаргу — усе пасты
У вызначаных мною установах.
Задачы ясныя? Тады за справу.

Азорыч

Пайшлі, таварышы.

Мяснікоў

Жадаю ўдачы.

Усе, апрача Мяснікова, выходзяць. Мяснікоў падыходзіць да тэлефона і пачынае накручваць ручку.

Мяснікоў

Ало! Што за хвароба! Сувязь! Сувязь!

Уваходзіць Цімчук.

Цімчук

Ну, вось і я! Дзень добры вам у хату!
Пазнаеце, таварыш Мяснікоў?

Мяснікоў

Як быццам пазнаю: Цімчук, ці што?

Цімчук

Цімчук, таварыш Мяснікоў, Цімчук.
Адседзеўся, хачу цяпер прайсціся.

Мяснікоў

Куды?

Цімчук

Пайду, куды вы скажаце.

М я с н і к о ў

У вёску трэба, падымаць сялян.

Ц і м ч у к

Ды гэта мы за мілую душу...

Убягае Т а н я.

Т а н я

Ай, дзядзечка!.. Таварыш Мяснікоў!
Лістоўкі нашыя зрываюць!

М я с н і к о ў

Хто?

Уваходзяць В і с к а в а т ы, Л е ш ч ы ц, Я н о ў с к і, К а ц м а н.

Т а н я

Вось гэтыя...

Ц і м ч у к

Вось гэтыя?!

В і с к а в а т ы

Ну-ну!
Не смей чапаць! Я — Камітэт
Выратавання рэвалюцыі.

М я с н і к о ў

Ідзі расклейвай, Танюша.

Т а н я

Ага,
Вы думаеце, я вас пабаюся!

М я с н і к о ў

Чым я магу служыць!

В і с к а в а т ы

Я старшыня,
А гэта нашы члены Камітэта
Выратавання рэвалюцыі.

М я с н і к о ў

Ужо і камітэт такі стварылі?

В і с к а в а т ы

Вы мне скажыце, што гэта такое?

М я с н і к о ў

Загад Савета Мінска нумар першы.

Я н о ў с к і

Падпісаны без ведама Савета?

М я с н і к о ў

Падпісан Выканаўчым Камітэтам.

К а ц м а н

Вы нагла карыстаецеся тым,
Што Выканаўчы Камітэт за вас.
Але ў Савеце ёсць яшчэ і мы,
І мы адсюль не выйдзем. Грамадзяне,
Прашу, сядайце!

М я с н і к о ў

Пасядзіце, што ж!
А я не маю часу на размовы.

Уваходзіць Р а б і н і н у суправаджэнні некалькіх к а з а к а ў і д р у ж ы н н і ц жаночага батальёна на чале з Л ю д м і л а й К у ч ы н с к а й.

Р а б і н і н

І вы не выйдзеце адсюль таксама!

Л ю д м і л а

І не скандальце, грамадзянін! Ясна?!

Ц і м ч у к

Таварыш Мяснікоў, махнуць?

М я с н і к о ў

Не трэба,
Я вас прашу пакінуць нас адных.

Цімчук

Шкада, я паказаў бы гэтай кралі!

*(Выходзіць.)*

Мяснікоў

Дык хто ж стаіць за вамі, Віскаваты?
Рабінін, значыць. І, відаць, Балуеў?
А я ўсё думаю і не рашу:
Адкуль у вас такі напор узяўся?

Лешчыц

Вы не жартуйце, пане дабрадзею.

Кацман

Вы узурпатары, вы самазванцы!

Мяснікоў

Чаго ж вы хочаце, панове «дэмакраты»?

Віскаваты

Вы захапілі ўладу незаконна.

Рабінін

І вы павінны адмяніць загад.

Мяснікоў

Не будзе так!

Убягае Варановіч.

Варановіч

Таварыш Мяснікоў,
Здымаюць нашы каравулы.

Мяснікоў

Хто?

*(Кідаецца да тэлефона.)*

Рабінін

Не клапаціся, провад перарэзан,
І горад у маіх руках. Мяркую,
Што вы цяпер адменіце загад?

Віскаваты

Я патрабую гэтага!

Мяснікоў

Дарэмна:
Мы нашага загаду не адменім.

Рабінін

Адменіце.

Убягае Азорыч.

Азорыч

Таварыш Мяснікоў,
У горадзе з'явіліся казакі,
На плошчы выстаўлены батарэі...

Рабінін

Калі загад не будзе скасаваны,
Я разнясу не толькі ваш Савет...

Азорыч цяпер толькі заўважыў усіх прысутных і зразумеў становішча. У голасе яго з'яўляецца горкая і злая іронія.

Азорыч

А, гэта вы, Рабінін! Нават з войскам?!
Вы любіце з такімі ваяваць!..

Віскаваты

Начальнікам над войскам буду я.

Азорыч

Які з цябе начальнік, баязлівец!
Табе каб хутарок, курэй выводзіць...
Эх, сволачы! Прадажныя найміты!
Тапчыце, подленькія вашы душы,
Тапчыце рэвалюцыю, казяўкі!

Віскаваты

Ну, ведаеце, гэта ўжо залішне!..
Апошні раз: мы патрабуем здацца!

Азорыч

Рэвалюцыйны Мінск не можа здацца!

Віскаваты

Мінск рэвалюцыі не вырашае,
А вырашаюць Піцер і Масква.

Рабінін

І калі вы не пойдзеце на здачу,
Я рушу войска на Маскву і Піцер.

Мяснікоў

Якія ж ставяцца умовы здачы?

Віскаваты

Зняць неадкладна вашы каравулы,
Рэвалюцыйны Мінскі полк раззброіць
І цалкам перадаць уладу нам.

Мяснікоў

Не, мы гатовы весці з вамі перамовы,
Калі і Камітэт выратавання
Не будзе пасылаць і прапускаць
Часцей на Петраград і на Маскву.

Рабінін

На гэтыя умовы мы не згодны.

Мяснікоў

Ну, што ж, мы вымушаны будзем біцца.

Віскаваты

Таварышы, да згоды. Мне здаецца,
Што папярэдне можна пункт прыняць...
З умоваю, што і Савет таксама
Не будзе з фронту выклікаць часцей.

Мяснікоў

Ну, што ж, мы на такіх умовах можам
Паслаць два чалавекі ад Савета
Для падпісання канчатковай згоды.

Рабінін

І мы даем на гэта вам гадзіну.

Віскаваты

Размовы нашы скончаны на гэтым.
Прашу за мною, члены камітэта.

Прадстаўнікі камітэта выходзяць.

Азорыч

Алёша, як жа так?

Мяснікоў

А што ж рабіць?

Азорыч

Здавацца? Ім? І ты сур'ёзна?

Мяснікоў

Так.
Ідзі, Марына, перадай людзям,
Няхай спакойна здымуць каравулы.

Варановіч

Я не пайду, таварыш Мяснікоў,
Калі б не вы сказалі, я лічыла б,
Што гэта здрада.

Азорыч

Гэта горш яшчэ!
Ты прапануеш мірна здаць уладу,
Заваяваную крывёй народа.
І здаць каму? — Буржуям і панам!
Такім памешчыкам, як сам Рабінін,
Або такім падпанкам, як Яноўскі.
Не, я з табой не згодны.

Варановіч

Я таксама.

Мяснікоў

А што ж вы прапануеце рабіць?

Азорыч

Змагацца да апошняга байца!
За намі фронт...

Мяснікоў

За намі, ды далёка.
Пакуль адтуль паспее дапамога,
Мінск разаб'юць, падымуць часці
І рушаць на Маскву і Петраград.
Ты разумееш? Трэба ратаваць
У першую чаргу Маскву і Петраград.

Азорыч

Няшчасны лёс, няшчасны мой народ!

Мяснікоў

Ідзі, Марына.

Варановіч

Добра, я пайду. *(Выходзіць.)*

Мяснікоў

А па дарозе Званскую пакліч.
Пакуль мы будзем весці перамовы,
Патрэбна тайна выехаць на фронт,
Узняць рэвалюцыйныя палкі
І, перш за ўсё, прыслаць бронецягнік.

Азорыч

Дык што ты на мяне глядзіш пытальна?

Мяснікоў

Заданне вельмі труднае, Тарас.

Азорыч

Заданне партыі не можа быць
Ні трудным, ні цяжкім, Алёша.

Мяснікоў

Я ведаю, але цяпер яно
Амаль што раўназначна смерці.
Калі ты пападзешся ў рукі контры,
Мы заступіцца за цябе не зможам.
Ты дзейнічаеш сам і за сябе.

Азорыч

Не бойся, я ім поваду не дам,
Каб затапіць крывёй народа Мінск.

Уваходзіць Званская.

Званская

Дазволіце зайсці?

Мяснікоў

Прашу, прашу.

Званская

Вы клікалі?

Мяснікоў

У нас ёсць просьба.
У земстве рамантуюцца машыны.
Вы можаце паслаць адну на фронт?

Званская

Я дакументы выпісаць магу...

Мяснікоў

А болей нам нічога і не трэба.
Шафёра мы свайго афармім, самі...
Вы пасядзіце тут, я зараз буду. *(Выходзіць.)*

Званская

Тарас, а хто з машынай едзе?

Азорыч

Я.

Званская

І гэта небяспечна?

Азорыч

Не!.. Не вельмі.

Званская

Ты мне ніколі не гаворыш праўды.

**А з о р ы ч**

Бо ты яе ўжо ведаеш.

**З в а н с к а я**

Аб чым?

**А з о р ы ч**

Аб тым, што я люблю цябе, люблю!
І гэтай праўдай, вечнай і нязменнай,
Я жыў, жыву і з ёю і памру.

**З в а н с к а я**

Каханы мой, не гавары пра смерць.
Калі ты будзеш верыць у жыццё
І будзеш помніць, што цябе чакаюць...
Ты вернешся...

Уваходзіць М я с н і к о ў.

**М я с н і к о ў**

Ну вось, усё гатова.
Бяры дакумент і бывай, мой друг.

**А з о р ы ч**

Бывай, Алёша. Да спаткання, Ксеня.

**З в а н с к а я**

Бывай і помні, што цябе чакаюць.

**М я с н і к о ў**

Ад поспехаў тваіх залежыць лёс
Не толькі горада, а ўсёй краіны.
Калі Масква і Піцер перамогуць,
Дык пераможа й Мінск. Святло з усходу
Залье сваім праменнем цэлы свет.

## МАЛЮНАК ДЗЕВЯТЫ

Пасажырская зала першага класа на Віленскім вакзале ў Мінску. Проста перад гледачом на перон выходзяць два паўкруглыя высокія акны, а злева ад іх такія ж паўкруглыя і напалову шкляныя дзверы. Другія дзверы, у правай сцяне залы, вядуць у пакой дзяжурнага па станцыі, а трэція, у левай сцяне,— у вестыбюль вакзала. Зала абсталявана па-вакзальнаму казённа. Але ў прасторным кутку, паміж дзвярыма на перон і дзвярыма ў пакой дзяжурнага, простая цвёрдая мэбля і пара мяккіх крэслаў расстаўлены так, што яны ўтвараюць даволі ўтульную, асобную ад усёй залы мясціну. У зале пуста і ціха. Толькі каля дзвярэй на перон сядзіць адзінокі дзядзька Хораш, ды за сцяной, у пакоі дзяжурнага, бесперапынку стукоча тэлеграф.

Х о р а ш

Крычалі, плакалі, раўлі, і вось —
Як вымерла! Адно без перапынку
І дзень і ноч стукоча тэлеграф.
Нядобрым скончыцца такая ціш...

*(Падыходзіць да дзвярэй дзяжурнага пакоя.
Прыслухоўваецца да работы апарата і
ўголас чытае па тэлеграфнай азбуцы.)*

Э-ша-эл-о-эн-ы... Э-ша-ло-ны...
Эм-эс-ка-вэ... Ма-скве... Чэ-тэ-вэ-тэ.
Чэ-тэ-вэ-тэ?.. Не разумею. Глух.
Не чую ўжо. А некалі ў салдатах
Нядрэнны быў тэлеграфіст. А-дэ...

Уваходзіць З в а н с к а я.

Х о р а ш

А вам куды, паненка?

З в а н с к а я

На перон.

Х о р а ш
Няможна, забаронена.

З в а н с к а я
Скажыце,
А з фронту будуць цягнікі сягоння?

Х о р а ш
Хто ведае, цяпер няма раскладу.

З в а н с к а я
*(садзіцца ў задуме на лаўку).*
Хоць бы якая вестка ад яго!

Уваходзяць М я с н і к о ў і В ы с о к а ў. Званская кінулася да Мяснікова.

Таварыш Мяснікоў!

М я с н і к о ў
Вы тут ізноў?
Ідзіце, вам не месца тут. Ідзіце...

Праводзіць Званскую да выхада.

В ы с о к а ў
Дзе Баравы?

Х о р а ш
З Язэпам.

В ы с о к а ў
Пазавіце.

Х о р а ш выходзіць на перон і вяртаецца адтуль з Б а р а в ы м і М а к е й ч ы к а м.

В ы с о к а ў
Ну, што чуваць?

Б а р а в ы
Усё ў парадку.
Ніводзін эшалон на гэты час
Не быў адпраўлены.

М я с н і к о ў

А тыя два?

М а к е й ч ы к

Затрыманы абодва сёння ў Оршы.

М я с н і к о ў

Трымайцеся, таварышы. Ад нас
Залежыць вельмі шмат.

В ы с о к а ў

Калі стрымаем,
Не пусцім на Маскву і Петраград
Часцей контррэвалюцыі адгэтуль,
Аўксенцьевы і Гоцы задыхнуцца,
Мы скруцім Камітэт выратавання.

М я с н і к о ў

А мы пакуль што будзем і далей
Зацягваць з імі перамовы
І падымаць на іх Заходні фронт.
Час перамогі блізка. Гарнізон
Штодзень становіцца на бок Саветаў.
Калі ж мы атрымаем помач з фронту —
Рабініным і Віскаватым смерць.
Трымайцеся.

М а к е й ч ы к

Таварыш Мяснікоў,
Рабочыя чыгункі не здадуцца.

Б а р а в ы

І першы Мінскі полк таксама.

М я с н і к о ў

Дзякуй.
Калі якія здарацца падзеі,
Паведамляйце неадкладна.

Б а р а в ы

Добра.

Мяснікоў і Высокаў выходзяць.

Макейчык

Ты, Хораш, чуў? Глядзі, суседзе мой.

Хораш

Не бойся, я гляджу, Язэп, гляджу.

Макейчык

Пайшлі, таварыш Баравы.

Баравы

Пайшлі.

Макейчык і Баравы выходзяць.

Хораш

Чацвёрты дзень на лініі застой.
От нехрысці, няма на іх канца!

Уваходзяць Віскаваты і Рабінін у суправаджэнні дружынніц на чале з Кучынскай.

Рабінін

Любой цаной саставы трэба рушыць.
Бяспечнасць ваша можа загубіць.
Найболей верныя палкі і тыя
Становяцца на бок бальшавікоў.

Віскаваты

Я пакажу ім, сукіны сыны!..

З пакоя дзяжурнага выбягае з тэлеграмай Яноўскі.

Яноўскі

Іван Ігнатавіч, дэпеша з Стаўкі.

Віскаваты

Чытай! *(Садзіцца ў крэсла.)*

Яноўскі
*(чытае).*

Усерасійскі Камітэт
Выратавання бацькаўшчыны нашай

Звяртаецца да арміі і просіць
Прыслаць хоць па адным палку пяхоты.
Любымі сродкамі і неадкладна
Даставіць часці ў Гатчыну і Лугу.
Уся адказнасць за невыкананне
Падзе на вас.

Віскаваты

А хто падпісан там?

Яноўскі

Падпісан Керанскі, Аўксенцьеў, Гоц.

Віскаваты

Пара настала. Дзейнічай, Рабінін.
Бяры адданых, верных нам салдат
І — з богам!

Рабінін

Слухаю. *(Выходзіць.)*

Віскаваты

А ты, Яноўскі...
Што там за гоман?

Людміла

Просяцца да вас.

Віскаваты

Пусці!

Уваходзяць пані Вайніловіч, Лешчыц, Кацман.

Вайніловіч

Шаноўны пане Віскаваты!
Я выязджаю з горада, і я
Прашу дазволіць мне сказаць два словы.
У гэты грозны час выпрабаванняў
Расія ўся глядзіць на вас з надзеяй.
Няхай жа вам дапамагае бог
У вашым подзвігу ў імя Радзімы.

Віскаваты

Як некалі вядомы князь Пажарскі,
Я на сябе бяру цяжар улады
Не для ўзвышэння самаго сябе.
Але за пажаданні вашы, пані,
Я шчыра дзякую.

Уваходзяць Балуеў і Даўнарскі.

Балуеў

Што тут за мітынг?

Віскаваты

Даруйце, генерал!

Балуеў

Рабінін тут?
Паклічце.

Віскаваты

Ёсць! Рабінін!

Рабінін

Я.

*(Выходзіць з дзяжурнага пакоя.)*

Балуеў

Антон Міхайлавіч, ратуйце справу.
З раз'езда Хвоева ў кірунку Мінска.
Ідзе бронецягнік.

Рабінін

Не можа быць!
Там нашы афіцэры.

Балуеў

Афіцэры
І машыніст арыштаваны.

Віскаваты

Жах!

Б а л у е ў

Цягнік вядзе фельдфебель-бальшавік.

В а й н і л о в і ч

Ой, божа мой! Ён зараз будзе тут. *(Выбягае.)*

Р а б і н і н

Без панікёрства! Члены камітэта,
Насустрач трэба выслаць дэлегатаў
І што б там ні было цягнік спыніць.
Хто згодзен выехаць?

Я н о ў с к і

Я не прамоўца.

В і с к а в а т ы

Няма такіх? Тады, як старшыня,
Я буду прызначаць. Вінцэнты Лешчыц...

Л е ш ч ы ц

Чаму, мой пане дабрадзею, я?
З бальшавікамі трэба гаварыць
Не словам, пане мой, а кулямётам.
Але, калі патрэбна, я паеду.

В і с к а в а т ы

Таварыш Кацман? Вы?

К а ц м а н

Калі паедуць...

В і с к а в а т ы

Ну, вось і добра. Возьмеце яшчэ
Двух-трох ваенных членаў і — айда.

Р а б і н і н

Яноўскі, дайце ім дразіну.

Я н о ў с к і

Добра.

Я н о ў с к і, Л е ш ч ы ц і К а ц м а н выходзяць.

Рабінін

Надзеі мала... Эх, ваяка вы!
Праз вас!

Віскаваты

Яшчэ не позна. Генерал,
Прашу вас падтрымаць мяне.

Балуеў

А чым?
Калі ў цябе няма надзейных войск,
Дык у мяне тым болей іх няма.
Нядаўна ў штаб з'явіліся салдаты
І нада мной паставілі кантроль.
Я генерал без арміі.

Віскаваты

Няпраўда!
За намі пойдуць тысячы салдат.
Мяне на ўсім Заходнім фронце знаюць.

Уваходзіць Яноўскі.

Яноўскі

А ў Мінскім гарнізоне — ні адзін.
Пасланых намі зараз дэлегатаў
Арыштавалі нашыя ж салдаты.
Цягнік мінае Фаніпаль.

Рабінін

Ну, вось!

Яноўскі

Цяпер патрэбна цвёрдая рука,
І нават не Аўксенцьева, а Гоца.

Рабінін

Не! К чорту ваша згодніцтва з Саветам!
Дазвольце мне машыну, генерал!

Балуеў

Прашу вас, пан Рабінін, калі ласка.

Людміла

Куды, старая качарга? Назад!

Але пакуль Кучынская падбегла да дзвярэй, Хораш ужо быў на пероне.

Рабінін

Мы выскачым з Даўнарскім на раз'езд,
Развернем рэйкі, узарвём масты
І браняпоезд пусцім пад адкос.

З перона ўбягаюць Званская і Хораш.

Званская

Шалёны вырадак!

Рабінін

А, гэта вы?!
Пазнаеце мяне? Якая радасць
Напісана цяпер на вашым твары!
Прашу, не пакрыўдуйце толькі:
Я разлічуся з вамі да астачы!
За мной, дружыннікцы! За мной, казакі!
Мы прыйдзем з перамогаю. За мной!

Усе, апрача Званскай і Хораша, выходзяць. Праз момант на вуліцы пачулася сірэна машыны, а яшчэ праз момант пачалася страляніна.

Званская

Павезлі смерць і вынішчэнне. Божа!
Няўжо ж цяпер усё?

Хораш

Не галасі.
Я наказаў праз хлопца Мяснікову.
Ён дасць ратунак нейкі, быць не можа!
Пастой... Паслухай вухам маладым:
Ці я не чую, ці стральба заціхла?

Званская

Заціхла.

Хораш

То-та ж што, а ты галосіш!
Шкада глядзець на вас, на далікатных.

Уваходзяць Мяснікоў і Ліпавец.

Мяснікоў

Ну, як, таварыш Ліпавец?

Ліпавец

Парадак.
Машына загадала доўга жыць.

Мяснікоў

А як там у Высокава?

Ліпавец

Няважна.
Казакі не здаюцца.

Мяснікоў

Гэта горш.
Ну, што ж, паклічце камандзіраў.

Ліпавец

Ёсць. *(Выходзіць.)*

Хораш

*(да Званскай).*

Вось бачыш, я ж казаў, паслаў хлапца.

Уваходзяць Мелех, Макарэвіч, Ліпавец і Варановіч.

Макарэвіч

З'явіліся па вашаму загаду.

Мяснікоў

Таварышы, казакі не здаюцца.
Каб забяспечыць цягніку пуці,
Заваяваць іх трэба сілай зброі.
Ты, Макарэвіч, з ротай зоймеш пляц,

Абараняючы вакзал з фасада.
Вы чуць правей, таварыш Мелех.

Мелех

Ясна.

Мяснікоў

А ты, таварыш Варановіч, злева.
Пайшлі, сябры.

Званская

Таварыш Мяснікоў,
Дазвольце мне таксама ўзяць вінтоўку.

Мяснікоў

Таварыш Мелех, выдаць Званскай зброю!

Усе, апрача Хораша, выходзяць за Мясніковым.

Хораш

А я ізноў адзін на ўвесь вакзал.
Ані званкоў табе, ані білетаў...
Чакай! Ці апарат, ці страляніна?
Не, апарат... І што ён там дзяўбе?

Накіроўваецца ў пакой дзяжурнага, але раптоўна блізкі стрэл перапыняе яго на паўдарозе.

Цьфу ты, каб ты аглух! Такі ж страляюць.

Рассыпаецца доўгая кулямётная чарга, і ўсё ізноў заціхае, толькі ўсё гэтак жа аднастайна стукае тэлеграфны апарат.

Хораш

Ну, вось і ўсё. А ён дзяўбе, як дзяцел.
А ну-тка гляну, што ты там друкуеш.

Ідзе ў пакой дзяжурнага і праз нейкі момант варочаецца з тэлеграфнай стужкай. Дастае акуляры, сядлае імі нос і чытае.

«Тэлеграфуем з першага раз'езда.
Бронецягнік ідзе на Мінск. Азорыч».
Пяць кіламетраў засталося. Чулі?
А ну-тка, дзядзька Хораш, дай званок.

Ды зазвані, як не званіў ніколі.
Ты абвяшчаеш людзям перамогу.

Выходзіць на перон. Зноў пачынаецца — і вельмі блізка — страляніна. У залу ўбягаюць Віскаваты і Яноўскі.

Віскаваты

Канец!.. Канец, Яноўскі, нашым марам!
Давай у горад, тут нам небяспечна.

На пероне чуецца часты і моцны званок. Адначасова з ім у залу ўрываюцца Цімчук, Макарэвіч, Мелех і інш.

Яноўскі

Я гаварыў, што Гоц і толькі Гоц...

Цімчук

Не пераскочыў — не кажы і гоц!

Віскаваты

Назад, Яноўскі! На перон! Сюды!

Кідаюцца да дзвярэй на перон, але адтуль у залу ўрываюцца Баравы, Макейчык і іншыя.

Баравы

А ну, здавайся, контра!

Віскаваты

Паміраю.

*(Падае непрытомны ў крэсла.)*

Баравы

Эх, і слабыя ж нервы ў небаракі.

Уваходзіць Мяснікоў.

Раззброіць іх і вывесці адгэтуль.

Убягае Званская.

Званская

Таварышы, бронецягнік!

Усе

Ура!

У зале збіраюцца рабочыя, салдаты, жанчыны — усе, хто сваім словам і справай каваў перамогу. Людзі кідаюцца да акон і дзвярэй і шырока расчыняюць іх на перон. Увіты зелянінаю і чырвонымі палотнішчамі, цяжка грукаючы коламі, прыходзіць бронецягнік. А з о р ы ч проста цераз акно кідаецца ў абдымкі Мяснікова, Званскай, Высокава — усіх, хто яму трапляецца. Салдаты і рабочыя абдымаюцца і цалуюцца. Высокаў паціскае руку Валошыну.

В ы с о к а ў

Вялікі дзякуй вам, вялікі дзякуй!

М я с н і к о ў

Таварышы рабочыя й салдаты!
Вы праявілі ў барацьбе за волю
Яшчэ небачаны ніколі гераізм,
І рэвалюцыя перамагла.
Ад гэтых дзён для вольнай Беларусі,
Як і для ўсёй Расіі, наступае
Вялікая эпоха камунізма.
Яе, на шчасце нам і пакаленням,
Адкрыла партыя бальшавікоў,
Вялікі сын і правадыр народа
Таварыш Ленін.

1946—1957 гг.

# НАД БЯРОЗАЙ-РАКОЙ

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Сярго Арджанікідзе — член Рэўваенсавета 16-й арміі.
Тарас Іванавіч Азорыч — камісар чырвонаармейскай часці.
Наста — яго маці.
Тацяна Марыч — маладая дзяўчына, сірата, Азорычава выхаванка.
Адась Валошын — рабочы-чыгуначнік, камандзір атрада абароны.
Даніла Карабан — матрос, памочнік камандзіра атрада.
Сімха Штэйнар, Васіль Шчырэц — байцы атрада абароны.
Баяновіч — камандзір чырвонаармейскай брыгады.
Макарэнка, Кузьмін, Нічыпар Мелех, Алёшка Семізвон — чырвонаармейцы.

Сёмка Бегунок — местачковы бабыль.
Алена — жонка Васіля Шчырца.
Нохім — бацька Сімхі Штэйнара.
Зяма — хлапчук, сын Сімхі Штэйнара.
Марыся — маці Данілы Карабана.
Казімер Бэсман — начальнік разведкі чырвонаармейскай часці.
Баніслаў Свідэрскі — капітан польскай арміі.
Дамброўскі — палкоўнік польскай арміі.
Дамейка — камандзір чырвонаармейскага батальёна.
Ксаверы Стрыж — вясковы стараста.
Матрона Ксаверыха — яго жонка.
Мікола — іхні сын, настаўнік.
Тэкля — местачковая баба.
Сержант польскай арміі.
Сяляне, чырвонаармейцы, партызаны, жабракі, легіянеры.

Дзея адбываецца на Барысаўшчыне пад восень 1919 года, у час вайны з белапанскай Польшчай.

## АКТ ПЕРШЫ

### МАЛЮНАК ПЕРШЫ

Ускраіна невялікага мястэчка. Справа на ўзгорку — бедная адзінокая сяліба, каля яе ў лагчыне — студня. Злева — у поле ідуць старадаўнія ліпавыя прысады. Дзесьці блізка за мястэчкам — бой: стракочуць кулямёты, грымяць вінтовачныя залпы. Прысадамі брыдуць бежанцы, раненыя чырвонаармейцы і партызаны. З хаты выходзяць Адась Валошын і Даніла Карабан.

Валошын

Пакінь пра гэта нават гаварыць!
Ты зразумей, што наша адступленне
Аголіць фланг дзевятага палка,
Адкрые ворагу шляхі ў Барысаў.
А варта ім прабрацца за Бярозу,
Як просты ход на Оршу і Смаленск.
Вось для чаго Сярго Арджанікідзе
І загадаў: Барысаў і Бярозу
Абараняць, наколькі хопіць сіл.

Карабан

І гэтых сіл у нас ужо няма:
Наспех згуртаваны адзін атрад
Не затрымае рэгулярнай часці.
І лепей біць у лоб ці адступіць.

Валошын

Нам дапамогу дасць дзевяты полк.
Трымацца трэба, Карабан, зубамі.

Карабан

Пакуль апошняга не выб'юць зуба,
Папробуем трымацца, камандзір.

Уваходзіць ранены баец.

Валошын

Ну што?.. Ты ранены?..

Баец

Полк адступіў...
Учора Рудню занялі паны.

Валошын

Не можа быць! Адкуль жа там паны?

Карабан

Цяпер адна надзея на Барысаў.

Баец

Гавораць, і ў Барысаве паны.

Валошын

Хлусня! Учора горад быў у нас.
Барысава без бою не здадуць.

Баец

Ратуйце лепш... людзей... *(Падае мёртвы.)*

Валошын

Памёр?

Карабан

Памёр.

Валошын

Нясіце пахавайце.

Мёртвага выносяць.

Карабан

Камандзір,
А што, калі Барысаў паў сапраўды?

Валошын

Тады дарэмна губім мы людзей.

Уваходзіць ледзь жывая Тацяна.

Т а ц я н а

Адась!..

В а л о ш ы н

Тацяна? Ну, Барысаў наш?
Падмога будзе нам? Чаго ж ты плачаш?

Т а ц я н а

Хіба я плачу? Не...

В а л о ш ы н

А слёзы?

Т а ц я н а

Слёзы? *(Рыдае.)*

В а л о ш ы н

Ды ты не плач, а гавары хутчэй!

Т а ц я н а

Барысаў... занялі белапалякі.

В а л о ш ы н

Дык, значыць, праўда!

К а р а б а н

Што ж цяпер рабіць?

Убягае С і м х а Ш т э й н а р.

С і м х а

Таварыш камандзір, давай патроны.

В а л о ш ы н

Патронаў больш няма.

С і м х а

А полк?

В а л о ш ы н

Полк адступіў, нас абышлі кругом.

Карабан

*(выхапіўшы гранату і рвануўшыся ісці).*

Не, я жыўцом не здамся ім ніколі!
Я напралом пайду і лепш загіну...

Валошын

*(стрымліваючы Данілу Карабана).*

Не вар'яцей! Загінуць вельмі лёгка,
Падумай лепш, як ратаваць людзей.

Карабан

Усё загінула...

Валошын

Яшчэ не ўсё.
У нас яшчэ адзін застаўся шлях:
Прабіцца на балота, у лясы
І пробавацъ адтуль прайсці да нашых.
Бяры, Даніла, зараз жа людзей
І адступай. Я з часткаю атрада
Прыкрыю з тылу ваша адступленне.
Спяшайце.

Карабан і Сімха

Слухаем! *(Выходзяць.)*

Валошын

А ты, Тацяна...

Тацяна

Я слухаю цябе, Адась.

Валошын

Ды не,
Рызыкаваць тваім жыццём няможна.

Тацяна

Я застануся тут.

В а л о ш ы н

Не дазваляю!
Збірайся зараз жа і пойдзеш з намі.

Т а ц я н а

Я не магу пайсці.

В а л о ш ы н

Чаму не можаш?

Т а ц я н а

Ты ж ведаеш, што на маіх руках
Нядужая Азорычава маці.
А для мяне Азорыч — быццам брат:
Ён выхаваў мяне, памог вучыцца,
І за дабро я заплачу дабром.

В а л о ш ы н

Дарма! Азорыч так не разважае:
Сам адступіў, а нас, нябось, пакінуў.

Т а ц я н а

Калі Тарас Іванавіч жывы,
Я ведаю, ён дапаможа нам!

В а л о ш ы н

Надзеі марныя! Нам вельмі цяжка,
І страшна мне цябе адну пакінуць.
Ты ведаеш, чым гэта пагражае?

Т а ц я н а

Я буду асцярожная.

В а л о ш ы н

Тацяна,
Я гавару пра гэта назнарок.
Нам трэба тут пакінуць чалавека.
Калі ты не спужаешся застацца —
Тады я дам табе прыпаручэнне.

Т а ц я н а

Які ты недаверлівы, Адась!

Валошын

Збяры дакладныя, як можна, весткі,
Якія будуць часці, колькі сіл,
І перадай, калі сустрэнеш нашых,
Куды, калі і як мы адступілі.
Без вестак ад цябе — нам некуды ісці.

Тацяна

Я ўсё зраблю, Адась... А ты глядзі,
Любі мяне, як ты любіў заўсёды,
Успамінай у вольныя хвіліны,
Што я адна, сумую па табе.

Валошын

Тацяна, я цябе магу забыць
Хіба тады, як анямее сэрца.
А покуль я змагаюся, жыву —
Ты будзеш жыць са мной у кожнай думцы.
І вер, настане некалі часіна,
Калі мы зноў спаткаемся з табой.
Я буду гладзіць валасы твае,
Глядзець у вочы сінія, як неба,
І гаварыць аб шчасці. Помні ж, Таня,
Калі з табою здарыцца што-небудзь,
Мне будзе вельмі цяжка і балюча.
Бывай!

Тацяна

Бывай і беражы жыццё!

Убягае Алена.

Алена

Дзе камандзір? Чаго ж вы стаіцё?
Раты разявілі сабе й стаяць...
Параненых жа трэба адпраўляць.

Валошын

Пра гэта мы і гутарым, Алена.
Ідзіце й падрыхтуйце іх.

Алена

Ах, божа!

І колькі іх сягоння паглумілі,
Здаровых, маладых... Хадзем, Тацяна!

Тацяна выходзіць. Алена на момант затрымліваецца.

А мой жа там стары жывы?

Валошын

Жывы.

Алена

Скажы яму, няхай не вельмі лезе,
Але няхай не вельмі й паддаецца,
Няхай трымаецца. *(Выходзіць.)*

Валошын

Карысці мала.
Ні зброі, ні людзей... Эх, падвялі!

Выходзіць. Да студні з вёдрамі падыходзіць Тэкля.

Тэкля

Вось навіна дык навіна,
А расказаць каму й няма!
Э! Сёмка Бегунок ідзе.
Вы не чулі?

Сёмка

Што?

Тэкля

Не чулі?!
Весці дрэнныя лятаюць:
Кажуць, нашых падманулі,
Кажуць, нашы адступаюць.

Сёмка

Хто сказаў, што адступаюць?
Пэўна бабы байкі баюць.

Уваходзяць зморaныя партызаны.

Шчырэц

Ох, стаміўся, хоць напіцца,
Дай нам, Тэклечка, вадзіцы.

Партызаны прагна п'юць ваду. Ля студні збіраюцца сяляне.

Сёмка

Праўда, хлопцы, ваша войска
Не пакіне нашай вёскі?

Шчырэц

Дзе там нам ужо змагацца,
Каб хоць як уратавацца!

Сімха

Ай, ваяка-небарака,
Перастань ты ныць і плакаць!

Уваходзіць Даніла Карабан.

Карабан

Гатовы?

Сімха

Гатовы, вядзі, Карабан,
Пакуль не апаў на дарогі туман.

Карабан

Нам трэба да ночы дайсці да балот,
Дарога благая, і трудны паход.
Спяшайцеся ж, хлопцы, не гутарце шмат,
Цалуйце бацькоў і каханых дзяўчат.
Бывайце, старыя, маўклівыя хаты!
Бывай, мая маці! Бывайце, дзяўчаты!

Марыся

А куды ж вы ад нас адлятаеце?
На каго ж вы нас пакідаеце?
А хто ж нашы палоскі ўзарэ,
А хто ж нашы нівы ўбярэ,
Хто нашы вочы пяском прысыпле?

Карабан

Не плачце, мы прыйдзем,
мы вернемся к вам.
І гэтых вось слёз не даруем панам.

Байцы развітваюцца і адыходзяць. Нехта дзесьці заспяваў. Яго падхапілі другія, і пакацілася журботная, але магутная песня. Песня паволі аддаляецца. Байцоў праводзяць сяляне. Апошнімі ідуць Тэкля, Васіль Шчырэц, Алена, Сімха Штэйнар, Нохім, Зяма і Тацяна.

Шчырэц

Ты, значыць... гэта... беражы сям'ю.

Алена

Пра нас не думай, а глядзі свайго.
На, хлеба хоць вазьмі. От чалавек!

Сімха

Ну, Зяма, будзь, сынок, гаспадаром...
І дзеда слухайся. Бывайце, бацька!

Нохім

Шчасліва, сыне мой!

Сімха

Хадзем, Шчырэц!

Шчырэц

Ды я вось з бабай не дайду ладу.

Алена

Васіль, не гавары чаго не трэба.

Сімха

І не забудзься, што цябе чакаюць.

Сімха, Нохім і Зяма выходзяць.

Тэкля

А божа ж мой, і я ж забыла,
Што мне Матрона гаварыла
Усё разведаць і дазнаць.
Ну, пабягу ж ёй расказаць.

*(Шпарка бяжыць у мястэчка.)*

Шчырэц

Я гавару табе, Алена, слушна:
Не забывайся замыкаць гумна...

Алена

А божа мой, калі ты гэта скончыш?
Нібы ў яго вялікае багацце!

Шчырэц

Якое ёсць, і тое можа згінуць.
Бывай здарова!

Алена

Будзь і ты здароў!

Выходзяць. Застаецца адна Тацяна.

Тацяна

Вось і адзінокая... Дзе ж вы, хлопцы, дзе?
Труднымі дарогамі доля вас вядзе.
З кім я прывітаюся, як не будзе вас?
Дзе я з вамі стрэнуся ў гэты цяжкі час?
А ні смеху ветлага, а ні ветлых слоў
Я ад вас увечары не пачую зноў.
Ціхая, самотная буду скрозь блукаць,
Пра свайго каханага стану ўспамінаць.
А ці ён паранены у баях ідзе,
Ці яго забітага пахавалі дзе.
Сэрца адзінокае апануе сум,
І ніхто не ўзрадуе, не развее дум.

У задуменні садзіцца на ўзмежку дарогі. Праз момант паказваецца Матрона Ксаверыха і Тэкля.

Тэкля

Няма... А вунь, глядзі, засумавала!

Ксаверыха

Нябось, цяпер ёй горка стала.

Тэкля

Не дзіва, быўшы партызанкай
І камісарскай выхаванкай.

Ксаверыха

Якая чорта выхаванка!
Яна была яго каханкай.

З мястэчка з бел-чырвона-белай павязкай на рукаве бяжыць узбуджаны Мікола Стрыж.

Мікола

А вы чаго тут? Смерці захацелі?!

Ксаверыха

Сынок!.. Мікола!

Мікола

Марш адгэтуль, маці.

Ксаверыха і Тэкля выбягаюць. Мікола заўважыў Таццяну.

Мікола

Вы? Гэта вы? Вось не чакаў... Ані!
Дык, значыць, засталіся? Не паспелі?

Таццяна

Я й не спяшалася нікуды.

Мікола

Што?
Ах, кінулі! Вас кінулі? Ну, так?

Таццяна

Не ваша справа, Стрыж.

Мікола

Чакайце, што вы?
Я цэлы год ганяюся за вамі.

Таццяна

Настаўнік, а займаецеся глупствам.
Адстаньце вы!.. Я ненавіджу вас.

Мікола

Не, выслухайце да канца. Я знаю,
Што вы не любіце мяне. І я

Не дамагаюся ад вас кахання.
Але... але я не дазволю вам
Быць здрадніцай і прадаваць краіну.

Т а ц я н а

Заявіце уланам?

М і к о л а

Заяўлю.
Падумайце і помніце, Тацяна,
Што я, дзеля майго да вас кахання,
Заўсёды буду рад вам памагчы.

Т а ц я н а

Мне не патрэбна вашай дапамогі:
Мяне абараняе мой народ. *(Выходзіць.)*

М і к о л а

Цяпер ты будзеш у маіх руках,
А после звыкнешся і пакахаеш.

Выходзіць. Страляніна ўзмацняецца. На чале з В а л о ш ы н ы м, адстрэльваючыся, цераз дарогу перабягаюць апошнія п а р т ы з а н ы. Праз момант каля адзінокай сялібы з'яўляецца некалькі ж а ў н е р а ў з кулямётам і М і к о л а С т р ы ж. Ён паказвае белапалякам, у якім кірунку пабеглі партызаны. Выбух гарматнага снарада пылам і дымам засціլае ўсё далейшае. Калі ж гэтая заслона знікае, мы бачым, што на ўзгорку каля разбуранай сялібы стаіць ужо капітан С в і д э р с к і і перад ім натоўп маўклівых сялян, ачэплены кругом белапольскімі салдатамі.

С в і д э р с к і

Па-першае, я мушу вам зазначыць,
Што я люблю вясёлы гоман, шум
І мілыя, прыветлівыя твары.
Пасля... Ага, нарэшце, з хлебам-соллю...

Уваходзяць М а т р о н а і К с а в е р ы С т р ы ж.

К с а в е р ы

Дазвольце, пане, прывітаць,
Хлеб-соль з пашанай перадаць.
Дай бог, каб вы запанавалі,
Ніколі б мы бяды не зналі.

Свідэрскі

Дзенькуе вам за соль, за хлеб,
Але нам мала для патрэб;
Павінны мець мае жаўнеры
І хлеб, і мяса, і кватэры.

Ксаверы

Усё, усё, паночак, будзе.
Вось толькі... ёсць благія людзі.

Свідэрскі

Перапішы мне ўсіх западазроных.

Мікола

Аб гэтым з паважаным капітанам
За гонар меў бы гаварыць я сам.

Свідэрскі

Ага, я разумею пана... Добра!

Алена

Нячыстая вы сіла!

Жаўнер

Цыц, баба, цыц!

Свідэрскі

Чаго вы, людзі, крычыце? Цішэй.
Я з вамі гутарыць хачу паціху.
Збярыце мне пудоў паўсотні мяса,
Аўса пудоў чатырыста, пшаніцы
І пойдзеце, як добрыя суседзі.

Сёмка

Дай хлеба ды гуляй колькі трэба.

Свідэрскі

А ты вясёлы, я такіх люблю.

Сёмка

Трэба жыць, як набяжыць.

С в і д э р с к і

Дык чулі, людзі, мой загад пра хлеб?

А л е н а

А дзе ж яго, скажы, панок, узяць?

С в і д э р с к і

А тым, бальшавікам, адкуль вы бралі?

С ё м к а

За Саса было хлеба і мяса,
А прыйшоў Панятоўскі —
Стаў хлеб не такоўскі.

С в і д э р с к і

Я — чалавек спакойны вельмі і вясёлы.
Але мяне, стары, у злосць не ўводзь.

С ё м к а

*(паказваючы ўгару на неба).*

Бога хвалі, дый чорта не гняві!

С в і д э р с к і

*(убачыўшы на дрэве чырвоны сцяг).*

А гэта што яшчэ?

А л е н а

А гэта сцяг.
Ці пан такі стары, што не дабачыць?

С ё м к а

Чырвоны колер вока коле,
А мужыку, што чырвона — то й хараша.

С в і д э р с к і

Зняць зараз жа, зняць, лайдакі!

З я м а

Давай!

Нашто дабром мазоліць пану вочы.

*(Спрытна ўзлазіць на дрэва.)*

Н о х і м

Унучак!

С ё м к а

Добра, сынку!

С в і д э р с к і

Сукін сын!

Арыштаваць усіх, хто тут крычаў.

К с а в е р ы

Усё, усё, паночак, добра будзе.

С в і д э р с к і

Ну, марш, нясіце хлеб і мяса, людзі!

Л ю д з і разыходзяцца. Намерыўся выйсці і Свідэрскі, але яго запыняе сержант.

С е р ж а н т

Пан капітан, дазорцы нашы
Ля магазінаў местачковых
Злавілі нейкіх двух вайсковых.

С в і д э р с к і

Бальшавікі?

С е р ж а н т

А мы не знаем.

С в і д э р с к і

Адвесці ў штаб, там дапытаем.

С в і д э р с к і выходзіць. Тацяна, пачуўшы размову, затрымалася.

Т а ц я н а

Каго ж бы там яны спаймалі?
А можа, нашыя адсталі?

Праводзяць А з о р ы ч а і Б э с м а н а.

Тарас Іванавіч? Азорыч!

С е р ж а н т

Вам што, знаёмы з іх каторы?

А з о р ы ч

Мы вас не ведаем, не знаем...
З Барысава дарэмна адышлі.

С е р ж а н т

Прэч адыдзі! У штаб яго, у штаб!

А з о р ы ч а і Б э с м а н а выводзяць.

Т а ц я н а

На смерць, на ганьбу павялі
І слова не далі сказаць...
А што хацеў ён перадаць?

Уваходзіць Н а с т а.

Н а с т а

Ты тут? А я цябе шукаю...
Чаго сумуеш?

Т а ц я н а

Гора душыць.

Н а с т а

Не выплачаш, Тацяна, слёз,
Маліся лепш, каб грэшных душы
Да неба бог святы данёс.

Т а ц я н а

Маліцца мне? За што? За слёзы?
За здзек? За гора і за кроў?

Н а с т а

Маліся за няшчасных мёртвых,
Забітых тут тваіх сяброў,
За Тараса...

Т а ц я н а

Яму да бога
Няма патрэбы на зямлі.

Н а с т а

Тацяна!

Т а ц я н а

Гэтаю дарогай
Яго уланы павялі.

Н а с т а

Што ты гаворыш?.. Божа, божа,
Што ж мне рабіць? Што дзеяць мне?
Ісці прасіць?

Т а ц я н а

Не дапаможа,
Іх сэрцаў просьба не кране.

Н а с т а

Тарас... Ратуй яго, Тацяна!

Т а ц я н а

Цішэй!

Н а с т а

Прашу цябе, малю...

Т а ц я н а

Не плачце, бедная, не плачце.
Я ўсё, што здолею, зраблю.
Я пабягу ў атрад да хлопцаў,
Яны тут блізка, я знайду...

Н а с т а

Бяжы ж хутчэй, бяжы, Тацяна,
Нясі да іх маю бяду,
Скажы ты ім пра наша гора.

Тацяна

А што ж я ім магу сказаць?
Не, я павінна тут дазнацца,
Што ён хацеў мне перадаць?
І я дазнаюся. Ні краты,
Ні вартавыя, ні турма,
Ніщто, нішто на гэтым свеце
Мяне не зможа затрымаць.

Тацяна і Наста выходзяць.

Зяма
*(прытаіўся на дрэве).*

Калі дайшло, што і жанчыны
Пайшлі таксама ваяваць,
То, мне здаецца, можна смела
Чырвоны сцяг ізноў узняць.

*(Ізноў вешае чырвоны сцяг.)*

## МАЛЮНАК ДРУГІ

Мураваны склеп у панскім маёнтку, ператвораны белапалякамі ў турму. Праз невялікае акно, што знаходзіцца амаль над зямлёй, відаць, як за сцяною ходзіць вартавы. У склепе пануе густы змрок. На цаглянай падлозе сядзяць і ляжаць арыштаваныя. Сярод іх: Азорыч, Бэсман, Алена з дзіцем, Марыся і Нохім.

Азорыч

Ах, каб зламаць, разбіць глухія краты,
Каб вырвацца на волю і сказаць:
Смялей наперад — перамога наша!
За гэта я не толькі рад памерці,
Гатоў па кроплі кроў сваю аддаць.

Бэсман

А ты упэўнены, што гэта здрада?

Азорыч

Ты бачыў сам. З табою мы прайшлі
З Барысава семнаццаць кіламетраў —

І хоць бы дзе адна буйная часць!
Разведка толькі, рэдкія заставы..
Скажы, якія ж тут былі падставы
Аб адступленні выдаваць загад.
Павесіць мала за такую здраду!

Б э с м а н

Ты не хвалюйся — разбяруцца з часам.

А з о р ы ч

Ды позна будзе, Бэсман! Зразумей,
Калі б цяпер мы перадалі весткі,
Што сілы польскія малыя тут,
Што покуль навядуць яны масты
І перакінуць за Бярозу войска —
Барысаў лёгка можна ўзяць назад.

Б э с м а н

Ты гэта і хацеў сказаць дзяўчыне,
Калі нас вуліцай з табой вялі?

А з о р ы ч

На жаль, яна не зразумела нас.

Б э с м а н

Твая знаёмая?

А з о р ы ч

Дзяўчына? Так!

М а р ы с я

Ой... піць...

А з о р ы ч

Спакойнай ночы.

*(Ад Бэсмана падыходзіць да Марысі.)*

Што вам?

М а р ы с я

Піць...

Азорыч

Вады няма. Вы сядзьце вось сюды
І голаў прытуліце да сцяны.
Каменне тут халоднае як лёд.
Вам будзе так лягчэй. Во-во, вось так.

Марыся

Дачушка!.. Дзеці!.. Бедныя сіроты,
І хто ж вас без мяне дагледзіць там?!
Пагінеце адны малыя...

Алена

Годзе,
Не плач, нейк выжывуць. Глядзі сябе,
А то вунь бачыш, як уся змарнела.

Азорыч

Дзяцей суседзі вашыя дагледзяць,
Свет не без добрых, кажуць жа, людзей.
А вас саміх за што ж арыштавалі?

Нохім

За што? За што і ўсіх — за праўду, сыне.

Азорыч

Не любяць, значыць, праўды?

Нохім

Ой, не любяць!

Азорыч

Якую ж праўду вы сказалі ім?

Нохім

Сыны, яе і мой, пайшлі к чырвоным,
Дык вось пытаюцца: куды пайшлі?
Як быццам гэта нам яны сказалі!

Азорыч

Канечне, дзе ж яны вам гэта скажуць!

Нохім

А я гляджу на вас, гляджу, і здэцца,
Як быццам вы Азорыч. Не?

Азорыч

О, не!

Нохім

Ну, не — дык не. Стары, відаць, змыліўся.

Алена

Сваіх цурацца стаў. Хоць запытаўся б,
Як маці там жыве...

Азорыч

Не трэба, ціха!
Я вас не ведаю, а вы — мяне.

Нохім

Ці ж я малы!

Марыся

А я і не пазнала.

Азорыч

Не трэба й пазнаваць. Ну, добрай ночы!
Кладзіцеся ды адпачніце трохі.
А як яна? Здаровая? Жыве?

Алена

Жыве... Ты выбач мне, дурной.

Азорыч

Дармо.

Стала зусім цёмна. Бэсман і арыштаваныя дрэмлюць. Азорыч пазірае ў турэмнае акно. Заплакала дзіця; Алена пачынае яго калыхаць і спявае калыханку. Спачатку чуваць толькі адна мелодыя, а пасля вылучаюцца і словы.

Алена

Спі, мой хлопчык, ноч малая.
Ходзіць вецер, казкі бае.

А з о р ы ч

Калісьці так пра нашу долю
Спявала маці часта й мне.
Матуля добрая, ніколі
Ты не пабачыш больш мяне.

А л е н а

На галінцы ў чыстым полі
Ён калыша тваю долю.

А з о р ы ч

Як выйдзеш рана да крыніцы
Вады сцюдзёнае набраць,—
Зазвоняць тройчы на званіцы
І павядуць мяне страляць.

А л е н а

Няхай доля не прачнецца,
Горкай слёзкай захлынецца.

А з о р ы ч

Апошні раз пабачыў вёску,
Дзе гадаваўся, падрастаў,
Дзе на крывых шнурах-палосках
Хадзіў за плугам, жыта жаў...

А л е н а

Можа, збудзеш ты напасці,
Можа, будзеш мець шчасце.

А з о р ы ч

Мне выкапаюць дол за местам,
І ўжо ніхто з тае пары
Не перадасць вам гэтых вестак,
Мае далёкія сябры.

А л е н а

Спі, мой хлопчык, ноч малая,
Ходзіць вецер, казкі бае.

Азорыч

Куды ж, чаго імчышся, сэрца?!
Навокал мёртва, ціха скрозь.
Ды што такое? Мне здаецца
Ці там сапраўды ходзіць хтось?
Няма. Схаваўся за будынкам.
Ідзе сюды... Тацяна?.. Ты?

У акне паказваецца Тацяна.

Тацяна

Тарас Іванавіч?

Азорыч

Дзяўчынка,
Як ты патрапіла сюды?

Тацяна

Я слоў не зразумела вашых.
Што вы сказалі ідучы?

Азорыч

Спяшайся як мага да нашых.
Ідзі сягоння ж уначы
І перадай Арджанікідзе,
Што горад здраднікі здалі.
Пакуль сюды ж падмога прыйдзе,
Пакуль мастоў не навялі
І фронт яшчэ не ўмацаваны —
Барысаў можна ўзяць назад.
Бяжы ж хутчэй, бяжы, Тацяна,
Ад гэтых страшных цесных крат.
Бывай!

Тацяна

А як жа вы?

Азорыч

Нічога,
Няхай сябры успомняць нас.
Шчаслівая табе дарога.
Спяшай!

Т а ц я н а

Бывайце! *(Выходзіць.)*

А з о р ы ч

Добры час!
Вось маладзец! Устань, прачніся, Бэсман.

Б э с м а н

Што сталася?

А з о р ы ч

Паслухай, Бэсман, радасць:
Са мной нядаўна гаварылі з волі.

Б э с м а н

Дзяўчына тая?

А з о р ы ч

Так, мая дзяўчынка.
Недарам я узгадаваў яе!

Б э с м а н

І ты ёй перадаў свае здагадкі?

А з о р ы ч

Не бойся, брат, яна іх данясе.
Цяпер спакойна можам і памерці.

Б э с м а н

Памерці? Не! Жыць! Жыць! Гэй, вартавы!
*(Барабаніць кулакамі ў дзверы.)*
Хутчэй, хутчэй вядзі мяне на допыт!

А з о р ы ч

Ты звар'яцеў?

М а р ы с я

Што з ім такое?

Нохім

Хворы.

Алена

Ну й чалавек!

Жаўнер адчыняе дзверы.

Жаўнер

Хто падымае лямант?

Бэсман

Не смей мяне чапаць! Вядзі на допыт.
Ідзі скажы, арыштаваны Бэсман
На допыт просіцца.

Жаўнер
*(зачыняе дзверы).*

От свалата!

Азорыч

Ты гэтым толькі сам сабе нашкодзіў.

Бэсман

Душа баліць. Я не магу цярпець.
Ты паглядзі, што робіцца, Азорыч:
Навокал кроў, пажары, здзекі... Людзі
Мруць на дарогах, гінуць у баях...
Дзяўчына, рызыкуючы жыццём,
Ідзе праведаць нас і памагчы,
А мы сядзім у гэтым сутарэнні.
Я не магу! І я ім не дарую
Ні вёсак спаленых, ні слёз дзяцей,
Ні гэтай крыўды і няволі нашай.
За ўсё адпомшчуся. Гэй, вартавы!
Вядзі мяне на допыт! Вартавы!

*(Барабаніць кулакамі ў дзверы.)*

## МАЛЮНАК ТРЭЦІ

Вялікі і раскошны пакой у панскіх палацах пад Барысавам. Тут змяшчаецца штаб белапольскай часці. У штабе палкоўнік Дамброўскі і капітан Свідэрскі. Дамброўскі чытае спісак.

Дамброўскі
Шчырэц Алена?

Свідэрскі
Ёсць такая.

Дамброўскі
Штэйнар?

Свідэрскі
І гэты ў нас.

Дамброўскі
Марыся Карабан?

Свідэрскі
Таксама тут.

Дамброўскі
Чаму ў вас толькі бабы?

Свідэрскі
Мужчыны, пан палкоўнік, там, у іх...

Дамброўскі
Таццяна Марыч? Дзе Таццяна Марыч?
У спіску сказана, што праз яе
Вядуцца сувязі з атрадам?

Свідэрскі
Так.

Дамброўскі
Чаму ж яе дагэтуль не забралі?

Свідэрскі
Шукалі цэлы дзень і не знайшлі.

Дамброўскі

Шукайце ноч, але знайсці павінны!
Пан капітан залішне бесклапотны:
У вас пад бокам тоіцца атрад,
Бальшавікі гуляюць на свабодзе,
А вы спакойна седзіцё ў палацах.
Атрад патрэбна выведаць і знішчыць,
Тыл арміі павінен быць надзейны,
Іначай мы не зможам наступаць.

Уваходзіць сержант.

Сержант

Дазвольце, пан палкоўнік, далажыць.

Дамброўскі

Што там яшчэ?

Сержант

Арыштаваны Бэсман
На допыт просіцца.

Дамброўскі

То дапытай,
А ці ў тваіх жаўнераў рук няма?!

Сержант выходзіць.

Дамброўскі

Не забывайцеся, што ў іх цяпер
Камандуе Арджанікідзе сам,
І нашым прыяцелям у чырвоных
Нялёгка будзе нам дапамагчы.
А Оршу і Смаленск нам трэба ўзяць,
Пакуль яшчэ трымаецца Дзянікін.

Свідэрскі

Там чалавек прыйшоў з мясцовай рады,
Ён можа быць у гэтым нам карысны.

Дамброўскі

Малая з іх карысць! Паклічце.

Свідэрскі выходзіць і прыводзіць Міколу.

Мікола

Добры вечар.
Мікола Стрыж, настаўнік, прадстаўнік
Тутэйшай беларускай рады.

Дамброўскі

Вельмі рад.
Чым вам магу служыць, пан прадстаўнік?

Мікола

У Мінску, пан палкоўнік, ёсць кантакт
Паміж уладай панскаю і нашай.
Хацелася б наладзіць гэта й тут.

Дамброўскі

А для чаго?

Мікола

Каб разам кіраваць.

Дамброўскі

Чым кіраваць?

Мікола

Народам, пан палкоўнік.

Дамброўскі

Народ увесь пайшоў к бальшавікам,
А з рэштаю мы справімся і самі.

Мікола

Дарэмна адмаўляеце падмогу.

Дамброўскі

А чым вы нам паможаце? Вось гляньце,
Усе запісаны бальшавікі?

Мікола

*(прагледзеўшы спісак).*
Па воласці іх набярэцца болей.

Дамбро́ўскі

Назваць іх можаце?

Мікола

Магу назваць.

Дамброўскі

Тады ільга наладзіць і кантакт.
Скажыце, пане Стрыж, Тацяна Марыч
Вядома вам?

Мікола

Тацяна Марыч?.. Так...
Яна папала пад благі уплыў,
І я хацеў вас сам прасіць аб тым,
Каб дзеўчыне чым-небудзь прыгразіць.

Дамброўскі

Вы штосьці да яе нераўнадушны?

Мікола

У нас свае асобыя разлікі.

Дамброўскі

Ну што ж, для вас мы зробім ласку, Стрыж.
Вы заўтра нам пакажаце дзяўчыну,
І мы яе пасадзім у турму.

Мікола

Завошта ж?.. Ах, я разумею... Добра.
Я вельмі й вельмі буду вам удзячны.
Вы толькі дайце мне, палкоўнік, слова,
Што патрымаеце Тацяну трохі
І аддадзіце мне на парукі яе.

Дамброўскі

Вы забываецеся, пане Стрыж!
Калі Дамброўскі скажа — значыць, свята.

Мікола

Даруйце, пан палкоўнік!

Дамброўскі

Непрыстойна
Не давяраць таму, хто вам даверыў.

Мікола

Я вашае давер'е апраўдаю:
Тацяна Марыч заўтра будзе тут.

Уваходзіць сержант.

Сержант

Дазвольце, пан палкоўнік, далажыць:
Арыштаваны Бэсман пагражае...

Дамброўскі

Ізноў?

Сержант

Ён проста разбівае дзверы.

Дамброўскі

Давай!

Сержант

Я слухаюся, пан палкоўнік. *(Выходзіць.)*

Дамброўскі

Пан капітан, вы правядзіце пана
І там складзіце новы спіс людзей.

Мікола

А як жа мы дамовімся наконт?..

Дамброўскі

Наконт чаго?

Мікола

Наконт сумеснай працы?

Дамброўскі

А хіба не дамовіліся мы?!

У вас надзвычай важная работа,
Адно старайцеся. Пасля пабачым.
Усё. Бывайце, пане Стрыж.

Мікола

Бывайце.

Свідэрскі і Мікола Стрыж выходзяць; праз другія дзверы прыводзяць Бэсмана; ён адпіхвае вартавых і ўрываецца ў пакой.

Бэсман

Злачынцы!

Дамброўскі

Стой! Назад! Застрэлю!

Бэсман

Я — польскі афіцэр. Злачынцы вы!

Дамброўскі

Няма дурных, таварыш камісар.

Бэсман

Найбольшы дурань, пан палкоўнік, вы!
Маё імя — Казімер Завішынскі.

Дамброўскі

Даруйце. Выйдзіце!

Вартавыя выходзяць.

Бэсман

Вады падайце.
З турмы нядаўна перадалі весткі...

Дамброўскі

Хто перадаў? Каму?

Бэсман

Дзяўчыне...

Дамброўскі

Што?
Тацяне Марыч?

Бэсман

Прозвішча не знаю.
Пашліце зараз жа услед пагоню,
І вы захопіце яе ў мястэчку.

Дамброўскі

Пан капітан!

Уваходзіць Свідэрскі.

Свідэрскі

Я слухаю... Казімер?

Бэсман

Свідэрскі?

Свідэрскі

Друг!

Дамброўскі

Ваш друг?

Бэсман

Пасля, пасля!
Не траццье марна часу на размовы.

Дамброўскі

Пан капітан, мястэчка ачапіць,
Паслаць нарад... А дзе яна жыве?

Свідэрскі

Хто?

Дамброўскі

Марыч.

Свідэрскі

Не магу сказаць, палкоўнік.

Дамброўскі

Вярніце зараз жа мне гэту птушку...
Стрыжа.

Свідэрскі

Я слухаюся, пан палкоўнік. *(Выходзіць.)*

Дамброўскі

Даруйце, выйшла неяк недарэчна.

Бэсман

У замшавых пальчатках не ваююць.

Уваходзяць Свідэрскі і Стрыж.

Мікола

Вы клікалі, палкоўнік?

Дамброўскі

Пане Стрыж,
Асоба ваша зараз, здэцца, дома.
Вы пакажыце, дзе яна жыве,
І будзе так, як мы і гаварылі.

Мікола

Я вельмі шчыра буду вам удзячны.

Дамброўскі

Спяшайцеся!

Свідэрскі і Мікола выходзяць.

Бэсман

Марудзіце, палкоўнік!

Дамброўскі

Вы, як агонь, гарачы, Завішынскі.

Бэсман

Халодныя сядзяць на печы дома.

Дамброўскі

Ну, мы таксама сёе-тое робім,
Бярэм вось гарадок за гарадком.

Бэсман

Вы думаеце, вы ўзялі Барысаў?!
Барысаў бралі мы і нашы людзі,

Не на пазіцыях, а ў штабах армій,
У кабінеце Троцкага. І вы
Ледзь-ледзь не загубілі нашай справы.
Калі брыгадны даў палкам загад
З Бярозы адступіць на бераг Схі —
Наш камісар стаў штосьці сумнявацца
І вырашыў праверыць вашы сілы.
Я, будучы начальнікам разведкі,
Яго праводзіў і прывёў сюды.
Вучыцеся, як трэба ваяваць!
Вы нават нас яшчэ не дапыталі,
А камісар паспеў ужо звязацца
З тутэйшымі людзьмі і перадаць,
Што горад здраднікі здалі без бою,
Што сілы вашыя малыя тут
І што Барысаў можна ўзяць назад.
Вы разумееце цяпер, якія
Панесла весткі гэтая дзяўчына?
Калі іх данясуць Арджанікідзе —
Не бачыць нам ні Оршы, ні Смаленска.
Яператросся ўвесь за гэты час,
Я рукі пазбіваў аб вашы дзверы,
Я сцены грызці мог... А вы... А вы...
Як мокрыя анучы, прабачайце.

Уваходзіць Свідэрскі.

Свідэрскі

Нарад пасланы, пан палкоўнік.

Дамброўскі

Дзякуй.

Свідэрскі

Абдымемся, Казімер.

Бэсман

Добры вечар.
Я вельмі рад, што стрэў цябе, Бранілаў.
Дай, дружа мой, пераадзецца мне.
Апрыкрала ўсё гэта барахло.

Свідэрскі

Я прынясу табе сюды, Казімер. *(Выходзіць.)*

Бэсман

Далёка да мястэчка?

Дамброўскі

Паўвярсты.

Бэсман

Паслалі конных?

Дамброўскі

Конных, пан паручнік.

Бэсман

Шмат нашых сіл па гэты бок Бярозы?

Дамброўскі

Дзевятага ля Паліка прайшло
Тры сотні чалавек. За ноч і дзень
Мы перакінулі яшчэ пяцьсот.

Бэсман

І гэта ўсё? Марудзіце, палкоўнік.

Дамброўскі

Ды зразумейце ж, што няма мастоў,
Сіл супраціўніка ніхто не знае...

Бэсман

На гэта камісар Азорыч ёсць.

Дамброўскі

Вы думаеце, ён раскажа што?

Бэсман

Я думаю, што ёсць заўсёды сродкі
Прымусіць чалавека гаварыць.

Дамброўскі

На жаль, існуюць звычаі вайны,
Якія берагуць жыццё палонных.

Бэсман

Азорыч быццам бы адгэтуль родам.
Калі яго дзяўчына апазнае
І дасць пры пэўных сведках паказанні,
Што ён ёй перадаў якіясь весткі,
Мы будзем мець фармальную прычыну
Вініць палоннага у шпіянажы.
А перад карай смерцю за шпіёнства,
Я думаю, што загаворыць кожны.

Свідэрскі прыносіць Бэсману польскую афіцэрскую вопратку.

Свідэрскі

Ну, вось уборы, вартыя героя.

Бэсман
*(выходзячы пераапрануцца).*

Бронь божа, дзеўкі гэтай не захопяць,
Барысава не адстаяць, палкоўнік.

Дамброўскі

Я штосьці сумняваюся ў Стрыжы.

Свідэрскі

Калі ён прадстаўнік мясцовай рады,
Дык сумнявацца ў ім няма чаго.

Дамброўскі

А друг ваш маладзец.

Свідэрскі

Не мне раўня?
Я ж не ваяка, пан палкоўнік, так...

Дамброўскі

Але затое першы між гуляк!

Свідэрскі

Вы адгадалі, пан палкоўнік...

На дварэ чуваць нейкі гоман.

Дамброўскі

*(ціха).*

Здаецца, на дварэ гамоніць хтосьці.

Бэсман

Выбягаючы з сумежнага пакоя; ён ужо ў вопратцы польскага афіцэра.

Дазнайцеся! Бронь божа, упусцілі!..

Уваходзіць сержант.

Сержант

Дазвольце, пан палкоўнік, далажыць,
Дзяўчына, значыць...

Бэсман

Дзе?

Сержант

Дзяўчына?

Бэсман

Дзе?

Сержант

Дзяўчына тут.

Дамброўскі

Хвалю!

Бэсман

Праверыць трэба:
Яны маглі схапіць любую дзеўку.

Дамброўскі

А гэты... праваднік ваш з вамі?

Сержант

Так.

Дамброўскі

Паклічце.

Свідэрскі

Пане Стрыж!

Уваходзіць Мікола Стрыж.

Дамброўскі

Яна?

Мікола

Яна.

Бэсман

Ну, дзякуй богу, тут.

Дамброўскі

Вядзі, сержант!

Бэсман

*(да Міколы Стрыжа).*

А вы сядайце, будзеце за сведку.

Дамброўскі

Прыняць яе, панове, трэба ветла:
Ад іх пагрозаю не возьмеш анічога,
А ласкаю дасягнеш вельмі шмат.

Свідэрскі

А пан палкоўнік ведае дзяўчат.

У пакой прыводзяць Тацяну.

Свідэрскі

О, пекная!

Дамброўскі

Сядайце, проша, панна.
Як ваша прозвішча?

Т а ц я н а

Таццяна Марыч.

Д а м б р о ў с к і

Адкуль?

Т а ц я н а

Тутэйшая.

Д а м б р о ў с к і

Занятак ваш?

Т а ц я н а

Раней вучылася, цяпер без працы.

Д а м б р о ў с к і

За што вас затрымалі?

Т а ц я н а

Я не знаю.

Д а м б р о ў с к і

Сержант, за што вы затрымалі панну?

С е р ж а н т

Яе? За гутарку з арыштаваным.

Д а м б р о ў с к і

Вы чуеце? Ён што, каханак ваш?
Знаёмы? Брат?

Т а ц я н а

Не ведаю, аб кім
Вы мне гаворыце.

Б э с м а н

Якая святасць!
Палкоўнік пра Азорыча гаворыць.

Т а ц я н а

Азорыч? Так? Такога я не знаю.

Бэсман

Адкуль жа вам імя яго вядома?

Тацяна

Імя? Я першы раз ад вас пачула.

Бэсман

Ды ён жа з гэтага мястэчка родам.
Яго пад вартаю вялі,
А вы на вуліцы былі,
І вы яго тады ж пазналі,
Азорычам яшчэ назвалі.

Тацяна

Вы памыліліся.

Бэсман

Ты хлусіш, дзеўка!

Дамброўскі

Навошта гэты гоман, пан паручнік?
Дзяўчынцы трэба проста растлумачыць:
Калі б ён быў каханак ваш,
Тады было б нам зразумела,
Што вы ішлі спаткацца з ім,
І мы маглі б вам даравась,
А так — вас трэба затрымаць.
Дык не каханак?

Тацяна

Не.

Дамброўскі

Шкада.
Вы гэткая прыгожая дзяўчына
І марна губіце сваё жыццё.
Даводзіцца замкнуць вас у турму,
А так свабодна вы маглі б ісці.
Сержант, вазьмі!

Тацяна

Чакайце! Дайце слова,
Што вы адпусціце мяне на волю,
І я скажу вам праўду.

Дамброўскі

Слова, панна!
Тацяна Марыч, што ж вы маўчыце?

Тацяна

Вы здагадаліся: ён мой жаніх.

Бэсман

І ён вам перадаў якіясь весткі?

Тацяна

Няпраўда, вестак ён не перадаў.

Бэсман

А мы вось запытаем у яго.

Дамброўскі

Пан капітан, прывесці камісара.

Свідэрскі выходзіць.

Тацяна

Дазналіся. Дарэмна я сказала.

Дамброўскі

Вы не хвалюйцеся, нічога
Не зробім мы яму благога.
Вы толькі скажаце, што ён — Азорыч.

Тацяна

Я не знаёма з ім!

Бэсман

Як вам не сорам:
Сказаць і адрачыся ўласных слоў!

Т а ц я н а

А як не сорам вам...

Б э с м а н

Маўчаць! Маўчаць!

Д а м б р о ў с к і

Ды спакайней жа, пане Завішынскі.

М і к о л а

Дарма, няхай, няхай прыгрозяць трохі.

Вартавыя прыводзяць А з о р ы ч а.

Д а м б р о ў с к і

А вось і камісар. Смялей, Азорыч,
Вас хоча бачыць вашая дзяўчына.
Пазнаеце? Жаніх?

А з о р ы ч

Адкуль ёй знаць.
Я першы раз яе цяпер страчаю.

Д а м б р о ў с к і

Пытаюць не ў цябе. Пазнаеце?
Азорыч гэта, ваш жаніх ці не?

Т а ц я н а

Не ведаю, а мой жаніх другі.

Д а м б р о ў с к і

Не хочаш гаварыць? Прызнайся лепш!

А з о р ы ч

Я пра сябе усё скажу вам сам.

Д а м б р о ў с к і

Ты не Азорыч? Не? Не камісар?

А з о р ы ч

Не камісар і не Азорыч.

Дамброўскі

Стрыж,
Азорыч гэта?

Мікола

Так, Азорыч, пане...
Але ён не жаніх, а камісар.
А жаніхом, здаецца, буду я.

Азорыч

І ты тут, шэльма бітая!

Дамброўскі

Ну што ж,
Цяпер — Азорыч ты і камісар?

Азорыч

Не камісар, хоць і Азорыч.

Дамброўскі

Божа!
Як можа гаварыць яго язык!
Паручнік, хто ён ёсць такі, скажыце?

Бэсман

Ён камісар чырвонай часці.

Азорыч

Брэшаш!

Бэсман

Ты што, не пазнаеш сапраўды?

Азорыч

Ты?..
Цяпер я пазнаю аблічча гада!

Дамброўскі

О, псякрэў, бальшавік! Ты знаеш тое...
Ты ведаеш, што мы цябе павесім?

Азорыч

Ну і здзівілі! Быццам я не ведаў,
Што раз папаўся я сюды да вас,
Дык вы мяне павесіце напэўна.
Скажу па шчырасці: калі б і вы
Патрапілі, палкоўнік, да мяне,
Я расстраляў бы вас...

Дамброўскі
*(б'е Азорыча па твары).*

О, брудны пёс!

Тацяна

Тарас Іванавіч!.. Няшчасны, бедны...

Дамброўскі

Цяпер і ты пазнала. Позна!
Якая ганьба, жах! Дзяўчына
Зракаецца сваіх беларусоў,
Ганебна здраджвае айчыне,
Ідзе за бандай мужыкоў.
Дзе ж сорам твой і дзе твой гонар?

Тацяна

Мой гонар на маіх руках:
Яны пакрыты мазалямі...
І горка мне цяпер адно,
Што я вось гэтымі рукамі
Вінтоўкі мужна не ўзяла
І супраць вас жа не пайшла,
У гэтым сорам мой. Даруй,
Даруй, Тарас Іванавіч, за слабасць:
Я ратаваць хацела нашу справу
І выдала цябе.

Азорыч

Не ты, дзяўчынка,
А вось прадажны гад!
*(Кідаецца да Бэсмана.)*

Дамброўскі

Сержант, забраць!

Азорыча і Тацяну выводзяць.

А вы, мой пане, падпішыце акт.

Мікола

Я падпішу, але Тацяну Марыч
Вы аддадзіце, спадзяюся, мне?

Дамброўскі

Пасля — вядома... А на нейкі час
Яе цяпер адправіць трэба ў тыл.

Мікола

Я вельмі дзякую. *(Падпісвае акт.)*

Дамброўскі

Бывайце, Стрыж.

Мікола

Бывайце, пан палкоўнік, вельмі дзякуй.

Мікола Стрыж выходзіць.

Дамброўскі

Пан капітан, цяпер у камісара
З-пад языка дастаньце ўсё, што трэба.
А Марыч заўтра раніцой у тыл,
Хай у Стрыжа не будзе на вачах.
Як вы мяркуеце?

Бэсман

Рабіце так,
Каб весткі аб Барысаве навек
Памерлі тут.

Дамброўскі

Ды гэта зразумела.
Цяпер прашу, паручнік, да мяне.

Б э с м а н

Дзенькуе, пан палкоўнік, не магу:
Мяне, на жаль, чакаюць у чырвоных,
А служба — перш за ўсё.

С в і д э р с к і

Калі ты рушыш?

Б э с м а н

Вось адпачну гадзінку — і ў дарогу.

Д а м б р о ў с к і

Ну што ж, няхай вам дапаможа бог!

# АКТ ДРУГІ

## МАЛЮНАК ЧАЦВЁРТЫ

Туманная верасnёўская раніца. На ўзлессі па-асенняму шумяць хвоі. Каля іх прытаіўся партызанскі дазор: пад кашлатай сасной Сімха Штэйнар, а высока на дрэве — Зяма. Углыбіні — нізіна, парослая балотным хмызняком. Там размясціўся атрад абароны, і адтуль час ад часу даносіцца ціхая песня:

Пад цёмным ляском
Бяроза з лістком
Усё лета шумела:
— Ты, мой лісточак,
Ты, мой зялёны,
Ты мяне кідаць будзеш.
Ветры павеюць,
Цябе абвеюць,
Я адна застануся.
— Мая бярозка,
Мая белая,
Я ж цябе не забуду,
На вясну к табе буду
І шумець з табой буду.

А ў цёмным ляску
Дзяўчына дружку
У слязах гаварыла:
— Ты, мой малойчык,
Ты, мой саколік,
Ты мяне кідаць будзеш.
Трубы зайграюць,
У бой паклічуць,
Я адна застануся.
— Мая дзяўчынка,
Мая каханка,
Я ж цябе не забуду,
Па вясне к табе буду
І гуляць з табой буду.

Сімха

Ты маеш вочы лепшыя, сынок,
Прыгледзься добра: там ніхто не ходзіць?
Ну, не відаць нікога?

Зяма

Не відаць.

Сімха

Каб там не сталася якой бяды:
Ужо мінула досыць многа часу,
Данілу з хлопцамі пара б вярнуцца.
Як думаеш, удасца ім сягоння
З няволі панскай вызваліць Тацяну?

Зяма

Яны ж з вінтоўкамі, дык дзіва што!..

Сімха

А ці на верны мы напалі след:
Сюдою павязуць яе ці не?
Ты раскажы яшчэ раз мне аб тым,
Як ты дазнаўся.

Зяма

Я ж казаў. Учора
Вялі палякі двух арыштаваных...

Сімха

Я гэта ведаю, ты раскажы,
Што гаварыў людзям Мікола Стрыж.

Зяма

Ён выхваляўся, быццам бы Тацяну
Узяў на парукі, і сёння рана
Яе адправяць недзе ў тыл, у штаб.

Сімха

Відаць, у штаб дывізіі. Тады
Яны паедуць толькі гэтым шляхам,
І нашы могуць вызваліць Тацяну.
А весткі, мусіць, важныя былі.

Зяма

Напэўна важныя, калі за Таняй
Па ўсіх дарогах выслалі ганцоў,
Мястэчка ачапілі ланцугом
І перантрэслі кожны двор і хату.

Уваходзіць Адась Валошын.

Валошын

Ну што, Данілы не відаць з хлапцамі?

Сімха

Не, не відаць.

Валошын

Няшчасная дзяўчына!

Сімха

Ты не гаруй, таварыш камандзір,
Тацяну вызваляць.

Валошын

Ты верыш, Сімха?
Я веру, брат, і сам. А ўсё ж часамі
Туга на часткі разрывае сэрца.
Я так любіў яе і так нядбайна
Рызыкаваў яе жыццём і маладосцю.

Дзесьці далёка чуваць глухія стрэлы.

Зяма

Вы чуеце, страляюць!

Валошын

Мусіць, нашы...

Сімха

Пашлі ім, доля, добрую удачу.

Крадучыся, ідзе Шчырэц і яшчэ некалькі партызан.

Валошын

А вы куды?

Шчырэц

Куды? Дахаты.

Валошын

Стой!
Спужаўся, баязлівая душа?
Уласную сваю ратуеш скуру,
Калі нам трэба ратаваць другіх?

Шчырэц

А для чаго нам лезці на пагібель?
Ты ведаеш, па што ішла Тацяна:
Каб весткі важныя прынесці нам
Ці каб пабачыцца з сваім каханкам?

Валошын

З каханкам, ты сказаў?!. Васіль Шчырэц!
Я куляю заткну тваё старое горла!

Шчырэц

Не пойдзем мы на верную пагібель,
Каб ратаваць для некага дзяўчат.
Нам трэба ратаваць саміх сябе.

Валошын

А як жа, як ты будзеш ратавацца?
Пакуль не маем мы ніякіх вестак,
Дзе нашы часці, дзе свабодны шлях,—
Не рушым мы адгэтуль ні на крок.
І мы павінны вызваліць Тацяну.

Шчырэц

А нашы дзеці, хаты і палеткі?
Ты — гарадскі, табе бяда малая:
Тваіх палёў жаўнеры не патопчуць,
Дзяцей не скрыўдзяць, хаты не запаляць...
Хто ж абароніць нас і нашы сем'і?

Партызан

Ён праўду кажа: трэба ратавацца.

Валошын

Вар'яты вы! Малыя дзеці! Смешна:
Як будзеце вы ратаваць сям'ю,
Калі сям'я твая даўно ў турме?
Як будзеце вы ратаваць сябе,
Калі адгэтуль вам дарог няма?

Шчырэц

Нячыстая мяне звязала з вамі.

Зяма

Ой, там ідуць.

Валошын

Ідуць? Чужыя? Нашы?

Сімха

Даніла Карабан, Даніла... Нашы!

Валошын

Тацяна з імі, там?

Зяма

Тацяна? Там!

Валошын

Якія ж весткі ў іх. Пайду насустрач.

Выходзіць. Зяма злазіць з дрэва.

Шчырэц

Пры нас і сустракацца не жадае.

Сімха

А ты, Васіль Шчырэц, ізноў сваё.
А бачыш, як ты горка памыліўся?

Шчырэц

Ды чорт яго тут разбярэцца з вамі!

Уваходзіць Даніла Карабан, за ім група партызан, Тацяна і Валошын.

Карабан

Здарова, малайцы!

Шчырэц

Здароў! А дзе ж Тацяна?

Карабан

А мы яе пад варту ўзялі,
Каб з панамі не гуляла,
Нашых душ не засмучала.

Сімха

Тацяначка, хадзі пад мой нагляд,
І не падступіцца ніякі гад.

Валошын

Яна змарылася.

Карабан

Пусціце сесці.

Сімха

А можа, Таня, хочаш есці?
Я тут за кухара слыву
І крупнік, брат, такі звару,
Што пан палкоўнік будзе есці...

Карабан

Калі над ім з вінтоўкай сесці.

Тацяна

Сябры мае, нічога мне не трэба,
Я не стамілася, я проста — рада,
Расчулена увагай вашай, ласкай...
Ды горка мне, што зараз недзе там
Азорыча караюць, б'юць і мучаць.
Таварышы, ратуйце вы яго
Усімі сіламі, якія ёсць.

Валошын

Пагібельная справа: мы не можам
Ахвяраваць усім за аднаго.

Тацяна

Бесчалавечны ты!

Валошын

Не я, а ты:
Я бараню жыццё людзей і справу,
А ты свайго...

Тацяна

Каго? Валошын,
Відаць, ты мала ведаеш мяне
І забываешся, што нам Азорыч
Дастаў каштоўныя надзвычай весткі,
А мы яго кідаем на пакуты.

Валошын

Навошта кроіш ты маю душу?
Ты ведаеш, я сам яго люблю,
Аднак ніякага не маю права
Рызыкаваць. Асудзіць і Азорыч,
Калі яго наказаў не даставім.
Сябры, Тацяна атрымала весткі,
Што горад здраднікі здалі без бою.
На шчасце, у паноў не многа сіл.
Калі б цяпер па іх ударыць дружна,
Напэўна, што Барысаў быў бы наш.
Вось гэта трэба перадаць у штаб,
А лепш за ўсё — Сярго Арджанікідзе.
Што ж нам рабіць?

Карабан

Прабіцца цераз фронт!
Ударыць і прарвацца!

Валошын

Рызыкоўна.
Загінем самі і загубім справу.
Я думаю, што лепш паслаць людзей тайком,
Так... Чалавекі два, а можа, тры.
Адзін загіне — данясе другі,
Другі загіне — трэці дабярэцца.
Для гэтай труднай і пачэснай справы
Мне трэба двух адважных чалавек.

Тацяна

Я панясу сама.

Карабан

І я не зломак.

Сімха

Няхай Валошын выбірае сам.

Валошын

Даніла двое сутак на нагах.
Ён застанецца тут за камандзіра.
А пойдзе... Штэйнар і... Тацяна Марыч.
Збірайцеся, мы зараз жа і рушым.
Даніла, падрыхтуй Тацяне зброю.

*Усе, апрача Валошына і Тацяны, выходзяць.*

А ў чым ты пойдзеш? Ты ж уся азябла.
Бяры пінжак.

Тацяна

А як жа ты, Адась?
Ты ж можаш прастудзіцца праз мяне.

Валошын

Бяры, бяры. Я праз цябе, на жаль,
Заўсёды гарачуся, а не стыну.
Даруй, Тацяна, мне.

Тацяна

За што?..

Валошын

Скажы,
Ён вельмі мучыцца?

Тацяна

Азорыч? Вельмі,
Хоць і стараецца не паказаць.

Валошын

Я страціў шмат сяброў, але ніколі
Мне гэтак цяжка не было, Тацяна.
Азорыч — мой старэйшы друг. Калісьці
Ён першы вочы мне раскрыў на праўду,
Навучыў змагацца з крыўдай і няволяй.
Успамінаецца, як у вайну
Мы з ім ляжалі разам у акопах,
Чыталі ўпотай розныя лістоўкі
І марылі аб новых, лепшых днях.
І вось... разбіты нашы мары. Цяжка!

Тацяна

Ты не сумуй, Адась. А можа быць,
Што нашы часці скора падаспеюць
І выратуюць.

Валошын

Будзем спадзявацца,
Калі ён выжыве да тых часоў.

Уваходзіць Даніла Карабан.

Карабан

А вось і я. Аб кім ідзе размова?

Валошын

Ну, я пайду збірацца, будзьце тут. *(Выходзіць.)*

Тацяна сядзіць задуменная.

Тацяна

Які ён слаўны!

Карабан

Хто?

Тацяна

Адась.

Карабан

Валошын?
Звычайны чалавек, такі, як я.

Тацяна

Гарачы толькі.

Карабан

Ён? Як рыба, што ты!
Вось я — гарачы, гэта праўда. Знаеш,
Калі б мяне любілі, як яго,
Я не пінжак, кашулю зняў бы з плеч
І то не змёрз бы. Гэта, значыць, сэрца!

Тацяна

Я не пра тое гавару, Даніла,
Я гавару, што ён залішне строгі.

Карабан

І асабліва, мусіць, да цябе.
Таму, відаць, баішся ты сказаць,
Як ты яго кахаеш.

Тацяна

Карабан,
Навошта ты жартуеш так няўдала?

Карабан

Даруй, даруй, Тацяна, мір. Давай
Узброю я цябе, нібы Антанту.
Страляць умееш? Вось табе наган,
А вось патроны. Захавай іх добра.

Уваходзіць Валошын і партызаны.

Валошын

Гатовы?

Тацяна

Я гатова.

Валошын

Сімха Штэйнар?

Штэйнар

*(уваходзячы з некалькімі партызанамі).*

Тут, камандзір.

Валошын

Пайшлі, таварышы,
Пайшлі. Да скорага спаткання, хлопцы.
Жывіце дружна, слухайце Данілу,
Трымайце сувязь цесную з мястэчкам,
Сачыце за Азорычам. А мы...
Мы пастараемся зрабіць усё,
Каб падаспець яму і вам на помач.

Галасы

Шчаслівa вам! Да скорага спаткання!

Валошын, Таццяна і Штэйнар выходзяць.

## МАЛЮНАК ПЯТЫ

Станцыя Прыяміна. Штаб чырвонаармейскай часці. Два вакзальныя пакоі: пасажырская зала і пакой дзяжурнага. У пакоі дзяжурнага тэлеграф і тэлефон, а ў зале стаіць стол, заваленыя паперамі, на сцяне вісяць карта і розныя плакаты. У штабе Баяновіч і Казімер Бэсман.

Баяновіч

Пакіньце жартаваць!

Бэсман

Я не жартую.

Баяновіч

Вы самі бачылі?

Бэсман

Я сам не бачыў,
Але мне перадалі нашы людзі:
Тарас Азорыч перайшоў к панам.

Баяновіч

Якая здрада!.. Не магу паверыць.

Бэсман

Паверыць цяжка. Сам бы не паверыў,
Ды мне назвалі вельмі падрабязна
І час і месца, дзе ён перайшоў,
І тут ужо сумненняў быць не можа.

Баяновіч

Падлец! Нанесці гэтакі удар!
Вы разумееце, таварыш Бэсман,
Былы камбрыг і камандзір палка
За здачу горада пайшлі пад суд.
Я — новы чалавек, кругом разлад,
Байцы стаміліся, рэзерваў мала,
Дзе супрацоўнік наш — ніхто не знае...
У нас была надзея, што Азорыч
Дастане весткі, выручыць з бяды...
Зарэзаў ён мяне!

Бэсман

А вы пры чым?

Баяновіч

Ды мне ж загад узяць назад Барысаў.

Бэсман

Узяць Барысаў? Я не разумею:
Ці я вар'ят, ці ў штабе звар'яцелі.
Каля Барысава стаіць брыгада,
Уланы абышлі наш правы фланг,
У тыле з бандай ходзіць Семянюк,
І думаць аб Барысаве — вар'яцтва.

Баяновіч

А што ж мне выбіраць — ісці пад суд?

Бэсман

А вы ім давядзіце, што загад
Аб наступленні зараз на Барысаў —

Фантазія штабных. Каб наступаць,
На падрыхтоўку трэба тыдні два.
Я гавару вам на падставе вестак,
Якія сам сабраў.

Б а я н о в і ч

Вы — маладзец!

Уваходзіць М е л е х.

М е л е х

Таварыш камандзір, у трэцім батальёне
Пяць чалавек не выйшла на паверку.

Б а я н о в і ч

У дэзерцірах?

М е л е х

Не, на месцы ўсе.

Б а я н о в і ч

Хто батальённы камандзір?

М е л е х

Дамейка.

Б а я н о в і ч

Пяць чалавек арыштаваць. Дамейку...
Вы, здэцца, добра знаеце Дамейку?

Б э с м а н

Былі у школе прапаршчыкаў разам.

Б а я н о в і ч

Што ён за чалавек?

Б э с м а н

Ну, як сказаць...
Ён чалавек не падазроны.

Б а я н о в і ч

Мелех,
Паведаміце, што я там буду сам.

Мелех

Я слухаю. *(Выходзіць.)*

Бэсман

Мне можна ў часць ісці?

Баяновіч

Пакіньце зводку вашых вестак мне
І можаце ісці. Ну, я паехаў. *(Выходзіць.)*

Бэсман

Дамейка маладзец, не спіць у шапку.
А весткі я вам дам. *(Піша.)* Нічыпар Мелех!

Уваходзіць Нічыпар Мелех.

Мелех

Я слухаю.

Бэсман

Перадасі камбрыгу.

*(Кладзе напісаную ім зводку на стол.)*

А ты усё, гаротнік, служыш? А?

Мелех

Служу.

Бэсман

Эх, шкода мне цябе, службіст!
Стары салдат, у доме жонка, дзеці,
А бачыць іх не давядзецца, мусіць...
Ты чуеш, а?

Мелех

Я слухаю цябе.

Бэсман

Нам вельмі крута, брат. Азорыч збег.
А мы, дурныя, будзем ваяваць,
Пакуль і не пагінем. Ну, бывай! *(Выходзіць.)*

Мелех

Вось і мяркуй, як хочаш тут. Алёшка!

Уваходзіць Алёшка Семізвон.

Семізвон

Ну што?

Мелех

Хадзі сюды. Ты чуў ці не?

Семізвон

А што?

Мелех

Азорыч, кажуць, недзе збег.

Семізвон

Давай дамоў, Нічыпар?

Мелех

Не магу,
Я шосты год ваюю, і нязручна
Пабітаму варочацца дамоў.

Алёшка

Яно, канечна, трэба ваяваць...
Гавораць, сам Арджанікідзе тут.

Мелех

Каб ён прыехаў, ён бы разабраўся!
Пабудзь, а я пайду вазьму вячэру.
*(Бярэ кацялок і выходзіць.)*

Алёшка

Эх, чорт, благія справы, Аляксей!
Ісці дахаты нейк не выпадае,
А заставацца тут таксама страшна...

Уваходзіць Сярго Арджанікідзе. Ён у армейскім шынялі і шлеме.

Сярго

Дзень добры, друг!

Алёшка

Дзень добры і табе!

Сярго

Ну, як ваюецца?

Алёшка

А паспрабуй,

Пазнаеш сам.

Сярго

Я спрабаваў.

Алёшка

І што ж?

Сярго

Нішто, дармо, калі умела біцца.

Алёшка

За пяць гадоў навучыліся.

Сярго

Не вельмі!

Барысава, нябось, не адстаялі?

Алёшка

Папробуй адстаяць, калі іх процьма.

Сярго

Каго?

Алёшка

Паноў.

Сярго

А колькі іх? Дакладна?

Алёшка

А чорт іх ведае!

Сярго

А дзе стаяць?

А л ё ш к а

*(да Нічыпара Мелеха, які пры гэтым зайшоў у пакой з кацялком у руках):*

Глянь, прычапіўся чалавек! Стаяць...
Калі б мы ведалі!..

С я р г о

А што ж разведка?
Хадзілі вы да іх?

А л ё ш к а

Схадзі, брат, сам,
Калі ты гэтакі храбрэц.

С я р г о

А ты?
Баішся? А?

А л ё ш к а

Баюся.

С я р г о

*(да Нічыпара Мелеха).*

Ну, а ты?
Няўжо ж у вас сярод усіх людзей
Ніводнага адважнага няма?

М е л е х

А ты чаго выпытываеш тут?
Ты хто такі? Падай дакумант мне.

С я р г о

Я з штаба арміі, Арджанікідзе.

А л ё ш к а

Арджанікідзе? Сам Арджанікідзе?
Не можа быць! Чытай, Нічыпар. Ну?

М е л е х

*(прачытаўшы пасведчанне).*

Паперы быццам бы ў парадку ўсе.

А л ё ш к а

Уліп.

С я р г о

А ты, скажы мне, хто такі?

М е л е х

А я, таварыш камісар, дзяжурны...
Па сувязі... Нічыпар Мелех.

С я р г о

Добра.

М е л е х

Нядобра нейк я вас прыняў, таварыш...

С я р г о

Нічога, дарагі, нічога, добра.
А ты... як зваць?

А л ё ш к а

Алёшка Семізвон.

С я р г о

А ты, Алёшка Семізвон, глядзі,
Не гавары, не ведаючы з кім.

А л ё ш к а

Ёсць, камісар!

С я р г о

Пакліч камбрыга.

А л ё ш к а

Ёсць!

*А л ё ш к а С е м і з в о н выбягае.*

С я р г о

Сядай, таварыш Мелех, закусі.

М е л е х

А можа... вы?

**Сярго**

А хопіць нам на двух?

**Мелех**

Павінна.

**Сярго**

Што ж, дай лыжку, паспрабую.
У арміі даўно?

**Мелех**

Пяць год ужо.

**Сярго**

Абрыдала?

**Мелех**

Абрыдала нашчэнт.

**Сярго**

Дадому хочацца?

**Мелех**

Не гавары.

**Сярго**

А дома як, жывуць нішто?

**Мелех**

Нішто...
Ды крыўдзяць іх, зямлі не хочуць даць.

**Сярго**

Ты камандзіру гаварыў?

**Мелех**

Казаў...
Малы ім клопат.

**Сярго**

Дай твой адрас.
Папробую табе дапамагчы.

Мелех

Сяло Высокае, Цвярской губерні.

Сярго

Так, вельмі добра. А скажы мне, Мелех,
Чаму парадку тут у вас няма?

Мелех

Змарыліся.

Сярго

Не тое, хтосьці шкодзіць...

Мелех

І кожны шкуру беражэ сваю.

Сярго

Вось, вось! Такіх няшчадна трэба біць!

Мелех

Ды людзі ж гэта, камісар! Дармо,
Што ўсе яны з звярынаю душой,
А глянеш, як яны дубеюць, мокнуць,
І шкода неяк стане. Як жа біць?

Сярго

А немцаў біў? Белапалякаў б'еш?

Мелех

Там — ворагі...

Сярго

А тут? А гэта? Той,
Хто разлагае армію знутры,
Той самы подлы, самы страшны вораг.

Уваходзіць камбрыг Баяновіч.

Баяновіч

З'явіўся згодна вашаму загаду.

Сярго

Вы камандзір брыгады, Баяновіч?
Вы можаце ісці, таварыш Мелех.

Нічыпар Мелех выходзіць.

Сядайце. Я даволі пахадзіў,
Пагаварыў з байцамі вашай часці
І не магу павіншаваць вас з тым,
Што я застаў. Няма парадку ў вас.

Баяновіч

Таварыш...

Сярго

Пачакайце! Часць старая,
Народ абучаны, страляць умее,
А поспехаў у вас чамусь няма.
У чым жа справа тут? Дзе корань зла?
Хто вінаваты? Мы — і ты і я.
Так, дарагі таварыш, толькі мы.
Не ўмееце камандаваць як след.

Баяновіч

Я два гады камандаваў палком.

Сярго

Я сам з вусамі? Вусы, сапраўды,
Вялікія ў цябе, а дысцыпліны —
Усё ж няма. Вось і хадзі з вусамі.

Баяновіч

Вы крыўдзіце, таварыш камісар.

Сярго

Крыўдуйце, не крыўдуйце — ваша справа,
А ўсё, што бачу я,— не дысцыпліна.

Баяновіч

На жаль, адзін у полі не ваяка.

Сярго

Чаму адзін?

Баяновіч

Таму, што камісар
Наважыў сам чамусь ісці ў разведку
І перайшоў да ворага.

Сярго

Азорыч?

Як вам не сорам паўтараць паклёп?!

Баяновіч

Здаецца, гэта не паклёп, а праўда:
Азорыча няма чацвёрты дзень.
Начальнік нашай коннае разведкі
Паведаміў сягоння, што яму
Сказалі, быццам бы Азорыч там.

Сярго

Азорыча я знаю асабіста:
Калі ён там, дык не па ўласнай волі,—
Напэўна здарылася з ім няшчасце.
Тым больш вы абавязаны былі
Рассеяць паніку, зрабіць парадак
І згуртаваць увесь народ.

Баяновіч

Народ
Не пра вайну гамоніць, а пра дом.

Сярго

Мой дарагі, а вы пра іхні дом
Хоць трохі думаеце? Вам вядома,
Ці далі сем'ям іх зямлю, ці не?

Баяновіч

Не наша гэта справа.

Сярго

Наша справа!
Аб дзецях і бацьках тваіх байцоў
Павінен першы клапаціцца ты.

Баяновіч

За няньку быць і ваяваць — не ўмею.

Сярго

Я гэтага ад вас не патрабую!
Але вам трэба ведаць, што байцы

Пакінулі бацькоў, дзяцей і жонак
І думаюць: а як яны жывуць?
Ці ёсць у іх там хлеб? карова? хата?
І ты павінен ім дапамагаць
У іхніх клопатах. Павінен ведаць,
Чым ты камандуеш, таварыш мой.
Так, дарагі.

Баяновіч

Я толькі трэці дзень
Камандую брыгадай.

Сярго

Часу досыць,
Каб выканаць загад і ўзяць Барысаў.
Вы разумееце, мяне таксама
За гэта па галоўцы не пагладзяць,
І вашаму пакорнаму слузе
Даць справаздачу прыйдзецца ЦК.
Сягоння я пытанне стаўлю рубам:
Праз колькі дзён вы займеце Барысаў?

Баяновіч

На гэта мне спатрэбіцца два тыдні.

Сярго

Барысаў будзе наш праз дні... чатыры.
Я цвёрда ведаю. Не знаю толькі,
Вы будзеце камбрыгам там ці не.
Тут ваша справа, выбірайце самі.

Баяновіч

Праз дні чатыры нельга аніяк.
Праз тыдзень — можа...

Сярго

А праз трое сутак?
Які на гэта будзе ваш адказ?

Баяновіч

Я пастараюся...

С я р г о

Тады запішам:
Барысаў зоймем цераз двое сутак,
Чаго ж вы маўчыце? Не зоймем, а?

Б а я н о в і ч

Не ведаю.

С я р г о

Патрэбна толькі верыць,
І перамога будзе наша, друг.
Якая вам патрэбна дапамога?

Б а я н о в і ч

Людзей няма, асноўнае — людзей.

С я р г о

Людзей я абяцаць вам не магу.
Што вам яшчэ?

Б а я н о в і ч

З харчамі, з хлебам дрэнна.

С я р г о

Я знаю, хлеб даставяць. Што яшчэ?

Б а я н о в і ч

Абутку малавата.

С я р г о

Колькі трэба?

Б а я н о в і ч

Ну, хоць для самых босых — трыста пар.

С я р г о

Не будзе многа?

Б а я н о в і ч

Гэта сама меней.

Сярго

Я дам усё, але глядзіце мне,
Каб цераз двое сутак быў Барысаў.
З пазіцыі якія весткі ёсць?

Баяновіч

Вось самыя апошнія навіны.

Падае зводкі, Сярго чытае.

Сярго

Дзе ж супрацiўнiк ваш? То ён вось тут,
То ён вось там. Нядобра! Што? Мана!
Там столькі сіл не можа быць.
Туды пасланы быў бронецягнік,
Бронецягнік дайшоў да вёскі Стайкі
І супрацiўнiка нідзе не стрэў.
Разведка хлусіць! Хто прыносіў весткі?

Баяновіч

Начальнік коннае разведкі Бэсман...

Сярго

Той самы, значыць, што даставіў чуткі
І пра Азорыча?

Баяновіч

Той самы, так.

Сярго

Відаць, ён толькі чуткамі й жыве.
А гэта?

Баяновіч

Макарэнка.

Сярго

Макарэнка.
Што затрымаў адзін узвод паноў?

Баяновіч

Ён сам.

Сярго

А ну, паклічце!

Баяновіч

Зараз. *(Выходзіць.)*

Сярго

Мелех!

Уваходзіць Нічыпар Мелех.

Мелех

Я слухаю.

Сярго

Звяжыся, друг, са штабам
І пазаві начальніка снабжэння.

Мелех

Я слухаю. *(Выходзіць.)*

Сярго

Няўжо за гэты час
Паны маглі сабраць такія сілы?
Не можа быць.

Мелех
*(З суседняга пакоя.)*

Таварыш камісар,
Начальнік ёсць.

Сярго ідзе да тэлефона.

Сярго

Начальнік па снабжэнню?
Дзень добры! Што? Арджанікідзе, так.
Вы чым займаецеся? Вам вядома,
Што людзі тут сядзяць зусім без хлеба?!
Няма — чаго? Вагоны скора будуць:
Я сёння ■ Оршы выслаў тры пляцоўкі.
Паклапаціцеся адправіць так,
Каб раніцой былі прадукты тут.
Пад вашую адказнасць. Па-другое,
Прышліце мне абутку трыста пар.

Няма? А ў Віцебску? Вось гэта блага.
Ну што ж, нічога не папішаш. Так...
Усё. Бывайце. Блага! Як жа быць?
Дзе нам дастаць абутку, Мелех, а?

Мелех

Я слухаю.

Сярго

А ты мне лепш скажы.

Мелех

Не ведаю.

Сярго

І я таксама, друг. *(Задумаўся.)*

Уваходзіць Баяновіч.

Сярго

Чакай, знайшлі! Таварыш Баяновіч,
А што ў кавалерыйскай ёсць абутак?

Баяновіч

Напэўна, ёсць.

Сярго

Пазычце.

Баяновіч

Не дадуць.

Сярго

Чаму? Што за мясцовыя настроі!

Баяновіч

А хто ж ім будзе аддаваць?

Сярго

Я сам.
Аддам вось гэтыя свае лакіркі.
Чаго ўсміхаешся, таварыш Мелех?

Мелех

Няважныя лакеркі, камісар.
Не возьмуць іх.

Сярго

Нічога, возьмуць, Мелех.

Мелех

Вы падашліце іх увечар нам,
Дык нашы хлопцы тут паставяць латку.

Сярго

А гэта ўжо хіба пасля вайны.

Мелех

Як знаеце, таварыш камісар. *(Выходзіць.)*

Сярго штосьці піша.

Сярго

Таварыш Баяновіч, вось запіска,
Пашліце з ёю зараз чалавека,
І ён даставіць вам абутак.

Баяновіч

Добра.

Сярго

Вы па людзей паслалі?

Баяновіч

Бэсман тут.

Сярго

Гукніце, хай заходзіць.

Баяновіч

Зараз клікну. *(Выходзіць.)*

Сярго разглядае карту.

Сярго

Няважныя, зусім благія справы.
Без вестак палкаводзец не ваяка.

І як магло зрабіцца, што Азорыч
Так па-дзівацку трапіў да паноў?

Уваходзіць **Бэсман**. Ён пільна прыглядаецца да Арджанікідзе. Сярго заўважае яго толькі праз нейкі час.

**Сярго**

Ты хто такі?

**Бэсман**

Казімер Бэсман.

**Сярго**

Чын?

**Бэсман**

Начальнік коннае разведкі.

**Сярго**

Ты!..
Ты як стаіш?! Ты перад кім стаіш?!
Расхлістаны, абвіслы... Камандзір!
Папраўце рэмень, зашпіліцца. Так.
Сядайце, Бэсман, раскажыце мне,
Адкуль дасталі вы такія весткі?

**Бэсман**

Я сам хадзіў на фронт.

**Сярго**

І асабіста
Сабралі весткі там?

**Бэсман**

Канечна, так.

**Сярго**

Дык пад Барысавам стаіць брыгада?
Вы самі бачылі?

**Бэсман**

Так, бачыў сам.

Сярго

Не разумею. А скажыце мне,
Масты наведзены?

Бэсман

Паромы ходзяць.

Сярго

А як на правым флангу — многа сіл?

Бэсман

Дакладна не магу сказаць, але...
Наш правы фланг глыбока абышлі:
У Хохлаве, у Рудні — скрозь паны.

Сярго

А пад Барысавам?

Бэсман

Я ўжо сказаў,
Што пад Барысавам стаіць брыгада.

Сярго

А наш бронецягнік дайшоў да Стаек
І супрацiўніка нідзе не стрэў.

Бэсман

Не ведаю.

Сярго

Відаць, што пан схаваўся.
Вы што ж такі панурыя, невясёлы?

Бэсман

У нас вясёлага не вельмі шмат.

Сярго

Пачуцце гумару прыносіць сілу.
Нічога больш не скажаце, начальнік?

Бэсман

Я расказаў усё.

Сярго

А што Азорыч?

Бэсман

Я думаў, гэта вам ужо вядома.

Сярго

Мне хочацца пачуць ад вас саміх.

Бэсман

Я новага нічога не дадам,
Бо мы з ім развіталіся ля Стаек:
Я ўзяў кірунак проста ўздоўж чыгункі,
А камісар пайшоў на Слабаду.
Крыху пазней, у Рудні, я дачуўся,
Нібы Азорыч перайшоў к панам.

Сярго

Ён быў адзін?

Бэсман

Здаецца... Не! Чакайце...
За ім пайшоў яшчэ адзін баец.

Сярго

І гэта ўсё?

Бэсман

Усё.

Сярго

Ну, што ж, ідзіце.

Бэсман выходзіць; у дзвярах ён сутыкаецца з Баяновічам.

Бэсман

Што за камедыя?

Баяновіч

Якая? Дзе?

Бэсман

Здаецца, мне не хочуць давяраць?

*(Ён крута павярнуўся і выйшаў.)*

Сярго

Таварыш Баяновіч...

Баяновіч

Я.

Сярго

Скажы,

Хто гэты Бэсман?

Баяновіч

Быўшы афіцэр.

У нас ён, здэцца, больш ужо за год.

Сярго

Ён рэдка усміхаецца.

Баяновіч

Не, ён вясёлы,

З байцамі ён жартуе вельмі часта.

Сярго

А Макарэнка ёсць?

Баяновіч

Прыйшоў.

Сярго

Пакліч.

Баяновіч выходзіць; з-за сцэны чуваць яго голас.

Баяновіч

Таварыш Макарэнка, к камісару!

Уваходзіць малады баец Макарэнка.

Макарэнка

Дазволіце зайсці?

Сярго

Давай, давай.

Макарэнка

Баец дзевятай роты Макарэнка.

Сярго

Прыемна. Рад. Сядай. Глядзі які!
А мне здавалася, што ты асілак.

Макарэнка

Я й не слабы, таварыш камісар,
Хаця звычайны, гэтакі ж, як быў...
І вы такі ж, як і раней былі.

Сярго

А дзе мы сустракаліся з табой?

Макарэнка

У васемнаццатым... На Украіне...
Не помніце? Зімой, як немцаў білі?

Сярго

Успамінаю, верна... Памужнеў!
А я намнога пастарэў?

Макарэнка

Ані.

Сярго

Ну, гавары! Глядзі, маршчыны скрозь.

Макарэнка

Жыццё заўсёды пакідае след.

Сярго

Філосаф!

Макарэнка

Што ж, даводзіцца часамі думаць,
Без гэтага жывым маркотна жыць.

Сярго

Вось гэта ісціна. А раскажы,
Як ты адзін супроць паноў змагаўся.

Макарэнка

Даруйце мне, таварыш камісар.
Ну, праўда, быў загад нам адступіць.
А глянуў я кругом — прыгожы край,
Зялёны, залацісты, поўны песень...
І вось яго патопчуць капытамі,
Зальюць крывёй людскою і слязьмі.
І зашчымела сэрца моцна, моцна.
Забыўся на загад, на ўсё на свеце,
За кулямётам лёг і гавару:
Нічога не ўступлю панам —
Ні лесу цёмнага, ні жоўтых стэпаў,
Ні ясных зор, ні спелых вішань,
Ні песень нашых, сумных і вясёлых.
Усё — маё, усё — народнае і наша!
Канечна, быў загад нам адступіць...
Не падчыніўся... сэрца падвяло.

Сярго

Геройства паказнога нам не трэба,
А ненавісць да ворагаў сваіх,
Сваю святую любасць да краіны
У благародным сэрцы беражы.
Паклікаў я цябе не для вымовы.
Ты раскажы, адкуль табе вядома,
Што пад Барысавам не многа сіл?

Макарэнка

Я быў сягоння ноччу у разведцы.

Сярго

І сам праверыў?

Макарэнка

Мне казалі людзі.

Сярго

Надзейныя?

Макарэнка

Сяляне, нашы людзі.

Сярго

А Бэсман тут нядаўна гаварыў,
Што пад Барысавам стаіць брыгада,
І ў Хохлаве, у Рудні — скрозь паны.

Макарэнка

Вось гэта ўжо хлусня! Сягоння ўночы
Я сам хадзіў у Хохлава, і там —
Ніводнага салдата. Сам я бачыў.

Сярго

І ён гаворыць, сам. Дык як жа так?

Макарэнка

За Хохлава ручаюся жыццём:
Ніводнага салдата там няма.

Сярго

А пра Азорыча не чуў нічога?

Макарэнка

Нічога.

Сярго

Штосьці дзіўна... Вельмі дзіўна!
Вось што яшчэ, таварыш Макарэнка:
Мне трэба некалькі адборных малайцоў,
Адважных і напорыстых, як ты.

Макарэнка

Такіх, як я, у нас не вельмі многа,
А лепшых я магу знайсці вам безліч.

Сярго

Цудоўна, друг. Народ надзейны, пэўны?

Макарэнка

За іх ручаюся, як за сябе.

Сярго

У дзевяць вечара будзь з імі тут.
Прыходзьце ўзброеныя, як да бою.
Усё.

Макарэнка

Дазволіце ісці?

Сярго

Бывай!

Макарэнка выходзіць. За акном на пероне чуваць песня «Над Бярозай-ракой». Сярго падыходзіць да акна, задуменна напяваючы:

«Над Бярозай-ракой, над далінаю
Заігралі гарністы паход:
— Узнімайся, сям'я сакаліная,
Уставай на змаганне, народ!»
А песня верная. З такою песняй
Чырвоныя палкі падымуць сцяг,
Згуртаваныя рушацца на бой,
Я сам ім пакажу надзейны шлях,
І горад наш, клянуся галавой,
Барысаў будзе наш! Што там за шум?

З перона даносяцца ўзбуджаныя галасы Штэйнара і вартавога.

Сімха

Ды прапусці ж ты, добры чалавек!

Адпіхае вартавога і заходзіць у пакой. За ім уваходзяць Валошын і Таццяна.

Сімха

Галоўным камісарам будзеш ты?

Сярго

Як быццам — я.

Сімха

Арджанікідзе?

Сярго

Так.

Сімха

Дзень добры вам!

Валошын

Таварыш камісар,
Мы перайшлі з-за фронту, з Слабады...

Сярго

Вы з Слабады? Сябры мае!.. Сябры!
Вось гэта здорава! Што там чуваць?

Таццяна

Нам перадаў Азорыч...

Сярго

Дзе ён сам?

Валошын

Арыштаваны.

Сярго

Як жа ён патрапіў?

Таццяна

Яго прадаў адзін знаёмы.

Сярго

З нашых?

Таццяна

На вуліцы ён быў у нашай форме,
А ў штабе ў іх — у форме афіцэра.

Сярго

Пазналі б вы яго?

Тацяна

Ва ўсякі час.
Я нават помню, што яго назвалі
Паручнік Завішынскі.

Сярго

Гэта добра.

Тацяна

Скажыце, нельга вызваліць яго?

Валошын

Як можна, Таня, гаварыць аб гэтым,
Калі ёсць болей важныя задачы.

Сярго

Жыццё людзей таксама, друг, не дробязь,
Тым больш жыццё такога чалавека.
Я абяцаць напэўна не магу,
Аднак усё, што толькі можна, зробім,
Каб зноў вярнуць Азорыча на волю.
А як вы з ім звязаліся, сябры?

Сімха

Цераз яе, таварыш камісар,
Яна прабралася да самых крат.

Сярго

Вы — смелая! І што ж ён перадаў?

Тацяна

Барысаў здраднікі здалі без бою.
У ворага пакуль што мала сіл,
І горад можна нам узяць ізноў.

Сярго

Мы так і думалі. Якія ж сілы
У іх па гэты бок ракі Бярозы?

Сімха

Ды сілы невялікія.

Сярго

Дакладна?

Валошын

Дакладна мы не можам вам сказаць.

Сярго

А дзе і як размешчаны?

Валошын

Не знаю.

Сярго

Вось гэта блага. А скажыце мне,
Масты наведзены?

Сімха

Мастоў няма.

Валошын

Паромы ходзяць.

Тацяна

Можна мне прысесці?

Сярго

Вы стомлены?

Валошын

Не спалі двое сутак.

Сярго

Даруйце, я расхваляваўся вельмі.
Ідзіце ў той пакой. Таварыш Мелех!

З сумежнага пакоя ўваходзіць Мелех.

Нікога не пускаць, хай адпачнуць.

А покуль вас зусім не зморыць сон,
Раскажаце мне болей падрабязна.

Выходзіць з прыйшоўшымі ў другі пакой.

Мелех

Турботны чалавек: за ўсіх — клапоты.

Праз нейкі час Сярго варочаецца.

Сярго

Ужо і спяць. Цікавыя навіны.
Выходзіць, Бэсман нахлусіў. Праверым.
Нічыпар Мелех, дай мне, друг, Смаленск.

Мелех

Я слухаю, таварыш камісар.

*(Ідзе ў сумежны пакой да тэлефона.)*

Сярго

Калі разведка нам удасца сёння,
Дык мы Барысаў забярэм напэўна.

Мелех

Смаленск вас слухае.

Сярго

Іду, іду.
Смаленск? Я Прыяміна. Арджанікідзе.
Таварыш Сталін там? Паклікаць можна?
Мне вельмі спешна. Добра, я чакаю.
Даруйце мне, што я вас патрывожыў.
Здагадкі вашы правільныя. Што?
Здаецца, што на гэты бок Бярозы
Іх перайшло не вельмі многа. Колькі?
Разведка блытае, гаворыць розна.
Я пасылаю новую разведку.
Хто павядзе яе? Як вам сказаць...
Начальніка яшчэ я не прызначыў.
Тут ёсць адзін надзейны чалавек...

Як прозвішча? Баюся вам сказаць,
Таму што гэта покуль што няпэўна.
Не можа гэта быць? Што, што? Я сам?
Не, не, я не збіраюся. Ды што вы!
У крайнім выпадку, калі нікога
Не будзе іншага, тады — магчыма.
Не дазваляеце? Дык як жа быць?
Я правяду іх толькі да акопаў.
Ну, можа, там яшчэ вярсты са дзве.
Не, не, я буду асцярожны, буду.
Так. Добра. Слухаю. Ніколі, не!
Вы можаце ад нашага імя запэўніць,
Што лепей мы загінем у няроўнай бітве,
А славы партыі не зганьбім адступленнем.
Бывайце! Дзякую за клопат і парады.

Уваходзіць камбрыг Баяновіч.

Баяновіч

Таварыш камісар, да вас прыйшоў
З байцамі Макарэнка.

Сярго

Вельмі добра.
Не помніце, таварыш Баяновіч,
У часці Завішынскага няма?

Баяновіч

Не помню штось.

Сярго

Вы запытайце ў ротных,
Калі такі дзе-небудзь ёсць у нас,
Арыштаваць на месцы, хто б ні быў.

Баяновіч

Я слухаю.

Сярго

А па-другое. Зараз
У тыл да ворага ідзе разведка.
Начальнікам разведкі буду я.

Пад вашу асабістую адказнасць
Я пакідаю часць. Згуртуйце сілы,
Узорны навядзіце скрозь парадак,
Каб заўтра часць была напагатове.
За ўсякія праявы панікёрства,
Непаслушэнства і варожых дзей
Карайце ўсіх бязлітасна і жорстка.
Я раю, паміж іншым, пасачыць
За Бэсманам.

Баяновіч

Я слухаю.

Сярго

Усё.
Вы можаце ісці. Бывайце, друг.

Баяновіч

Бывайце.

Сярго

Клікніце байцоў сюды.

Баяновіч выходзіць. Праз некалькі хвілін у пакой заходзяць байцы. Сярод іх Макарэнка і Кузьмін.

Галасы

Дзень добры! Добры дзень!

Сярго

Вітаю вас.
І ты, Кузьмін?

Кузьмін

Таварыш камісар!..

Сярго

Хто вам дазволіў выйсці з лазарэта?
Кантужаны, ледзь-ледзь жывы — і ён!
Ну і характар!

К у з ь м і н

Гэткі, як у вас.

С я р г о

Прабач, я хворы ваяваць не лезу.

К у з ь м і н

А помніце, як на Каўказе вы?..

С я р г о

Даволі, тут не вечар успамінаў.
Таварышы, я вас усіх паклікаў
Для вельмі важнай і адказнай справы.
А для якой, я зараз растлумачу.

*(Падыходзіць і паказвае на карце.)*

Дзянікін з поўдня рушыць на Маскву.
Патрэбна кінуць сілы ўсе туды.
Каб развязаць для гэтага нам рукі,
Каб утрымаць Калінкавічы, Гомель —
Цэнтральныя вузлы ад поўдня на Маскву,
Спыніць паноў патрэбна на Бярозе.
І вось мяне паслаў сюды урад
І наказаў узяць назад Барысаў.
Звяртаюся да вас: дапамажыце!
Разведка наша зблытала нашчэнт:
Дзе вораг, колькі сіл у іх — не знае.
Нам трэба з вамі перайсці за фронт,
Прабрацца непрыкметна ў тыл паноў
І аб усім даведацца дакладна.
Калі хто сумняваецца, баіцца,
Хай не ідзе, не замінае нам.
Такія ёсць? Няма? Цудоўна. Мелех!

Уваходзіць Н і ч ы п а р  М е л е х.

М е л е х

Я слухаю.

С я р г о

Пакліч людзей з атрада.

М е л е х выходзіць у суседні пакой.

Сярго
А вы сягоння елі?

Галасы
Елі.

Сярго
Добра.
Вінтоўкі ў спраўнасці? Патроны ёсць?
*(Правярае вінтоўкі, падсумкі.)*

Макарэнка
Усё, таварыш камісар, як след.
Мы самі правяралі.

Сярго
Малайцы.

Уваходзяць Штэйнар, Тацяна і Валошын.

Сярго
Ну як, паспалі? Адпачылі трохі?

Сімха
Што адпачыць, дык адпачылі добра,
А спаць, таварыш камісар, не вельмі...

Сярго
Ну што ж, сябры, крыўдуйце на сябе,
Калі не выспаліся. Зараз нам
Вялікая прадбачыцца работа.
Мне трэба ваш тутэйшы чалавек,
Які мяне правёў бы у Барысаў.
Хто добра ведае дарогу з вас?

Тацяна
Я тысячу разоў туды хадзіла.

Валошын
Дык я тады — дзесяткі тысяч раз.

Сімха

А я сказаў бы вам, таварыш камісар,
Дык не магу і падлічыць дакладна.
Я балаголам трыццаць восем год.
Памножце іх на трыста з лішнім дзён,
Пасля яшчэ памножце на чатыры,
І мы даведаемся, колькі раз
Праехаў я барысаўскай дарогай.

Сярго

Я мушу вам сказаць, што мы ідзем
У вельмі небяспечную дарогу,
У тыл. Вы зразумейце гэта, Штэйнар.

Сімха

За вамі я пайду хоць да Варшавы.

Сярго

*(да Валошына).*

Тады вы заставайцеся, мой друг,
І падрыхтуйцеся сустрэць людзей,—
Мы ваш атрад далучым да палка.
А ты таксама не сумуй, дзяўчынка,
Азорыча мы ў крыўду не дадзім.

Тацяна

Навек запомню вашу дабрату.

Сярго

Ну што ж, сябры, не будзем траціць часу.
Ноч цёмная, якраз нам на руку.
Бывайце, дарагія!

Валошын

Добры шлях!

Тацяна

Шчаслівай вам дарогі!

С я р г о

Ну, пайшлі.

Смялей наперад — будучыня наша!

*У с е, апрача Валошына і Тацяны, выходзяць.*

В а л о ш ы н

А ноч, як дзёгаць, не відаць нічога.

Т а ц я н а

І дождж ліе.

В а л о ш ы н

Адважны чалавек!

Т а ц я н а

Такіх людзей на свеце, мусіць, мала.

## АКТ ТРЭЦІ

### МАЛЮНАК ШОСТЫ

Местачковы рыначны пляц. У цэнтры стаіць мураваны касцёл, справа — турма, а злева — латкі і крамы. Раніца ў нядзелю. У касцёле звоняць званы. На цвінтары спяваюць жабракі. З групаю афіцэраў праходзяць Свідэрскі і Ксаверы Стрыж.

Жабракі

Злітуйцеся, добрыя людзі,
Няхай ваша ласка будзе
Над сляпымі, глухімі,
Над крывымі, нямымі,
Над ўсімі калекамі,
Няшчаснымі чалавекамі.

Свідэрскі

Ну, як кірмаш, Ксаверы?

Ксаверы

Як даўней!
Я чатырох прыказчыкаў паставіў:
Два ў краме бегаюць, а два — на рынку.
Вось Нохім Штэйнар, там яго унук, —
Усё мае прыказчыкі. Базар
Увесь загружаны маім таварам.
Ды вось няма купцоў, пан капітан.

Свідэрскі

Калі я загадаў зрабіць кірмаш,
То будуць і купцы.

Ксаверы

Ды дай жа божа!

Свідэрскі

Прыехаць сказана усёй акрузе.
Я паважаю мірнае жыццё:
Кірмаш, касцельны звон, дзяўчат...
Вы ж да царквы ці да касцёла?

Ксаверы

І сам не ведаю, куды падацца.

Свідэрскі

Чаго вам з мужыкамі пхацца.
Хадзем, мой пане, да касцёла,
Там і чысцей і больш вясёла.
Прыгожанькія панны ёсць?

Ксаверы

На дзіва!

Свідэрскі

Хадзем, панове. Шуму, шуму, Стрыж!

Свідэрскі і афіцэры ідуць у касцёл.

Ксаверы

Прыказчыкі, жвавей! У, чэрці вы!
*(Бяжыць следам у касцёл.)*

Нохім

Гнутыя палкі,
Тытунь і запалкі,
Шпількі, іголкі
І перац горкі.

Зяма

У пана Стрыжа
У краме ляжаць,
Людзям прадаюцца,
Дарам аддаюцца
Найлепшыя тавары
На ўсім базары.

Уваходзіць Карабан, пераапрануты так, што яго не пазнаць.

Карабан

Купляйце, панове,
На косы брускі,
За сем залатовак —
Чатыры кускі,
Ільга і касу
І язык падвастрыць,
Лягчэй будзе з жонкай
Тады гаварыць.
Навін няма ніякіх?

Зяма

Не, няма.

Карабан

Відаць, яшчэ не знаюць пра забітых.
Сачы за кожным панскім крокам.

Зяма

Добра.

Разыходзяцца ў розныя бакі.

Жабракі

На калені ўпадаем,
Хрыста праслаўляем,
Памяні таго, божа,
Хто няшчасным паможа.

Уваходзіць Сёмка Бегунок.

Сёмка

Святы божа, святы крэпкі,
Хто ў цымбалы, а хто ў скрыпкі.
Няшчасныя вы людзі, жабракі.

Нохім

А, Сёмка Бегунок! Куды бяжыш?

Сёмка

Бягу на раздабыткі,
Падвязаўшы лыткі.
А Нохім у купцы пайшоў, ці што?

Нохім

Халера на яго з яго купцамі!

Сёмка

А на каго?

Нохім

На пана капітана.
Ён выпусціў мяне з турмы ў ярмо,
Прыказчыкам да солтыса Стрыжа.
Ён загадаў купляць і прадаваць.
Ён загадаў цяпер рабіць кірмаш.
Ён паважае мірнае жыццё.
Які тут мір, хваробы ім у бок,
Калі вайна.

Сёмка

А чуў, што кажуць?

Нохім

Што?

Сёмка

На тракце бачылі паноў забітых.

Нохім

А дзе?

Сёмка

Ды на барысаўскай дарозе.

Нохім

Ты, Сёмка, болей не кажы нікому.

Сёмка

Ці я дурны?

Нохім

Дурны то не дурны,
А падап'еш — язык бывае доўгі.
Няма ў цябе ў жыцці апоры, Сёмка.

Сёмка

Бабыль, як мае быць. Каўнер шырокі,
А пяты голыя. Які ж тут грунт?
Нічога ў спадчыну не даў мне бацька,
Апроч вядомай прыказкі людской:
«Менш гавары, а болей слухай, Сёмка».
Я загубіў і гэтую апору.
І, праўда, балбачу часамі лішне...
Злосць, Нохім, на жыццё і на людзей.

Нохім

На гэты раз папробуй памаўчаць,
Каб не было якой бяды.

Сёмка

Маўчы,
Бяда, як дуда:
Станеш дзьмуць —
Слёзы самі ідуць.
Пайду я вып'ю з гора, Нохім, чарку.

Нохім

Ізноў? Ты ж, здэцца, піў ужо. Глядзі,
Каб не зашкодзіла на твой язык.

Сёмка

Палка на палку шкодзіць,
А чарка на чарку ніколі.

Нохім ідзе ў адзін бок, а Сёмка намерыўся ісці ў другі, але яго затрымлівае Ксаверы, які перад гэтым выйшаў з касцёла і чуў канец Сёмкавай размовы з Нохімам.

Ксаверы

Аб чым вы гэта, Сёмка, гаварылі?

Сёмка

Не ўсё кажы, што ведаеш, мой пане.

Сержант

Ты не жартуй, а то й заплакаць можаш.

Сёмка

Голы разбою не баіцца.

Ксаверы

Вялікай сілы кожны забаіцца.

Сёмка

Пашчыплюць вашу сілу вераб'і.

Ксаверы

А хто гэта пасмее?

Сёмка

Не пасмеюць?

А вось жа пашчыпалі.

Ксаверы

Хлусіш, Сёмка.

Сёмка

Хлушу?

Ксаверы

Канечна.

Сёмка

Ну, а што, як праўда?

Ксаверы

А чым жа ты дакажаш гэту праўду?

Сёмка

А ты схадзі на тракт, і сам пабачыш.

Ксаверы

Каго?

Сёмка

Жаўнераў вашых перабітых.

Ксаверы

Што ты гаворыш? Божа мой!

Сёмка

Ага,
Спалохаўся!

Ксаверы

Ідзі, брат, і маўчы!
Ідзі. На вось табе на чарку, Сёмка.

*(Дае грошы.)*

Сёмка напявае.

Сёмка

Я задком, перадком
Перад панам Хведарком;
Не я скачу — няволя:
Загадалі панове.

Ксаверы

Адстань жа, Сёмка! Дурань ты набіты!

*(Адпіхае Сёмку і шпарка ідзе ў касцёл.)*

Сёмка

Пастой!.. За што ж ён даў мне грошы, а?
Выходзіць, я зрабіў яму паслугу?
Не выцерпеў і прабрахаўся, Сёмка,
Прадаў, а грошы думаеш прапіць.
Не, наце вам. Маліцеся, людцы,
За грэшнага Сымона Бегунка.
Эх, стварыў мяне бог,
Ды і сам каецца.

*(Аддае грошы жабракам і выходзіць.)*

Жабракі

Каб вам бог здароўя даў,
Скацінку гадаваў,
Хлеба-солі засылаў,
І жыта, і пшаніцы,
І ўсякія пашніцы.

З касцёла выходзяць Свідэрскі, за ім сержант і Ксаверы Стрыж.

Свідэрскі

Што сталася?

Ксаверы

Няшчасце, панічок:
Жаўнераў, кажуць, перабілі нашых.

Свідэрскі

Што ты пляцеш? Якіх жаўнераў? Хто?

Ксаверы

Напэўна, партызаны, іх работа...

Свідэрскі

Ох, насмяшыў! Ва ўсёй маёй акрузе
Ніякіх партызан не можа быць!

Убягае жаўнер увесь у балоце.

Жаўнер

Пан капітан!..

Свідэрскі

Ты хто — жаўнер ці чорт?

Жаўнер

Я двое сутак поўз сюды балотам...
На наш канвой напалі партызаны,
Усіх легіянераў перабілі
І павялі дзяўчыну да сябе.

Свідэрскі
Дзяўчыну вызвалілі? Чорт!
Сержант! Базар спыніць, тавары ўзяць,
Людзей сагнаць сюды і дапытаць:
Яны павінны ведаць, дзе атрад.

Сержант, Ксаверы і жаўнер выбягаюць.

Дзяўчыну вызвалілі... Гэта дрэнна...
Калі яна патрапіць да чырвоных —
Загіне ўсё: і друг мой Завішынскі,
І наша справа. Трэба ратаваць.

Убягае ўстрывожаны Мікола.

Мікола

Што здарылася тут?

Свідэрскі

Мікола Стрыж,
Вы паручыліся за Марыч, так?
Дзяўчыну вызвалілі партызаны.
Адкажаце за гэта вы, мой пане.
Ды не палохайцеся, я жартую...
Прабрацца трэба цераз фронт,
Знайсці там... Бэсмана...

Мікола

Каго?

Свідэрскі

Таго,
Каго вы бачылі у нас у штабе,
Ён называецца: Казімер Бэсман.
Няхай ратуецца, пакуль дзяўчына
Яго не стрэла дзе і не пазнала.
Вам ясна ўсё?

Мікола

Даруйце, капітан.
Я горка памыліўся ў гэтай Марыч,
І просты абавязак мой цяпер
Зрабіць з дзяўчынай гэтаю разлік.

Свідэрскі

І лепш за ўсё, калі разлік навек.

Мікола

Клянуся гонарам, што гэта будзе
Маё апошняе спатканне з Марыч.

Свідэрскі

Збірайцеся і зараз жа ідзіце.

Мікола Стрыж шпарка выходзіць.

Свідэрскі

Свідэрскі не ваяка, гэта так,
Але затое першы між гуляк,
І ён задасць такі крывавы баль,
Што будуць памятаць сыны і ўнукі.

На рынку падымаецца гоман і крык. На пляц у роспачы выбягае Тэкля.

Тэкля

Паночак, дарагі, скажы ж ты ім...
Скажы ж ты ім аддаць маю кароўку!
Я вывела яе на хлеб прадаць...
Малым на хлеб... Паночак, дарагі!

Свідэрскі

Адстань! Што цапаеш? Адстань, назола!

Жаўнеры выганяюць натоўп людзей. Уперадзе ідуць Матрона і Ксаверы.

Галасы

За што ганяеце?! За што б'яце?!

Тэкля

Мужчынкі, людзі, што ж гэта такое?!

Галасы

Разбой! Які ж гэта кірмаш? Які закон?
Удзень і на людзях рабуюць.

Тэкля

Пан стараста, ну заступіся ж ты.

Ксаверы

Эх, неразумная ты баба, Тэкля!
А хіба ж ім не трэба піць і есці?

Тэкля

Дык вось якая мне твая падзяка?!
Хай жа развее вас сіверны вецер,
Хай размятуць вас віхуры крутыя,
Каб не марыліся нашыя дзеці,

Каб не стагналі ў няволі старыя!
Здзейсні ж праклён гэты, божачка мой!

*(Падае ў дзікай роспачы на калені.)*

Свідэрскі

Шапкі, паганае быдла!
Хто перабіў на дарозе канвой?
Воля бандыту абрыдла?!
Я ў вас пытаю, дзе вашы сыны?

Ксаверыха

Я скажу...

Сёмка

Сціхні ты, лёкай!

Ксаверыха

Гэта — Валошын з атрадам, яны
Дзесьці не так і далёка.

Свідэрскі

Хто мае войска туды завядзе?
Што ж вы ўсе анямелі?

Нохім

Пан афіцэр, мы ж не ведаем дзе,
Самі мы вестак не мелі. *(Да Сёмкі.)*
Бачыш, які ты дурны, хоць стары.

Сёмка

Трэ разумнець. Калі ласка,
Я раскажу.

Свідэрскі

Ну, давай, гавары.

Сёмка

Так пачынаецца казка:
Ой, з гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры,
Усе конікі сівыя,
На іх хлопцы маладыя.

Свідэрскі

А што далей?

Сёмка

Далей пяецца так:
Паны коні даганяюць,
Ды шляхоў яны не знаюць.

Свідэрскі

Што ты пляцеш? Ты мне кажы ясней.

Сёмка

Ішоў лысы і пляшывы,
Знайшлі яны грэбень,
Сталі радзіцца, судзіць,
Каму ён патрэбен.

Свідэрскі

О, галган, стары пёс! Узяць
І даць яму двадзесце пяць!

Жаўнеры хапаюць Сёмку.

Сёмка

Гні, пане, дрэўца, покуль гнецца,
Прыйдзе пара — адрыгнецца.

Свідэрскі

Я вас сагну, што ніводзін не ўстане!
Дзе твой, старая бязбожніца, сын?

Наста

Там ён ужо, у цябе, ясны пане.

Ксаверыха

Гэта ж і скажа Азорыч адзін.

Свідэрскі

Верна!.. Азорыча!

Жаўнеры бягуць да турмы.

Наста

Змеі вы, людзі!
Як твой язык мог сказаць?

Ксаверыха

Вось яго маці...

Свідэрскі

Пры мацеры будзе
Сына лягчэй дапытаць.

Наста

Не дапытаеце! Сынок мой, сыне!
Ці ж я цябе для таго гадавала,
Над калыскай тваёй стаяла,
Цёмных ночак не спала,
Каб цябе ў кайданы забілі,
Рукі, ногі твае скруцілі,
Па людзях вадзілі?

Канвой выводзіць з турмы Азорыча. Наста кідаецца яму насустрач.

Наста

Тарас!

Азорыч

Цярпі, матуля.

Наста

Сыне мой,
На гора спарадзіла я цябе.

Азорыч

Не плач, матуленька, не плач,
Ты прычакаеш скора шчасця.
Нядарам ты жыццё дала,
Хоць мне і суджана прапасці.
Будзе гаротны, забіты наш край
Сонцам свабоды гарэць!

Свідэрскі

Годзе там гутарыць! Ну, выбірай:
Ці вызваленне, ці смерць?

Азорыч

Дзякуй, паночку, за ласку тваю,
Марныя толькі старанні:

Я не купляю і не прадаю,
А волю бяру у змаганні.

Свідэрскі

Не ганарыся, твой гонар спадзе.
Ведаеш, дзе партызаны?
Ты наша войска туды павядзеш.

Азорыч

Не дачакаешся, пане.

Свідэрскі

Скажаш! *(Б'е Азорыча.)*

Наста

Сынок мой!

Азорыч

Матуля, маўчы...

Свідэрскі

Я цябе вымушу, злодзей!

Нохім

Сорам, паночку!

Свідэрскі

А ты не вучы!

Б'е нагайкаю Нохіма па галаве. Акрываўлены стары падае на брук.

Нохім

Зяма!..

Зяма

Не катуйце, годзе!

Свідэрскі

Я супакою цябе, супастат.
Ну, камісар, задаволен?
Выкажаш, дзе партызанскі атрад?

Азорыч

Не прычакаеш ніколі.
Можаш жывога загнаць у зямлю,
Кары не страшна суровай.
Вусны свае да крыві сашчамлю,
І не пачуеш ні слова.

Свідэрскі

Не заракайся, бо будзеш не рад.
Слухай, сержант, мой загад:
Кожнага пятага — розгамі біць,
Кожнага сотага — вешаць,
Хаты разграбіць, мястэчка спаліць,
Хай сваё сэрца пацешыць.

Галасы

Божачка, што ж гэта будзе цяпер?
Дзе ж мы прытулімся? Дзе заначуем?

Тэкля

Богам святым заклінаем цябе,
Рукі і ногі цалуем...

Азорыч

Ціха, не плачце, не трэба стагнаць.
Сцісніце зубы сурова:
Раз чалавеку ў жыцці паміраць,
Трэба ж памерці талкова.

Ксаверы

Людзі, нашто ж, каб за тых партызан
Нас вынішчалі пажарам?
Людзі, скажыце ж вы! Пан капітан,
Знойдзем мы іх за імшарай.

Карабан

Ведае, сволач!

Тэкля

Даруй нам, панок!

Галасы

Не пакарай! Заступіся!

Свідэрскі

Што вы прысталі? Прасіце яго...

Тэкля

*(да Азорыча).*

Родненькі наш, пакарыся.
Ён жа запаліць, загубіць навек,
Выратуй нас ад напасці.

Карабан

Выратуй! *(Ціпіком.)* Сто пяцьдзесят чалавек
Можа ў імшарах прапасці. *(Голасна.)*
Выратуй!

Галасы

Выратуй бедных сялян —
Спаліць ён нас да сарочкі.

Азорыч

Дапамажы мне задуманы план
Здзейсніць, дажджлівая ночка.

Свідэрскі

Скора сержант ажыццёвіць загад...
Думай!

Азорыч

Я вырашыў, пане.

Свідэрскі

Вырашыў?

Азорыч

Я пакажу вам атрад.
Хай не гаруюць сяляне.

Свідэрскі

Роце пастроіцца!

**Н а с т а**

Што ж ты зрабіў?
Сынку мой! Сынку мой!.. Сыне...
Ты ж і Таццяну і ўсіх загубіў,
Матку на ганьбу пакінуў.

**А з о р ы ч**

Не дакарай мяне, маці мая...

**Н а с т а**

Прэч! Ты — не сын, ты — чужынец.
Сэрца тваё нарадзіла змяя...

**А з о р ы ч**

Маці...

**Н а с т а**

Няма ў мяне сына.

*(Падае ў зняменні на зямлю.)*

**С в і д э р с к і**

Выгнаць! Даволі размовы.

Л ю д з е й усіх выганяюць, застаецца адна Наста.

**С в і д э р с к і**

За мной!

**А з о р ы ч**
*(да маці).*

Хай жа спакойная будзе
Старасць твая і сумленне тваё...

Ж а ў н е р ы выходзяць і выводзяць А з о р ы ч а.

**Н а с т а**
*(ачнуўшыся, прыпадымаецца з зямлі).*

Што ж гэта сталася? Людзі!
Што я зрабіла, адзіны ты мой?
Збіты, пракляты, закуты...
Не, да канца буду несці з табой
Ганьбу тваю і пакуты.

Ідзе ўслед за Азорычам.

## МАЛЮНАК СЁМЫ

Цёмная ноч. Старадаўні лес. Лье спорны дождж. Бліскавіцы асвятляюць вузкую лясную дарогу і, на заднім плане, нізкарослы балотны хмызняк.

Свідэрскі

Яшчэ далёка?

Азорыч

Скора будзем там.

Свідэрскі

Ты водзіш нас па лесе цэлу ноч,
Мы стомлены, я не магу ісці.

Азорыч

Яшчэ хвілінку цярплівосці, пане,
І мы дасягнем мэты.

Свідэрскі

Брэшаш, мусіць,
Ты водзіш нас знарок. Глядзі, Азорыч,
Калі ты хлусіш — не чакай дабра!
Пайшлі, мінае ноч.

Азорыч

Ну што ж, пайшлі,
Цяпер да нашай мэты вельмі блізка.

Галасы

Балота! Гінем!

Свідэрскі

Стой! Назад, назад!
Дык вось ты нас куды завёў, сабака?

Азорыч

А ты ж куды хацеў? Куды хацеў?!

Галасы

Ратуйце нас! Дапамажыце! Гінем!

Азорыч

На партызан павесці? Не, панок,
Ніколі вырадкаў здрадлівых
На нашай не было зямлі,
Каб вас, разбэшчаных і хцівых,
Супроць сваіх людзей вялі.
Мне лепш ад вашых рук загінуць,
Дык хоць народная сляза
Маю аплача дамавіну,
А не бур'ян і не лаза.

Свідэрскі

Загінь жа, пёс! *(Страляе.)*

Азорыч

Матуля... Ма...

Свідэрскі

Назад!
Пакуль не трапілі да партызан!

Белапалякі паспешна адыходзяць.

Галасы

Ратуйце! Гінем! Ой, ратуйце, людзі!..

Шукаючы слядоў, ідзе Наста.

Наста

Ізноў я загубіла іхні след.
Здаецца, галасы ішлі адгэтуль.
Якая цемра! Дзе ты, мой Тарас?

*(Натыкаецца на труп Азорыча.)*

Што тут такое? Чалавек? Тарас?..
Тарас, дзіця маё, даруй мне, сыне,
Не ведала я тайных дум тваіх...
Што ж ты маўчыш? Не чуеш? Кроў... Забіты!
Устань, Тарас! Мне страшна тут.
Адна, кругом балота, лес гамоніць...
Пагавары са мной, скажы мне слова.

I я адна, і ты цяпер адзін.
Як мала ў нас было такіх хвілін!
Маўчыш, астылі рукі, твар халодны.
Табе сцюдзёна ноччу непагоднай.
I дождж шуміць, як гоман баравы.
Не, я не веру, ты — жывы, жывы!
Перада мной тваё маленства паўстае.
I крыўды горкія і радасці твае
Праходзяць чарадой. Ты помніш, даўняю парой
Ты пасвіў скот. Каровы заблудзілі,
Цябе гаспадары да смерці збілі.
Ты вусны сцяў і выбег на раку.
Была вясна, шумелі ціха дрэвы.
На беразе шырокае Бярозы,
Стаіўшыся ў зялёным лазняку,
Ты слухаў іх дзівосныя напевы,
I ціхія, як град, буйныя слёзы
Ліліся на пясок. Сынок, сынок,
Не ўстанеш ты і не заплачаш болей,
Не выпаліш слязамі горкай долі
I не адпомсціш ім, разбойнікам тваім,
Тваім забойцам. Вусны анямелі,
Маўчаць. А помніш, кожнае нядзелі
Ты прыязджаў з Барысава са школы.
Прыходзілі суседзі. Ты, вясёлы
I гаваркі, расказваў нам, гаротным,
Як добра будзе жыць народ свабодны,
Здабыўшы волю. I вось ужо ніколі
Не загаворыш ты, не скажаш слова,
Не паглядзіш ласкава і сурова
На занядбаных, стомленых людзей.
Дай прытуліцца да тваіх грудзей,
Дай выслухаць апошні крык надзей
I дум тваіх. Я разгадаю іх
I панясу на свет, людзям, якіх любіў
I для якіх змагаўся ты, і жыў,
I паміраў. Я панясу. А ты,
Ты спі, ты спі спакойна, добры сын.
I я адна, і ты цяпер адзін,
Не шмат у нас такіх бывала дзён,
I твой сягоння будзе ціхі сон.

Наста змаўкае. Гамоніць лес, шуміць дождж. Праз нейкі час на дарозе з'яўляюцца Арджанікідзе і яго разведка.

Сімха

Спыніцеся, таварыш камісар.

Сярго

А што?

Сімха

Тут пачынаецца балота.
Нямала ў ім загінула людзей,
Не знаючы дарогі. А тым часам
Тут кладкі ёсць. Я зараз іх праверу:
Калі дажджом не пазмывала часам,
Праз пяць хвілін мы будзем на сухім.

Сярго

Было б нядрэнна. Мы ад Навасёлак
Пайшлі б адны, а ты — у свой атрад.
І гэтым шляхам вывеў бы і іх.
Чаго ім там сядзець і сумаваць,
Калі з панамі выйгранкі няма.

Сімха

Дык вы спачніце тут, а я праверу.

Сярго

Будзь асцярожны, цёмна, Штэйнар.

Сімха

Я вочы завязаўшы тут прайду.

Сімха Штэйнар знікае ў цемры.

Сярго

Не патаміліся?

Галасы

Прысталі трохі.

Сярго

Дарога наша трудная была.

Макарэнка

Калі б не адпачылі трохі ў лесе,
Я б, мусіць, не дайшоў.

Сярго

Благі хадок!
А што гадзінку адпачылі ў лесе —
Нядрэнна: зараз ахватней ісці.
Вось часу толькі шкода. Нам цяпер
Няможна траціць ні хвіліны лішняй.
Аб супраціўніку мы весткі маем,
І неадкладна трэба наступаць.

Макарэнка

А гарадок разграбілі нашчэнт,
Я не пазнаў Барысава. Нашчэнт!

Сярго

Ламаць яны аматары. А нам —
Вучыцца трэба будаваць, сябры.
Не холадна?

Галасы

Ды не.

Сярго

Нябось, прамоклі.

Галасы

Памыліся і вымаклі на год.

Сярго

Дзеля дабра краіны і народа
Нам давядзецца выцерпець нямала.

Чырвонаармейцы замаўкаюць. Шуміць вецер і дождж. У перапынкі паміж завываннем ветру чувацць спачатку глуха, а потым усё больш выразна галашэнні Насты.

Наста

Заснуў. Навек заснуў. Тарас, Тарас...

С я р г о

Цішэй, там нехта стогне.

М а к а р э н к а

Сосны стогнуць.

Н а с т а

Ой, як мне цяжка, як мне горка жыць!

С я р г о

Не, не, там хтосьці плача.

М а к а р э н к а

Дождж шуміць.

Н а с т а

Ці дараваў ты мне за мой праклён?

С я р г о

Вы чуеце? Гаворыць.

М а к а р э н к а

Можа Штэйнар?

Н а с т а

Што ж ты маўчыш, Тарас? Скажы мне слова.

С я р г о

Не, гэта ў тым баку. Жаночы голас.

Раптам маланка асвятляе Насту.

М а к а р э н к а

Жанчына, бачыце?!

С я р г о

Адкуль яна?
Зблудзіла? Трэба ёй дапамагчы.

С я р г о і б а й ц ы падыходзяць да Насты.

С я р г о

Вы што тут робіце?

Наста

Не падыходзь!

Сярго

Не бойцеся, мы вашыя сябры.
Як вы сюды папалі гэткай ноччу?

Наста

Цяпер ён мой, я вам яго не дам.

Сярго

Каго?

Макарэнка

Глядзіце, тут жа чалавек.

Сярго
*(прыглядаецца).*

У шынялі. Забіты. Хтосьці наш.
Устань, старэнькая, не бойся нас.
І мы ж чырвоныя таксама.

Наста

Вы?
Чырвоныя? Дапамажыце ж мне!

Сярго

Няшчасная, устань. Адкуль жа ты?

Наста

Я з Слабады.

Сярго

А хто забіты?

Наста

Сын.

Сярго

Пакутная, старая наша маці,
Я пазнаю тваю душу і сэрца,

Вялікасную любасць да дзяцей.
Чыя ж рука не скамянела мёртва,
Узняўшыся над галавою сына!
Скажы нам, хто яго забойцы, маці?

Н а с т а

Паны.

С я р г о

За што?

Н а с т а

Завёў іх на пагібель,
А ім хацелася да партызан.

Варочаецца С і м х а Ш т э й н а р.

Ш т э й н а р

Прайшоў наскрозь, дарога наша ёсць.

С я р г о

Здыміце шапкі, за жыццё радзімы
Памёр таварыш наш.

С і м х а
*(прыглядаючыся).*

Які? Азорыч?

С я р г о

Што? Камісар палка?

М а к а р э н к а
*(прыгледзеўшыся).*

Наш камісар.

С я р г о

Дык вы Азорычава маці?

Н а с т а

Маці.

С і м х а

Ты, цётка Наста?

Н а с т а

Сімха? Бачыш, Сімха,
Якое гора!.. *(Плача.)*

С я р г о

Выкапайце дол.
Не плач, старэнькая, твой добры сын
Быў добрым сынам і сваёй радзімы.

Н а с т а

Я засталася круглай сіратой.
Нашто мне жыць?

С я р г о

Не ты адна, у нас
Сям'я вялікая і сірат многа,
Будзь маткаю для іх, для нас усіх.

С і м х а

Ёсць, цётка, у цябе яшчэ Таццяна,
Жыві для сіраты.

С я р г о

Жыві для справы.
Змагайся з ворагам, як сын змагаўся,
За памяць светлую аб ім у людзях.

Н а с т а

Скажы мне, што ж рабіць?

С я р г о

Ты пойдзеш з намі,
Работа ёсць.

М а к а р э н к а

Гатова, камісар.

Сярго

Таварышы, нізка схіліце галовы
Над прахам байца, камісара і сына.
Сумленна прайшоў ён дарогай жыццёвай,
Сумленна загінуў за волю краіны.
Яго не зламалі ні краты, ні турмы,
І родная пушча прымае астанкі.
Над ім не іграюць ні трубы, ні сурмы,
А вецер спявае, гамоняць маланкі.
Але за сцюдзёнай асенняй нягодай
Настане вясна, закрасуюць палеткі,
Абудзяцца пушчы, успеняцца воды,
І вырастуць тут над магілаю кветкі.
Не згінуць ніколі шляхі баявыя,
Ні дзейнасць яго, ні бяссмертная слава.
Ідзіце ж на подзвіг, устаньце, жывыя,
Змагацца за тую ж вялікую справу.
Бывай, наш таварыш. Будзь пэўны, што скора
Пазбудзецца цяжкай няволі краіна.
Спакой жа і мір твайму праху, Азорыч,
А мацеры — дзякуй за добрага сына.

Наста

Вам дзякуй, добры чалавек і людзі,
За слова добрае. Бывай, Тарас,
Бывай, мой сыне! Я к табе вярнуся...

Ціха напяваючы пахавальны марш, байцы падымаюць нябожчыка.

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

### МАЛЮНАК ВОСЬМЫ

Ваколіца вёскі каля Прыяміна. На скрыжаванні дарог стаіць старая карчма, у якой змяшчаецца штаб чырвонаармейскага палка. Наводдаль распасцёр панурыя крыллі адзінокі вятрак. За ім адкрываецца шырокі палявы прастор. Досвітак. Каля штаба ходзіць вартавы. Праз момант з штаба выходзяць Бэсман і Дамейка.

Бэсман

Марудзіць нельга больш: Арджанікідзе
Вярнуцца можа кожную хвіліну.
І трэба полк змяшаць, узбурыць так,
Каб камісар, вярнуўшыся з разведкі,
Не меў каго павесці ў наступленне.

Дамейка

Ты захапляешся, Казімер Бэсман:
Палком не вельмі лёгка заўладаць.

Бэсман

Цяпер не цяжка: камісар палка
Ляжыць без памяці. А наш камбрыг —
Ён чалавек і новы і бязвольны.
І сёння самы лепшы час, Дамейка.
Што падрыхтована? Якія роты?

Дамейка

Мой батальён за намі пойдзе цалкам.

Бэсман

А як каманда сувязі, за нас?

Дамейка

Там ёсць у іх стары, Нічыпар Мелех,
Калі ён пойдзе — пойдзе і каманда.

Б э с м а н

Я ведаю яго, пагавару...
Галоўнае — кругом пасеяць страх,
Сказаць, што камісар Азорыч збег,
Арджанікідзе трапіў у палон,
Мы зноў абкружаны...

Д а м е й к а

Сюды ідуць.

Бэсман і Дамейка хаваюцца. У штаб прыходзяць В а л о ш ы н і Т а ц я н а.

Прайшлі.

Б э с м а н

Якое падабенства, чорт!
Няўжо яна?

Д а м е й к а

Знаёмая?

Б э с м а н

Наўрад!
Ідзі, Дамейка, дзейнічай адзін.
Нас не павінны зараз бачыць разам.

Разыходзяцца. Нечакана паказваецца М і к о л а С т р ы ж і аклікае Бэсмана.

М і к о л а

Таварыш Бэсман!

Б э с м а н

Што? Мікола Стрыж?
Чаго ты тут?

М і к о л а
*(набліжаецца і шэпча Бэсману).*

Мяне паслаў Свідэрскі.

Б э с м а н
*(паказваючы Міколу на Дамейку).*

Пры ім ты можаш гаварыць усё.

Мікола

Тацяну вызвалілі партызаны.

Бэсман

Дык гэта тут ішла яна?

Мікола

Ды не,
Яна яшчэ ў лесе у партызан.
Магчыма, іх усіх там і захопяць,
Бо капітан Азорыча прымусіў
Павесці паказаць, дзе іх атрад.

Бэсман

І вы паверылі яму, дурніцы!
Тацяна Марыч тут.

Мікола

Тацяна тут?

Бэсман

Зноў на маёй дарозе гэта дзеўка.
Яна мяне пазнае і загубіць.
Ды не, я загублю яе раней,
А справу да канца мы давядзем!

Мікола

Вы лепш ратуйцеся, пакуль не позна.

Бэсман

Ты мне сказаў, што быццам бы Азорыч
Павёў на партызан жаўнераў?

Мікола

Так.

Бэсман

Перад людзьмі ты гэта можаш сведчыць?

Мікола

Мяне пазнаюць, хто ж паверыць мне?
Я не хачу рызыкаваць жыццём.

Бэсман

Тацяны Марыч у жывых не будзе.

Мікола

Другія людзі ёсць, якія знаюць.

Бэсман

Адкуль?

Мікола

Таксама перайшлі за фронт.
Я Сёмку Бегунка сустрэў нядаўна.

Бэсман

А Сёмка гэты знае, што Азорыч
Згадзіўся весці паказаць атрад?

Мікола

Пры ім усё было.

Бэсман

Вось гэта козыр!

Мікола

Што вы надумалі?

Бэсман

Цудоўны план!
Хадзем, ты мне пакажаш Бегунка,
А ты, Дамейка, тут рабі сваё.

Бэсман і Мікола выходзяць. Дамейка накіроўваецца ў штаб. У гэты час іграюць сігнал на пад'ём. На пляцоўку перад штабам высыпаюць чырвонаармейцы. Сярод іх Нічыпар Мелех і Алёшка Семізвон.

Алёшка

І вось Арджанікідзе мне і кажа:
Ты, кажа ён, Алёша, маладзец,
З такімі толькі нам і ваяваць.

Чырвонаармеец

Ну, і брахун жа ты, Алёшка!

А л ё ш к а

Я?

Нічыпар Мелех, што казаў Сярго?

М е л е х

Сярго — душэўны, шчыры чалавек.
Ды штосьці доўга вось яго няма.

З штаба выходзіць Д а м е й к а.

Д а м е й к а

Здарова, малайцы! Аб чым размова?

М е л е х

Ды вось няма Сярго Арджанікідзе.

Д а м е й к а

А вы не чулі?

А л ё ш к а

Што?

Д а м е й к а

Не чулі?

М е л е х

Не.

Д а м е й к а

Не ведаю, ці варта вам казаць.

М е л е х

Скажыце, камандзір, мы ж не малыя.

Д а м е й к а

Я гавару вам, хлопцы, па сакрэту:
Сярго папаўся, кажуць, у палон.

Г а л а с ы

Сярго? Арджанікідзе? Быць не можа!

Д а м е й к а

Вы запытайце ў Бэсмана, ён знае лепш.

А л ё ш к а

Браткі, што ж гэта робіцца? Браткі,
Душа мая ад гэтай весткі плача.

Ч ы р в о н а а р м е е ц

Ты не шумі, а пакруці мазгамі:
Куды нас павядуць без камісара.

Д а м е й к а

Куды? На смерць.

А л ё ш к а

Ой, бацюхны мае!
Што ж нам рабіць?

Ч ы р в о н а а р м е е ц

Да камандзіра трэба.
А як мяркуеш ты, Нічыпар Мелех?

М е л е х

Я думаю, што трэба запытаць
У Бэсмана. Ён — свойскі чалавек.

А л ё ш к а

Пайшлі да Бэсмана!

Д а м е й к а

А вось ён сам.

Уваходзяць Б э с м а н, Б е г у н о к і М і к о л а.

Б э с м а н

Чаго вы так хвалюецеся тут?

М е л е х

Скажы нам, камандзір, ды толькі праўду:
Арджанікідзе трапіў у палон?

Б э с м а н

Дакладна не скажу, а чуткі ёсць.

М е л е х

Калі ты хлусіш нам — вялікі грэх
Бярэш ты на сваю душу, таварыш.

Бэсман

Мне шкода вас, і лепей грэх узяць,
Як мёртвымі ляжаць у чыстым полі
І гніць. А нам, байцы, надзвычай цяжка:
Я сам хадзіў два дні таму ў разведку —
Паны нас абкружылі з трох бакоў,
У тыле з бандай ходзіць Семянюк,
Азорыч, камісар, кудысьці ўцёк,
І нам, відаць, пагібель тут усім.

Алёшка

Сябры, што ж гэта робіцца? Сябры!..

Уваходзіць камбрыг Баяновіч.

Баяновіч

Чаго сабраліся, што тут за крык?

Мелех

Сам ведаеш.

Алёшка

Паны нас абкружылі.

Баяновіч

Які падлец вам гэта мог сказаць?

Бэсман

Я гаварыў.

Баяновіч

Хто? Бэсман?

Бэсман

Так.

Даволі нам у схованкі гуляць:
Нас прадалі, камбрыг, Азорыч збег...

Галасы

Падлюгі! Сволачы!

Алёшка

Дамоў, хлапцы!

Б а я н о в і ч

Таварышы, без панікі, цішэй!
Калі Азорыч нават недзе збег,
То нам яшчэ нішто не пагражае,
А сілы нашыя растуць штодзень.
Вось партызаны к нам ідуць на помач...

М е л е х

А колькі іх?

Б а я н о в і ч

Ды чалавек пяцьсот.

А л ё ш к а

Ды хто ж гэта крычыць: ратуйся?
Ах, баязліўцы!

Б э с м а н

Марныя надзеі!
Азорыч выдаў партызан панам.

Б а я н о в і ч

Ты што? Ты бунтаваць людзей надумаў?

Б э с м а н

Я не бунтую іх, а я ратую:
Азорыч выдаў партызан палякам,
Пра гэта мне казалі іх жа людзі.

Б а я н о в і ч

Якія? Хто?

Б э с м а н

*(паказваючы на Сёмку Бегунка).*

Вось гэты чалавек.
Ну, гавары, таварыш, што ты бачыў?

Б а я н о в і ч

Ды ён, напэўна, сам з панамі спеўся.

Сёмка

Што ж, была навука,
Сеў у панскія сані без друка,
Мяне і адчасалі бізунамі.
Але цяпер я, людзі, не хлушу.

Мелех

Дык гэта праўда, што Азорыч выдаў?

Сёмка

Ён ратаваў мястэчка і людзей.

Бэсман

Няпраўду я сказаў? Скажу вам болей:
Арджанікідзе трапіў у палон
Таксама праз Азорыча.

Баяновіч

Што? Што?
Арджанікідзе трапіў у палон?
Арыштаваць яго, ён — правакатар!

Мелех

Мы не дазволім, камандзір.

Баяновіч

І вы?
І вы за правакатара, байцы?!

Мелех

Мы за Сярго і самі за сябе.
І я задарам галавы сваёй
Нікому не аддам.

Баяновіч

Пусці, я сам...
Я сам яго застрэлю.

Бэсман

На, страляй!

Дамейка

Страляй у нас усіх.

Алёшка

На, бі ў мяне.

Сёмка

Глядзі, і ён, як п'ян, дык капітан,
А як праспіцца — курыцы баіцца.

Бэсман

Ну, што ж ты не страляеш, камандзір?
Страляй у правакатараў, страляй!
А сам ты хто? Ты многа ваяваў?
Ты быў пад кулямі? Цябе уланы секлі?
Ты паглядзі на зраненыя грудзі
І на мае зрубцованыя плечы.
Я імі бараніў народную свабоду,
А вы яе прадалі розным гадам,
Прадалі рэвалюцыю... Эх, вы!
Хто ёсць сумленны тут — за мной!
Я пакажу вам здраднікаў. У штабе
Сядзіць Азорычава дзеўка ў нас.
Яна прыйшла шпіёнкаю сюды.

Галасы

Арыштаваць яе! Судзіць! Расстрэліць!

Дамейка

За мной, у штаб!

Баяновіч

Таварышы,
Сыны, адданыя свайму народу,
На абарону штаба і парадку!

Чырвонаармейцы

Не пусцім! Толькі цераз нашы трупы
Вы ступіце сваёй нагой у штаб.

Галасы

Цішэй! Цішэй! Яна ідзе! Ідзе!

Бэсман

Цяпер, Дамейка, дзейнічай адзін.
А вы таксама больш рашуча, Стрыж.

Знікае ў натоўпе. Уваходзяць Тацяна Марыч і Адась Валошын.

Алёшка

А, вось яна! А ну, красуня, пагаворым.

Галасы

Чаго там гаварыць! Прыкладам бі!

Валошын

Прэч адыдзі!

Баяновіч

Дазвольце ж ёй сказаць.

Тацяна

Сябры, што вам патрэбна ад мяне?

Мелех

Ты дай адказ, чаго сюды прыйшла —
Шпіёніць? Прадаваць палякам нас?

Тацяна

Што вы гаворыце? Сябры мае!..
Таварышы! Ні перад кім: ні перад вамі,
Ні перад змучаным маім народам,
Ні перад гэтаю скрываўленай зямлёй —
Не вінавата я.

Алёшка

Ты брэшаш, брэшаш!

Тацяна

Дазвольце ж мне сказаць.

Галасы

Даволі! Годзе!

Валошын

Таварышы, дазвольце слова мне.
Падумайце, прачуйце вашым сэрцам,
Што робіце, куды вы ідзяце?

Краіне пагражае небяспека,
Зняволены і змучаны народ
Апошнія свае напружыў сілы
І, як адзін, паўстаў ад краю ў край
Супроць адвечных ворагаў сваіх.
А вы што робіце? Куды вы ідзяце?
Забыўшыся на свой пачэсны абавязак

І ашуканыя варожымі людзьмі,
Вы ідзяце супроць свайго народу,
Вы здрадзілі сваім братам па класу,
Вы здрадзілі самім сабе...

М е л е х

Чакай!
А хіба самі мы супроць змагання?
Мы не супроць, а мы супроць шпіёнкі.

Б а я н о в і ч

Калі яна сапраўды вінавата,
Давайце разбірацца і судзіць.

Д а м е й к а

Няма калі судзіць і доўга радзіць,
І наш прысуд даўно вядомы: смерць!

Т а ц я н а

За што ж мне паміраць? Што я сумленна
Служыла нашай справе?

М і к о л а

А панам
Ты не служыла? Не?

Т а ц я н а

Што бачу я?
Дык вось адкуль усё!

А л ё ш к а

Чаго ж маўчыш?!

Тацяна

Таварышы, ён вораг сам, ён сам...

Мікола

Вы бачыце, сябры, якая хітрасць?
Яна ўсіх нас у ворагі залічыць.

Мелех

Ты, грамадзянка, нас не ашукаеш,
Калі жадаеш — праўду гавары.

Тацяна

Клянуся вам, ён вораг ваш і мой.
Я бачыла яго ў польскім штабе.

Дамейка

Чаго ж ты там была, у польскім штабе?

Алёшка

Ага, папалася сама, уліпла!

Да натоўпу з Настаю падыходзіць Макарэнка; ён звяртаецца да Бэсмана.

Макарэнка

Што сталася, таварыш камандзір?

Бэсман

Вярнуліся? Арджанікідзе тут?
*(Праціскаецца да Стрыжа і Дамейкі.)*

Мелех

Ну, адкажы: чаго ж ты там была?

Тацяна

Мяне арыштавалі там, і я
З Азорычам на допыце была.

Дамейка

А як жа ты сюды папала?

Т а ц я н а
Мяне адбілі ў лесе партызаны.

М і к о л а
Цябе адну?

Т а ц я н а
Адну.

М і к о л а
А дзе ж Азорыч?

А л ё ш к а
Ага, заблыталася!

Г а л а с ы
Хлусіць! Хлусіць!

Б а я н о в і ч
А што, калі яна гаворыць праўду?
Вы знаеце, хто гэты чалавек?

Б э с м а н
*(працiснуўшыся да Дамейкi).*
Не дайце ім апомніцца, хутчэй,
Арджанікідзе тут.

Д а м е й к а
І ты за іх?
Таварышы, і камандзір за іх,
Які ж тут можа быць праўдзівы суд?

Б а я н о в і ч
Я патрабую даць дзяўчыне слова.

Г а л а с ы
Няхай гаворыць! Дайце гаварыць!

Т а ц я н а
Калі вы мне не верыце, дык мне
Няма аб чым вам гаварыць.
Ну што ж, забіце, я памру спакойна.
Але клянуся вам жыццём і смерцю —
Ён правакатар, панскі паслугач!

Бэсман

Дурніца, сілаю бяры, хутчэй!

Дамейка

Даволі слухаць нудныя размовы.
На ворагаў, за мной, за мной, байцы!

Баяновіч

Я не дазволю вам камандаваць байцамі!

Дамейка

Бярыце сілаю!

Алёшка

Прыкладам бі!
Пусці!

Валошын

Не лезь, а то застрэлю!

Алёшка

Эх!

Адпіхае Валошына і прабіраецца, узняўшы прыклад, да Таціяны, яму заступае дарогу Наста.

Наста

Не дам! Забі мяне... Нашто мне жыць?
Мне цяпер — адзінокай —
Не патрэбна жыццё:
Да магілы глыбокай
Я ўжо страціла ўсё.
Майго любага сына
Адабрала вайна,
І надзеяй адзінай
Засталася яна.
Мае цёмныя ночы,
Мае цяжкія дні
Над нядоляй сірочай
Я гарэла ў агні.
І вось гэта дзяўчына,
Што сіроткай расла,
Замяніла мне сына

І мне шчасце дала.
Я, чакаючы смерці,
Перад вамі стаю,
Дык успомніце ж сэрцам
Кожны маці сваю.

Усе стаяць маўкліва.

І ты ж напэўна маеш недзе маці.

Алёшка

Вядома, ёсць... Ды я не вінават:
Мне, брат старэнькая, такі загад.

Дамейка

Ну, што ж ты курчышся? Спужаўся слёз?

Алёшка

Ды як жа тут? Старая кажа праўду,
Хай разбярэцца суд у гэтай справе.

Дамейка

Ваякі вы! Раскіслі, быццам бабы.
Пусці!

Выхапіў рэвальвер; паміж ім і Тацянай становіцца Арджанікідзе.

Сярго

Чакай!

Галасы

Сярго? Арджанікідзе?

Сярго

Раззброіць малайца!

Дамейка

Не падыходзь!

Сярго

Узяць! Збаяліся? Давай сюды!

Сілаю раззбройвае Дамейку.

Дамейка

За што ж, за што ж вы крыўдзіце, сябры?

Байцы выводзяць Дамейку.

Сёмка

Відаць, што пан прахвост,
Калі ўшчаміўся хвост.

Сярго

Чаму няма каманды смірна? Я —
Член Рэўваенсавета арміі.
Падаць каманду!

Бaяновіч

Смірна! Полк, раўнень...

Сярго

Адставіць! Дзе там вам раўненне!
Што за кірмаш? Хто завадатай?

Баяновіч

Бэсман,
Начальнік коннае разведкі.

Сярго

Бэсман,
Наперад марш!

Усе аглядаюцца, Бэсмана няма.

Галасы

Няма! Уцёк! Уцёк!

Сярго

Ён ведае аб нашым наступленні?

Баяновіч

Напэўна, ведае.

Сярго

Вароны вы!
Паслаць за ім людзей і затрымаць.

Баяновіч бярэ байцоў і выходзіць.

Ну, раскажыце мне, што тут за гвалт?
Я слухаў і вушам сваім не верыў,
Каб вы маглі такое гаварыць.
Збаяліся паноў?

Мелех

Не баязліўцы мы.

Сярго

Я ведаю, чырвоныя байцы
Не папытаюць, колькі там паноў,
А папытаюць, дзе яны стаяць.
Дык хто ж паверыў ім, прахвостам, а?

Галасы

Алёшка Семізвон! Нічыпар Мелех!

Сярго

Алёшка Семізвон, Нічыпар Мелех,
Наперад марш!

Алёшка

Таварыш камісар,
Здаецца, я быў самы тут спакойны.

Сярго

Ну, раскажы сябрам, Нічыпар Мелех,
Куды ты іх павёў, супроць каго.

Мелех

Я слухаю. Даруй мне, камісар.
Але нам сказана, што ты ў палоне,
Што мы абкружаны, Азорыч збег,
Павёў на партызан паноў, і нам...
Тужліва стала, камісар, і крыўдна.

Сярго

І ты паверыў ім?

Мелех

Пяць год вайна,
І мы стаміліся.

Макарэнка

А мы?
Мы — сіраты, малыя дзеці?
Калі былі вы на вайне,
Мы йшлі з парога да парога,
Жабруючы па гэтым свеце.
І нашы грудзі рэзаў вецер,
І скрозь па стоптаных дарогах,
За панскім плугам на раллі,
Лятункі нашы адцвілі,
Як вішні адцвітаюць без пары...
Хіба ж мы не стаміліся, стары?
Эх, баязліўцы вы!

Мелех

Ты малады,
Ты гора гэтулькі не бачыў.

Алёшка

І невялікі твой ваяцкі стаж.

Сярго

Стаж у яго маленькі, гэта праўда,
Таму што маці позна нарадзіла,
Але за тое справы неблагія.
Не вам і дакараць.

Мелех

Даруйце нам.

Сярго

Вось бачыш, як у вас. А помніш, Мелех,
Ты гаварыў, што людзі ўсе — звяры.
А хіба вы звяры? Вы — проста дзеці,
Мне хочацца вас гладзіць па галовах,
А я... я вымушаны вас караць.
Аддайце зараз жа свае вінтоўкі.
Вы зганьбілі высокае імя байцоў
Вялікай пралетарскай арміі.
Ну, што ж вы стаіце маўкліва, Мелех?

М е л е х

Што ж сказаць на твае дакоры?
Калі праўда — цярпі і маўчы,
Хоць нялёгка нам, гэты сорам
І пакуты свае несучы.
Ліхаманкай гараць нашы твары,
Калі ты нам у вочы глядзіш.
Лепш вядзі нас злачынных, таварыш,
У агонь, у магілу, пад крыж,
Хоць куды. Абы змыць гэты сорам
Ці загінуць у бойцы не ў час,
Каб ні людзі, ні сонца, ні зоры
Не глядзелі [redacted] дакорам на нас.

С я р г о

Не вас, а Бэсмана павесці б трэба
Пад гэты крыж. А нам, таварышы,
Патрэбна пільным быць, патрэбна верыць
У нашы сілы. Хіба можа нас
Хто-небудзь разграміць? Ніколі, не!
Нішто, нішто не зможа нашай сілы,
Таму што не парушыць нашай дружбы.

М е л е х

Даруй ты мне за ўсе мае грахі.
І ты, таварышка, таксама мне даруй.
Аблыталі мяне ліхія людзі,
І я вялікі грэх мог на душу узяць.
Даруйце мне.

А л ё ш к а

І мне таксама.
Гарачы вельмі я і храбры лішне.

С ё м к а

Справы няважныя, калі ногі адважныя,
Лепш нага кульгавая, а галоўка бравая.

М е л е х

Таварыш камісар, дык як жа будзе?

Сярго

А будзе, брат Нічыпар Мелех, так:
Змый сорам свой адвагаю і славай,
Магчымасці для гэтага табе дадзім.
Сягоння мы павінны наступаць.
Сягоння мы павінны ўзяць Барысаў.
Абрабаваны, змучаны народ
Чакае вызвалення з панскіх крат.
Сыны народа, мужныя байцы,
Не пашкадуем нашага жыцця,
Пакрыем славай баявыя сцягі
І прынясем на іх свайму народу
Свабоду, сонца, шчасце і жыццё.
Кляніцеся, што будзеце змагацца дружна,
Што будзеце любіць сваіх братоў,
Усіх працоўных, бедных і гаротных.

Галасы

Клянёмся!

Сярго

Ведайце, што нас
Не пераможа ў дружбе аніхто,
І на шляху вялікім гэтым — нас
Чакае слава, шчасце, перамога.

Галасы

Клянёмся, ведаем, што нас
Не пераможа ў дружбе аніхто.

Сярго

Паходную! Наперад, запявалы!
Байцы строяцца, грыміць песня.

Песня

Над Бярозай-ракой, над далінаю,
Заігралі гарністы паход:
— Узнімайся, сям'я сакаліная,
Уставай на змаганне, народ!
І сышліся пад зоркай чырвонаю
Ад заводаў, палёў малайцы.

Пояць коней вадою сцюдзёнаю
Ля крыніц удалыя байцы.
І па волі вялікага Леніна
Дружна рушаць атрады на бой,
Каб жыццё і квяціста і зелена
Зацвіло над Бярозай-ракой.

Суровым маршам ідуць калоны. Песня паволі аддаляецца.

МАЛЮНАК ДЗЕВЯТЫ

...Песня набліжаецца ізноў і грыміць з большай сілай. У пажоўклым панскім парку пад Барысавам ападаюць лісты. Спакойна коціцца шырокая рака Бяроза. З палацаў бягуць устрывожаныя жаўнеры і спешна акопваюцца ў парку. Песня чырвонаармейцаў пераходзіць у магутны баявы вокліч. На ганак выбягае палкоўнік Дамброўскі.

Дамброўскі
Сержант!

Сержант
Я слухаю.

Дамброўскі
Гатовы коні?

Сержант
Гатовы, пан палкоўнік.

Дамброўскі
Падавай!

Сержант паспешна выбягае.

Дамброўскі
Якая нечаканасць! Матка боска,
Малю цябе, ратуй маю душу.

З чамаданамі выходзіць Свідэрскі.

Дамброўскі
А вы куды?

С в і д э р с к і

Туды ж, куды і вы.

Д а м б р о ў с к і

Ды я нікуды, што вы, пан Свідэрскі!

С в і д э р с к і

Нашто нам прытварацца, пан Дамброўскі?

Д а м б р о ў с к і

Але ж я вас хацеў, пан капітан,
Пакінуць тут начальнікам над войскам.

С в і д э р с к і

Я ж не ваяка, пан палкоўнік, так?
Я толькі, кажуць, першы між гуляк,
І лепш начальнікам застацца вам.

Д а м б р о ў с к і

Ды што вы, божа барані! А зрэшты,
Тут можа справіцца адзін сержант.

С в і д э р с к і

Я думаю таксама, пан палкоўнік.
Сержант!

Уваходзіць с е р ж а н т.

С е р ж а н т

Я слухаю.

С в і д э р с к і

Гатовы коні?

С е р ж а н т

Гатовы, пан Свідэрскі.

С в і д э р с к і

Падавай!

Убягаюць К с а в е р ы і М і к о л а С т р ы ж.

М і к о л а

О пан палкоўнік! Пан Свідэрскі!

Ксаверы

Божа!
Што ж гэта робіцца?

Мікола

Скажыце нам,
Вы абароніце мястэчка наша?

Свідэрскі

Сказаць не можам, тайна, пане Стрыж.

Ксаверы

Ну, значыць, ясна: трэба уцякаць.
Мікола, марш! Няма чаго тут быць.

Мікола і Ксаверы знікаюць.

Свідэрскі

Вы бачыце, як лёгка і адразу ж
Яны адзін другога зразумелі.
А мы стаім ды трацім час. Пайшлі!

Убягае ўзбуджаны Казімер Бэсман.

Бэсман

Спыніцеся! Што робіце, панове?!

Дамброўскі

Эвакуіруемся, пан паручнік.

Бэсман

Якая ганьба, пан палкоўнік, жах!
З такімі сіламі, з такою зброяй
Спужаліся трохсот бальшавікоў!

Дамброўскі

Усё адно Барысаў наш не будзе.

Бэсман

Вы глупства кажаце, палкоўнік, глупства!
Я ведаю, што сіл у іх няшмат,
І сілы кінуты на гэты фланг,
А пад Кальварыяй на ўсім участку

Не больш двухсот — трохсот якіх байцоў.
Я прапаную вам наступны план:
Сабраць каля Кальварыі ўсе сілы,
Зрабіць прарыў і рушыць у абход,
Каб правы іхні фланг замкнуць кальцом.
Тады не толькі войска і абозы,
А й сам Арджанікідзе будзе ў нас.

Д а м б р о ў с к і

А хто ж адважыцца на гэтым флангу
Стаяць супроць такой шалёнай сілы?

Б э с м а н

Абараняцца тут я буду сам,
А ваша справа там зрабіць прарыў.

Д а м б р о ў с к і

Ну што ж, пан капітан, пайшлі?

С в і д э р с к і

Пайшлі,
Я думаю, там будзе спакайней.

Д а м б р о ў с к і і С в і д э р с к і выходзяць.

Б э с м а н

Жаўнеры! Час настаў адказны.
Усе паляжам нашымі касцьмі
І адстаім свой гонар і айчызну.

Ж а ў н е р ы

Папробуй адстаяць! Ох, націскаюць, чэрці!
Глядзі, паўзуць! Абкружаць зараз. Слухай,
Давай, брат, уцякаць. Давай!

Б э с м а н

Жаўнеры!
Ні з месца! Стойце! О, пракляты зброд!

Бяжыць, адстрэльваючыся, за жаўнерамі. У парку паказваюцца ч ы р в о н а а р м е й ц ы. Сярод іх: М а к а р э н к а, А л ё ш к а С е м і з в о н, Н і ч ы п а р М е л е х, К у з ь м і н.

М а к а р э н к а

Наперад, хлопчыкі, наперад!

А л ё ш к а

Глянь,

Ды гэта ж Бэсман!

М е л е х

Дзе? Чакай жа, сволач!
Чакай жа, я з табою разлічуся. *(Страляе.)*
Прамазаў, чорт!

А л ё ш к а

Давай узяць жыўцом!

Бягуць услед за Бэсманам. З'яўляюцца А р д ж а н і к і д з е, Б а я н о в і ч і Т а ц я н а.

Б а я н о в і ч

Дзевяты полк, таварыш камісар,
Прайшоў на лінію Прудзішчы — Стахаў.
Сялітрынкі заняты шостай ротай.
Далейшы рух часцей на левым флангу
Пакуль прыпынены...

С я р г о

З якіх прычын?

Б а я н о в і ч

Не маем сувязі з другой брыгадай
І з ротамі, якія наступаюць
З усходу на Кальварыю.

С я р г о

І што ж?

Б а я н о в і ч

І рухацца наперад небяспечна:
Калі Кальварыі не возьмуць нашы —
Мы трапім у мяшок.

С я р г о

Дык трэба ўзяць.

Б а я н о в і ч

Кальварыю абараняе часць
Палкоўніка Дамброўскага, адна
З найбольш трывалых і старых часцей.

С я р г о

Калісьці ў час вайны з Напалеонам
Мы не палкоўніка, а генерала
Дамброўскага на гэтым месцы білі.

Б а я н о в і ч

Народ галодны, змучан пераходам,
І вытрымаць такія тэмпы руху —
Байцам надзвычай цяжка.

С я р г о

Ваша праўда,
Але галоўнае цяпер для нас —
Не даць панам апомніцца ані,
Таму што толькі нечаканы націск
І вырашае нашу перамогу.
Пасля, калі ім Бэсман данясе,
Што сілы нашы меншыя за іх,
Нам будзе вытрымаць яшчэ цяжэй.
Аддайце зараз жа часцям загад
Рашуча наступаць уздоўж ракі
І горад абхапіць кальцом.

Б а я н о в і ч

Тады
Я папрашу на помач батальён.

С я р г о

А што, калі палякі зразумеюць,
Што сілы нашы кінуты на фланг,
І рушаць на Кальварыю, на ўсход?

Б а я н о в і ч

Не здагадаюцца.

С я р г о

Дык Бэсман скажа.

Баяновіч

Праз лінію акопаў ён не пройдзе:
Усім часцям аддадзены загад
За фронт не прапускаць ані душы.

Сярго

Нам трэба быць гатовымі на ўсё
І берагчы рэзервы да канца.
Ідзіце, я не дам пакуль ні роты.
Выкарыстоўвайце лясістасць месц,
Трымайце сувязь, дзейнічайце дружна
І аб усім даносьце неадкладна.
Мой штаб змяшчацца будзе тут у доме.

Баяновіч

Я слухаю. *(Выходзіць.)*

Сярго

Тацяна Марыч!

Тацяна

Я.

Сярго

Вось тут размесціце і лазарэт.

Тацяна

Я зараз жа, таварыш камісар.

Ідзе ў пакой. Сярго глядзіць у бінокль.

Сярго

Што там каля Кальварыі такое?
Чаму няма дагэтуль данясення?
Калі туды паспеў прабрацца Бэсман,
Ён можа нам нашкодзіць вельмі шмат.

Уваходзяць з клункамі і з гаршкамі Наста, Алена, Марыся, Тэкля і Зяма.

Алена

Дзень добры вам.

Сярго

Дзень добры, жаначкі.
Вы што?

Алена

Абед, таварыш камісар.

Сярго

Каму?

Тэкля

Ды вам жа.

Сярго

Мне?

Наста

Не толькі вам,
А і салдатам вашым.

Сярго

Гэта добра,
Яны такі галодныя, як след.
Ну што ж, сябры, нясіце... пятай роце.

Тэкля

А там з гармат страляць па нас не будуць?

Алена

Снарады статуць траціць на цябе.
Пакалышы яго тут, Зяма, трошкі.

*(Здымае з плячэй калыску з дзіцем.)*

Зяма

Не баўцеся ж, я чалавек заняты,

Сярго

Хлапец, дзяўчына?

Алена

Хлопчык.

Сярго

О, герой!

Тэкля

А каб жа глянулі вы на майго...

Наста

Ну, досыць траціць час, хадзем, кабеты.

*Жанчыны выходзяць.*

Сярго

Якой цудоўнай дабраты народ!
Калі палюбіць ён каго душой,
Аддасць яму і кроў сваю і сэрца.

*Сярго ідзе ў штаб. Кузьмін пад вінтоўкай вядзе Ксаверыя і Міколу Стрыжа.*

Кузьмін

Сюды, сюды, у штаб, каманда. Стой!
Начальнік ёсць?

Зяма

Галоўны сам ёсць.

Кузьмін

Сярго? Яго, брат, нельга турбаваць
Такой драбніцай.

Сярго

*(праз акно).*

Гэта ты, Кузьмін?

Кузьмін

Я сам, таварыш камісар.

Сярго

Ну, што?

Кузьмін

Ды вось злавілі нейкіх падазроных,
Хацелі да паноў. Куды іх дзець?

Арджанікідзе выходзіць на ганак.

Сярго

Вы хто такія?

Зяма

Нашыя, Стрыжы.

Сярго

Стрыжы? Дык з Бэсманам муцілі вы?
Дзе Бэсман сам?

Мікола

Ён адступіў з палком.

Сярго

Ён, значыць, там ужо?

Мікола

Напэўна, там.

Кузьмін

Эх, чорт, няхай бы лепш папаўся ён!

Сярго

Вядзіце здайце іх канвойнай роце.

Ксаверы

Начальнік дарагі, за што ж ты нас?
Не вінаваты мы, вось крыж святы!

Кузьмін

Пайшлі, пайшлі! *(Выводзіць Стрыжоў.)*

Сярго

Выходзіць, — Бэсман там.
Чаму ж яны паспешна адступаюць?
Ах, вось у чым, напэўна, іхні план:

Тут Бэсман дэманструе абарону,
А нацiску галоўнага чакаць
Патрэбна на Кальварыю. Ды не,
Не ўдасца вам! Тацяна Марыч!
Знайдзi Валошына i перадай:
Падрыхтаваць атрад да наступлення.

Т а ц я н а

Есць, перадам, таварыш камiсар!

А р д ж а н i к i д з е шпарка iдзе ў штаб.

З я м а

Эх, i гарачая ж работа ў iх.
А я сяджу ды калышу дзяцей.

З пазiцыi варочаюцца ж а н ч ы н ы.

Т э к л я

Як глянула я на яго, аж страх:
Рука вiсiць, як нежывая, кроў...

Н а с т а

Ты, можа, трохi памаўчала б, Тэкля.

Т э к л я

Калi я маю людзям што сказаць,
Дык я павiнна выказаць усё...
Iначай разапрэ мяне, як бочку.

А л е н а

Ад пустаты не разапрэ нiколi,
А ў галаве ў цябе ж нiводнай думкi.

Т э к л я

Калi ж мне думаць, родная мая.
Тут кожную хвiлiну навiна.

Т а ц я н а

Што там такое?

Н а с т а

Ранены.

Т а ц я н а

Алена,
Мне трэба на хвіліну адлучыцца.
Вы перавязку зробіце?

А л е н а

Зраблю.

Т а ц я н а

Дык я пайшла. *(Выходзіць.)*

Н а с т а

Не трэба памагчы?

А л е н а

Ды не!

Н а с т а

Дык мы дагледзім пойдзем хворых.

Н а с т а і Т э к л я выходзяць.

А л е н а

Не плакаў?

З я м а

Не.

А л е н а

Ты пасядзіш яшчэ?

З я м а

Абрыдала.

А л е н а

Я скора забяру.

А л ё ш к а вядзе раненага М е л е х а.

А л ё ш к а

Нічога, не гаруй, Нічыпар.

М е л е х

Крыўдна!..

Алёшка

Я прывяду табе яго жыўцом.
Сабакам назавеш, калі схлушу.

Алена

Давайце, чалавек, перавяжу.

Алёшка

Ну, папраўляйся, мне, браток, пара.
А Бэсмана табе я прывяду
Жывога, а ці мёртвага. (*Выходзіць.*)

Зяма

Баліць?

Нічыпар

Баліць, сынок.

Пачынае плакаць дзіця.

Зяма

Не дасць пагаварыць.

Алена

Пакалышы, пазабаўляй яшчэ хвілінку.

Зяма

Хлапец, а плача, як дзяўчына. Спі.

Калыша. Уваходзіць Сярго Арджанікідзе.

Сярго

І галасок у сына, як у маткі!
Нічыпар Мелех? Ранены?

Мелех

Рука...

Сярго

А дзе і як цябе пачаставалі?

Мелех

Каля Бугроў.

Сярго

Нічога не чуваць.
Давай пазабаўляю хіба я.
На цацку, на! Не хоча нават слухаць.
Ідзі, Алена, суцяшай сама,
А я перавяжу. А то яшчэ
Пабачыць Баяновіч — засмяе:
За няньку, скажа, раіў быць дарослым,
А сам не ўціхамірыць малыша.

*(Перавязвае Мелеху руку.)*

Дык як і дзе табе ўдружылі?

Мелех

Бэсман.

Заўважылі яго мы тут, у парку.
Я выстраліў адразу і прамазаў.
Тады мы рынулі за ім услед.
Я ўжо амаль схапіў яго за карак,
І вось рука павісла нежывой.

Сярго

Дармо, паправішся, Нічыпар Мелех.
А я хачу табе сказаць, што дома
Сям'я твая зямлю ўжо атрымала.
Сягоння мне прыслалі тэлеграму.

Мелех

Не варты я, таварыш камісар.

Сярго

Сваю віну ты змыў сваёй крывёй.

Мелех

Я дзякую табе.

Сярго

За што?

Мелех

За ласку.

Ты маладзейшы за мяне, а ты,

Як бацька, сэрца абагрэў маё.
Мне любы стаў і свет, і дом, і сын.

Сярго

А сын вялікі?

Мелех

Восьмы год пайшоў.

Сярго

А як мяркуеш, кім твой будзе сын?

Мелех

Мне хочацца, каб быў ён мараходам,
Аб'ездзіў свет увесь, людзей пабачыў,
Краіны розныя, якіх я сам
Не меў шчаслівай долі паглядзець.
А горача любіў я Волгу нашу.
Магутная рака! Плыве спакойна,
Як думы тыя ў маладыя леты
Ці лёгкі сон.

Сярго

А на Каўказе ў нас,
Там рэкі бурныя. Грымяць і выюць,
Укрытыя пушыстай белай пенай,
Аж рэха скрозь ідзе... А горы, горы!
Вяршыняй дастаюць да самых зор.
Цудоўны край! Як скончыцца вайна,
Давай са мной паедзем на Каўказ.
Ты паглядзі, якая там краса!

*(Паказвае фатаграфічны здымак.)*

Мелех

А гэта твой партрэт?

Сярго

Падобны? Не?

Мелех

Калі ты крыўды на мяне не маеш,
То падаруй на памяць гэту картку.

Сярго

Упадабалася? Ну што ж, вазьмі.

Мелех

Не ведаю, чым я табе аддзячу.
Калі б не правай не было, а левай —
З адной рукой пайшоў бы за табой.
А так — даруй: усё, што мог, зрабіў.

Сярго

Папраўшся, таварыш, не тужы.

Уваходзіць Таццяна Марыч.

Таццяна

Таварыш камісар, Адась Валошын
З атрадам зараз будзе тут.

Сярго

Цудоўна!
Бывай, мой дарагі, здароў. Алена,
Ты правядзі яго ў палату.

Арджанікідзе і Таццяна ідуць у штаб.

Алена

Пойдзем.

Мелех

Я маю справу тут адну. Ідзі.
Я сам прыйду. *(Алена выходзіць.)*
Сынок, пісаць умееш?

Зяма

Умею.

Мелех

Напішы дамоў мне ліст.

З я м а

А што вам напісаць?

М е л е х

Пішы вось так:
Дзень добры, дарагі мой сын і жонка.
Я жыў і рад цяпер свайму жыццю.
Хоць і паранена мая рука,
Але я змыў з душы крывёю ганьбу.
А вывеў цёмнага мяне на шлях
Адзін вялікай праўды чалавек.
Завуць яго Сярго Арджанікідзе.
Я шмат пражыў і гора зведаў шмат,
А век ніхто мне не зрабіў дабра.
І стала мне на свеце гэтак горка,
Ажно ад крыўды сэрца галасіла.
А ён узяў маю душу, напоўніў сілай
І асвяціў жыццё маё, як зорка,
І даў маю мне долю... Напісаў?

З я м а
*(піша).*

І асвяціў жыццё маё, як сонца!..

М е л е х

Я гаварыў: як зорка.

З я м а

Сонца ж лепей:
І асвяціў жыццё маё, як сонца.

М е л е х

І праўда, лепш. Пішы, сынок, далей
Я пасылаю вам яго партрэт,
Вы закажыце ў Ключнікава рамку
І памясціце гэту картку на сцяне,
А багародзіцу адсуньце трохі.

З я м а
*(піша).*

А багародзіцу зусім здыміце...

Мелех

Ну, гэтага, сынок, ты не пішы.
Няхай вісіць.

Зяма

Дык я ўжо напісаў.

Мелех

А выкрасліць як-небудзь нельга там?

Зяма

Ліст папсуем.

Мелех

Ну што ж, хай будзе так,
Як і напісана. Пішы далей.
Глядзіце на яго пад час уцехі,
Пытайце рады ў цяжкія хвіліны,
Любіце, як і ён, усіх людзей
І ненавідзьце тых, каго і ён.
А будзе мне не суджана вярнуцца,
Дык помніце, што ён вас не пакіне.
Усім перадаю вам свой паклон,
Бывайце жывы і здаровы. Ваш
Нічыпар Мелех. Напісаў? Усё.

За сцэнай чуваць голас Валошына.

Валошын

Раз, два! Раз, два! Атрад, на месцы стой!
Пакуль што вольна, можна разысціся.

Уваходзяць Валошын, Карабан, Шчырэц, Штэйпар, Бегунок і інш. партызаны.

Валошын

Дзе камісар?

Мелех

У штабе. Пойдзем, сынку.

Сімха

Ты што, знайшоў сабе другога бацьку?

З я м а

Ой, тата! Мілы!

С і м х а

Сыне мой!

М е л е х

Ваш сын?

Цудоўны хлопчык! Дзесьці і ў мяне
Таксама ёсць такі.

С і м х а

Ты тут адзін?

З я м а

Ды не, Тацяна, цётка Наста, Тэкля...

Ш ч ы р э ц

Глядзіце, і мая царыца тут!

З пакояў выходзяць Т а ц я н а  М а р ы ч, Н а с т а, А л е н а з д з і ц е м і Т э к л я.

К а р а б а н

І не адна: з наследнікам прастола.

А л е н а

Вось я вас, пасмяюся, манархісты!

Ш ч ы р э ц

Не забывайся, я не партызан,
А рэгулярнай арміі баец.

С ё м к а

А заўтра можа быць і генералам.

С і м х а

Цішэй, ідзе Сярго Арджанікідзе.

На ганак выходзіць А р д ж а н і к і д з е.

В а л о ш ы н

Каманда, смірна!

Сярго

Вольна, вольна, хлопцы.

Убягае ўсхваляваны Макарэнка.

Макарэнка
*(гаворыць, не пераводзячы духу).*

Таварыш камісар, дазвольце, часць
З паўночы наша заняла баі...

Сярго

Што, што? Не разумею.

Макарэнка

Не магу.

Сярго

А ты, друг, не спяшай, ты спакайней.

Макарэнка

Дазвольце далажыць, што наша часць
З паўночы заняла раён заводаў,
Баі ідуць на вуліцах прадмесця.

Сярго

Барысаў? Макарэнка! Друг ты мой!
Абдымемся. Вітаю. Малайцы!
Спяшай хутчэй назад і перадай:
Замацавацца на занятых пунктах,
Біць групу кальварыйскіх войск у тыл.
Цяпер напэўна супраціўнік рушыць
Удары на Кальварыю. Спяшай!
Мы зараз прыйдзем вам на дапамогу.

Макарэнка

Ёсць, перадам, таварыш камісар!

Макарэнка шпарка выбягае.

Сярго

Таварышы! Віншую з перамогай.
Барысаў з поўначы ужо заняты.

Задача наша — дружнаю атакай
Заняць Кальварыю.

Кузьмін і Алёшка вядуць Бэсмана.

Кузьмін

Гэй, прапусціце!

Алёшка

Таварыш камісар, злавілі гада!

Сярго

Якога?

Кузьмін

Бэсмана.

Сярго

А дзе вы ўзялі?

Алёшка

Ён вывеў часць і рушыў у атаку...

Кузьмін

Мы сцерпелі, ударылі па іх...

Алёшка

І ўехалі, у іх жа на плячах,
У прыгарад...

Кузьмін

І бег жа ён ад нас!

Алёшка

Ды я за ім сачыў і не адстаў.
Ну што, стрымаў я слова, Мелех, а?

Мелех

Стрымаў, Алёшка, дзякую табе.

Сярго

Такі злавілі вас, Казімер Бэсман!

Тацяна

Не Бэсман ён зусім, ён — Завішынскі.
І ён Азорыча прадаў, падлец!

Наста

Дык вось які яго згубіў паганец!

Сярго

Чакай, старэнькая. Народны суд —
Ён будзе і тваім судом за сына,
І цяжкай кары пану не мінуць.

Бэсман

Вы запазніліся мяне караць:
Я ўсё сваё зрабіў.

Сярго

Карысць малая:
Наш батальён ужо заняў прадмесце,
І горад будзе цераз ноч у нас.

Бэсман

Заўчасна гутарыць аб перамозе.
Вы не падумалі, што вашы планы
Я ведаю таксама, і на фланг
Вы кінулі ўсе часці. А на флангу
Мы толькі дэманструем наступленне,
Галоўныя сабраўшы нашы сілы
Каля Кальварыі. Адным ударам
Змятуць яны з усіх пазіцый вашых.

У кірунку Кальварыі грыміць кананада.

Вы чуеце?

Убягае Баяновіч.

Баяновіч

Таварыш камісар,
На Кальварыйскім пункце супраціўнік
Два батальёны вывеў свежых сіл
І перайшоў ізноў у наступленне.

Бэсман

І гэтай сілы вам не затрымаць,
Рэзерваў свежых больш у вас няма.
Барысаў будзе наш, іду ў заклад.

Сярго

Прайграў, паручнік.

Бэсман

Выйграў, камісар.

Сярго

Адась Валошын, вывесці атрад
І рушыць на Кальварыю ў атаку.

Валошын

Ёсць, вывесці атрад!

Бэсман

Які атрад?..

Сярго

Пакуль вы думалі аб нашых планах,
Дык мы стварылі цэлы батальён.
І ты прайграў, паручнік, і Барысаў,
І галаву сваю прайграў. Забраць!

Канвойныя выводзяць Бэсмана.

Сярго

Таварышы, вы разумееце цяпер,
Якая наша трудная задача?
Нам выпала на долю разграміць
Апошняе гняздо белапалякаў.
Я спадзяюся, новыя байцы
Вялікай арміі пралетарыяту,
Што вы не пашкадуеце жыцця
І здзейсніце пачэсны абавязак.

Галасы

Не пашкадуем! Выпаўнім! Клянёмся!

Сярго

Пастроіцца!

Валошын

Атрад, увага! Стройся!

Сярго

А ты куды?

Сёмка

Ды з вамі, ваяваць.

Сярго

Вось так? Раздзеты? Босы? Не, не пойдзеш!

Сёмка

Таварыш камісар, а дзе ж мне дзецца?

Сярго

Ідзі дамоў.

Сёмка

Ды я не маю дому,
Мне трэба дом яшчэ заваяваць.

Сярго

Цяпер не лета, холадна, дажджы,
І ты без шыняля не пойдзеш, друг.

Сёмка

Мужчыны, як жа я адзін, без вас?

Штэйнар

Дазволь яму, таварыш камісар.

Валошын

Ён цэлы дзень вучыўся, як страляць.

Сярго

Ну што ж, хай застаецца тут пры штабе.

Сёмка

Ды не магу адзін я заставацца.

Сярго

Што ж мне рабіць з табой? Бяры, на мой!

*(Здымае з плячэй свой шынель.)*

Сёмка

Ды што вы? Не, таварыш камісар,
Такой пашаны я не заслужыў.

Сярго

Бяры!

Сёмка

А як жа вы?

Сярго

Я маю бурку,
А ты нічога, друг.

Сёмка

От чалавек!
Шчаслівы той, хто нарадзіў цябе.

Сярго

Будзь ласкава, падай, Алена, бурку.

*(Бярэ на рукі Аленіна дзіця.)*

Дзіця я патрымаю. Вось, сябры,
Сын будучай шчаслівае краіны,
За лёс якой мы праліваем кроў.
Расці, малы. Праз дваццаць нейкіх год
Заместа нас ты станеш сам
На абарону роднае краіны.
Не беднай і пакутнай, як цяпер,
А радаснай, багатай і шчаслівай.
На, беражы яго для тых вялікіх дзён.

Бурка замінае Алене ўзяць дзіця.

Н а с т а

Вы дайце мне. *(Бярэ дзіця.)*

С я р г о

Гадуй яго, старая,
Як гадавала ты свайго. А мы —
За будучыню гэтага дзіцяці,
За радасць іх бацькоў, за іх спакой
І за цябе, радзіма — наша маці,
Смялей, таварышы, смялей у бой!

*(Накідвае на плечы бурку і вядзе атрад у бой за вызваленне.)*

1939 г.

# ЛЯСНОЕ ВОДГУЛЛЕ

*Лібрэта оперы ў пяці карцінах*

## УСТУП

Светлаю марай і працай старannай
Ў сэрцах і ў сёлах залечаны раны.
Там, дзе гулі навальніцы вайною,
Нівы сягоння шумяць збажынаю,
Пазарасталі травою паляны,
Дзе ваявалі калісь партызаны.
Толькі ўсё рэха яшчэ над лясамі
Скрозь адклікаецца іх галасамі.
Крыкне дзяўчынка ад радасці: — Кввет-ка!
Голас адказвае знекуль: — Разведка...
— Што за разведчыкі? Дайце ж вы рады!
Зноў жа тут голас той: — З трэцяй брыгады!
— З трэцяй брыгады? Дык дайце а-рэ-хаў!
Тут прызнаецца, што ён — толькі рэха.
Не замаўкае яно над лясамі,
Гутарыць нам партызан галасамі.
Кажуць, што гэтае водгулле ў пушчы
Кінуў калісьці камбрыг неўмірушчы.
Я раскажу вам аб гэтай прыгодзе
Так вось, як сам я пачуў у народзе.

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Андрэй Касценя.
Ася.
Чапля.
Сашка.
Дзядзька Мядок.
Іван Прыгода.
Насця.
Рэйна́ў.
Герман Штэкер.
Эльза.
Нагель.
Прыблында.
Рабочыя, партызаны, калгаснікі.
Нямецкія афіцэры, салдаты, жанчыны.

Дзея адбываецца ў першыя гады Вялікай Айчыннай вайны.

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Прасторныя пакоі з адкрытай верандай у сад. Вечар залатой восені. На веранду адчынены дзверы. У змроку каля веранды час ад часу з'яўляецца постаць вартавога немца. У пакоях балююць нямецкія афіцэры і жанчыны.

Х о р   н е м ц а ў

Ад поўначы на поўдзень,
Ад захаду на ўсход
Мы ўсю Еўропу пройдзем,
Мы пройдзем свет за год.

Кліч арыйца просты:
Кроч няспынна далей!
Дранг нах Вэстэн,
Дранг нах Остэн,
Дэйтшлянд юбер алле!

Мы — выбраная раса
Для ўцех і барацьбы,
Мы ўсёй зямлі акраса,
А іншыя — рабы.

Кліч арыйца просты:
Бі, знішчай, як хваля!
Дранг нах Вэстэн,
Дранг нах Остэн,
Дэйтшлянд юбер алле!

Нам суджана прыродай
Над светам панаваць,
А іншыя народы
Павінны працаваць.

Кліч арыйца просты:
Цвёрды будзь без жалю!
    Дранг нах Вэстэн,
    Дранг нах Остэн,
Дэйтшлянд юбер алле!

Рэйнаў

Цудоўна! Добра! Вельмі гут!
Не чуў такіх я спеваў тут.
Цяпер бы, Эльза, штось такое,
Вясёлае і маладое.

Эльза

Наш мілы Штэкер, пан Рэйнаў,
Адну такую песню склаў.

Рэйнаў

Прашу, паслухаю з ахвотай.

Хор немцаў

Падайце ноты, дайце ноты!

Штэкер

Як мы былі ў Афінах,
Я меў для адпачынку
    Танклявую,
    Чарнявую,
Вясёлую дзяўчынку.

Яе ў мяне аднойчы
Адбіў начальнік бравы:
    Дурэючы,
    Шалеючы,
Застрэліў для забавы.

Навучаны бядою,
Я ў Празе ўзяў другую:
    Маўклівую,
    Жахлівую,
Панурую такую.

Яе ў мяне праз месяц
Салдаты падчапілі:
Смуткуючы,
Сумуючы,
На дрэве задавілі.

Прыйшлі мы у Расію,
Я думаю, гадаю:
Дзябёлую
Ці кволую
Ў Расіі пакахаю.

Не жыць, відаць, мне ў шчасці,
Хоць будзе іх і дзесяць:
І шумную,
І сумную —
Усіх іх тут павесяць.

Рэйнаў

Дасціпна! Весела як след!
Як там апошні ў вас куплет?
А ну, давайце грымнем хорам.

Хор немцаў

Прыйшлі мы у Расію,
Я думаю, гадаю:
Дзябёлую
Ці кволую
Ў Расіі пакахаю.

Не жыць, відаць, мне ў шчасці,
Хоць будзе іх і дзесяць:
І шумную,
І сумную —
Усіх іх тут павесяць.

Рэйнаў

Калі б такое весялосці
Паддалі мне у маладосці,—
Я нежывы пайшоў бы ў скокі.

Эльза

О шэф, мой валадар высокі!
А што, як Эльза заспявае,
Што шэф і зараз не ўтрывае?

Рэйнаў

Тады ён з Эльзаю танцуе.
Спрабуйце, Эльза.

Эльза

Паспрабую.
Што такое бліц-вайна —
Вам усім вядома:
Муж на фронце, я адна
Засталася дома.

І ці вернецца ці не
Гаспадар дахаты,
Абавязак мой з мяне
Ўсё адно не зняты.

Покуль мілы будзе біць
Ворага заўзята,
Я павінна нарадзіць
Новага салдата.

Хто ж паможа мне, сябры,
Маладой салдатцы,
Калі кожны, як стары,
Будзе адмаўляцца?

Мне здаецца, на вайне
Найстарэйшы ў чыне
Мусіць першы і ўдвайне
Памагаць жанчыне.

І мой шэф павінен сам
Маладым даць прыклад.
Я не думаю, што вам
Гэта будзе прыкра.

Ды нашто гадаць цяпер,
Як там справа будзе?!
Вас за добры ваш намер
Строга не асудзяць.

Р э й н а ў

Што ж, калі так — дык я для вас
Танцую абяцаны вальс.

Немцы танцуюць. Пад канец танцаў уваходзіць Н а г е л ь і штосьці пaціху дакладвае Штэкеру. Штэкер шпарка падыходзіць да Рэйнаў.

Ш т э к е р

Да вас з'явіўся інжынер Касценя.
Яго патрэбна зараз жа прыняць.

Р э й н а ў

Прыйшоў? Вядзіце, Нагель, я гатоў.
Прашу, панове, у другі пакой.

Г о с ц і выходзяць. З другіх дзвярэй уваходзіць К а с ц е н я. Праз увесь час яго размовы з Рэйнаў за сцэнаю чуваць песня палонных дзяўчат.

Х о р п а л о н н ы х д з я ў ч а т

Сталі над краем цёмныя ночы.
Горкі і страшны лёс наш дзявочы.

Гвалтам забраўшы светлую долю,
Ворагі гоняць нас у няволю.

Скончаны нашы спевы, гулянкі,
Мы — паланянкі, мы — катаржанкі.

Марна штовечар маці старая
Нас на вячэру дома чакае.

Цяжка ступаем мы па гасцінцы,
Следам за намі крочаць чужынцы.

Звязаны рукі, зрэзаны ногі,
Нам не вярнуцца з дальняй дарогі.

Толькі ніколі ў сэрцы не згіне
Памяць аб нашай любай краіне.

Мы не забудзем роднае вёскі,
Нашага неба, нашай бярозкі.

Вобраз радзімы днямі й начамі
Будзе заўсёды перад вачамі.

Касценя

Вітаю, пане шэф! Мяне да вас
Прыслалі вашы людзі з біржы працы.
Я — інжынер Касценя. Быў раней
Начальнікам тутэйшага дэпо.
Зусім нядаўна я уцёк з-пад Вязьмы,
Куды мяне пры вашым наступленні
Загналі бальшавіцкія салдаты.

Рэйнаў

А сам вы не былі бальшавіком?

Касценя

Я — толькі інжынер, а не палітык.

Рэйнаў

Чаму ж вы памагалі ім вывозіць
Станкі, абсталяванне і маёмасць?

Касценя

Я змушан быў выконваць іх загад,
Іначай бы мяне арыштавалі,
І я не змог вярнуцца б ў дэпо.

Рэйнаў

Чаго ж вы хочаце цяпер ад нас?

Касценя

Хачу мець працу там, дзе болей плацяць.
Мяркую, вы ацэніце мяне
І будзеце плаціць мне па заслугах.

Уваходзіць Эльза.

Эльза

Даруйце, пане шэф, я на хвілінку.
Без вас у зале страшная нуда,
А ў вашым лагеры спяваюць дзеўкі,
Распарадзіцеся прывесці іх сюды.

Рэйнаў

Што за цікавасць вам да нудных спеваў?

Эльза

Я загадаю пець ім весялей.

Рэйнаў

Нічога тут вясёлага няма.
Усё панурае, як хмарны дзень, —
І людзі, і зямля, і нават спевы...
Агідны край! Вы згодны, інжынер?

Касценя

Дзе чалавек радзіўся, там і міла.

Эльза

А вы таксама мілы. Праўда, шэф?
І я з такімі мілымі людзьмі
Гатова палюбіць і нудны край.

Рэйнаў

Пакіньце, Эльза, жартаваць!

Эльза

Не злуйце.
Пайдзіце загадайце вашым слугам
Прывесці з лагера дзяўчат, і я
Пакіну вас з прыгожым інжынерам.

Рэйнаў

Мы вас разбалавалі, Эльза. Пойдзем,
А вы мяне хвілінку пачакайце.

Рэйнаў і Эльза выходзяць.

Касценя

Якая жудасная песня! Стогны,
І слёзы матчыны, і крык дзяцей,
І кроў ахвяр я чую ў гэтай песні,
А ім, нямецкім вылюдкам і злыдням,
Яна — пустая забаўка, гульня...

О, калі б мне далі каня і шаблю,
Як радасна я сек бы ім галовы!..
Але мне іншая прыпала доля,
І я павінен лашчыцца, цярпець,
Маўкліва зносіць крыўду і абразу.
Ну, што ж!
Усё сцярплю — пагарду і знявагу,
Дзеля цябе, мой родны край!
Калі ж, не дасягнуўшы мэты, злягу —
Бязлітасна не дакарай.

Я бачыў скрозь уласнымі вачыма
Тваю няволю, боль і гнеў,
І я, краса мая, мая Радзіма,
Не вытрываў і не сцярпеў.

Я сам прыйшоў да іх, у кут звярыны,
Каб люта помсціць за цябе,
За кожную тваю дачку і сына,
За любую і за сябе.

Мне ў твар плююць, як подламу сабаку,
Я шчыльна зубы сашчаплю
І выцерплю, пакуль ім у «падзяку»
Усё, што здумаў, не зраблю.

Я вынесу пагарду і знявагу
Дзеля цябе, мой родны край!
Калі ж, не дасягнуўшы мэты, злягу —
Бязлітасна не дакарай.

Уваходзіць Рэйнаў.

Рэйнаў

Ітак — вы хочаце да нас на працу?
Ну, што ж, магу пакуль прызначыць вас

Начальнікам над рускаю брыгадай.
Прымусіце рабочых працаваць,
І я праз тыдзень дам вам павышэнне.
Калі ж за вамі дрэннае заўважу —
Вы ад мяне спагады не чакайце.
Размова скончана. Ідзіце. Нагель!
Вядзі сюды дзяўчат і кліч гасцей.

Касцeня

А колькі будуць мне плаціць за гэта?

Рэйнаў

На першы раз дадзім вам марак дзвесце.

Касцeня

Я думаю, што гэта ў тыдзень.

Рэйнаў

Што?!
Вы хочаце мець восемсот у месяц?
Не, мой шаноўны, гэта мнагавата.
Але калі вы будзеце старацца,
Праз нейкі час дадзім вам трыста марак.

З суседняга пакоя выходзяць госці. Праз другія дзверы салдаты ўганяюць натоўп зняволеных дзяўчат.

Касцeня

Да пабачэння, пане шэф!

Рэйнаў

Бывайце!

Эльза

Вы не застаецеся? О, нядобры!
Калі ж мы з вамі ўбачымся ізноў?
Я так цікаўлюся усім тутэйшым,
Што мне патрэбна бачыцца часцей.

Касцeня

Я вас запэўніваю, фрау Эльза,
Што мы... сустрэнемся!

Эльза

Да пабачэння!

Падносіць для пацалунка руку. Касценя цалуе, накіроўваецца да дзвярэй. Пры выхадзе ён твар у твар сустракаецца з Асяй.

Ася

Андрэй?! Чаго ты тут?

Касценя

Нічога... Так...

Ася

Не, ты скажы.

Касценя

А вам якая справа?
Дазвольце выйсці! *(Выходзіць.)*

Ася

Божа, што я чую?
Ах, баязлівец! Кланяцца прыходзіў!
Руку лізаў паганай гэтай дзеўцы!

Рэйнаў

Ну, маладзіцы, заспявайце песню.

Эльза

Але вясёлую — я сумных не люблю.

Ася

У нас няма прычын для весялосці.

Эльза

Нічога не паробіце — вайна,
Даводзіцца быць лютым і суровым.

Насця *(з дзіцем).*

А чым жа вінавата гэтае дзіця,
Што вы яго марнуеце таксама?
Якую крыўду вам яно зрабіла,
Няшчаснае малое немаўлятка?

О божа, божа, злітуйся над ім!
Не шчасця я ў цябе яму прашу,
А я прашу хутчэйшай толькі смерці.

Эльза
Якія нудныя напевы! Слухай,
Цябе мы з дзіцем можам адпусціць.
Але няхай тады твае сяброўкі
Спяваюць мне, пакуль я не засну.

Ася

А вы адпусціце?

Эльза

Адпусцім. Праўда, шэф?

Хор дзяўчат

Ах, адпусціце, пане, адпусціце!
Што хочаце рабіце з намі ўсімі,
Не мучце толькі бедную жанчыну,
Дазвольце выратаваць ёй дзіця.

Рэйнаў

Эй, Нагель! Выведзі жанчыну вон!

Насця

Сястрыцы, Ася, дзякуй вам за ласку.
Бывайце, любыя, бывайце жывы!

Нагель выводзіць Насцю.

Штэкер

Ну, вось вам, Эльза, прыклад іх падзякі,
Не нам, а ім яна яе сказала.
Не да спадобы мне такі парадак.

Рэйнаў

Пан Штэкер кажа праўду, Эльза.
Я думаю, пара і пачынаць.

Эльза

Ну, што ж вы маўчыце? Спявайце! Чуеш?

А с я

Вы што? Вы думаеце і напраўду,
Што мы сабраліся спяваць вам песні?
Што станем перад вамі на калені
І папаўзём, як інжынер Касценя?!

Р э й н а ў

Ого! А ты, дзяўчына, з аганьком!

А с я

Вы заняволілі наш родны край,
Вы знішчылі багацце і красу,
Вы закавалі нас у ланцугі.
Цяпер вам хочацца залезці ў сэрца
І растаптаць яго таксама? Не!

Ш т э к е р

Даволі! Змоўкні!

Р э й н а ў

Пачакайце, Штэкер.
Няхай гаворыць. Ну, кажы далей!

А с я

Мы вольнымі радзіліся,
Мы вольнымі памром,
А вольнаму не боязна
Развітвацца з жыццём.

Над нашымі магіламі
Не вырасце драсён,
Не будзе сны дзявочыя
Душыць людскі праклён.

Спагадлівымі словамі
Успомняць людзі нас,
Што мы душой свабодныя
Былі і ў смертны час.

Р э й н а ў

Цяпер нам ясна, хто ты ёсць такая...
Узяць яе!

Э л ь з а

Узяць і закаваць!

А с я

О, не! Мяне жывою вам не ўзяць!

Кідаецца на веранду і знікае ў садзе. Вартавы страляе.

Р э й н а ў

Злавіць!

Э л ь з а

Злавіць!

Н е м ц ы

Павесіць!

Ш т э к е р

Спакайней!
Ад Штэкера ніводная дзяўчына
Яшчэ ніколі не ўцякала. Нагель!
Дзяўчыну зараз жа злавіць і заўтра
Прывесці рана да мяне на допыт.

Р э й н а ў

А гэтых — вон! У карак выгнаць! Вон!..

Д з я ў ч а т выганяюць.

Р э й н а ў

О, д'ябальскае племя!

Э л ь з а

Пане шэф,
Навошта вам дарэмна хвалявацца.
Давайце будзем піць і танцаваць.

Іграе музыка. Немцы танцуюць.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Праз паўгода пасля падзей першай карціны. Ранняя вясна. Пляцоўка перад чыгуначным дэпо. У будынак шырока адчынены дзверы. Навокал тупаюць нямецкія вартавыя. Сашка, тулячыся ад іх, кагосьці выглядае.

Сашка

От чортавы нямецкія спрунжыны,
Так акуратна ходзяць, як гадзіннік!
Ну, як жа тут пагутарыць з Касценем?
Ша! Нехта быццам бы ідзе. Здаецца — ён.

Уваходзіць Касценя. Сашка, аглянуўшыся, падлятае да яго.

Сашка

Дазвольце далажыць, пан інжынер?

Касценя

Не месца, Саша.

Сашка

Вельмі пільна трэба.

Касценя

Што сталася? Не выканаў задання?

Сашка

Заданне выканалі: эшалон
Да фронту не дайшоў.

Касценя

У чым жа справа?

Сашка

Учора ў горадзе хадзіла Ася.

Касценя

Ізноў? Што за бяспечная натура!
Яе ж чакае верная пагібель!

Сашка

Вам трэба з ёю нейк пагаварыць.

Касценя

Ты ведаеш, што гэта немагчыма:
Пра Асю немцы помняць і дагэтуль;
Калі мяне заўважаць разам з ёю,
На нас падзе таксама падазронасць.
Ты чуеш, Сашка?

Сашка

Чую, камандзір.

Касценя

Дык вось: зрабі ўсё, што толькі можна,
І выпраў Асю зараз жа за горад.

Сашка

Я пастараюся...

Касценя

Цішэй! Ідуць...

Паказваецца Нагель; уваходзяць рабочыя: Чапля, Мядок, Прыгода і іншыя. Касценя прыкідваецца сярдзітым і разгневаным.

Касценя

Я прывучу вас да нямецкага парадку!
На лініі штодзень ірвуцца паравозы,
Дэпо не паспявае іх рамантаваць,
А вы мне жарты строіце. Маўчаць!

На крык падбягае Нагель.

Нагель

Цурык! Цурык!

Касценя

Прабачце, пане Нагель,
Я хлопцу аддаю загад, а дурань
Ніяк не зразумее.

Н а г е л ь

Бітэ! Гут!

К а с ц е н я і Н а г е л ь выходзяць.

Д з я д з ь к а М я д о к

Во, брат, граза!
А злосці — поўны косці!

Ч а п л я

А як ім не злавацца,
Як немцам добрым быць —
Чыгунак шмат, а войска
Няма на чым вазіць!

І рэйкі ёсць, і шпалы,
Хапае і калёс,
Ды ўшыліся бацылы
У кожны паравоз.

І што з імі такое, —
Ніхто не разбярэ:
Ляціць, шыпіць і раптам —
Калёсы задзярэ.

Над паўшым без прычыны,
Без славы, без пары —
Бядуюць і вядзьмарацъ
Нямецкія майстры.

Абмацаюць, праверацъ
І рэбры і нутро,
На ногі зноў паставяць,
Ды ўсё не на дабро.

Адзін адрамантуюць,
А гэтым часам пяць
За першым пераездам
Разбітыя ляжаць.

Дык як тут не злавацца,
Як немцам добрым быць —
Чыгунак шмат, а войска
Няма на чым вазіць!

Мядок

Ах, малайчына, Чапля, маладзец!
Павесяліў перад работай добра.

Прыгода

Не весяліцца нам, а плакаць трэба:
Касценя ліжа подлым немцам рукі,
А паміж нас не знойдзецца нікога,
Хто плюнуў бы яму хоць раз у твар.

Мядок

Хто ведае, што думае Касценя?
І ў яго можа сэрца збалела
За краіну сваю і народ.

Прыгода

Не, няволя яму не да дзела,
Ён не ведае нашых нягод.

Мядок

Хіба ён не між намі радзіўся,
А ці жыў не між намі ўвесь час?

Прыгода

Ён з пагардай ад нас адступіўся,
Што яму, інжынеру, да нас!

Мядок

Што ж, мяняюцца людзі часамі,
Ды Касценя не з гэткіх хлапцоў,—
Быў заўсёды ён некалі з намі,
З намі будзе заўсёды ізноў.

Прыгода

Так, мяняюцца людзі часамі,
І Касценя з такіх жа хлапцоў:
Можа некалі быў ён і з намі,
Ды ніколі не будзе ізноў.

Першы хор

Мядок гаворыць вельмі слушна:
З Касценем можна жыць нам дружна.

Другі хор

Прыгода кажа вельмі слушна:
З Касценем нельга жыць нам дружна.

Два хоры разам

Даволі спрэчак, час пакажа:
Ці ваша праўда, а ці наша.

Уваходзяць Рэйнаў і Касценя.

Рэйнаў

Вы лішне бесклапотны, гер Касценя,
І мала іх ганяеце: рабочы
Павінен быць заўсёды пры станку.
Ну, што ж вы стаіце. Арбайтэн шнэль!
На працу! Марш на працу, доннэрвэтар!

Салдаты заганяюць рабочых у дэпо.

Рэйнаў

Чатыры паравозы, гер Касценя,
Павінны быць гатовы неадкладна.
Я не магу праз вас цярпець вымовы.

Касценя

Я вас яшчэ ніколі не падводзіў,
Не падвяду і сёння, пане шэф.

Рэйнаў

Прашу вас вельмі, гер Касценя, бітэ.

Выходзіць.

Касценя

Відаць, не ведае пра новы выбух.
Дазнаецца — такі падыме лямант,
Які заўсёды мне гучыць, як песня.
Гэй, адлучыся, Чапля, на хвілінку!
Падыдзем зараз жа з табой на склад.

Касценя і Чапля выходзяць. Павольна і мерна абходзіць дэпо нямецкі вартавы. Калі ён знікае за будынкам, баязліва аглядаючыся, уваходзіць Ася.

Ася

Знаёмыя і родныя сцяжынкі...
Як часта я хадзіла тут з Андрэем!
О, дні шчаслівага кахання!
Вы ўсталі зноў перада мной:
Я помню нашыя спатканні
Над ціхай цёмнаю ракой.

У ёй на дне гарэлі зоры,
Драмалі дрэвы ўглыбіні,
А за ракою на прасторы
Спявалі травы ў цішыні.

Ён гаварыў мне словы ласкі,
І мне здавалася парой,
Што ён прыйшоў з прыгожай казкі,
Прыйшоў пагутарыць са мной.

Яго размовы, быццам чары,
Мне навявалі дзіўны сон;
Мяне на крыллях неслі мары
Да радасных, шчаслівых дзён.

Не дачакалася я шчасця,
Мае жаданае вясны:
Прыйшлі нягоды і напасці,
Дзявочыя разбілі сны.

Не радасць я ў жыцці пазнала,
А здраду чорную і зло.
Няхай жа гіне пад навалай
Усё, што некалі было.

Канец лятункам і надзеям,
І шчасцю нашаму канец!
Мяне разлучыць з ліхадзеем
Калі не сэрца, дык свінец.

З дэпо выходзіць Сашка і заўважае Асю.

Сашка

Ася? Зноў прыйшла? Чаго ты ходзіш?
Цябе ж і ўдзень і ўночы сочаць немцы.

Ася

Мне ўсё адно. Я не баюся смерці,
Каб толькі мне забіць яго...

Сашка

Каго?

Ася

Нямецкага прыслужніка Касценю.

Сашка

Ты што? Ты, мабыць, звар'яцела, Ася?
Ці хіба ты не ведаеш Касцені?

Ася

Не ведала, хоць і любіла шчыра,
Але цяпер пазнала вельмі добра.
Я бачыла яго ў пакоях шэфа,
Ён баляваў, з паненкай іх смяяўся,
Смяяўся з нас. О, подлы паслугач!
Я паклялася помсціцца да смерці,
І я прысягу даную стрымаю.

Сашка

Эх, неразумная твая галоўка!
Ты сапраўды не ведаеш Андрэя.
Ён дзеля нас усіх, як родны брат,
Ён дапаможа кожнаму ў бядзе,
Суцешыць абяздоленага ў горы,
А для дабра краіны і народа
Не пашкадуе нават і жыцця.
Я мог бы шмат табе аб ім сказаць,
Ды ён саб'е мяне на горкі яблык.
У добры час ён сам табе раскажа.

Ася

Чаму ж паверыць мне: сваім вачам,
А ці тваім такім прыемным словам?

Сашка

Вер, Ася, мне і зараз жа ідзі,
Ратуй сваё жыццё.

Ася

Не, Саша, не.
Я з ім хачу пагаварыць сама,
Апошні раз хачу праверыць сэрца.

Сашка

Не трэба, Ася, слухайся мяне:
Ідзі адгэтуль! Зараз жа ідзі!
Глядзі, сюды ідуць. Хадзем, хадзем!

Сашка амаль сілаю выводзіць Асю. Праходзіць вартавы, на момант прыслухоўваецца да песні, якая пачулася ў дэпо, і пасля зноў мерна крочыць далей.

Хор рабочых

Ад першай заранкі да ночы
Пры горнах стаяць кавалі.
Пот выеў блакітныя вочы,
Пакрылі далонь мазалі.

Не праца іх плечы згінае,
Забраўшы і сон і спакой,
А горкая дума ліхая
Аб долі-няволі сваёй.

Яна ім судзіла благое:
Куюць без спачынку яны
Не шчасце сваё залатое,
А самі сабе кайданы.

Закутых у моцныя путы,
У хмарны бязрадасны дзень,
Дарогамі страшнай пакуты
Іх вораг на смерць павядзе.

Пагаснуць вясёлыя горны,
Не ўстануць з магіл кавалі,
І цемра глухая агорне
Прастор паднявольнай зямлі.

Устаньце ж, таварышы, дбала
Знішчайце няволю і зло,

Каб чорная знікла навала,
Каб сонца над намі ўзышло.

Пад канец песні ўваходзяць Касценя і Чапля.

Касценя

Пастой, паслухаем хвілінку, Чапля,
Цудоўную спяваюць людзі песню.

Касценя і Чапля спыняюцца і слухаюць. Убягае з салдатамі Рэйнаў.

Рэйнаў

Вы песні слухаеце? Добра! Гут!..
Я вас у лагер! У турму! Павешу!

Касценя

Не разумею, пане шэф...

Рэйнаў

За ноч
Зноў узарваліся два паравозы.
Напэўна, у дэпо ёсць партызаны.

Касценя

Пры чым жа я?

Рэйнаў

Прытым, што паравозы
Павінны неадкладна стаць на ногі.
Ганіце ўсіх рабочых на аўрал.

Касценя

Вось гэта іншая зусім размова.
Склікайце, Чапля, зараз жа людзей!

Чапля

Гэй, хлопцы, на аўрал, аўрал, аўрал!

Песня рабочых абрываецца; з дэпо высыпаюць людзі; немцы іх гоняць на аўрал.

Хор немцаў

Гэй, нох айн маль, гэй, нох айн маль,
Марш на аўраль, марш на аўраль!

Хор рабочых

Калі сталі дубам шпалы,
Не памогуць і аўралы,
Для нямецкае калейкі
Не падходзяць нашы рэйкі.

Хор немцаў

Не размаўляй, не размаўляй!
Марш на аўраль! Марш на аўраль!

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Падзеі адбываюцца пад вечар таго ж самага дня, што і ў другой карціне. Сонца стаіць на захадзе. Вясна ўбіраецца ў сілу. Але ціха на ўскраіннай вуліцы разбуранага горада. Касценя адзін у сваёй невясёлай кватэры.

Касценя

Заходзіць сонца. Вечарэе.
На брук кладзецца доўгі цень.
Закончыцца турботны дзень,
І ўсё навокал занямее.

Замоўкнуць птушкі за ракою,
Задрэмлюць дрэвы ў лёгкім сне,
Кусты і травы. Толькі мне
Няма ніколі супакою.

Цягну я дні і ночы гора,
Без таварыства і сяброў,
А на мяне з усіх бакоў
Глядзяць з пагардай і дакорам.

І ты, мая краса і слава,
Што верыла заўсёды мне,
Не можаш зразумець мяне,
А я сказаць не маю права.

Пачуй жа, друг, як я кахаю,
Свае сумненні разгані.
Я ночы цэлыя і дні
Заву цябе і заклікаю.

І за маўклівасць, і за словы,
І за дакорны погляд твой —

Я найвялікшаю цаной,
Цаной жыцця плаціць гатовы.

Але і ты мяне зраклася.
Пабыць са мной, пагаварыць,
Маю самоту падзяліць
Не прыйдзеш ты, не прыйдзеш, Ася.

Заходзіць сонца. Вечарэе.
На брук кладзецца доўгі цень.
Закончыцца турботны дзень,
І ўсё навокал занямее.

Замоўкнуць птушкі за ракою,
Задрэмлюць дрэвы ў лёгкім сне,
Кусты і травы. Толькі мне
Няма ніколі супакою.

Да кватэры Касцені падыходзяць Ш т э к е р і г е с т а п а ў ц ы.

Ш т э к е р

Ты сам, Прыблында, заставайся тут
І не паказвайся людзям на вочы.
А вы пільнуйце ля дзвярэй і вокан.

Гестапаўцы становяцца пад вокнамі і дзвярыма; Штэкер [redacted] некалькімі немцамі ўрываюцца да Касцені.

Ш т э к е р

Папаўся?! Стой! Ні [redacted] месца! Сволач! Хам!
Ты ведаеш, што я з табой зраблю?
Сагну ў дугу! Згнаю ў турме! Застрэлю!
Павешу на асіне! Вырву жылы!
Спалю! Жывога заганю ў зямлю!

Н е м ц ы

Я, я, застрэліць! Рыхтык, вырваць жылы.
Яволь, яволь, жывога закапаць!

К а с ц е н я *(гнеўна).*

Даволі! Змоўкніце! Чаго вам трэба?

Ш т э к е р

Я вам не пан Рэйнаў і не паверу,
Што паравозы рвуцца без прычыны.
Ты падрываеш нашы паравозы!..

К а с ц е н я

Вы глупства кажаце, пан Штэкер.
Я вам паправіў сотню паравозаў...

Ш т э к е р

А падарвалі восемдзесят пяць.

К а с ц е н я

На жаль, я паравозаў не ваджу!

Ш т э к е р

Не вы іх водзіце, дык вашы людзі:
Вы — камандзір атрада партызан.

К а с ц е н я

Чым вы дакажаце?

Ш т э к е р

Мінулай ноччу
У час нападу рускіх самалётаў
Вы падавалі ім з дэпо сігналы.
Папаліся?

К а с ц е н я

Няпраўда, пры налёце
Я з панам шэфам быў у падзямеллі.

Ш т э к е р

О, д'ябал! Ведаю, што ты злачынца,
А падлавіць на справе не магу.
Але я ўсё ж такі цябе спаймаю.

К а с ц е н я

І атрымаеце пятнаццаць тысяч марак?

**Ш т э к е р**

А вы не хочаце іх атрымаць?

**К а с ц е н я**

Чаму ж не зарабіць, калі даюць?

**Ш т э к е р**

Дапамажыце мне злавіць злачынца.
Я вас азалачу. Вы згодны?

**К а с ц е н я**

Згодзен.
Я ўсё зраблю, што толькі будзе можна.

**Ш т э к е р**

Упэўнены, што з вашай дапамогай
Мы іх падловім вельмі скора.
Бывайце, гер Касценя. *(Выходзіць.)*

**К а с ц е н я**

Да спаткання.
Хваробу ты каго падловіш, гіцаль!

**Ш т э к е р**

*(На вуліцы да Прыблынды.)*

Сачы за гэтым домам дзень і ноч.
Усіх запісвай, хто сюды прыходзіць.
А выйдзе ён, ідзі за ім услед
І ▪ горада не выпускай нікуды.
Ты зразумеў?

**П р ы б л ы н д а**

Так. Зразумеў.

**Ш т э к е р**

За мной!

Ш т э к е р і г е с т а п а ў ц ы выходзяць. Прыблында як зачараваны глядзіць ім услед. У гэты час у дом непрыкметна прыходзіць А с я і стукаецца да Касцені.

**К а с ц е н я**

Хто там яшчэ? Заходзьце, калі ласка...

Уваходзіць А с я.

К а с ц е н я

Дзяўчынка!..

А с я

Любы!..

К а с ц е н я

Ася!..

А с я

Андрэй!..

К а с ц е н я

Ці гэта ў сне?!.
Прыйшла?.. Не адраклася?..

А с я

А ты?.. А ты мяне?..

К а с ц е н я

Краса мая і слава!

А с я

Нядобры, мілы мой!

К а с ц е н я

Ці гэта сон, ці ява,
Што ты ізноў са мной?
Не, скончыліся мукі
І наш пакутны шлях:
Тваe малыя рукі
Зноў у маіх руках.
Я чую ўсёй душою
Жывое іх цяпло;
Я бачу над сабою
Тваіх вачэй святло;
Я слухаю бясконца
Ласкавы голас твой, —

І мне здаецца, сонца
Усходзіць нада мной.

А с я

Ці гэта сон, ці ява,
Што я ізноў з табой?

Не, скончыліся мукі
І наш пакутны шлях:
Мае малыя рукі
Зноў у тваіх руках.

Я чую ўсёй душою
Жывое іх цяпло;
Я бачу над сабою
Тваіх вачэй святло;

Я слухаю бясконца
Ласкавы голас твой, —
І мне здаецца, сонца
Усходзіць нада мной.

К а с ц е н я  і  А с я

Як радасна на сэрцы,
Як светла на зямлі!
Нашто ж у паняверцы
Дагэтуль мы жылі?

У нас адны дарогі
І думы ў нас адны.
Мы пойдзем без трывогі
Праз полымя вайны.

Мы пойдзем цесным кругам —
Уся наша сям'я.
Тваім найлепшым другам
Навекі буду я.

А с я

Андрэй, мы не павінны траціць часу.
Я звязана з атрадам партызан,
І трэба сёння ж выбірацца ў лес.

К а с ц е н я

Я не магу пайсці з табою, Ася.

А с я

Не можаш? Як жа так? Ты ж гаварыў,
Ты ж толькі што пакляўся мне ў каханні?

К а с ц е н я

Я звязаны тут вельмі важнай справай.

А с я

Якою справай? Службай немцам?! Так!

К а с ц е н я

У гэтай хаце сцены маюць вушы,
Я не магу сказаць.

А с я

Якое ашуканства!
Я знаю, што цябе трымае — немка!..

К а с ц е н я

Паслухай жа!..

А с я

Я слухала нямала,
І сёння я хачу пачуць адно:
Ты пойдзеш зараз жа са мной ці не?

К а с ц е н я

Я не магу...

А с я

Падлец жа ты! Падлец!
Няхай цябе сустрэне наша куля! *(Выбягае.)*

К а с ц е н я

Я растлумачу... Слухай, Ася... Ася!..

Кідаецца за Асяй на вуліцу. Заўважае, што ў твар Асі асцярожна і дапытліва зазірнуў Прыблында і стаў штосьці запісваць. К а с ц е н я шпарка вяртаецца ў пакой.

Касцяня

За мною сочаць. О, ліхая доля,
Ты адабрала шчасце і надзею
І ты ж самому мне рыхтуеш смерць!

Стук у дзверы.

Касцяня

Не, я не здамся вам! Заходзьце, можна...

Уваходзіць Чапля.

Касцяня

Ты не заўважыў, Чапля, там нічога?

Чапля

За намі сочаць. Выстаўлена варта,
І з горада нікога не пускаюць.

Касцяня

А як жа Ася, як жа пройдзе Ася?

Чапля

Якая Ася?

Касцяня

Ты не знаеш, Чапля,
Я загубіў нявіннае жыццё.

Чапля

Падумай аб сабе.

Касцяня

А што мне смерць?

Чапля

Ты кіраўнік, і ты павінен жыць.
Перапранайся зараз жа ў маё адзенне,
На беразе чакаюць з лодкай хлопцы.

Касцяня

Ты прапануеш ратавацца мне
Цаной уласнага твайго жыцця?

Чапля

Ёсць большая цана, — цана вялікай справы.
А на чале яе пастаўлен ты.

Касценя

Ты кажаш праўду: трэба ратаваць
Даручаную справу і людзей.

Шпарка пераапранаецца ў вопратку Чаплі.

Касценя

Бывай, мой дарагі, мой добры Чапля.

Чапля

Усё яшчэ наперадзе. Бывай.

Касценя выходзіць. На вуліцы, цікуючы за ім, паказваецца Прыблында.

Прыблында

Не той, зусім не той. Аднак запішам:
Прыйшоў увечары, пабыў і выйшаў.

Ах, якое гэта шчасце,
Што ўдалося мне напасці
На бальшавіка.
Тут яму ўжо не схавацца,
Бо ў мяне, калі прызнацца,
Цвёрдая рука.
Налажу спакойна лапу,
Адвяду яго ў гестапу:
— Стаўце, шэф, барыш.
Мне дадуць узнагароду,
Марак цэлы мех, як лёду,
І жалезны крыж.
Закуплю сабе фальварак,
Загадую тоўсты карак,
Проста заблішчыць.
Буду смачна піць і есці,
З самім шэфам дружбу весці,
Буду панам жыць.

Выходзіць Чапля. Прыблында набліжаецца да яго.

Прыблында

Увага! Ён. Ды што такое?
Зусім жа непадобны тварам...

Кідаецца і глядзіць праз акно ў кватэру.

Ах, ашуканцы! Падвялі!
Прапаў мой крыж і мой фальварак.
Цяпер за ўсё адкажа карак.

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Пачатак лета. Лясны партызанскі лагер. На пярэднім плане — вартавы. Углыбіні — зямлянкі і шалашы. Каля аднаго з іх Насця калыша дзіця; Іван Прыгода і яшчэ некалькі партызан чысцяць зброю. З'яўляюцца Касценя, Чапля і Сашка.

Чапля

Цана на галаву тваю расце.

Касценя

А колькі ўжо даюць?

Чапля

А вось пабач:
За труп Касцені — паўтараста тысяч,
А за жывога — дзвесце тысяч марак.

Перадае Касценю нямецкую лістоўку.

Касценя

Пан Штэкер скупаваты, а скупы
Два разы траціць. За маё жыццё
Я патрабую тысячу нямецкіх.

Партызаны

Занадта мала, мала, камандзір!

Касценя

Нямецкі гарнізон у Стайках
Нам трэба разграміць нашчэнт.
Ніводзін эшалон на тым участку
Дайсці да фронту цэлым не павінен.
Іван Прыгода!

Прыгода

Я.

Касценя

Бываў у Стайках?

Прыгода

Я там узрос, таварыш камандзір.

Касценя

Бяры людзей і пойдзеш з імі ў Стайкі.
Задача ваша — ціхенька, без бою
Разведаць аб усім, адзначыць доты,
Прыкінуць, колькі войска.

Прыгода

Зразумела.

Касценя

А стрэнецца надзейны чалавек —
Спытаеце пра Асю.

Прыгода

Зразумела.
Дазволіце ісці?

Касценя

У добры час.
Жадаю поспеху. Бывайце жывы.

*Іван Прыгода і некалькі партызан выходзяць.*

Чапля

А ты ўсё думаеш аб той дзяўчыне?

Касценя

Яе жыццё разбіта праз мяне,
І я пра гэта буду помніць век.

Сашка

А я упэўнены, што Ася жыва.

Касценя

Пакінем гаварыць. Нам зараз трэба
Пад'ехаць у дванаццаты атрад.
Налёт прызначым на бліжэйшы дзень.
Гатовы коні?

Сашка

Так, гатовы.

Касцэня

Едзем.

Касцэня, Чапля і Сашка выходзяць.

Насця

Няма спачынку хлопцам ні хвіліны.
А навакол такое хараство!

У небе воблакі плывуць у дальні край;
Бяжыць, гамонячы, спяшаецца ручай.

Над ім схіліліся бярозы,
Свае зялёныя парасплятаўшы косы.

Шуміць вяршалінай стары, высокі бор;
Жыццё ўслаўляючы, пяе птушыны хор.

А з ім у лад гудуць чмялі і пчолы,
Аж лес увесь звініць, зялёны і вясёлы.

О, пушча цёмная, пявучы сіні гай!
О, родная зямля, мой добры, шчодры край!

Як многа ты даеш мне радасці і шчасця
Не толькі ў светлы час, але і ў час напасці.

Як шумна й весела ў тваёй лясной цішы,
Так радасна ў мяне сягоння на душы.

Ні болю, ні тугі яна цяпер не чуе,
Адно краса твая хвалюе і чаруе.

І я, шчаслівая, імклівая, як дзіця,
Ірвуся ўсёй душой да сонца і жыцця.

Вартавы

Стой! Хто ідзе?

Мядок

Салодкі.

В а р т а в ы

Хто?

М я д о к

Мядок.

В а р т а в ы

Пароль?

М я д о к

Змаганне.

В а р т а в ы

Пропуск?

М я д о к

Перамога.

В а р т а в ы

Як поспехі, таварыш нарыхтоўшчык?

М я д о к

А неблагія, пальчыкі абліжаш.

Н а с ц я

Што ж вы прынеслі? Дзядзечка Мядок,
Саколік мой!..

М я д о к

Ага, затанцавала!

Я задком, перадком
Перад дзядзькам Мядком.

Даскачу да дзядзінца,
Дзядзька дасць мне гасцінца.

Дзядзька быў у садку,
Ён прынёс мне мядку.

Век салдацкі кароткі,
Хай жа будзе салодкі.

Глядзі, якая важная здабыча.

Насця

Пчаліны мёд, сапраўдны чысты мёд!

Мядок

Хваліцца не люблю. Але падзяку
Ад камандзіра буду мець напэўна.

Уваходзяць Касценя і Сашка.

Касценя

Адразу ж шчыра дзякую, Мядок.

Мядок

Браточак мой, дзеля брыгады
Мядок служыць заўсёды рады.
Дзе возьме сам, а дзе папросіць,
А ўсё што-небудзь ды прыносіць:
То бульбы мех, то бохан хлеба,—
Усё ж у гаспадарцы трэба.
У камандзіра — бойкі, слава,
А пакарміць — Мядкова справа.
Я так, мой браце, разважаю
І з тым падзяку і прымаю.

Касценя

А ты забыў, што я аддаў загад
Нічога ад насельніцтва не браць?

Мядок

Я сам не браў, я толькі папытаў:
А ці няма ў вас ад прастуды мёду?
Мне і наклалі цэлую каробку.

Касценя

Дык вось: пакуль ты цэлы і здаровы,
Бяры свой мёд і занясі назад.

Мядок

Таварыш камандзір, вы гэта — жартам?

Касценя

Баец Мядок, выконвайце загад!

М я д о к

Ёсць выканаць загад! Ото няшчасце,
Убілі гвалтам людзі ў рукі мёд,
А мне цяпер нясі яго назад. *(Выходзіць.)*

К а с ц е н я

Сапраўды, горкае жыццё ў Мядка.
А ты чаго такі маркотны, Сашка?

С а ш к а

Засумаваў.

К а с ц е н я

Што, закахаўся? А?
А хто ж яна, твая красуня?

С а ш к а

Хочаш?
Я заспяваю песню пра яе.

Ёсць на Случчыне хаціна
З белым бэзам пад акном.
Там жыве мая кручына
З белакурым хлапчанём.

Лебядзіная паходка,
Цёмна-русая каса...
Вось якая ў той малодкі
Небяспечная краса.

Ды ні станам, ні хадою
І ні русаю касой,—
Заўладала яна мною
Шчырай вернасцю сваёй.

Кожны вечар, кожны ранак
Паглядае на шляхі,
Ці не з'явіцца каханы,
Ці не прыйдзе дарагі.

Не пыліць нідзе дарога,
Над палямі цішыня.
А жанчына ля парога
Усё чакае нас штодня.

Касценя

А вось мяне ніхто ўжо не чакае.
Ах, Ася, Ася! Як жа недарэчна,
Як дзіка разышліся нашы сцежкі!
Дзе ты цяпер і што з табою стала? —
Мне гэта думка не дае жыцця.

Сашка

Эге, таварыш камандзір! Ды вы
Таксама ўслед за мной засумавалі.
А ну, ударым трошкі весялей!

Стаіць Грыц на вуліцы і, стоячы, плача.
Марфа ў Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?
— Ой, плачу я, плачу — у сенечкі хочу.
Марфа Грыца спалюбіла, у сенечкі упусціла:
— Ой, цыц, Грыцу, цыц, чаго, Грыцу, плачаш?

Плача Грыцу, плача, у сенечках стоячы.
Марфа ў Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?
— Ой, плачу я, плачу — у хатачку хочу.
Марфа Грыца спалюбіла, у хатачку запрасіла:
— Ой, цыц, Грыцу, цыц, чаго, Грыцу, плачаш?

Плача Грыцу, плача, у хатачцы стоячы.
Марфа ў Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?
— Ой, плачу я, плачу — на лавачку хочу.
Марфа Грыца спалюбіла, на лавачку пасадзіла:
— Ой, цыц, Грыцу, цыц, чаго, Грыцу, плачаш?

Плача Грыцу, плача, на лавачцы седзячы.
Марфа ў Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?
— Ой, плачу я, плачу — за столічак хочу.
Марфа Грыца спалюбіла, за столічак пасадзіла:
— Ой, цыц, Грыцу, цыц, чаго, Грыцу, плачаш?

Вартавы

Стой! Хто ідзе?

Прыгода

Разведчыкі, свае...

Вартавы

Пароль?

Прыгода

Змаганне.

Вартавы

Пропуск?

Прыгода

Перамога.

*Уваходзяць партызаны-разведчыкі.*

Касценя

Ну, як паводзілася, хлопцы?

Прыгода

Блага.
Даведаліся, праўда, аб усім,
Ды невясёлыя навіны: Ася...

Касценя

Арыштавана?

Прыгода

Так, арыштавана...

Касценя

О, час бязлітаснай напасці!

Насця

Пракляты дзень!

Сашка

Здрадлівы лёс!

Касценя, Насця і Сашка

Якое страшнае няшчасце
Ты нечакана нам прынёс!

Яна, што ўсіх аберагала,
Усім уцехаю была,
Усіх з няволі ратавала, —
Сама сябе не ўсцерагла.

Касценя

Жыццё маё, мая надзея!

Насця

Маленства друг!

Сашка

Таварыш мой!

Касценя, Насця і Сашка

Якую кару ліхадзеі
Цяпер учыняць над табой?
Закута моцна твая воля
І крыллі скручаны пятлёй,
І можа быць ужо ніколі
Мы не сустрэнемся з табой.

Касценя

Мужайся, сокал мой бяскрылы!

Насця

Мужайся, Ася!

Сашка

Вер, мой друг!

Касценя, Насця і Сашка

Растуць, мацнеюць нашы сілы,
Да помсты кліч ідзе наўкруг.
І ў час трывог, і ў час змагання
Мы не забудзем аб табе:
Мы здзейснім наша абяцанне —
Адпомсцім люта за цябе.

Касцеля

Так, рубанём! Склікайце партызан.
На бой! На бой!

Прыгода

Таварыш камандзір,
Яшчэ не ўсё. Гестапа абвясціла,
Што, калі мы адважымся напасці,
Яны замучаць Асю.

Касцеля

О, злачынцы!
О, злыя вылюдкі! Яны мяркуюць,
Што гэта спыніць нашую расплату.
Няхай жа кроў нявіннае ахвяры
Падзе на іх галовы лютай карай!

Чапля

Пастой, Касценя, трэба перадумаць.

Касценя

Няма, няма другога выйсця, Чапля!
Ніводзін эшалон на тым участку
Дайсці да фронту цэлым не павінен.
Такі наказ нам дадзены з Масквы,
І мы свой абавязак здзейснім свята.
Дзеля жыцця і радасці радзімы
Я вырву сэрца ўласнае з грудзей,
Я растапчу сваё жыццё і шчасце
І цераз іх прайду да перамогі.
За мной, таварышы, на бой, на бой!
Не згінуць, хлопцы, нашы сілы
Ані ў агні, ані ў вадзе.
Дзе нас нядоля не насіла,
Дзе смерць навальна не касіла —
Мы не згіналіся нідзе.

Хор

Дзе нас нядоля не насіла,
Дзе смерць навальна не касіла —
Мы не згіналіся нідзе.

Касценя

І перад новаю навалай
Не схілім мы сваіх галоў.
А ці ж у нас адвагі мала,
Ці сіл людскіх забракавала,
Ці смелых нестае байцоў?

Хор

О, не, адвагі ў нас нямала,
Ніколі сіл не бракавала,
І смелых досыць ёсць байцоў.

Касценя

Гэй, уставайце ж на трывогу
Адзінай дружнаю сям'ёй!
За нашу радасць-перамогу
Смялей у цяжкую дарогу,
Смялей у грозны, люты бой!

Хор

За нашу радасць-перамогу
Смялей у цяжкую дарогу,
Смялей у грозны, люты бой!

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Зарослы пустазеллем калгасны дзядзінец. Справа ад яго — сад, злева — абгарэлыя дрэвы і хаты. За вёскаю ідзе бой. Чуваць кулямётная і вінтовачная страляніна. Прыгода з групай партызан вядуць знябытую Асю.

Прыгода

Вось тут, у гэтым садзе, адпачнём.

Ася

Не, не, я не стамілася. Вядзі,
Хоць перад смерцю дай яго пабачыць.
Я вінавата перад ім. Вядзі.

Прыгода

Куды ж я павяду? Каго мы знойдзем,
Калі навокал бой? Сядай. Спачні.

Ён праводзіць Асю ў сад і садзіць на траву.

Ася

Якія вы нядобрыя усе!
Ой, цяжка мне!

Прыгода

Прыляж і адпачні.
Ну вось, ужо й забылася, заснула.

Прыгода накрывае Асю сваім шынялём. Пад гэты час бой заціхае. Здалёку пачулася і набліжаецца пераможная песня. На вуліцу выходзяць калгаснікі — мужчыны і жанчыны.

Хор партызан

На світанні рана-рана
Згуртаванай грамадой
Выйшлі з пушчы партызаны
З лютым ворагам у бой.

— За сваю краіну шчыра
Пастаім мы тут і там.
Слава нашым камандзірам,
Слава храбрацам!

Затрашчалі аўтаматы,
Мінамёты зараўлі.
Больш ніколі немцы-каты
Не падымуцца з зямлі.

— За сваю краіну шчыра
Пастаім мы тут і там.
Слава нашым камандзірам,
Слава храбрацам!

Партызаны павяртаюць
З перамогай у лясы.
Партызаны запяваюць
На чатыры галасы:

— За сваю краіну шчыра
Пастаім мы тут і там.
Слава нашым камандзірам,
Слава храбрацам!

Уваходзяць партызаны. Канвой вядзе палонных немцаў. Сярод іх — Штэкер, Рэйнаў, Нагель, Эльза і іншыя.

Штэкер

О, майн гот! О, майн гот!
Які няўдалы наш паход!

Эльза

Што нас цяпер чакае тут?

Рэйнаў

Капут усім. Усім капут.

Хор немцаў
О, майн гот! О, майн гот!

Які няўдалы наш паход!
Не прычакаць нам свежых сіл,

Разбіта наша войска ў пыл,
Не вызваліць яно ўжо нас,
Прыходзіць наш смяротны час.
Зэр шлехт, зэр шлехт нам будзе тут:
Капут усім, усім капут.

Уваходзяць Чапля, Сашка і Мядок.

Мядок

Чаго скуголіце? А, пан Рэйнаў!
А як жа гэта пан сюды папаў?

Рэйнаў

Рабочы! Мой рабочы! Пане, слухай...

Сашка

Вось зараз я табе як дам у вуха!

Чапля

Стрымайся, Сашка!

Рэйнаў

Чапля!

Эльза

Пане Чапля!

Чапля

Адвесці іх пакуль што ў лес, у лагер.

Немцаў выводзяць.

Хор немцаў

О, майн гот! О, майн гот!
Які няўдалы наш паход!
Зэр шлехт, зэр шлехт нам будзе тут:
Капут усім, усім капут.

Сашка

Вось так, паплачце трохі, фрыцы!
А мы станцуем, маладзіцы.

І-эх! Ды калі ж я ў матулькі была,
Як вішанька у садочку цвіла.

Дасталася злому немцу у палон,
Як ліпінку мяне высушыў ён.

Не ўдалося мяне немцу дасушыць, —
Наляцелі партызаны немца біць.

Як ударылі магутнай грамадой,
Разлучыўся немец з рыжай галавой.

Агульны танец. Уваходзіць Касценя.

Касценя

Цямнее, хлопцы. Досыць забаўляцца.
Паставіць трэба варту і дазоры.
Прыгода не вярнуўся?

Сашка

Не відаць.

Прыгода

Я тут, таварыш камандзір.

Касценя

Ну, што?!

Прыгода

Паспелі да турмы своечасова
І вызвалілі ўсіх.

Касценя

Што з Асяй?

Прыгода

Ёсць.

Касценя

Знайшлі? Жывая? Дзе яна?

Прыгода

У садзе,
Нядужая надзвычай.

Касценя кідаецца ў сад.

Касценя

Ася!.. Ася!..

Прыгода

Цішэй, пабудзіце.

Касценя

Мая дзяўчынка,
Вось як мне выпала з табой спаткацца!
Я нават не магу цябе абняць
І прытуліць да сэрца. Спі, дзяўчынка.
Твой сон аберагаюць партызаны.
Таварыш Чапля!

Чапля

Я.

Касценя

Вазьмі людзей,
Пастаў дзе трэба варту і дазоры.
Астатнія хай спачываюць тут.

Некалькі партызан на чале з Чаплем выходзяць. Іншыя ідуць у хаты. Каля Асі застаецца адзін Касценя. Ноч. У бліжэйшай хаце Насця пад акном калыша дзіця і спявае калыханку.

Касценя

Ну, вось — мы зноў адны з табою, Ася.
А ты маўчыш і слова мне не скажаш.
Спі, слаўная, пад гэту калыханку.
Няхай спачынак дасць табе здароўя.

Насця

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Пабег коцік у сялібку,
Панёс коцік хлопцу рыбку.

На палаткі кот зайшоў,
Нарабіў ён там слядоў.

— Не хадзі каток па лаўцы,
Будзем біць цябе па лапцы.

Узлез каток на шасток,
Горка плача галубок.
— Чаго, коцік, ты варкочаш,
Можа піць ці есці хочаш?

У шчарбатым чарапку
Пададзім табе мядку.
— Я за ежу не вазьмуся,
Мяне скрыўдзіла бабуся,

Хоча лапкі перабіць,
Чым жа рыбку мне лавіць?
— Ляж, каток, засні ля бабкі,
Зажывуць малыя лапкі.

Будзеш к мосціку хадзіць,
Будзеш рыбку зноў лавіць.
Спі, мой коцік, люлі-люлі,
Людзі ўжо даўно паснулі.

Убягае Чапля.

Чапля

Прачніся, камандзір! Устаньце, хлопцы!
Трывога: немцы акружаюць вёску.

Усхопліваецца Касценя. З хат выбягаюць партызаны.

Касценя

Да зброі! Вырвемся, сябры! Да зброі!

Хапаюць зброю і выбягаюць. Прачынаецца Ася. З хат выходзяць калгаснікі. Дзесьці блізка чуваць страляніна.

Ася

Што тут за гоман? Дзе я? Што са мной?

Насця

Не бойся. Ты паміж сваіх.

**Ася**

Насця?!

А дзе ж Касценя, Насця, дзе Андрэй?

**Насця**

Ён зараз прыйдзе, ты яго пабачыш.
А вось і ён...

*Чапля і Сашка вядуць параненага Касценю. Ася рванулася да яго.*

**Ася**

Андрэй!.. Каханы мой!..
Я так перад табою вінавата.

**Касценя**

Даруй мне, Ася... Позна гаварыць,
Хто вінаваты з нас... Я... паміраю...

**Ася**

Ратуйце, людзі добрыя, ратуйце!..

**Касценя**

Будзь, Ася, мужнаю. Не плач, не трэба...
Я вельмі горача цябе любіў,
Але яшчэ мацней любіў радзіму
І для яе ахвяраваў усім.
І з любасцю маёю да цябе
Перадаю і любасць да радзімы...
Кляніся мне... А дзе ж мой Чапля? Чапля!

**Чапля**

Я тут, Андрэй, з табою.

**Касценя**

Слухай, Чапля.
Кляніцеся, што гэтая зямля
Ізноў шчаслівай будзе і свабоднай,
І я, спачыўшы ў цішыні халоднай,
Пачую голас з роднага Крамля.
Ты чуеш, Чапля?

**Чапля**

Чую, камандзір.

Касценя

Клянешся?

Чапля

Так, клянуся.

Касценя

Нахіліся
І пацалуй мяне ў знак вернай клятвы.
Бывай, мой друг!.. Бывайце, хлопцы!.. Ася!..

Падае на рукі Асі і памірае.

Ася

Андрэй?!. Каханы мой!.. Андрэй!..
Навошта ж ты ізноў мяне пакінуў?
Адну, адну пакінуў назаўсёды.
Дахаты хлопцы вернуцца з паходаў,
Адно цябе ні дома, ні на полі
Не прычакаю я цяпер ніколі.
Андрэй!.. Каханы мой!.. Андрэй, Андрэй!..

Чапля

Маўчы. Зацісні зубы і маўчы.
Хай ворагі не ведаюць, што ён
Пакінуў нас. Няхай яго імя
Грыміць і наганяе на іх жах.

Бывай, таварыш верны мой!
Не стрэцца болей нам.
І над магілаю тваёй
Табе я клятву дам.

Клянуся зорамі начэй,
І сонцам залатым,
І шчасцем родных мне дзяцей,
І будучым сваім.

Клянуся гэтым страшным днём
Быць верным барацьбе;

Клянуся смерцю і жыццём
Адпомсціць за цябе.

Клянуся верны карабін
Трымаць, нібы салдат,
Пакуль тут будзе хоць адзін
Хадзіць нямецкі кат.

Яшчэ табе клянуся я,
Што не скрыўлю твой шлях
І пранясу тваё імя,
Як пераможны сцяг.

Партызаны

З табой клянецца ўся сям'я,
Што мы не скрывім шлях
І пранясём яго імя,
Як пераможны сцяг.

Агульны хор

Да зброі, таварыш! Над намі
Няволі грымяць кайданы.
А жыць не прывыклі рабамі
Вялікай радзімы сыны.

Да зброі, таварыш, да зброі!
Устань і другіх заклікай.
Будзь сынам адданым,
З няволі кайданнай
Краіну сваю вызваляй!

Суровая наша дарога,
Ды веры не траціць салдат,
Што вернемся мы з перамогай
Да нашых разбураных хат.

Да зброі, таварыш, да зброі!
Устань і другіх заклікай.
Будзь сынам адданым,
З няволі кайданнай
Краіну сваю вызваляй!

Здабудзем свабоду радзіме,
Яна закрасуе ізноў,
І маці з падзякай абдыме
Адважных дачок і сыноў.

Да зброі, таварыш, да зброі!
Устань і другіх заклікай.
    Будзь сынам адданым,
    З няволі кайданнай
Краіну сваю вызваляй!

24/XII 1945 г.

# АГНІ СУСВЕТУ*

Прысвячаецца дзесяцігоддзю
Кастрычніка.

* * *

Жыццё — гэта песня, шырокі размах,
акорды складаюцца ў гамы.
А крыллі імкненняў так цяжка узняць,
калі іх патопчуць нагамі.

Даўно, мо як толькі паўстаў Чалавек,
даўно, як запомніць ён можа, —
праходзілі людзі па чыстай траве,
таптаді і мялі прыгожасць.

---

* Паэма «Агні сусвету» — адзін з ранніх твораў Пятра Глебкі. Мяркуючы ўключыць у трэці том Збору твораў, паэт збіраўся яе значна дапрацаваць. Былі зроблены некаторыя праўкі, аднак давесці да канца распачатую працу аўтару не давялося.

Увазе чытачоў прапануецца першапачатковы варыянт. *(Заўв. рэд.)*

У прагным імкненні стварыць абсалют —
адвечную тайну сусвету —
галовы складалі на жвір, на зямлю,
а ўсё ж не засталася следу.

Вятры у вяках замяталі сляды,
таму узрастала напорнасць.
Адны прападалі і чэзлі, як дым,
другіх уцяшала пакорнасць.

А трэція толькі ішлі ды ішлі
да мэты — імкнуцца каб вечна.
І так вось папросту на чорнай зямлі
скавала людзей супярэчнасць.

Яна тады крыллі зламала нашчэнт,
іх людзі стапталі нагамі,
як быццам не зналі, што рухі планет
заўсёды нязменны над намі.

Жыцця выпадковасць не сцісне ніяк —
законам размераны формы —
і думка твая, ці яго, ці мая
сусвет не парэжа па норме.

Жыццё — гэта песня, шырокі размах,
акорды складаюцца ў гамы.
Абломаных крылляў мо й нам не узняць —
стаптаны нашчэнт пад нагамі?!

* * *

І сонца гарэла, і зоры цвілі,
і падалі ўніз метэоры,
а людзі прыпалі да цьмянай зямлі,
каб выплакаць скруху і гора.

У сэрцах паслаўся няведамы гнеў —
бязмежнасць абняць немагчыма.

Як вецер каліны не зломіць — нагне,
развее лісты па лагчынах.

Вось так і ў шалёнай пагоні людзей
сусвет пашчапаць на кавалкі...
Прыходзіла ноч адрадзіць новы дзень,
прыносіла думак навалы.

І чыннасць людская — вар'яцкія сны —
згарала ў адных летуценнях.
І продкаў сваіх праклінаді сыны —
народ стаў тварцом без тварэнняў.

Паклалі надоўга прымусу пячаць
на працу, на думку, імкненне...
Распялі Хрыста, каб сябе апраўдаць,
прыдумалі рай для збавення.

Нібы у пакутах — людскі ідэал,
а мэта — ў імкненнях бязмэтных.
Віталі, хто цела й душу прадаваў,
прарочылі гэным бяссмертнасць.

А вобраз вялікі, як існасць і сон,
стапталі нагамі, пабілі,
(дагэтуль шчэ сочыцца кроў на пясок)
Сакрата яны атруцілі.

Праз выдумку-вобраз пакорны Хрыста,
праз тысячы смерцяў Сакратаў
хацелі вялікасцю свету паўстаць,
каб сонца рукамі ім кратаць.

* * *

Гады праміналі, сталецці ішлі,
знікалі, як сон, пакаленні.
Ці ў колерах яркіх залочаных ліп
згарала людское сумленне?

Ці ветры разносілі ў скаргах яго,
ці хмары мачылі дажджамі?..
Так тысячы тысяч нялічаных год
жалоба звісала над намі.

Панурая цемра ляжала наўкол...
Гадалі і ўночы і ўдзень.
Згадае ўсялякі, не з'іншыць ніхто
агні гістарычных падзей.

Адны вось за гэтым паўзлі па зямлі,
другія з пагардай таптналі.
Трывожныя пошчакі ў змроку ляглі
ад звону завостранай сталі.

Ізноў узнімаліся людзі з магіл
і гінулі ў бойках нялюдскіх.
Адна за другой рэвалюцыі йшлі,
чакалі яшчэ рэвалюцый.

Чакалі, што прыйдзе, народзіцца дзень,
запаліць агні над сусветам.
Бы рукі разняў чалавечыя сцень,
высока ўзышоўшы над светам.

А можа паўстаў ідэал-Чалавек,
загнаны пагоняю лютай? —
Ён такжа напорна ад веку у век
ішоў да свайго абсалюту.

І месяц выходзіў з-пад хмараў і злёг,
глядзеў на худыя на рукі,
і доўга ён, доўга стаяў над зямлёй,
як вобраз сусветнае скрухі.

* * *

Вайна, як здань, прасцерла рукі,
як сцень, над светам бродзіць смерць...
. . . . . . . . . . . . . .

Ад таго над рэчкай
зашумелі вербы,
а лясы на ўзгорках
шалясцяць.
І туманы нешта
ахінулі неба...
(Дапівалі горкасць
ад жыцця).

Заламала рукі,
заламала Маці:
— Сынку, ты загінуў!..
Як?!
І дзе?!
Засталася скруха
на уцеху ў працы,
на карысць краіны
у бядзе.

Страчалі дзень, не лічачы калецтваў,
а смерці сцень заўсёды рос;
здавалася, няма, не будзе чалавецтва,
і на зямлі суздром хаос.

І заўсёды на жвір,
распаляючы зірк,
сыпаліся слёзы,
сыпаліся ціха:
— Ці мінецца гора,
ці мінецца ліха?!

Праміналі гады,
скавыталі вятры...
Галасіла Маці-Беларусь
спрадвеку
і чакала сына,
сына-Чалавека.

Ападалі лісты,
усцілалі масты:

перайсці да шчасця,
перайсці на бераг,
акавіты выпіць
і агню набераць.

Зацвіталі сады,
прападалі сляды...
Сумавала Маці,
сумавала часта:

— А ці сын забіты,
а ці сын прапашчы?!
Надзеі змрочныя, і мары чорныя,
і крыкі дзікія, і дзікі лямант...

* * *

Змаганне не моўкне, змаганне шуміць,
змаганне вітаюць паэты.
Змагаліся продкі, змагаліся мы,
ды толькі за іншыя мэты.

Адно вось не знаю — завошта яны
змагаліся наскаю сілай?
(Як сведкі нядаўна мінулай вайны,
травой зарастаюць магілы).

Яны, пэўна, меліся знішчыць сусвет,
і тым дасягнуць абсалюту;
забыліся, мусіць, што вечнасцю свет
паб'е дарагую валюту.

Забыліся такжа спрадвечны закон
(ён ляжа у нас у аснову):
не скрышацца формы на цягу вякоў,—
сусвет ужо гэтак заснован.

Яны меркавалі: стаптаны нашчэнт,
не ўстане да працы напорнай.
Аднак жа праз ноч адраджаецца дзень,
і гіне самота і горкасць.

Закованы гэтак народ-Праметэй
паўстаў і штандары узвеяў:
— Не трэба нам тысячы подлых ідэй —
адзіная наша ідэя:

«Мы ўсё збудавалі! — разбурым наўсцяж,
пакінуўшы грунт непарушным,
каб зноў збудаваць, дзе ў эмблему жыцця
творцы пакладуць свае душы».

* * *

Зоры мае, залатыя мае,
асенняя ясная зорнасць!..
Ці гэта агні пачалі палымнець
у шатах маўклівасці чорнай?

У марных патугах сусвет пашчапаць,
каб вытварыць форму трыкліні —
яны толькі здолелі свет разгадаць,
не здолеўшы сувязь адкінуць.

І гэта не дзіўна: сусвет — абсалют,
а людзі — ягоная частка;
не створыць жа сотая доля зямлю,
а цэлае долю дык часта...

Гараць і палаюць сусвету агні,
каб грунт абярнуць ў перагасу —
з яе нараджаецца ў нашыя дні
у руху няспыненым шчасце.

1927 г.

ЗМЕСТ

**Глебка П.**

Збор твораў у трох тамах. Том трэці. Паэмы. Драматычныя творы. Мінск, «Беларусь», 1971.

464 с. 7600 экз. 1 р. 88 к.

Трэці том Збору твораў Пятра Глебкі складаюць паэмы «Арлянка», «Агні сусвету», драматычныя творы «Святло з усходу», «Над Бярозай-ракой», лібрэта оперы «Лясное водгулле». Усе гэтыя творы прысвечаны тэме станаўлення Савецкай улады на Беларусі, гераічнай барацьбе і дружбе нашых народаў.

$\frac{7\text{-}3\text{-}3}{86\text{-}71}$ Бел2 Г 53

На белорусском языке

*Петр Федорович Глебка*

Собрание сочинений в трех томах

Том III

Поэмы

Драматические произведения

Издательство «Беларусь».
Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар П. Прыходзька
Мастацкі рэдактар Л. Прагін
Тэхнічны рэдактар Г. Федарук
Карэктары: Р. Мяцеліца, Л. Пупко

АТ 02618. Здадзена ў набор 7/X 1970 г. Падп. да друку 29/III 1971 г. Тыраж 7600 экз. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 24,36. Уч-выд. арк. 17,08. Зак. 419. Цана 1 руб. 88 кап. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. Мінск, Чырвоная, 23.